# PLATO

## PROTAGORAS

## GREATER HIPPIAS

In Byelorussian

Translation from Greek text
Preface
and
Commentary
by
John Piatroŭski

1975

# ПЛЯТОН

Выбраныя дыялёгі

## П Р О Т А Ґ О Р А С

## Г І П П І Я С  В Я Л І К Ш Ы

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў,
папярэдзіў уводзінамі і агледзіў камэнтарамі

**ЯН ПЯТРОЎСКІ**

1975

Тытулы арыгіналаў

Πρωταγόρας
'Ιππίας μείζων



Published by
John and Alice Piotrowski
Byelorussian Charitable Educational Fund

1716 N. E. 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601
U. S. A.

Чуцца ніжэйшым за самога сябе - гэта ні што іншае, як глупота, а быць на вышыні свае годнасьці - гэта ні што іншае, як мудрасьць.

Сакратас

Acknowledgment

Rev. Dr. John Piotrowski, in the name of publisher, wishes to thank The Clarendon Press, Oxford, for permission to print in Byelorussian translation "The Value of Greece to the Future of the World" by Gilbert Murrey, F.B.A. Regius Professor of Greek at the University of Oxford, from The Legacy of Greece, edited by R. W. Livingstone, 1921, pp. 1-23.

На гэтым месцы выражаецца падзяка Гасп. Міхасю Кавылю за ягонае зацікаўленьне справамі культурных магчымасьцяў, за праяўленьне зразуменьня ў супрацы як і гатовасьць падзяліцца дасьведчаньнем Майстры ў галіне паэзыі тады, калі пераклад гэты падрыхтоўваўся да друку.

=

Усім Паважаным Чытачом -
- за надасланьне лістоў да ніжэйпадпісанага;
- за словы падзякі;
- за словы ўзнаньня пад адрысам перакладу;
- за словы заахвоты да далейшае працы;
- за аказаньне зразуменьня ў фінансавай падтрымцы з магчымсьцю далейшага і новага выданьня дыялёгаў Плятона ў беларускай мове;
- Паважаным Рэдактарам за ўдзяленьне месца ў іхных публікацыях як і за крытыку -
гэтым выражае падзяку

Перакладчык

## ВАРТАСЬЦЬ ГРЭЦЫІ ДЛЯ БУДУЧЫНІ СЬВЕТУ

Калі вартасьць людзкага жыцьця на Зямлі мае быць мераная грашыма, кілямэтрамі і коньскаю сілаю, тады старажытная Грэцыя павінна быць уважаная за бедную і маленькую тэрыторыю; машыны яе і прыладзьдзе былі барждждэй блізкімі да стралы і луку дзікага чалавека, чымся да нашага тэлеграфу і самалёту. Нават, калі мы абыякасна будзем глядзець на матэрыяльныя рэчы, і возьмем, як наш стандарт, фактычныя асягненьні ў поступе нашае расы і нашае веды, калі возьмем сярэдняга чалавека працы, які штодзенна едзе ў места і хутка пераглядаючага ранішнюю газэту, ён праўдападобна ляпей трымае сябе ў жыцьці і бязьмежна ляпей паінфармаваным ёсьць, чымся сярэдні жыхар Атэнаў, які сядзеў ачараваным на сцэнічным выкананьні трагэдыяў Айсхілёса. Тут усё вымерваецца нормаю духа, для якога дакананая рэч зьяўляецца малою, і вартасьцю розуму, які праявіў сябе ў ёй гэтак многа, і які ня шмат рупіцца пра суму атрыманае веды, але барждждэй праяўленьнем любові да веды, меней зьвяртае ўвагу на добрае палітычнае самакіраўніцтва, чымся на свабодны акт гераізму чалавека: і ў гэтым ляжыць веліч залатога веку Грэцыі, якая можа быць узважванаю, як нешта своеасаблівае і адзінае ў ейнай вартасьці.

Але пры гэтай норме, калі яна зьяўляецца трапнаю і разумнаю, як мера, мы павінны быць здольнымі зразумець, чаму клясычная грэцкая літаратура сталася асноваю адукацыі праз усю пазьнейшую старажытнасьць; чаму ейнае кажнаразовае адкрыцьце, якколечы часткавае і якколечы недасканала зразуметае, было здольным ашаломіць найболей адважныя розумы Эўропы і стварыць свайго роду духовае адраджэньне, і як далейшы і далейшы яе досьлед усё яшчэ можа быць вартым прадпрыняцьцем чалавека, каб правесьці сваё жыцьцё над ёю і быць здольным у даньні людзкасьці кіраўніцтва гэтак як і выкліка्ньня натхненьня.

Але ці зьяўляецца гэтакі стандарт і трапным, і разумным? Не аналізуючы думкі, мы нічога не атрымаем. Аднак я пэўны, што гэта і ёсьць натуральны стандарт кажнага філязафічнага гісторыка. Прымем, што ўзьнікла спрэчка ў тым сэнсе, што сярэдні оптык сягоньняшняга дня ведае болей з галіны оптыкі,

чымся Роґэр Бэкон,[1] вынаходнік акуляраў; прымем, што спрэчка разгортваецца ў тым сэнсе, што наш оптык дзелягэтага, у галіне оптыкі, зьяўлаецца вялікім чалавекам і, што Роґэр Бэкон нічога ня мае навучыць нас; і які тут можа быць адказ? Я думаю, што адказ можа быць: Роґэр Бэкон, атрымаўшы ад сваіх вучыцялёў пэўную веду, прысвоіў яе і накіраваў яе ў розныя неспадзяваныя кірункі і гэтым учыніў яе нязьмерна вялікшаю і болей карыснаю. Сярэдняе меры оптык праўдападобна дадаў крыху да таго, што навучыўся, але ня шмат, і многае з таго, што навучыўся - забыў або перапутаў. Аднак у тым самым часе, дарогаю вывучэньня Бэконавае біяграфіі або ягоных кніг, мы можам навязаць кантакт зь ягоным розумам і пазнаць нешта з таго нечага адумыснага, што рухала і духова ажыцьцяўляла ягоныя вартасьці. І гэта дапаможа болей, чымся адно веда оптыкі.

Бяссумліву, праўду цяжка бачыць у выпадку чыста тэхнічнае навукі; у кнігах шырэйшага абсягу, у гэтакіх як Дарвінавыя, для прыкладу, лёгка для кажнага чытача вычуць прысутнасьць запраўды вялікага розуму, выклікаючага інспірацыю розных вартасьцяў думкі, спатыканае ў найболей высокае якасьці кнігах з акуратна спраўджаным зьместам. У філязофіі, рэлігіі, паэзыі і найвышэйшай якасьці мастацтва, велічнасьць аўтаравага ўмыслу выступае з гэтакаю сіламоцаю, што чытач проста не зьвяртае ўвагі на час паўстаньня дадзенага твору. Стаецца гэта з тае прычыны, што тэхнічныя навукі гэтак перагружаныя элемэнтамі простага факту, або простае веды, што элемэнту выяўленьня, характару і падобнаму, пакідаецца за мала месца. Згэтуль, кнігі навуковага характару, у веку прагрэсу, вельмі хутка стаюцца "неактуальнымі", і кажнае новае выданьне займае месца папярэдняга. Вельмі рэдка здараецца для навуковае працы перажываць, як школьны падручнік, болей чымся прыблізна дзесяць гадоў. Сярод мадэрных працаў бадай-што адзіным выняткам зьяўляюцца <u>Прынцыпія</u> Ньютона[2].

А ўсё-ж існуе некалькі гэтакіх кнігаў. Прыблізна да 1900 г. элемэнты ґеомэтрыі былі рэгулярна навучанымі на абшары Эўропы як падручнік, напісаны грэкам зь імем Эўклідэс у чацьвертым ці трэйцім стагодзьдзі п.н.э.[3] Падручнік гэты быў ужываны болей як дзьве тысячы гадоў. Сягоньня, як ведама, людзі выкрылі рад памылак у Эўклідэса, але на гэта патрэбным быў аж гэтакі доўгі час.

Зноў, я ведаў аднаго старшага чалавека, каторы

расказваў мне, што ў адной добрай ангельскай школе на пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя, ён вучыўся асноваў граматыкі з працы, уложанае Дыёнізіёсам Траксам або Дэнісам з Трацыі. Дэніс быў грэкам зь першага стагодзьдзя п.н.э., каторы стварыў ці працягваў працу іншых у хворме спасьцеражэньня, што існавала гэтакая рэч як навука граматыкі, г.зн., што людзі ў сваей штодзеннай мове падсьведама перасьцерагалі сваеасаблівa далікатны і скамплікаваны камплекс правілаў, былі здольнымі вывучáць і ўкладваць у пэўны парадак. Дэніс ня быў сам вынаходнікам усяе цэласьці, але ён выконваў гэта пад кіраўніцтвам свайго вучыцеля Арыстархоса і іншых. І ягоная кніжка перавыдавалася некалькі разоў і яшчэ раз на пачатку тысяча дзевяцьсотага году перад тым як гэты старшы чалавек вучыўся на ёй.

Або хоць-бы ўзяць іншы выпадак: па-праз усю пазьнейшую старажытнасьць і сярэднявечча навука мэдыцыны была абапертай на пісаных працах двух старажытных лекараў - Гіппократэса і Ґалена.[4] Ґален быў грэкам і жыў у Рыме ў раньніх часох імпэрыі; Гіппократэс - грэк, які жыў на абтоцы Кос у пятым стагодзьдзі п.н.э. Вялікая частка гісторыі сучаснае мэдыцыны - гэта апавяданьне пра свабоднае карыстаньне праўнаю ўласнасьцю адыйшоўшых у вечнасьць старажытных людзей. Але адзін невялікі трактат, прыпісваны Гіппократэсу быў ужываны ў навучаньні мэдыкаў у маім часе ў Шкоцыі і яшчэ астаецца ўжываным у некаторых амэрыканскіх унівэрсытэтах. Гэта была прысяга, прыйманая студэнтамі мэдычнага мастацтва ў клясычным часе Грэцыі, калі яны ўрачыста падыходзілі да абавязку свае прафэсыі. Вучань прысягаў шанаваць і быць паслухмяным свайму вучыцелю распасьціраць апеку над ягонымі дзяцьмі, калі яны калі-небудзь знойдуцца ў патрэбе; у меру ягоных сілаў быць заўсёды памочным ягоным пацыентам; ніколі ня ўжываць або займацца знахарствам ці чарамі або тасаваць звышнатуральныя сродкі; ніколі не даваць атруты або выконваць нелягальныя апэрацыі; ніколі не надужываць адумысную пазыцыю інтымнасьці, якую лекар можа сустрэць у доме хворага, але заўсёды, уваходзячы ў дом, памятаць, што ён уваходзіць як прыяцель і памочнік для кажнага прысутнага ў ім.

Мы падалí гэтую прысягу: я думаю, што мы ня прызнаéм вялікае важнасьці прысягаў. Але чалавек, каторы першы ўклаў гэтую прысягу, вы́канаў вялікі чын. Ён усьведамляў сабе і выказаў значэньне свайго вы-

сокага пакліканьня ў словах, якія лекары ўсіх мо-- ваў і ўва ўсіх краінах пераняли ад яго і пачуваліся да абавязку выражаць свае мэты на працягу добрых двух тысяч гадоў.

Што фактычна я хачу сказаць гэтымі трыма прыкладамі? Зьвярнуць увагу на хуткасьць, зь якою мы цяпераках што найменей не спасьцерагаем апошніх азнакаў сувязі з Грэцыяю? Не, ня гэта. Я хачу зьвярнуць нашую ўвагу, што нават у валадарстве навукі, дзе прагрэс зьяўляецца гэтакім хуткім, а кнігі гэтак коратка жывуць, што грэкі свайго вялікага веку праявілі гэтакі гэні і гэтакую жыцьцёвасьць, што іхныя кнігі гэтак доўга жылі, як ніякія іншыя. Забудзьма пра Эўклідэса, пакрытага друкарскімі хварбамі і недасканалы ангельскі школьны падручнік, у параўнаньні да таго антычнага Эўклідэса, каторы, з асабліва малою колькасьцю кніг, але з разьлеглым сталом зь пяску на падлозе, меркаваў і выкрываў, і ўкладваў у цэласьць і перапрацоўваў першыя правы ґэомэтрыі, аж пакуль ён не напісаў адну зь вялікіх простых кнігаў сьвету, кніга, якая будзе стаяць як слуп і сьветач для людзкасьці яшчэ доўга пасьля ведамага Эўклідэса палітычнага сьвету, які быў зьмецены падзеямі, як і каралі, якім ён служыў, пераможаныя рымлянамі, і рымляне зь бегам часу,пераможаныя бáрбарамі, як і самыя бáрбары, якія зь вялікаю працаю і зь неахвотаю, часткава пры помачы Эўклідэсавае кнігі, дайшлі да адукацыі;5/ гэткім чынам, што найменей, у нашым уласным часе, яны патрапяць вучыцца ґэомэтрыі без яе. Час надыйшоў для Эўклідэса,калі ён можа адыйсьці; дазвольце адыйсьці яму. У гэтым няма сумліву, што ён трымаў сьветач для людзкасьці даволі доўга; і кнігі навуковага характару родзяцца, каб адыйсьці. Тое, з чым я хацеў-бы падзяліцца - гэта, што тая самая своеасаблівая жыцьцёвасьць розуму, якая ўмагчымела Гіппакратэсу, Эўклідэсу і Дэнісу з Трацыі трываць праз доўгія іхныя дзьве тысячы гадоў, была гэтаксама укладзеная грэкамі вялікага веку ў тую дзейнасьць, якая зьяўляецца, у кажным выпадку, у пераважнай сваей частцы, ня толькі незьніштажальнаю або прагрэсыўнаю, але вечнаю.

Гэта простае зьявішча, але яно гэтак важным зьяўляецца, што стаецца неабходнасьцю затрымацца над ім хоць-бы на кароткі час. Калі мы чытаем той ці іншы стары трактат з галіны мэдыцыны ці мэханікі, мы ня толькі ня можам дастаткова надзівіцца з прычыны выказваньняў у ім і дазнанага пачуцьця,

што гэта прадукт гэнія, але мы гэтаксама вычуваем, што ён зьяўляецца неабмежаваным у сваім апошнім завяршэньні: тут выканчаная праца. Але калі мы чытаем Гомэра або Айсхілёса і, калі часамі маем дастаткова сілы ў выражэньні нашага подзіву і разумець іхную творчасьць, мы пераважна ня маем вычуцьця, што ў думцы мы ідзем далей за іх. Бяз сумліву, мы часамі ішлі наперад у розных рэчах меншага значэньня, агульна ў навуцы, у дробязях тэхнічнага характару, у прадмеце цывілізацыі і падобнага;але наcілу ці хто-небудзь з-пасярод чулых чытачоў калі-небудзь уяўляў сабе, што ён пайшоў далей за іхныя істотныя якасьці, якасьці, якія ўчынілі іх вялікімі.

Бяссумліву, у кажным мастацтве існуе элемэнт чыстае навукі ці веды і, што гэты элемэнт зьяўляецца прагрэсыўным. Але там знаходзіцца гэтаксама і іншы элемэнт, які астаецца незалежным ад веды і які ня чыніць прагрэсу, але мае свайго роду нярухомасьць і вечную вартасьць, падобна як прыгожасьць ранічнага золаку, або як матчыная любоў да дзіцяці, або як радасьць маладзенькага зьвера быць жывым, або кураж мучаньніка сустрэць свае мукі. З усім нашым прагрэсам мы не зьяўляемся ў стане пайсьці за межы гэтых рэчаў; яны стаяць там, як сьвятло над высокімі горамі. Адзінае толькі пытаньне астаецца, ці можам мы ўзьняцца да іх. І падобнае астаецца свомым для ўсіх народзінаў людзкага ўяўленьня. Як далёка мы можам пайсьці ў нашай спэкуляцыі, нямашака найлепшае праўдападобнасьці для ніякага паэты, аддадзенага працы, скажам, у спатканьні таго аснаўнога, ца чаго ўвага Айсхілёса была накіраваная ў стварэньні сцэны Кассандры ў Агамэмноне, і ўчыніць гэта ляпей за Айсхілёса. Усё, што астаецца для людзкае расы ўчыніць з гэтаю сцэнаю - гэта зразумець яе і займець для сябе зь яе ўсю радасьць і перажываньне, і цудоўнасьць, якую сцэна гэтая замыкае ў сабе.

Гэтая вечная якасьць праяўляецца найчасьцей, магчыма, у паэзыі: у паэзыі сумесь веды зьвяртае меншую ўвагу на сябе. У мастацтве існуе сталае разьвіцьцё прыладзьдзя і сродкаў, і працэс тэхнічны. Сучасны артысты можа думаць, што, хоць, магчыма, ён ня можа стварыць гэтакую добрую статую як Фідзіяс, але ён мог-бы тут і там нечага навучыць Фідзіяса: у кажным выпадку, ён можа тасаваць свае мастацтва да аб'ектаў значна большага выбару і з большаю заахвотаю да свайго выяўленьня. У філязофіі

сумесь зьяўляецца болей няўхвытнаю і болей глыбокаю. Філязофія заўсёды абапіраецца ў пэўным сэнсе на веду, і ўсё-ж найлепшая філязофія, як выглядае наагул, мае ў сабе вечную вартасьць творчага выяўленьня. Плятон напісаў дыялёг адносна ўладжаньня сьвету, Цімаіёс, які ў значнай меры быў уплывовым у пазьнейшай Грэцыі, але нам, сягоньня з нашаю шырока распрацаванаю навуковаю ведаю, выдаецца бадай што бессэнсоўным. З другое стараны, калі Плятон піша пра тэорыю веды, або пра ўльтыматыўнае значэньне Справядлівасьці ці Любові, добры філёзаф ніколі не адхіліць яго набок: бо галоўнае пытаньне астаецца, ці зьяўляемся мы ў стане ўзьняцца на ўзвышша і далікатнасьць ягонае думкі.

І тут іншы мамэнт выступае, аднолькава просты і аднолькава важны, калі мы маем разумець нашыя суадносіны да мінуўшчыны. Прымем, што нехта кажа: "Я зусім добра разумею, што Плятон ці Айсхілёс мог мець добрыя ідэі, але напэўна кажная вартасная рэч, выражаная імі мусіла даўно ўжо перад гэтым стацца агульна ведамаю. Няма ніякае патрэбы ісьці назад па яе аж да Грэкаў. Мы зусім ня ідзем у мінуўшчыну, але проста чытаем Капэрніка, каб даведацца, што Зямля адбывае падарожжа навакол Сонца". І што мы можам адказаць на гэта? Тут выразна выступае мамэнт, што гэтакі пагляд якраз не спасьцерагае розьніцы паміж прагрэсыўным і вечным, паміж ведаю і ўяўленьнем. Калі Вільліям Гарвэй, [ангельскі лекар /1578-1657/], выкрыў, што кроў не зьяўляецца непарушнаю, але паддадзена праву цыркуляцыі, калі Капэрнік адкрывае, што Зямля ходзіць навакол Сонца, а не Сонца навакол Зямлі, дык гэтыя адкрыцьці лёгка могуць быць пераказванымі ў найболей скарочанай хворме. Калі мэханік вынаходзіць палепшаньне для тэлефону, або грамадзкі дзеяч заменьвае горшы мэтад працы лепшым, дык пасьля пару гадоў мы, праўдападобна будзем усімі гэтымі палепшаньнямі карыстацца, ня ведаючы нават, што гэтым палепшаньнем ёсьць або выражаючы каму-небудзь падзяку за гэта. Мы можам астацца мудрымі ці нямудрымі, але выгада заўсёды станецца нашым удзелам.

Але ці можна гэты самы працэс вымерваньня тасаваць да Макбэта або Ромэо і Джульетта? Ці можа хто-небудзь у кароткіх словах сказаць нам як яны прыйшлі да быцьця? Або ці можа чалавек займець зь іх нейкае дабро для сябе кажным спосабам, ці мо толькі адным - шляхам яснага і зь любасьцю вывучэньня, ідучы за аўтарам у думцы, разумеючы і вычуваючы

значэньне твораў? Прымем цяперака - і я спадзяюся, што некаторыя людзі гэтак паступаюць - што нехта можа выдабыць пэўную вартасьць вялікае паэмы дарогаю вывучэньня нейкага скароту, выдрукаванага ў энцыкляпэдыі або чытаючы ў посьпяху сярэдні пераклад яе, а пасьля, дыскутуючы рэч як свайго роду мэнтальны недахоп, як глухата або сьлепата на колеры. Рэчы, якія мы называем вечнымі, рэчы духа як і выяўленьня, заўсёды выдаюцца ўмясцоўленымі баржджэй у працэсе, чымся ў рэзультаце і, якія могуць быць асягнутымі і ізноў перажытыя з радасьцю на дарозе гэтага самага працэсу. Калі вартасьць спацыру ляжыць у вобразнасьці краявіду, дык вы не атрымаеце гэтае вартасьці кароткім спацырам, ані ўжываючы хутка імклівы самаход.

Спазіраючы, затым, назад, на жыцьцёвы і першараднае важнасьці век мінуўшчыны, мы спасьцеражэм аб´екты двух радоў. Перш, мы заўважым рэчы як статуя Вэнэры з абтокі Мэлёс або кнігу Іёва, або Плятонавая Політэ́ія, якія зьяўляюцца цікавымі або каштоўнымі самыя ў сабе з прычыны іхнае ўласнае і сваяе для іх якасьці. Па-другое, мы заўважым гэтакія рэчы як Рымскі Кодэкс Дзьвенаццаці Табліцаў [450 г. п.н.э.], або вынаход друкарскага прэсу ці летапіс пэўных вялікіх бітваў - усё гэта зьяўляецца цікавым галоўна з тае прычыны, што яны зьяўляюцца прычынамі іншых і большых рэчаў або ствараюць пункты сьпляценьня ў вялікай тканіне гісторыі - першае будзіць артыстычнае зацікаўленьне, другое - гістарычнае, хоць, што-праўда, зразумелым ёсьць, што ў кажным канкрэтным выпадку мастацкае і гістарычнае ўзаемна крыжуюцца.

Цяперака, старажытная Грэцыя зьяўляецца важнаю для нас у двух напрамках. Бо для мастака ці паэты гэта ў сваеасаблівай ступені прадстаўляе вартасьць прыгожасьці. Для прыкладу, вазьмем кантраст з Рымам: калі вы раскопваеце навакол Рымскае Сьцяны ў Кумбэрлянд/ы/ вы знойдзеце значную колькасьць аб´ектаў, як аўтары́, інскрыпцыі, статуэткі, аружжа, боты і чаравікі, якія прадстаўляюць сабою значную гістарычную зацікаўленасьць, але яны не зьяўляюцца болей прыгажэйшымі ад зьместу кучы сучаснага хламу. І гэта астаецца праўдаю да большасьці раскопваньняў на сьвеце. Але, калі вы раскопваеце якое-небудзь клясычнае або суб-клясычнае месца ў сьвеце грэкаў, усяроўна як далёка яно ад гістарычнага значэньня, практычна, кажны аб´ект, які вы знойдзеце, будзе прыгожым. Сьцяна сама ў сабе будзе

прыгожаю; інскрыпцыя будзе мець прыгожую разьбу; статуэткі, хай сабе будуць танныя і простыя, сярод іх з наўмясьня праяўленаю ґротэскаю; ва́зы будуць належнае хвормы, а выпрацаваньне будзе прыгожым выпрацаваньнем. А калі здарыцца раскопваць месца пахові̇наў і часамі надарыцца нагода знайсьці некалькі эпіта́фаў, што адносяцца да памершых, практычна ўсе яны - нават тады, калі вершы ня зусім трапна ўкладзеныя і словы недакладна выпісаныя - маюць, апрача гэтага, свой незразумелы дотык прыгожасьці.

Я вельмі зацікаўлены, каб ня выпісваць глупстваў адносна гэтага. Кажны можа давесьці гэта, бяручы якую-небудзь калекцыю грэцкіх эпітафаў, што, фактычна, і ёсьць адзіным шляхам доказу. Прыгожасьць ёсьць запраўднасьцю і, калі мы займемся пробаю аналізы вытокаў яе, мы, магчыма, часткава зразумеем як яна пераказвалася ў часе.

Перадусім, яна не зьяўляецца прыгожасьцю арнамэнту; яна зьяўляецца прыгожасьцю пабудовы, прыгожасьцю права ў структуры і нявымушанае натуральнасьці. Параўнайма атлету, апранутага ў лёгкую флянэлю і граючага ў тэніс з моцным валадаром, апранутага ў цяжкое золатам вытканае рызьзё. Або параўнайма добрую мадэрную яхту, хуткую, высмуглую і роўную зь цяжкім вадаплавам шаснаццатага стагодзьдзя, пабудаваным з цьвярдога дрэва і яскрава размалёванага, або нават з агульна прынятаю кітайскаю джонкаю: яхта зьяўляецца непамерна прыгажэйшаю, хоць яна і ня мае сотае часткі з арнамэнту. Яхта сама зьяўляецца прыгожасьцю, бо яе лініі і структура зьяўляюцца правільнымі. Іншыя ў сутнасьці зьяўляюцца нязграбнымі і, гэтым самым, брыдкімі з плямамі золата і хварбы. Грэцкія-ж вадаплавы ў сваей пераважаючай частцы адлюстроўваюць яхты. Грэкі гэтаксама ўжывалі ў значнай меры хварбу, але, ня гледзячы на гэта, грэцкая сьвятыня зьяўляецца простаю, як гумно: людзі, якія прывыклі да арабэскаў, колернага шкла і выступаючых вадаспадных рынаў, часта ня бачаць у ёй нічога асаблівага. Як рэгула, грэцкая статуя ня мае зусім арнамэнту: малады чалавек у спаборніцтве або ў малітве; стары чалавек думае; тут яна стаіць, выражаючы ў паўніні годнасьць і прынятую звычайнасьць, правільна ці няправільна, анатомію і лініі паверхні, без асаблівага імкненьня выразіць прыгожасьць, але заўсёды праўдзівасьць. Гэта можа выдацца зусім манатонна для стваральніка сярэднявечнае драўлянае хвігуры караля, якога я памятаю бачыў ў вадным зь местаў усходняе Эўропы: зі-

хацістая карона, вытыканая колерным шклом, цёмна-чырвоная мантыя, пакрытая арнамэнтацыяю і пад гэтым усім ідыятычная твар, ані касьцей, ані мускулаў, ані выражэньня ў паставе.Гэтае самае ў значнай меры адносіцца і да грэцкае паэзыі. І гэта зусім ня значыць, што мастацкі звычай усюды быў той самы як для творчасьці на каменьні гэтак і ў галіне мовы. Грэцкая паэзыя вырозьніваецца сваею велічнасьцю ў тым сэнсе, што яна ў значнай меры была залежнаю ад моўнае арганічнае структуры, але ня ў тым сэнсе, што паэзыя гэтая была халоднаю, бясколернаю або вымушанаю. Але грэцкая паэзыя ў сваей цэласьці выступае голаю і суворaю, якая расчароўвае мадэрнага чытача, узгадованага бачыць у паэзыі адсутнасьць ашчаднасьці і пахвальнай арнамэнтацыі і перабольшаньне на кажнай бачыне. Гэтакая самая прастата стылю выступае ў грэцкай скульптуры.Калі паэта мае нешта сказаць, ён гаворыць добра і гэтак праўдзіва, як толькі стыль дазваляе яму, што ня кажнага можа зацікавіць. За малым выняткам,які самазразумелым ёсьць, ён ня імаецца за шматлікія прыгожыя жарты і штукарствы, каб чытач забыў манатоннасьць таго, што ён гаворыць у сьмешнасьці драпэрыі, у якую ахінае сваё апавяданьне.

Але тутака выразна выступае труднасьць. Грэцкая паэзыя, мы кажам, зьяўляецца вельмі праўдзіваю, вельмі простаю, вельмі свабоднаю ад недарэчнага арнамэнту. І ўсё-ж, калі мы перакладаем яе на нашую мову і чытаем наш пераклад, мы дазнаем, як мне здаецца, што слава шчэзла: нешта такое, што было высака і шляхэтна, сталася бедным і слабым.Кажны добры дасьледчык грэцкага сьвету, адкрываючы аднаго са сваіх старажытных паэтаў, зараз-жа вычувае прысутнасьць нечага ўзьверхнягa і рэдка спатыканага - нешта падобнае да атмасфэры Страчанага Раю. Але мова Страчанага Раю штучна выгнута і падхарошана надзьмутасьцю ідэалаў і сваеасаблівасьцямі, тады як мова грэцае паэмы зьяўляецца простаю і праўдзіваю. Што гэта значыць?

Я магу толькі здагадвацца, што нармальная мова грэцкае паэзыі сама ў сабе зьяўляецца велічнаю. Бальшыня крытыкаў прыймае гэты факт як самазразумелы, а ўсё-ж, калі праўда, гэта вельмі дзіўны факт, годны нашае ўвагі. Часткава ён залежыць толькі ад мілагучнасьці мовы: Χαίρεις ὁρῶν φῶς гучыць праўдападобна болей мілагучна, чымся "Радуйся з /прычыны/ агляданьня сьвятла", але эўфонія - мілагучнасьць голасу - ня можа быць усім. Гук грэцкае па-

эзыі у сваей пераважнай частцы, ці гэтак як мы яго вымаўляем сягоньня, або гэтак як вымаўлялі старажытныя грэкі, для мадэрных вушэй гучыць няпрыемна. Магчыма часткава гэта залежыць ад фактычнае пабудовы самое грэцкае мовы: філялёгі кажуць нам, што, з пункту гледжаньня моўнага, зьявішча гэтае знаходзіцца ў сваей структуры, росьце і моцы выражэньня, і зьяўляецца найболей дасканалаю моваю, якую яны толькі ведаюць. І не бяз прычыны часта выкрываецца, што ў грэцкай мове думка выражаецца лёгка і з ґрацыяю, тады як у лацінскай мове, ангельскай ці францускай або нямецкай... стаецца нехлямежнаю і нявыразнаю. Але ані водная з гэтых прычынаў, як мне здаецца, не высьвяе сутнасьці справы.

Што́ гэтым зьяўляецца, што́ надае́ словам свомы ім характар і чы́ніць стыль высокім або нізкім? Выразна, іхная сувязь; іхная ассоцыяцыя, якая сваім звычаем трымаецца розуму тых, каторыя ўжываюць іх. Слова, якое належыць да мовы карчмы́ або більярднае залі, стаецца дапушчаным на дарозе нейкага няпісанага стандарту мэнтальнасьці, якая перавышае ў падобных мясцох; слова, якое прапануе Мільтон або Карляйль,7/ будзе мець прысма́к розуму тых людзей, што ўжываюць яго. З гэтае прычыны я не магу супроцьставіцца выснаву, што, калі мова грэцкае паэзыі мае - для тых, што ведалі яе нутраныя тайніцы - гэтыя своеасаблівыя вартасьці вострa суворае прыгожасьці, дык сталася гэта з прычыны таго, што розумы паэтаў, якія ўжывалі гэтую мову, былі прывычна болей настроенымі да вышэйшага ўзроўню, гэтак у сваей напружанасьці як і шляхэтнасьці, чымся нашыя. Прыгожасьць мовы вымерваецца прыгожасьцю розумаў тых людзей, што ўжывалі гэтую мову. Праз выражэньне "прыгожасьцю розумаў людзей" я не абавязкава маю на ўвазе людзей, каторыя вырозьніваюцца сваімі паводзінамі ў межах прынятага стандарту ці іх уласнага; я маю на ўвазе людзей, для каторых прыгожыя зьявішчы на сьвеце, узыход сонца і мора, зоры на небе і любоў чалавека да чалавека, імкненьне і спатканьне зла дзеля дабра, і нават самыя звычайныя рэчы, як мяса і піцьцё, і дрэнныя рэчы, як нянавісьць і тэрор, якія выпаўнялі іхнае жыцьцё, мелі свае значна большыя перажываньні ў параўнаньні з нашымі, і ўсё-ж, узьняліся на ўзровень хуткага і шляхэтнага супроцьдзеяньня.

Няхай нам будзе дазволена падсумаваць на гэтым месцы пройдзенае перад тым, як пойдзем мы далей. Мы распачалі зь неаспрэчнага факту, што грэкі пры-

блізна пятага стагодзьдзя п.н.э., з тае ці іншае прычыны прывялі да быцьця цэлы рад мастацкіх твораў у хворме, сярод іншага, будынкаў, статуяў і кніг, асабліва кніг, якія, замест памерці на працягу якой дэкады часу або выйсьці, як гэта кажуць, з моды на працягу часу жыцьця тых, што пісалі іх, усё далей і далей ня губяць свае важнасьці, выклікаючы ў чытаючых думкі і ідэі, і пачуцьцё захопленьня. У спробе паясьненьня гэтага дзіўнага зьявішча, мы спасьцерагаем, што грэкі мелі вялікі і агортваючы інстынкт для прыгожасьці, і для прыгожасьці асаблівае ў сваім родзе. Гэта тая прыгожасьць, якая ніколі не супачывае ў неадпаведным арнамэнце, але заўсёды ў абазначаным сэнсе і пабудове творанага аб'екту. У літаратуры мы знаходзім, што адумысная прыгожасьць, якую мы называем грэцкаю, залежыць ад шчырасьці, праўдзівасьці і прастаты, як і яснасьці, пры помачы чаго грэкі кажуць тое, што сказаць яны хочуць, а часткава з адумыснае вострасьці і шляхэтнасьці, выплываючых з самае мовы, якая, як выглядае, зьяўляецца натуральным самавыражэньнем вострага і шляхэтнага розуму. Можам мы, затым, скласьці ўсе гэтыя рэчы разам з мэтаю выясьненьня іх ці, у кажным выпадку, трымаць іх разам для большае яснасьці?

Тут дапаможа нам вельмі старая і часта зманьваючая мэтафора. Людзі казалі: "Тады сьвет быў малады". Натуральна, выражаючыся дакладна, зусім гэтак ня было. У вагульным падлічэньні веку нашага сьвету або чалавека, ляжыць нейкіх дзьве тысячы гадоў паміж намі і Пэрыклесам - гэта ня вельмі вялікая розьніца. Гэтаксама мы ня можам уявіць сабе, што чалавек у сваіх шасьцідзесятых гадох ня чуўся болей юнацкім у пятым стагодзьдзі п.н.э., чымся ён чуецца сягоньня. Была гэта толькі іншая пара, бо ў тым часе людзі ня ведалі нічога ані пра акуляры, ані пра штучныя зубы. Аднак-жа, у пэўным сэнсе, сьвет быў малодшым тады, у кажным выпадку Заходні сьвет, сьвет прагрэсу і пашаны чалавека да чалавека. Бо пачаткі бадай-што ўсіх вялікіх рэчаў, якія прагрэсыўны розум цяперака далей працягвае, тады былі заложанымі ў Грэцыі.

Маладосьць, магчыма, не зьяўляецца тут трапным словам. Існуюць пэўныя расьліны - нейкі род альясу, напрыклад, - каторыя на працягу доўгага ліку гадоў вельмі павольна разьвіваюцца - а згэтуль часамі стагоднікамі называюцца - і трымаюцца нізка пры зямлі, а тады зьнічэўку, калі ўжо награмадзяць да-

волі жыцьцёвае сілы, вырастаюць вышынёю ўтры мэтры і раскрываюцца ў кветкі, пасьля чаго, яны паміраюць або праяўляюць азнаку вычарпаньня. Пакідаючы на баку паміраньне, выглядае, што нешта падобнае здараецца час ад часу зь людзкаю расаю, або часткаю яе, калі наагул даходзіць да расьцьвету. Для большае часткі ўсіх расаў і народаў на працягу ўсенькага іхнага жыцьця яны ня чыняць ніякага прагрэсу, але адно валочаць мізэрнае існаваньне, часамі тольکі ўдаецца ім утрымацца на ўзроўні сваіх звычаяў, а часамі нават зьніжаюцца па пахілай назад. Тут ляжыць прычына чаму гісторыя маўчыць пра іх. Гісторыя сьвету складаецца пераважна ў памяці тых вякоў, - нешматлікіх колькасна, - у якіх пэўная частка сьвету ўздымаецца вышэй за самую сябе і разгортваецца ў пышную кветку ці плод.

Здарэньне хацела, што нам выпала на долю жыць у васяродзьдзі або магчыма ў беспасярэдняй блізіні да аднаго з гэтакіх пэрыядаў. У нашым штодзенным жыцьці, у нашых ідэях і наагул на нашай плянэце на працягу апошняга стагодзьдзя наступіла болей зьменаў, чымся ў часе чатырох іншых стагодзьдзяў ад часу заіснаваньня хрысьціянскае эры: пад уплывам гэтых зьявішчаў мы прывыклі глядзець на хутка паступаючы прагрэс як на нешта нармальнае для людзкае расы, на прагрэс, які ніколі не існаваў перад гэтым. Гэтакі іншы падобны пэрыяд расьцьвету, расьцьвету адносна ў кароткім часе і абмежаваны ґэаґрафічным абшарам, але задзіўляюча хуткі і імпульсыўны, займеў месца ў ніжэйшай частцы Балканскае поўабтокі прыблізна з шостага да чацьвертага стагодзьдзя перад нараджэньнем Хрыста.

Гэта быў гэткі нейкі расьцьвет, які напоўніў сьвет спадзеяю і гэтым самым учыніў яго маладым. Вазьмем для прыкладу чалавека, які толькі-што ўчыніў адкрыцьце або вынайшоў нешта, чалавека шчасьлівага ў любові, чалавека, які распачынае з паводжаньнем нейкі вялікі сацыяльны рух, чалавека, які працуе над новаю кнігаю або малюе абраз, які ён ведае, што мае быць добрым; або вазьмем людзей, якія змагаліся за нейкую вялікую справу, на якую перад змаганьнем яны глядзелі як на безнадзейную, а цяперака глядзяць як на пераможную; падумайце пра Англію, калі Армада была толькі-што разьбітаю, Францыю на расьцьвеце яе рэвалюцыі, Амэрыку пасьля Ёрктаўн:[87] гэтакія людзі і нацыі знаходзяцца на ўзроўні перавышаючым іх самых. Іхная сіла станецца мацнейшаю і болей адважнаю; у такіх абставінах эн-

тузыязм будзе лунаць у паветры, асэнсаваньне ўзыходу на новы шлях, абуджэньне спадзеяў і магчымасьцяў, якіх ніхто яшчэ ня пробаваў, будзіцца вера, што кажную рэч можна перамагчы, калі толькі мы займем выразна рашучую паставу. У гэтым сэнсе сьвет будзе маладым. У гэтым сэнсе, я думаю, ён быў маладым ў часе Тэмістоклеса і Айсхілёса. І гэта ёсьць тое юнацтва, якое зьяўляецца паловаю тайніцы грэцкага духа.

На гэтым месцы я магу спаткаць запярэчаньне, якое, магчыма, закралася ў думку чытача. "Усё гэта", ён можа сказаць, "адсланяе перад намі звычайную аналізу ведамых фактаў, што фактычна зьяўляецца выразнаю ідэалізацыяю. Гэтыя грэкі, якіх ты называеш "шляхэтнымі", існавалі здавен-даўна і ведамыя нам. Антрапалёгі даўно дасьледзілі іх. Ня толькі іхныя плугі, іхнае аружжа, іхныя музычныя інструманты і іхныя вымаляваныя балваны, якія прыпамінаюць сабою тых, што мелі дзікія людзі; ведамым ёсьць усё іншае пра іх. Шматлікія зь іх былі патануўшыя ў найболей паніжаючы забабон: некаторыя зь іх практыкавалі ненатуральныя заганы: у часе страху некаторыя зь іх былі склоннымі думаць, што найлепшаю "мэдыцынаю" было проста пакідаць людзей свайму ўласнаму лёсу. Пасьля гэтага, ці варта ўспамінаць, што іхная сацыяльная структура была пераважна абапертаю на нявольніцтве; што жылі яны ў малюпаценькіх местах, падобных да асіных гнёздаў, кажнае ў вайне са сваім найбліжэйшым суседам, а палова зь іх у вайне між сабою!"

Калі-б наш анты-грэк пайшоў далей, вельмі магчыма, што ён перастаў-бы гаварыць праўду. Мы можам спыніць яго тады, калі мы згаджаемся зь ім. Закіды гэтыя наагул зьяўляюцца правільнымі, і, калі мы маем зразумець што Грэцыя значыць, мы мусім быць сьведамымі іх і пераглядзець. Мы мусім затрымацца на двух фактах: па-першае, што грэкі пятага стагодзьдзя л.н.э. стварылі найболей шляхэтную паэзыю і мастацтва, найлепшую палітычную думку, найболей жыцьцёвую філязофію, якая калі-небудзь была ведамаю сьвету; па-другое, што людзі, каторыя чулі і бачылі, ба, нават людзі, каторыя тварылі гэтыя цуды, былі аддзеленыя нязначнаю і прыпадкаваю дзікасьцю. Пашукайце добра сярод цывілізаваных расейцаў, яны кажуць, і вы знойдзеце дзікага татарына. Шукайце сярод старажытных грэкаў і вы знойдзеце, бяз сумліву, вельмі прымітыўнае і страшнае існаваньне, падобнае да таго, якое можна знайсьці паміж вікінґаў

і жыхарства Полінэзыі.

Тут спасьцерагаем мы магію і цудоўнасьць аднае і тае самае рэчы. Выражэньне духовых вартасьцяў вяжацца цесна зь нечым страшным. Нам даводзілася чытаць апавяданьні пра дзікіх правадыроў, навернутых хрысьціянскімі ці буддаістычнымі місыянерамі, каторыя прыблізна на працягу году абярнуліся зь п'яных танцавальнікаў вайны і сьмярдзючых крывёю ведзьмяроў у жыцьцё, ня толькі набожнае, але нават філянтрапійнае і падобнае да жыцьця праўдзівых дзяржаўных мужоў. Мы бачылі нядаўна японцаў, што крочылі па-праз стагодзьдзі нармальнага росту, асягваючы яго на працягу аднаго пакаленьня. Але ўва ўсіх прыведзеных прыкладах людзі сьледавалі толькі за навукаю найвышэйшае цывілізацыі, і пасьля ўсяго, яны не затрымаліся з прычыны дакананае працы сваеасаблівага і арыгінальнага гэнія. Мы ясна можам бачыць, што грэкі заўдзячваюць вельмі мала чужому ўплыву. Нават у іхным заняпадзе яны былі расаю, як слушна прафэсар Бәрі адцемлівае, яны былі ў звычаю "ўзяць мала і даць шмат". Яны стварылі сваю цывілізацыю для самых сябе. Мы павінны прыслухвацца з падвойнаю ўвагаю да крытыкаў, каторыя зьвяртаюць нашую ўвагу на ўсе тыя рэшткі дзікасьці і забабону, якія яны знаходзяць у Грэцыі: нявольнік, што цягне лямку, фэтыш, аддаючы чэсьць свайму балвану, знахар, чалавек, які топча права жанчыны, крывасмок, што ненавідзіць кажнага, хто не належыць да ягонага места ці партыі. Але гэтыя людзі не зьяўляюцца тымі, каторыя твораць сабою Грэцыю; падобнага роду людзі могуць быць знойдзенымі ўсюды ў гістарычным сьвеце, яны сустракаюцца часьцей, чымся чарніцы. Тое, што творыць Грэцыю, не зьяўляецца ўстаноўленым і непарушным: тое, што творыць Грэцыю, ляжыць у дзялянцы руху, які з усяго гэтага вядзе да стоіка або да "сафістага", якога спатыкаем у пятым стагодзьдзі п.н.э., каторы востра выступае супроць нявольніцтва, які зьнёс нялюдзкі забабон і прапаведуе свайго роду рэлігію, абапертую на філязофіі і гуманітарнасьці, які дамагаецца для жанчын тыя самыя духовыя правы, якімі карыстаецца мужчына, які глядзіць на ўсіх людзей як на сваіх братоў, і на сьвет, як "адно вялікае Места багоў і людзей". Гэта ёсьць той самы рух, якога вы не спаткаеце ані на ніякім іншым месцы на сьвеце болей, чым статуі Фідзіяса або дыялёгі Плятона, або пазмы Айсхілёса, і Эўрыпідэса.

З усяго гэтага – некалькі асягненьняў мы ня мо-

жам не заўважыць. З аднае стараны, разбудоўваючы гэтак хутка, з гэтак адважнымі натугамі, і з гэтак нізкага выходнага пункту, грэцкая цывілізацыя была, памінаючы ўсю яе славу, задзіўляюча нястойкаю і поўнаю хістаньняў. Падобныя хістаньні праяўляліся, натуральна, болей балюча для тых, хто жыў у іх,але яны насілу ці меней выклікаюць зацікаўленасьць сярод тых, што вывучаюць іх сягоньня. Барджэй наадварот. Зноў-жа, найбліжэйшае суседзтва прымітыўных дае для грэцкага розуму пэўныя вартасьці, якія мы, належачыя да болей абясьпечаных і ўстабілізаваных цывілізацыяў, можам праявіць зразуменьне. Яна выток свой бярэ хутка і кіруецца проста. Яна ніколі не праяўляе сымптомаў змучанасьці. Яе подзіў і зацікаўленасьць сьветам астаюцца сьвежымі. І напасьледак, існуе адна і паважная якасьць, якая, калі я не памыляюся, належыць да грэцкае цывілізацыі болей, чымся да якое-небудзь іншае. Да сваеасаблівае ступені яна бярэ свой выток чыста з натуры, бадай-што без запутанасьці ў выпрацаваньні крэдаў, звычаяў і традыцыяў.

Я, натуральна, не забываю перадгістарычную Міноскую цывілізацыю, ані ўсё яшчэ яе сваеасаблівыя хвормы - пераважна даволі простыя - у васяродзьдзі якіх вычуваецца традыцыйная грэцкая рэлігія. Вельмі магчыма, што з прычыны майго звычаю жыць у васяродзьдзі грэцкіх рэчаў, я крышку адхіляюся ад рэчаіснасьці і гэтым, праз доўгія і блізкія суадносіны зь імі, забываюся як прыпадкава калісьці некаторыя зь іх выяўляліся. Але, калі ўсе дадзеныя складуцца ў цэласьць, я думаю, што гэты чысты выток з натуры, у вагульнай пэрспэктыве, выступае перад намі ў сваіх праўдзівых колерах. Калі думаючы эўрапэец або амэрыканец хоча вывучыць кітайскі або індыйскі прадмет, ня хопіць адно толькі запамятаць пэўныя даты з гісторыі або з міталёгіі; ён павінен упрацавацца сваім умыслам у цэласьць прадмету і заняць у ім адумысную паставу. Інакш кажучы, ён павінен узброіцца акулярамі спэцыфічнага гатунку.Калі ён хоча пазнаць сярэднявечча і, калі ён нават засяродзіцца на гэтак унівэрсальным паэце, якім ёсьць Дантэ - гэта было-б тое самае, пра што мы гаворым. Сваеасаблівыя пагляды адносна папы і імпэратара, цяжка разуметая схалястычная філязофія, дзіўная і для мадэрнага розуму барджэй страшная тэалёгія, лунаючая праз полымя пекла: усё гэта мае быць узята ў ягонае ўяўленьне, калі ён хоча зразумець свайго Дантэ. З грэцкім сьветам рэч прадстаў-

ляецца значна прасьцей. Гістарычнае і выяўленчае заплечча розных вялікіх паэтаў і філёзафаў зьяўляецца, бяз сумліву, высока важным. Вялікая частка працы сучасных навукоўцаў прысьвечана справе высьненьня гэтага заплечча. Але ў сваей цэласьці, адкладваючы на мамэнт набок магчымыя недакладнасьці перакладу, грэцкая філязофія гаворыць проста да кажнага чалавека, каторы праяўляе жаданьне думаць проста; а грэцкае мастацтва і паэзыя прамаўляе да кажнага, хто хоча ўжываць сваё ўяўленьне і радавацца прыгожасьцю. Ён не патрабуе накладаць ланцугоў на сябе або шоры нейкае новае сыстэмы, каб зразумець іх; усё, што ён мае ўчыніць - гэта вызбыцца свае ўласнае - што станецца для яго шматкарыснаю і меней балючаю задачаю.

Гэты выняткавы выснаў насілу ці можа быць, як я думаю, паддаваны пад сумліў, але ўся справа прадстаўляе пэўныя труднасьці і дзеля гэтага трэба над ёю затрымацца.

У першую чаргу, гэта ня значыць, што грэцкае мастацтва зьяўляецца тым, што-б мы маглі назваць "натуралістычным" або "рэалістычным". Яно мела-б барджджэй абазначэньне супроцьлежнае. Мастацтва для грэка заўсёды зьяўляецца хвормаю таго, што называецца σοφία або мудрасьць, -τέχνη - правілам, абавязваючым да навукі. Ейнае простае выражэньне зьяўляецца зманьваючым. Стоўп, які выдаецца гэтак простым, у рэчаіснасьці зьяўляецца рэчаю няўхвытных выгібаў. Надмагільны барэльеф, які, як выдаецца, выражае ў магчыма найболей просты спосаб жанчыну, кажучую да свайго дзіцяці "да пабачаньня", гэтак укладзены, плоскасьць за плоскасьцю, з найболей далікатнаю здольнасьцю і часамі з адумысным зьіначаньнем пэрспэктывы. Існуе заўсёды пэўная дамоўленасьць, пэўная ідэалізацыя, пэўны дотык сьвятла, якое ніколі не існавала на моры ці на зямлі. Аднак, увесь час, я думаю, грэцкае мастацтва астаецца ў значнай ступені блізка да натуры. Вока мастака заўсёды супачывае на аб'екце, і, хоць ён рэпрэзэнтуе яго ў сваім уласным стылю, стыль гэты астаецца заўсёды нармальным і вытрыманым, вольным ад якоенебудзь штучнасьці, свабодны ад перабольшанасьці або хвараблівасьці і, у раньніх пэрыядах, свабодны ад якога-небудзь стандарту. Бяз сумліву, гэта зьяўляецца мастацтвам; але гэта натуральнае і нармальнае мастацтва, такое, якое вырастае спантанічна, калі людзкасьць на пачатку ў свабодзе пробуе выразіць прыгожасьць. Для прыкладу, мова грэцкае

паэзыі выразна розьніцца ад мовы прозы, і існуюць гэтаксама розьніцы ў мове паміж рознага стылю паэзыі. І далей, паэзыя вельмі рэдка займаецца сучаснасьцю. Яна гаворыць пра мінуўшчыну і пра мінуўшчыну ідэальную. Тое, на што павінны мы зьвярнуць увагу - гэта, што існуе пэўнага роду правіла, якое праяўляецца ўва ўсіх вялікіх вякох паэзыі і, што яно зьяўляецца выразна ня штучнаю самавольнаю рэчаю, але барджэй тэндэнцыяю, якая ўздымаецца натуральна зь першым вялікім выражэньнем паэтыцкага пачуцьця.

І яшчэ далей, гэтая блізкасьць да натуры, гэтая адсутнасьць аднолькавасьці або цеснаты думкі, дзейнічаючы сумесна зь іншымі прычынамі, прывяла да своеасаблівае разнастойнасьці і шматстароннасьці, што зьяўляецца адным з найболей зьдзіўляючым нас чарам антычнае Грэцыі, якая становіць гэтакі кантраст, скажам, у параўнаньні з Ізраэлям або Асырыяю ці з раньнім Рымам. Ґэаграфічна гэта малы край з вельмі няроўна выкроенаю лініяю ўзьбярэжжа, а сама ўнутраная плошча зямлі разьбіта на вялікі лік бадай-што ўзаемна ізаляваных далінаў. Палітычна - гэта была ў зьбянтэжаньне ўводзячая еднасьць, узьніклая з пэўнага ліку незалежных гаспадарстваў; а гаспадарства - гэта адно места, абнесенае сьцяною зь некалькімі тысячамі жыхароў, якіх хапіла, каб стварыць гаспадарства-места. І грамадзяне гэтакіх гаспадарстваў былі барджэй празьмерна здольнымі ў хвармаваньні свае ўласнае апініі і змагацца за яе. Згэтуль у практыцы ўзьнікла значная ізаляцыя і разлад, і агульнае паслабленьне на шкоду самым грэкам; але гэтая самая прычына, якая сталася наўзорам у думцы як і ў літаратуры і прывяла да розьніцы як і жыцьцёвасьці, прывяла гэтаксама да вялікіх духовых асягненьняў нас, каторыя дасьледуюць грэкаў у пазьнейшых часох. Насілу ці знойдзецца які-небудзь тып думкі, стыль пісьменьніцтва, які ня быў-бы паралельным у антычнай Грэцыі, і ўсё гэта спасьцярожным там, дзе яны былі, у іхнай раньнішняй і простай хворме. Сьляды ўсіх гэтых рэчаў, якія сягоньня выглядаюць ужо як ня-грэцкія, могуць быць знойдзенымі негдзе ў грэцкай літаратуры: жаданьне прыемнасьці, аскетызм, аддаваньне чэсьці ведзе, абрыдласьць да веды, атэізм, піетызм, рэлігія службы для сьвету і рэлігія адыходу ад сьвету: усё гэта і бадай-што ўсе іншыя пункты гледжаньня, якія хто-небудзь толькі можа сабе ўявіць, усе яны рэпрэзэнтуюцца дзе-небудзь у запісах гэтага аднаго маленькага народу. І насілу ці існуе адно пакалень-

не з дакладнымі спасылкамі на крыніцы, якім сам аўтар ня мог-бы запярэчыць прыкладамі ў супроцьлежным сэнсе. Тут наагул чалавек вычувае адсутнасьць якіх-небудзь путаў: розум чалавечы свабодны, а мо́ барждзэй незалежны, нязьмерна зацікаўлены жыцьцём і паўнатою спадзеі, ува ўсіх напрамках чы́ніць спробу асягненьня эксцэльленцыі духа, што́ грэкі выражалі словам арэтэ́ і кіраваліся нейкім нештодзенным інстынктам у напрамку Паўстрыманьня і Прыгожасьці.

Тут назіраем разнавіднасьць і гэта ня можа быць забытым; тымняменей, сярод гэтае разнавіднасьці існуе пэўная агульная або цэнтральная характэрыстыка, пераважна з прычыны тае самае вартасьці сьвежасьці і блізіні да натуры.

Калі вы глядзіце на грэцкую статую або на барэльеф, або калі вы чытаеце які-небудзь фраґмэнт з Арысто́тэлесавае спадчыны, вельмі магчыма, што спачатку вы будзеце нудзіцца. Што за прычына? Бо тут усё зьяўляецца нармальным і праўдзівым; гэтак выняткава вы чуецеся свабодным ад перабольшанасьці, парадоксу, мамэнту гвалту; затым расбаўленыя гэтае палонячае нас хвормы бязглузьдзіцы, якая прамаўляе да некаторых нясьведамых уласнае бязглузьдзіцы. "Мы зьяўляемся хворымі", можа нехта сказаць, "на спазор гэтых прыгожых, дасканала здаровых людзей з магільнымі тварамі і нармальнымі касьцямі і мускуламі! Мы чуемся хворымі, калі нам кажуць, што Цнота зьяўляецца тою залатою сярэдзінаю паміж дзьвюма скрайнасьцямі з імкненьнем учыніць людзей шчасьлівымі! Мы ня будзем цікавіцца гэтым да тае пары́ пакуль нехта скажа нам, што Цнота зьяўляецца скрайным запярэчаньнем нас самых, або, – і гэта мо́жа быць, – што скрайнасьць і бязьлітаснае цьверджаньне – гэта адно і тое самае; або зноў, што Цнота – гэта камплекс бясслаўнае памылкі! А статуі? – дайце нам вымучанага чалавека з выгаладнелым целам і западлымі вачыма, які праклінае Бога! – або дайце нам нешта, што ахутана ў тлушч і колеры..."

Што́ там знаходзіцца за гэткага роду пачуцьцём? якое, я мушу прызнаць, часта прыймае болей разумныя хвормы, чымся гэтыя, якія я вырысаваў. Гэта тая самая псыхалягічная прычына, якая ўносіць зьмены ў фасон, мастацтва або вопратку: якая любіць "выкрутасы" і, пры помачы рэклямы стварае для сябе аграмадныя багацьці. Гэта нуда або ўнутраная пустэча. Мы маем за шмат зь літары А; мы ўжо хворыя з прычыны яе, мы ведаем як гэта робіцца і мы ненавідзім яе; дайце нам нейкае Б, або проста нешта зь Я. – І

пасьля вялікае колькасьці Я мы дамагаемся зноў з пачатку нашае абзэцы асягненьняў. Але цяперака падумайце пра чалавека, які ня нудзіцца зусім; наадварот, які вельмі цікавіцца справамі сьвету, дастаткова адважны, каб прыняць добрыя рэчы і адкінуць дрэнныя; які перапоўнены жаданьнем праўдзівае веды і хваляваньнем з прычыны адкрыцьця ў досьледзе. Радасьць для яго - гэта бачыць рэчы такімі, якімі яны зьяўляюцца і ўзважваць іх нармальна. Ён ня нудзіцца на спазор нармальнае рэчы, здаровых мускулаў у здаровым і прыгожа ахвормленым целе; ён захопліваецца гэтым. Калі вы зьіначыце мускулы на карысьць эмацыянальнага эфэкту, з расчараваньнем ён праўдападобна скажа: "Але-ж гэта брыдота!" або "Але-ж мускулы чалавека зусім не падобныя да гэтых!" Ён-бы заўважыў, што сьлёзы салёныя і барджэй цёплыя; але, калі вы кажаце як мадэрны паэта, што сьлёзы "болей гарачыя, чымся агонь, болей салёныя, чымся салёнае мора", дык ён праўдападобна падумае, што вашае цьверджаньне ἀπίθανον "непераконваючае", і гэтым самым ψυχρόν "халодным" астаецца.

Магчыма, асабліва ў рэлігіі і ў сфэры маралі мы прывыклі да ўжываньня ўрачыстае мовы: выражэньні, адпаведныя толькі для праўдзіва ўзьнёслых мамэнтаў, ужываюцца намі як выцертыя фразы звычайнага штодзеннага жыцьця. "Тысяча разоў горш бачыць як іншы церпіць, чым цярпець самому". "Праўдзівая любоў жадае шчасьця толькі таму, каго яна любіць". Падобная напышанасьць сталася часткаю нашага рэгулярнага мэнтальнага звычаю, падобна як мертвыя мэтафоры ў аграмаднай колькасьці сталіся часткаю нашае штодзеннае мовы. Пасьлядоўна мы зьяўляемся крышку астуджанымі і расчараванымі моваю, у якой людзі насілу ці калі-небудзь ужываюць мэтафору за выняткам, калі яны жыва ўсьведамляюць сабе гэта і ніколі ня ўжываюць гэраічных сэнтымэнтаў за выняткам, калі яны штучна даводзяць сябе да ўпадку своіх ім праўдзівых пачуцьцяў. Ці мае гэта значыць, што грэк заўсёды астаецца, калі гэтак можна сказаць, у нармальнай тэмпэратуры, што ён ніколі ня мае сільных або сьляпых пачуцьцёвых хваляваньняў? Ані ў найменшай ступені. Гэта паказвае на адсутнасьць веры ў вартасьць жыцьця, чынячы гэтакі выснаў. Гэта значыць, што чалавек можа дайсьці да вялікага пачуцьцёвага хваляваньня пад дайманом або пры звычайнай перабольшанасьці малога хваляваньня, у тым самым часе, калі запраўднасьць зусім выяўляецца наадварот. Калі надыходзіць вялікая рэч, тады грэк

знойдзе вялікае слова і вялікая думка гатоваю ёсьць. У аналягічным выпадку звычайна той ідзе ўніз папахілай, хто перабольшвае. І пасьля ўсяго – мы пэўныя, што вялікія рэчы надыйдуць!

Здольнасьць спасьцяражэньня рэчаў такімі, якімі яны зьяўляюцца, і ведаць што ёсьць прыгожасьць і шляхэтнасьць, незакаламучанымі нуднасьцю бягучае хвіліны або зьменамі смаку, выступае як вельмі рэдкі дар і магчыма ніколі ня бывае поўнаю ўласнасьцю ніякага чалавека. Існуе мудрая рэгула мастацтва, зьвязваючая чалавека ў васяродзьдзі ягонага вывучаньня розных стыляў або ў пошуках ягоных уласных своеасаблівых уяўленьняў, і стварае для яго магчымасьць час ад часу **se retremper dans la nature** – "уступіць самому зноў у натуру". І ў нешта, гэтакім самым спосабам, быццам сам сьвет павінен час ад часу зноў уступіць у Гэльленізм: гэта значыць, што павінен, у васяродзьдзі ўсяе свае шматграннае штучнасьці, і бязглузьдзіцы, і зьменаў у існуючых абычаях у галіне мастацтва і навукі, каб займець пэўную з вычуцьцём пашану для тых праяваў, якія ўзьніклі, калі чалавек першы раз прабудзіўся для значэньня праўды і прыгожасьці і спасьцярог сьвет, як запраўды новую рэч.

Ці ёсьць гэта перабольшанасьць? Я думаю, што не. Але тут ня можа быць прадпрынятая поўная абарона сказанага. У гэтым нарысе мы займаліся бадай-што выключна артыстычным зацікаўленьнем Грэцыі. Было-б не без карысьці затрымацца гэтаксама і над гістарычным аспэктам справы. Тады-б мы спасьцераглі, што для таго разгаліненьня людзкасьці, якая зьяўляецца адказнаю за Заходнюю цывілізацыю, насеньне бадай - што ўсяго, што мы ўважаем за найлепшае для людзкае расы, было сеяным у Грэцыі. Канцэпцыя Прыгожасьці, як радасьць сама ў сябе і кіраўнік у жыцьці, была перш і найболей жыва выражана ў Грэцыі, і якраз тыя самыя правы, паводля каторых рэчы зьяўляюцца прыгожымі або брыдкімі, былі ў значнай меры адкрытымі там і зафіксаванымі на пэргамінах. Канцэпцыя Свабоды і Справядлівасьці, свабоды для паасобнага чалавека, свабоды слова, свабоды думкі, справядлівасьці паміж сільным і слабым, багатым і бедным, пранікала ўсю грэцкую палітычную думку, і была, – у васяродзьдзі выразнае зьменнасьці, – фактычна практыкаванаю ў знаменнай ступені ў найлепшых грэцкіх супольнасьцях. Канцэпцыя Праўды як апошняя мэта ў асягненьні яе самое, адкрыць рэч і вылушчыць яе дарогаю экспэрымэнту, творчае фантазыі і асабліва пры

помачы Розуму - у грунце рэчы ў сваей сутнасьці цесна зьвязаная з паняцьцем Свабоды, супроцьлежная гэтак для анархіі як і для сьляпое паслухмянасьці, нігдзе, здаецца, на сьвеце ня была гэтак ясна агорнута, як раньнімі грэцкімі пісьменьнікамі ў галіне навукі і філязофіі. Часамі чалавек стаіць і дзівіцца з прычыны дасканалае свабоды іхнае думкі. Іншая канцэпцыя прыйшла барждзэй пазьней, калі Месты-Гаспадарствы з эксклюзыўным правам грамадзянства пачалі лучыцца ў большыя палітычныя адзінкі: гэта канцэпцыя ўнівэрсальнага сяброўства паміж чалавекам і чалавекам. Пасьля Пэрскае вайны Грэцыя хутка зразумела, што яна мае місыю для сьвету, яна ўсьведамляла сабе, што гэльленізм стаіць за вышэйшае жыцьцё чалавека як кантраст барбарызму, за Арэтэ́, за Эксцэльленс, як кантраст сярэдняга стандарту жыцьця без натугаў чалавека ў напрамку лепшага. Перш прыйшоў нясьпелы і грубы патрыятызм, каторы кажнага грэка ўважаў за вышэйшага ад кажнага барбара; тады прыйшла развага, паказваючая, што ня ўсе грэкі былі праўдзівымі носьбітамі сьветача, гэтаксама як ня ўсе барбары зьяўляюцца іхнымі ворагамі; што гэльленізм быў вынікам духа і не абавязкава залежыць ад ра́сы, да якое належыць чалавек, ані да месца, дзе ён нарадзіўся: тады прыйшло новае слова і новая канцэпцыя ἀνθρωπότης, humanitas, людзкасьць, што́ для стоікаў стварыла сьвет, як адно братэрства. Гісторыя ня ведае людзей, якія ясна фармулявалі гэтыя ідэалы перад грэкамі, а тыя, што пачалі вымаўляць гэтыя словы за імі, у сваей пераважнай частцы былі адно рэхам думак старажытных грэцкіх людзей.

Гэтыя ідэі, імкненьне да Праўды, Свабоды, Прыгожасьці, да Арэтэ́ не зьяўляюцца ўсім. Яны былі закваскаю нясупакою на сьвеце; яны ўзьнялі сьвятло, якое не заўсёды было прыемным для вока, што спазірала на яго. Існуе іншы ідэал, які наагул сільнейшым зьяўляецца і магчыма, на падставе таго, што́ мы ведаем, выцісьне іх як дрэнныя рэчы. Існуе Падпарадкаванасьць замест Свабоды, вырачэньне жыцьцёвае энэргіі і радасьці або бруталізацыя змыслаў замест прыгожасьці, успрыняцьце традыцыі замест імкненьня да Праўды, вера ў гальлюцынацыю або пасыю замест Розуму і Паўстрыманасьці Думкі, зацямненьне розьніцы паміж добрым і дрэнным і прыняцьце кажнае людзкае існаваньне і кажны стан людзкае думкі, як роўных у сваей вартасьці. Калі нешта ў гэтым родзе мае давесьці ў вапошнім падсумаваньні сваю слуш-

насьць для чалавека, тады Грэцыя, будзе гаварыцца, згуляла ролю вялікага разбуральніка ў гісторыі чалавека на Зямлі. Яна будзе ацэнена, як носьбіт хвальшывага сьвятла, якое зманьвала наш вадаплаў на небясьпечныя месцы. Але, у кажным выпадку, у часе ціхае пагоды як і штурмовае навалы, яна трымае сваё сьвятло; яна сьвяціла перш нацыям і сьвяціла ім у часе першага свайго праяву найчысьцейшым сьвятлом; і, ці верым мы ў індывідуальнае жыцьцё, абапертае на Свабодзе, Розуме, Прыгожасьці, Арэтэ і ў імкненьне да Праўды, ці ў інтэрнацыянальнае жыцьцё ў васяродзьдзі сяброўства паміж чалавекам і чалавекам, або думаем мы, што гэтыя ідэалы зьяўляюцца вялікімі пасткамі людзкае палітыкі, тады існуе добрая прычына для некаторых з нас у кажным пакаленьні коштам часу і турботаў аддацца студыям гэтак важных сілаў там, дзе яны перш зьявіліся сьведама ў умыслах нашых духовых прашчураў. У думцы і мастацтве старажытнае Грэцыі, болей як хто-небудзь іншы, мы знойдзем гэтыя сілы, як і да пэўнае ступені іхныя супроцьлежнасьці, сьвежымі, чыстымі і адносна нескамплікаванымі, з кажным разьлеглым вытокам думкі, запісанае на маленькай матэрыяльнай дошчачцы і кажную праблему, сьцьверджаную ў простай і зразумелай мове.

Ґільбэрт Маррэй

З ангельскае мовы пераклаў Я.П.
Ґэйнсвільл, Флярыда
25 чырвеня, 1974 г.

I/ Роґэр Бэкон, I2I4?-I294, ангельскі навуковец і філёзаф, сябра Францішканскага Ордэну, áўтар чысьленых працаў навуковага характару. "Мэтаю праўдзівае філязофіі", казаў ён, "прыйсьці зь ведаю да пазнаньня Стварыцеля, праз пазнаньне вонкавага сьвету". - Я.П.

2/ Сэр Ізаак Ньютон, I642-I727, ангельскі матэматык і філёзаф, узнаны як адзін з найбольшых вучоных. Ён унёс значны ўклад у галіну матэматыкі, вывучэньня сьвятла і вынахадам г. зв. рэфлектыўнага тэлескопу; але асягненьне, з прычыны якога ён стаўся найболей ведамым, ёсьць ягоная фармуляцыя сусьветнае ґравітацыі. Ягоны галоўны твор, які тут успамінаецца як Прынцыпія, ведамы пад назовам: Philosophiae naturalis principia mathematica. - Я.П.

3/ Ад часу, калі гэты нарыс быў перш напісаны, Кніга I Эўклідэса была выдадзена з камэнтарамі Сэр Томасам Гітам /Кэмбрідж Прэсс, I920/. Кніга, будзячая зацікаўленьне і поўная навуковага зьместу.

4/ Пра Гіппократэса гл. камэнтары да "Протаґораса" на бач. I54 - Ґален - грэцкі лекар, філёзаф і пісьменьнік, радзіўся ў Пэрґамоне+/ у Малой Азыі; жыў у гадох I3I-20I/?/ н.э. Вучыўся і адукацыю сваю атрымаў у Сьмірне, пасьля чаго адбываў даўжэйшыя і частыя падарожжы, паглыбляючы свае веды і дазнаньне. Каля I64 г. асяліўся ў Рыме, дзе практыкаваў прыватна мэдыцыну. Паводля адных жаролаў, ягонымі пацыентамі былі імпэратары і выбітныя адзінкі з эліты тагачаснага сьвету. У часе гэтага пэрыяду ён быў запрошаны на становішча прыдворнага імпэратарскага лекара, якое ён ня прыняў. Паводля ранейшых крыніцаў, быў ён прыдворным лекарам у ведамага імпэратара і філёзафа, Марка Аўрэліюса. З рэшты ягонага жыцьця дайшлі да нас скупыя весткі. У Рыме жыў праўдападобна даўжэйшы час, і памер на Сыцыліі. Пераймаючы навуку Гіппократэса, Ґален быў ведамы, як найболей выдатны лекар старажытнасьці. Ягоная слава і ягоны аўтарытэт у мэдыцыне знаходзіліся на гэткай вышыні, што, у выніку гэтага, прагрэс у мэдыцыне затрымаўся блізу на працягу чатырнаццаці стагодзьдзяў. У гэтым пэрыядзе часу ён быў узнаным аўтарытэтам сярод грэкаў, рымлянаў і арабаў, зацi-

+/ У Пэрґамоне або ў Пэрґаме, грузы якое часамі сягоньня выкрываюцца блізка сучаснае Бэрґамы, вырабляўся пэрґамін або г. зв. пэрґаміновая папера.

каўленьне спадчынаю старажытнасьці сярод якіх было вынятнавым. У часе сярэднявечча ягоная слава дайшла да свайго кульмінацыйнага ўзвышша. Зьмест ягоных твораў стаўся тэмаю дыскусыяў людзей навукі. Ён быў аўтарам блізу 500 пісаных большых і меншых твораў на тэмы філязофіі, дзе праявіў сябе, як монотэісты, лёгікі, якую ён працягваў за сваімі папярэднікамі - Сакратасам-Плятонам і Арыстотэлесам, мэдыцыны, у якой першы закранаў гэтакія галіны, як біялёгія, фізыялёгія, праводзячы экспэрымэнты, што стварыла для яго ганаровы тытул Бацькі экспэрымэнтальнае фізыялёгіі. - Я.П.

5/ Не без абаснаваньня можна мець тут на ўвазе і арабаў. - Я.П.

6/ Рымская сьцяна або Сьцяна Гадрыяна - гэта ваенна стратэгічная сьцяна, пабудаваная старажытнымі рымлянамі з часу імпэратара Гадрыяна, даўжынёю прыблізна I20 км., перацінаючы папярок найвужэйшую частку Вялікабрытанскае абтокі ад Сольвэй фірт да шырокае ўтокі ракі, званае калісьці Цінаю. Пабудова сьцяны адбылася на загад Гадрыяна каля I20 г.н. э. Заканчэньне пабудовы сьцяны, якая мела 6 футаў вышыні і 8 футаў таўшчыні, адбылося сто гадоў пазьней у часе панаваньня імпэратара Сэвэруса. Урад брытанскі распасьцёр апеку над фрагмэнтамі гэтага своеасаблівага помніка рымскае акупацыі. - Я.П.

7/ Джон Мільтон, /I608-I674/, ангельскі паэта і філёзаф; Томас Карляйль, I795-I88I, ангельскі вучоны. Мільтон зьяўляецца аўтарам <u>Страчанага Раю</u>. - Я.П.

8/ Ёрктаўн, не вялікае места ў Усходняй Віргініі - заснаванае ў пазьнейшых гадох I7-га ст.,ведамае са сваіх бітваў у часе Амэрыканскае Рэвалюцыі як і з часу грамадзянскае вайны. - Я.П.

## ДА ДЫЯЛЁГУ "ПРОТАҐОРАС"

Протаґорас, галоўная асабістасьць у дыялёгу гэтага самага назову, грэцкі сафісты, народжаны ў Абдэры ў Трацыі каля 485 г. і памер каля 415г.п.н.э. У Атэны прыбыў каля 445 г.п.н.э. і стаўся прыяцелем Пэрыклеса і іншых ведамых людзей ягонага часу. Протаґорас быў першым, каторы называў сябе сафістым, платным прасьветнікам Гэльляды на працягу сарака гадоў. Лекцыі ягоныя адзначаліся высокім культурным узроўнем. За курс лекцыяў ён атрымліваў сто і болей мінаў серабром ад чалавека, што на тагачасныя эканамічныя суадносіны станавіла высокую плату. Зь ведамых ягоных працаў, як "Праўда" і "Пра багоў", захаваліся нязначныя фраґмэнты. Асноваю ягонае спэкуляцыі была навука, што нічога не зьяўляецца абсалютна добрым або дрэнным, праўдзівым або хвальшывым і затым кажны чалавек зьяўляецца аўтарытэтам для самога сябе. "Пра багоў? Нічога не магу ведаць, - казаў ён, - існуюць яны ці ня існуюць. Шматлікія рэчы стаяць на перашкодзе, каб штонебудзь пазнаць у гэтай справе: сам прадмет не дастаткова ясны, а жыцьцё чалавека за кароткім ёсьць". Паводля Плятона, тое, што ён вучыў, не адносілася да навукі ці досьледу, але да таго, як чалавек павінен трымаць сябе ў жыцьці, якую культурную паставу мае ён заняць у супольнасьці.Протаґорасу прыпісваецца аўтарства сказу: "Чалавек зьяўляецца мераю ўсіх рэчаў".

Ягоныя пагляды, зь якімі ён не таіўся, прывялі яго на сямідзесятым годзе ягонага жыцьця да судовага працэсу, які кончыўся для яго непамысна. Ягоныя творы былі публічна спаленыя на атэнскім пляцу, а сам ён мусіў уцякаць у Сыцылію, па дарозе куды спаткаў сваю сьмерць.

=

Дыялёг паміж Сакратасам і Протаґорасам вядзецца навакол пытаньня: Можна ці ня можна навучыцца цноты?

Протаґорас, выступаючы ў ролі вучыцеля, утрымлівае думку, што цноты можна навучыцца, тады як Сакратас, маючы сваю дэфініцыі адносна пазнаньня і веды, творыць уражаньне чалавека, выражаючага супроцьлежны пагляд.

У бегу дыскусыі [319] Сакратас зьвяртае ўвагу прысутных, што, калі людзі зыйдуцца разам, каб раз-

гле́дзець справу, напрыклад, пабудовы вадаплаву ці якую іншую падобную, тады склікаюцца пераважна адумыслоўцы дадзенага мастацтва і толькі іхнае веданьне бярэцца пад увагу. З другое стараны, калі ўздымаюцца пытаньні агульнага характару, і ў вапрычонасьці, справы места-дзяржавы, інакш кажучы, справы палітычнага характару, тады кажны чалавек чуецца свабодным у выражэньні свайго пункту гледжаньня. І ніхто ня будзе ставіць яму пытаньні, як далёка ён зьяўляецца заавансаваным у разгляданай справе. І, калі ў справах палітычных паняцьце справядлівасьці выступае на першае месца, гэтым самым, кажны ўдзельнік займаецца мужнасьцю. Сакратас выражае тут перакананьне, што гэная пастава адзінкі адносна спраў палітычных выклікаецца жыцьцёваю неабходнасьцю і людзі астаюцца пад уражаньнем, што гэткага роду веда ня можа быць навуча́наю. Ня можа быць навуча́наю? - Але́, бо, як вынікае з вышэй сказанага, усе ўжо наву́чаны мужнасьці. Можа быць адно ўзьнята пытаньне, да якое ступені пазна́нае забылася і ў якой меры павінна яно быць прыпомнутым.

На гэта [320] Протаґорас адказвае Сакратасу, часткава ўжываючы вобразнасьць міту. Паводля прыведзенага міту, чалавек быў створаны бязрадным, голым і безабаронным. Эпімэтэус, ня будучы вельмі мудрым і заняты справаю распадзелу пэўных неабходнасьцяў для жывых існаваньняў, забыў пра чалавека. Промэтэус, хочучы направіць шкоду, выкрадае ад Гэфаістоса і Атэны веданьне пэўных тэхнічных мастацтваў разам з агнём і ўсё гэта перAказвае людзям дзеля памыснасьці апошніх.

Гэтак абясьпечыўшыся, [322] спачатку людзі жылі расьцярушана, а местаў зусім ня было. У выніку гэтага людзі гінулі з прычыны нападу дзікіх зьвераў, бо людзі былі значна слабейшымі ў параўнаньні зь імі, а мастацтва іхнае было толькі дастатковым дзеля здабыцьця абесьпячэньня сродкамі для жыцьця і ня было дастатковым, каб весьці змаганьне супроць зьвераў.

Зэус, як далей даведваемся з пераказу, спалохаўшыся, каб не загінуў род людзкі, уводзіць у васяродзьдзе людзей пачуцьцё СОРАМУ і вычуцьцё ПРАВА і СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ, каб яны ляглі ў васнову парадку местаў і цеснай супольнасьці між людзьмі і згоды. І гэтыя характэрныя свомасьці чалавека, пайменна, пачуцьцё сораму і вычуцьцё права і справядлівасьці, уведзены затым, каб кажны чалавек меў удзел у іх: бо ніякае гаспадарства ня можа ўстаяць у сваіх асновах,

калі людзі ня будуць сьведамымі ў гэтым. І рэч гэтая ня толькі паважнаю зьяўляецца - яна зьяўляецца найболей паважнаю асноваю людзкае супольнасьці. Паважнасьць гэтае неабходнасьці дыктуе права, што кажны, хто ня будзе праяўляць пачуцьця СОРАМУ і вычуцьця ПРАВА і СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ, няхай будзе забіты, як пошасьць супольнасьці!

Тут і ляжыць прычына, Сакратас, - кажа далей Протаґорас, - чаму, калі людзі сузграмадзяцца ў справе нарадаў на тэму палітычнае дзейнасьці,якая абасноўваецца на справядлівасьці і мудрасьці,праяўляюць церплівасьць адносна кажнага чалавека, які выказваецца пра справядлівасьць і мудрасьць; і гэта натуральна, бо яны тае думкі, што кажны чалавек мусіць узяць удзел у гэтых цнотах, бо інакш гаспадарствы не маглі-б існаваць. Я хацеў-бы яшчэ зьвярнуць тваю ўвагу на тое, што яны не ўважаюць, быццам цнота зьяўляецца выключна дарам натуры або выяўляецца сама сабою, але што яе навучаюцца; і, калі хто і асягнуў яе, дык толькі дарогаю стараннасьці і працы над сабою.

=

Дыялёг, якім бачым яго ў творчасьці Плятона,гэта ня ёсьць гутарка дзеля гутаркі, ані гутарка дзеля накіненьня іншай старане свайго пункту гледжаньня. Дыялёг - гэта інструмант, пры помачы якога шукаецца праўда.

Маючы гэткі падход да зразуменьня чытанага дыялёгу "Протаґорас", мы ня будзем зьдзіўленымі, калі ў канцовай частцы яго знойдзем, што галоўныя два канвэрсанты - Сакратас і Протаґорас - знаходзяць супольную лінію думаньня. Сакратас хоць і ўтрымлівае, што цноты ня можна навучыцца, аднак ён стаіць на прынцыпе, што апрача іншых паняцьцяў,якія складаюцца на паняцьце цноты, уваходзіць гэтаксама і фактар веды. Ці веда прыпамінаецца, як калісьці забытая чалавекам, ці працэс прыпамінаньня адбываецца пры сутыку да пэўных рэчаў, зьявішчаў, на школьнай лаве, ці ў тым, што прынята называць "вучыць", "вывучваць" ці "навучыцца" - у сутнасьці рэчы гэта ня зьменьвае сабою існасьці пытаньня, на вакол якога абяртаецца дыялёг. Сакратас выразна паказвае на дзьве сілы, якія стаяць насупраць сябе, і якія цесна вяжуцца з паняцьцем цноты і права. Сілы гэтыя дзейнічаюць у васяродзьдзі людзей, якія стаяць на ўрадавых становішчах, або, як гэта прынята агульна называць, займаюцца

палітыкаю. Тут выступае сіла прыемнасьці ў чыненьні зла, і сіла супроцьставіцца апошняй. Гэта, паводля Сакратаса, унутранае змаганьне, якое кіруецца адсутнасьцю веды з аднае стараны, і наяўнасьцю яе – з другое.

Пры адсутнасьці веды чалавек можа паддацца сіле прыемнасьці, якая атрымліваецца ў дадзены мамэнт бяз глыбейшага ўсьведамленьня таго, якія могуць быць кансаквэнцыі гэтага на будучыню, і якія, як звычайна, абяртаюцца ў хворму ўнутраных перажываньняў і цярпеньняў.

Увесь фізычны сьвет трывае ў сваей раўнавазе, дзякуючы існуючым у натуры правам, паводля якіх кажная рэч накіроўваецца ў прадназначаным гэтым правам напрамку. Чалавек зьяўляецца часткаю гэтага фізычнага сьвету, уключна зь ягонаю фізычнаю структураю як і маральна-духоваю. Цяперака, калі наступае нарушэньне чалавекам правоў, нясе гэта з сабою цяжкія кансаквэнцыі для яго ў хворме цярпеньня або і сьмерці.

Сын Арыстона ў сваей, пакінутай нам, спадчыне, часта зьвяртае ўвагу на паняцьце права. Гэтак, як у сьвеце, пра які мы ўжо ўспомнілі, існуе кіруючы мернік – ПРАВА, якому ў сьвеце маралі чалавек падпарадкаваны. Ніякі чалавек, які займае тое ці гэтае становішча ў супольнасьці, ніколі не павінен забывацца пра гэта, калі ён хоча быць карысным грамадзе і захаваць для сябе найвышэйшы тытул годнага чалавека.

Мы можам паставіць дыскутуючым пытаньне:"Протаґорас і Сакратас, калі гэтакі стан рэчаў ня ў тым, што мы ня можам супроцьставіцца сіле прыемнасьці, дык у чым ён знаходзіцца і што пра гэта думаеце вы? – калі ласка, скажэце нам". – "Калі-б мы зараз-жа вам сказалі, што дзеецца гэта з прычыны адсутнасьці веды, дык вы высьмеялі-б нас; але, калі вы пачнеце цяперака сьмяяцца з нас, дык вы будзеце сьмяяцца з самых сябе: бо-ж вы гэтаксама згадзіліся, што людзі ў выбары паміж прыемнасьцямі і цярпеньнямі памыляюцца; гэта значыць, у іхным выбары паміж дабром і злом, памыляюцца з прычыны недахопу веды; і вы згадзіліся далей, што яны памыляюцца ня толькі з прычыны недахопу веды наагул, але ў вапрычонасьці гэтае веды, якая называецца ведаю вымерваючага мастацтва. Вы гэтаксама ведаеце, што памылковае дзеяньне, якое даконваецца з прычыны адсутнасьці веды, узьнікае з прычыны наяўнасьці няведаньня". Памылка прыходзіць у стан быцьця праз сі-

лу няведаньня. "Тут якраз і ляжыць значэньне думкі - быць пераможаным прыемнасьцю: няведаньнем..." - "Чуцца ніжэйшым за самога сябе - гэта ні што іншае, як няведаньне, а быць на вышыні свае годнасьці - гэта ні што іншае, як мудрасьць".

=

У дыялёгах наагул, і ў "Протагорасе" ў апрычонасьці, Плятон займаецца тым, што ў грэцкай мове называецца ἀρετή, а ў перакладзе нашым перададзена словам ц н о т а, якое можа мець як сынанімы: дабрадзейнасьць, дабрачыннасьць, мудрасьць, мужнасьць, справядлівасьць, разважнасьць, пабожнасьць... Але гэты наш тэрмін, ці некалькі зь іх, не зьяўляецца адзіным для адданьня значэньня слова арэтэ́, бо слова арэтэ мае шырокі дыяпазон глыбака ўнятых паняцьцяў з галіны маралі і этыкі. Арэтэ - гэта ўнутраная дабрыня чалавека, якая выток свой бярэ з шляхэтнасьці ягонае душы, гэта вялікадушша; гэта мужнасьць у змаганьні за ідэалы і сьвятую для яго справу, як і мужнасьць, зьвязаная са спатканьнем вялікшых і меншых штодзенных абавязкаў; арэтэ - гэта маральная прыгожасьць, гэта годнасьць чалавека, гэта ягонае духовае ўзвышша, коратка - гэта прынцып духовы, які чыніць чалавека Чалавекам. З гэтае прычыны паняцьце арэтэ цесна вяжацца зь іншым Плятонавым выражэньнем - к а л ё к а ґ а ц ы я, дзе прыгожае і добрае сумесна выступаюць у сваей духовай вялічэзнасьці.

Сярод іншых перакладаў ἀρετή, як, для прыкладу, нямецкага **das Wohlverhalten** і перадусім - **die Tugend**, расейскага - добродетель, польскага - **dzielność**, трапным эквівэлентам выступае ў ангельскім - **excellence**, які я назваў-бы - эксцэльленцыя духа, і які выток свой бярэ з лацінскае мовы - **excellentia**, што значыла-б высокасьць, эмінэнцыя, дыстынкцыя... Мерадайны ў ангельскай мове Вэбстэр эксцэльленцыю духа аддае словамі: стан валаданьня добрымі якасьцямі ў сваеасабліва высокай ступені.

Кароткі ўгляд у духовую спадчыну нашае мінуўшчыны выяўляе перад намі запраўднасьць, што тэрмін цнота ў вышэй адцемленым значэньні ўжываўся на прасторы ґэаґрафічнай, якая абыймала нашую бацькаўшчыну - Вялікае Княжства Літоўскае.

Затым слова гэтае знаходзім у выдатнага прадстаўніка нашае культуры свайго часу - у др. Фран-

цішка Скарыны.+/

Чымколечы арэтэ можа быць - цнотаю, эксцэльленцыяю духа, мужнасьцю, справядлівасьцю і г.п., яно, можам чытаць у Плятона, не зьяўляецца само ў сабе мэтаю. Яно зьяўляецца сродкам да мэты, а мэтаю - збаўляючы прынцып людзкага жыцьця. [356]

=

Зь няпамятных дзён у працэсе самога жыцьця чалавек спасьцерагаў, што ўспрыйманыя ім зьявішчы з навакольнага сьвету быццам дзеляцца на тыя, што ствараюць у яго пачуцьцё няшчасьця як і тыя,што выклікаюць уражаньне нечага прыемнага - шчасьця. І ня толькі гэта. Чалавек далей усьведамляўся, што адчуваньне ім таго, што ён раз называў шчасьцем або няшчасьцем, цесна вязалася зь ягонаю ўласнаю дзейнасьцю ў жыцьці. Згэтуль будзілася пытаньне, як трэба ўсуаднесьціся да зьявішчаў камплексу,кабзаймець шчасьце ў жыцьці. Падобную думку мы знаходзім у старой беларускай мудрасьці ў хворме пытаньня: Як трэба жыць, каб шчасьлівым быць? І ў напрамку асягненьня свайго шчасьця людзкая думка нясупынна крочыць наперад аж да нашых дзён, і якая будзе далей крочыць пасьля нашага часу. Маючы гэтае на ўвазе, выкладаюцца людзьмі новыя пагляды, прапануюцца новыя навукі, праводзяцца ў жыцьцё, часта супярэчныя сабе і будзячыя людзей да супраціву і войнаў, шырока распрацаваныя тэорыі. У пошуках свайго шчасьця чалавек адбываў доўгія падарожжы, каб спаткаць мудрага з-пасярод свайго роду і паставіць яму зноў старое пытаньне, што трэба рабіць, каб атрымаць збаўленьне, незалежна ад таго, што чалавек пад словам "збаўленьне" разумеў. У гэтым імкненьні чалавек не ашчаджваў ані натугаў, ані часу, каб адно знайсьці сваю кветку папараці.

Пытаньне збаўленьня не зьяўлялася новым нават у часох Плятона.

Але пытаньне пастаўлена. І цяперака наступае аналіза ўзаемадачыненьняў, спатыканых у жыцьці духовых вартасьцяў і здольнасьцяў самога чалавека,ягоных суадносінаў да гэтых вартасьцяў, як і да супольнасьці, якое часткаю ён зьяўляецца. Што зьяўляецца мернікам, здольнасьцю ў ацэне вартасьцяў, калі ня "прынцып мастацтва вымерваньня" - веда,

---

+/ Францішак Скарына, Прадмовы і пасьляслоўі, выдавецтва "Навука і Тэхніка", Менск, 1969, б. 21.

навука, розум? Бо існуюць труднасьці ў ацэне зьявішчаў, якія масавасьцю выступаюць перад чалавекам.

У гутарцы зь людзьмі, вуснамі Сакратаса, Плятон, зьвяртаючыся да людзей, кажа: Ці не выдаецца вам адна і тая самая велічыня большаю зблізка і меншаю здалёк? Бачыце, у залежнасьці ад узаемнае пазыцыі элемэнтаў -аб́екту і чалавека - адна і тая самая рэч выдаецца раз большаю, раз меншаю. Але паўстае неабходнасьць пазнаньня запраўднае велічыні і як можна гэта асягнуць. І адказ ёсьць: - прынцыпам мастацтва вымерваньня, а ня тым, што можа чалавеку здавацца ці пачуцьцём, ці нечым падобным. Толькі вымерваньнем або здольнасьцю разважаньня, думаньня - розумам. [356]. І гукі аднолькавага насіленьня зблізка выдаюцца сільнейшымі, а з пэўнае адлегласьці - слабейшымі? /Там-жа/. Інакш кажучы, адзін і той самы гук раз выдаецца сільнейшым, а іншым разам слабейшым. Ці-ж бы адзін і той самы гук мог быць у вадным і тым самым часе і слабейшым, і сільнейшым? - Недзе нечага не дагледзелі мы, калі прыйшлі ў нашых разважаньнях да падобнага высснаву. І тут, паводля Плятона, адзіным памочнікам для нас у выкрыцьці праўды можа быць мастацтва вымерваньня.

Ці-ж людзі, незалежна ад таго, дзе і калі яны жывуць, не згадзіліся-б з намі, пытаецца Плятон, у тым, што мастацтва вымерваньня прынесла-б нам ратунак; а мо́ зьвярнулі-б яны нашую ўвагу на штонебудзь іншае?

І на пастаўленае пытаньне адказ -

- Не, толькі на мастацтва вымерваньня.

Як-бы гэта было, пытаецца далей Плятон, - калі-б памыснасьць нашага жыцьця залежала ад трапнага выбару ў васяродзьдзі вартасьцяў, спатыканых у нашым жыцьці /паміж цотным і няцотным/ і веданьня, калі раз трапным ёсьць выбраць большае, а іншы раз - меншае і незалежна ад таго, будзе яно большае як гэткае або большае ў параўнаньні зь нечым іншым, знаходзіцца яно блізка ці далёка, і што́ будзе прынцыпам нашага жыцьця? Ці ня будзе гэта веда? - веда вымерваньня, калі ўзьнікае пытаньне празьмернасьці і недахопу, і веды вымерваньня, калі ўзьнікае пытаньне цотнасьці і няцотнасьці?

Палотнішча грамадзкага жыцьця чалавека выткана з тонкіх нітак ў хворме безьліччу пытаньняў, на якія ён на можа ня даць адказу: ён мусіць адказаць. І тут паводжаньне ці непаводжаньне, а часта ягонае шчасьце як і няшчасьце залежаць ад ягонага адказу. Але добры адказ, які мы шукаем, можа быць знойдзе-

ным толькі пры наяўнасьці веды; бо ў ягоным выбары паміж дабром і злом, чалавек памыляецца часта з прычыны недахопу веды. [357]

Цяперака, калі мы пераходзім у сфэру грамадзка-палітычнае дзейнасьці, нашае пытаньне набірае яшчэ большае важнасьці. Фактычна, памыснасьць адных.народаў і заняпад іншых, як рэгула, сапраўджаецца падборам адказу на тое ці іншае пытаньне рашаючага значэньня. У выпадку адсутнасьці веды, ці проста скажам, здаровага сялянскага розуму, у грузы валіліся вялікія імпэрыі; і з другое стараны, там, дзе адказныя людзі надаюць вялікае значэньне розуму, і вырашэньні свае прадпрыймаюць, трымаючыся веды - супольнасьці людзей праяўляюць большую стойкасьць і жывуць у болей памысных духова-эканамічных абставінах і, ідучы далей па гэтай лініі - заручаюцца сыстэматычным посьпехам на прышласьць.

=

Пасьля сьцьверджаньня, што веда перамагае прыемнасьць і, што нясьведамасьць людзкая, хоць і мае ў сабе сілу, але ня можа быць перараможніцаю, абгаворваецца сутнасьць адвагі чалавека з выснавам, што мужны чын - мудры чын.

У вапошняй частцы дыялёгу даведваемся, што пагляды дыскутуючых у міжчасе зьменьваюцца і ўзаемна дапаўняюцца.

- Яшчэ толькі пра адно, - зьвяртаючыся да Протагораса, казаў Сакратас, - хачу цябе запытаць; ці ты ўсё яшчэ пераканаты, што існуюць людзі, якія хоць і скрайна нясьведамыя, а ўсё-ж вельмі мужныя?

- Ты выдаешся мне, - сказаў Протагорас, - вельмі настырлівым, Сакратас, і хочаш, каб я адказваў. Добра, я ўчыню табе прыемнасьць і скажу, што на падставе таго, у чым папярэдня згадзіліся мы,мне выдаецца гэта немагчымым.

- Дык я-ж і пытаюся пра ўсё гэта, - сказаў Сакратас, - ні зь якою іншаю мэтаю, як толькі, каб разгледзець, як маецца рэч з цнотаю і ўпэўніцца што да сутнасьці яе. Бо, калі-б гэта выясьнілася да канца, дык сталася-б зусім ясным тое, з прычыны чаго кажны з нас гэтак доўга гаварыў: я, цьвердзячы, што цноты навучыцца ня можна, а ты - што можна. Мне здаецца, што апошняе падсумаваньне нашых разважаньняў падобным ёсьць да жывога чалавека.Бо,калі-б нашае разважаньне мела людзкі голас, дык голас гэты стаўся-б чутным і высьмейваючым нас, кажучы: "Дзіўныя вы людзі, Сакратас і Протагорас!

Гэта-ж ты, Сакратас, утрымліваў яшчэ нядаўна, што цноты ня можна навучыць, а цяперака сам сабе пярэчыш, даводзячы, што ўсё зьмяшчаецца ў ведзе: і справядлівасьць, і разважнасьць, і мужнасьць, – што выразна паказвае на тое, што цноты можна навучыць. Бо, калі-б цнота была нечым іншым, чымся веда, як Протаґорас прабаваў давесьці, дык ясным было-б, што цноты ня можна было-б навучаць. Але, калі цнота ў сутнасьці сваей веда, што ты настырліва так цьвердзіш, Сакратас, тады дзіўным было-б, калі-б цноты ня можна было навучыць. З другое стараны, Протаґорас, каторы пачаў зь цьверджаньня, што яна можа быць навучанаю, цяперака зацята даказвае, што яна можа быць чым хочаце, толькі ня ведаю; і, калі гэта ёсьць правільным, тады яна не зьяўляецца аб´ектам навучаньня".

Зноў-жа я, Протаґорас, – казаў далей Сакратас, – назіраючы поўнае хістаньне нашых паглядаў, маю неапанаванае жаданьне ўсё гэта выясьніць, з замерам, каб мне, пасьля таго, як усё разважым, разабрацца ў тым, што гэта такое цнота, і зноў пастарацца знайсьці адказ на пытаньне: можна яе навучыцца ці ня можна. З тым, аднак, каб гэты самы Эпімэтэус, што думае за позна, пры нашых разважаньнях ня ўвёў нас у блуд, як гэта, паводля тваіх словаў, учыніў ён тады, абмінаючы нас пры распадзеле дароў. У гэтым міталяґічным апавяданьні Промэтэус мне болей падабаецца, чымся Эпімэтэус, бо, займаючыся ўсімі гэтымі пытаньнямі, я бяру прыклад зь яго, і на працягу ўсенькага свайго жыцьця стараюся ня быць неразважным. Затым, калі гэта будзе пакрывацца з тваім замерам, я, гэтак як і казаў на пачатку, зь вялікаю прыемнасьцю разважу гэта разам з табою.

І Протаґорас на гэта адказаў:

– Сакратас, з натуры, я не зьяўляюся дрэнным чалавекам, і зайздрасьці ў мяне меней, чымся ў любога чалавека на сьвеце. Я высака цаню сабе твой праяў энэргіі і твой спосаб вядзеньня разважаньняў. І гэтак, як часта я і казаў пра цябе, што з тых, з кім я меў нагоду спатыкацца, я найболей захапліваюся табою, і асабліва сярод людзей твайго веку. І проста кажу табе, што я пераканаты, што ты станешся вельмі праслаўленым у філязофіі. А што да прадмету нашага сучаснага разважаньня, я спадзяюся, што мы яшчэ мецімем нагоду вярнуцца да яго ў днях, што надыйдуць..." [36І]

Ян Пятроўскі

І сьнежня 1974 г.

Я не дазволю сабе гаварыць пра рэчы, якія яшчэ не дасьледжанымі астаюцца або прыкідвацца, што я ведаю тое, чаго ня ведаю.

Сакратас
/Гіппіяс вялікшы, 298/

# П Р О Т А Ґ О Р А С

Асобы дыялёгу
Сябра; Сакратас; Гіппократэс; Крыціяс; Протаґорас; Гіппіяс; Продікос; Алькібіядэс; Кальліяс.

Месца нарацыі – дом Кальліяса

=

СЯБРА: Скуль ты прыходзіш, Сакратас? Дый так ве- 309
дама: ці-ж не з паляваньня на прыгожасьць Алькібіядэса? Запраўды, мне гэтаксама выдаўся ён ужо мужчынам, калі я пабачыў яго нядаўна, і ўсё-ж ён ёсьць мужчынам, Сакратас, ды, між намі кажучы, у яго ўжо і барада расьці пачынае.

САКРАТАС: Дык што-ж з гэтага? Ці-ж ты не згаджаешся з Гомэрам, каторы сказаў, што найболей прыемная пара́ юнацтва – гэта, калі выступае першы пушок над губою? І гэтаю якраз прывабнасьцю цешыцца Алькібіядэс.

СЯБРА: І што цяперака? Запраўды ідзеш ты ад яго? І як-жаж юнак усуадношваецца да цябе?

САКРАТАС: Зусім добра, як мне здаецца, асабліва сягоньня. Ён даволі многа гаварыў на маю карысьць і вельмі памог мне. Ад яго я іду якраз цяперака. Але я хачу сказаць табе сваеасаблівую рэч: займенна, ня гледзячы на ягоную прысутнасьць, я не зьвяртаў увагі на яго, а часамі і зусім забываў пра яго.

СЯБРА: І што гэта за вялічэзная такая перашкода магла ўзьнікнуць між вамі? Няўжо ты знайшоў у нашым месьцё каго-небудзь болей прыгажэйшага, чымся ён?

САКРАТАС: Так, і шмат прыгажэйшага.

СЯБРА: Што ты кажаш? Тутэйшага ці чужынца?

САКРАТАС: Чужынца.

СЯБРА: Скуль ён?

САКРАТАС: З Абдэры.

СЯБРА: І гэтак прыгожым табе выдаўся гэты чужынец, што ты ўважаеш яго за болей прыгожага, чымся сын Клейніяса?

САКРАТАС: І чаму-б, паважаны дружа, не здавацца болей прыгожым таму, хто зьяўляецца мудрэйшым?

СЯБРА: Выглядае, што ты спаткаўся зь нейкім мудрацом, Сакратас, і да нас прыходзіш?

САКРАТАС: З самым наймудрэйшым з-пасрод сучасных мудрацоў, калі ты тае думкі, што наймудрэйшым сягоньня зьяўляецца Протаґорас.

СЯБРА: О, што ты кажаш? Протаґорас прыбыў сюды?

САКРАТАС: Ужо трэйці дзень.

СЯБРА: І ты толькі што меў гутарку зь ім?

310 САКРАТАС: Так, і нагаварыўся я, і наслухаўся яго.

СЯБРА: Тады, калі табе нічога не перашкаджае, раскажы нам пра гэтую гутарку. Сядай, няхай хлапец устане і дасьць табе месца.

САКРАТАС: З прыемнасьцю; буду нават яшчэ і ўдзячны, калі выслухаеце мяне.

СЯБРА: І мы табе, калі перакажаш нам.

САКРАТАС: Няхай тады ўдзячнасьць будзе ўзаемнаю. Затым, слухайце:

Мінулае ночы, гэтае, яшчэ перад золакам, Гіппакратэс, сын Апольлёдороса, брат Фазоноса, раптам з усенькаю моцаю з кіем у руках пачаў дабівацца да маіх дзьвярэй і, калі яму адчынілі, рынуўся ў дом з галосным воклікам:

- Сакратас, прачхнуўся ты ўжо, ці яшчэ сьпіш?!

І я, пазнаўшы яго па голасе, адказаў:

- Гэта ты, Гіппократэс! Ці ня прыносіш ты якуюнебудзь вестку?

- І ніякую іншую, - адказаў той, - як толькі добрую.

- Гэта вельмі магчыма, - сказаў я. - Але што гэта за вестка, якая прыносіць цябе сюды ў гэткую ранішнасьць?

- Протаґорас прыехаў, - сказаў ён, падыходзячы да мяне бліжэй.

- Так, - адказаў я, - два дні таму, а ты толькі цяпераказ даведаўся, што ён прыбыў?

-Так, на багоў, - сказаў ён, - толькі ўчора вечарам.

З гэтымі словамі вошчупам ён намáцаў маё ложка і сеў каля маіх ног. І тады ён сказаў: Але́, учора зусім позна, калі я вярнуўся з Ойноі. Гэта-ж, Сатырос, нявольнік мой, уцёк ад мяне. Я меўся сказаць табе, што зьбіраюся ў пагонку за ім, але зь нейкае там прычыны забыў. Калі я вярнуўся, мы павячэралі і сабраліся ісьці спаць, як раптам брат мне кажа, што Протоґорас прыехаў. Перш я хацеў адразу да цябе ісьці, але пазьней, з прычыны познае пары́, раздумаўся. Аднак, трохі выспаўшыся пасьля змучанасьці, зараз падняўся і пайшоў проста сюды.

Я, ведаючы ягоную мужнасьць і запал, запытаў:

– Што з табою дзеіцца? Ці Протаґорас пакрыўдзіў цябе чым-небудзь?

А ён, усьміхаючыся, адказаў:

– Але, Сакратас, на багоў, тым, што сам ён мудры, а мяне мудрым ня чыніць.

– На Зэуса, – сказаў я, – калі ты яму дасі грошай і ўгаворыш яго, дык і цябе ён учыніць мудрым.

– О, калі-б толькі пра гэта ішло, – сказаў ён, – дык, сьведкам мне нябёсы: няхай ён бярэ ўсё, калі ён хоча, усё, што я маю, і ўсё, што маюць мае прыяцелі. Вось-жа дзеля гэтае справы я і прыйшоў да цябе, каб ты пагаварыў зь ім пра мяне. Бо ня толькі што я малады, я ніколі ня бачыў Протаґораса і ня чуў яго, бо я быў дзіцянём, калі ён першы раз прыяжджаў сюды. А тымчасам усе хваляць гэтага чалавека і кажуць, што ён найбольшы майстра ў мове. І чаму-б нам зараз-жа не пайсьці да яго, каб застаць я- 3II
го дома? Ён затрымаўся, як я чуў, у Кальліяса, сына Гіппонікоса. Хадзем, тады.

– Пойдзем, але не цяперака, мой добры прыяцелю; яшчэ за надта рана. Устанем, выйдзем на двор, паспацыруем і пагутарым да часу, пакуль не разьвіднеецца, а як разьвіднеецца, тады пойдзем. Протаґорас пераважна дома знаходзіцца, затым будзь добрае думкі – мы яго ўжо знойдзем.

Пасьля гэтага мы ўсталі і пачалі спацыраваць па двары. Цяпер, хочучы пераканацца ў сіле ягонага жаданьня, я паважна паўзіраўся на яго і запытаў:

– Скажы мне Гіппократэс, да Протаґораса ты хочаш ісьці цяперака, каб занесьці яму грошы як заплату за сябе; а фактычна, кім ёсьць той, да каго хочаш ты ісьці, і кім ты хочаш стацца? Прымем, што табе прыйшло на дымку пайсьці да свайго аднаіменьніка, Гіппократэса з Косу, аднаму з Асклепіядаў і выплаціць яму грошы як узнагароду за тваю асобу, і тады хто-небудзь запытаў-бы цябе: "Скажы мне, Гіппократэс, ты вось хочаш заплаціць таму Гіппократэсу ўзнагароду за навуку, як каму, фактычна? Што-б ты адказаў на гэта?

– Я адказаў-бы, – сказаў ён, – як лекару.

– Каб кім стацца?

– Лекарам, – адказаў ён.

– А каб ты пастанавіў пайсьці да Полікleітоса з Арґосу або да Фідзіяса атэнца, каб выплаціць ім грошы за навуку, а хто-небудзь запытаў-бы цябе, за каго ты ўважаеш Полікleітоса і Фідзіяса, калі ты ўжо вырашыў гэтулькі грошай ім заплаціць? І што-б ты

адказаў?

- Я адказаў-бы, што яны скульптары.

- І кім ты хочаш стацца?

- Ведама, - скульптарам.

- Ну, добра, - сказаў я. - Цяперака мы ідзем да Протаґораса, ты і я, і мы гатовы заплаціць яму грошы за тваю навуку, ведама, калі хопіць нашае маемасьці, каб займець ягоную схільнасьць, а як не, дык яшчэ пазычыць трэба будзе ў сяброў. Прымем, што нехта, бачучы гэтакі наш запал, запытаў-бы нас: "Скажэце мне, Сакратас і Гіппократэс, за каго вы ўважаеце Протаґораса і за што хочаце вы плаціць яму грошы?" - і што-б мы мелі адказаць яму? Як называюць Протаґораса, калі гавораць пра яго, падобна да таго, як Фідзіяса скульптарам, а Гомэра - паэтам? І што ў гэтым дачыненьні мы чуем пра Протаґораса?

- Сафістым, Сакратас, называюць гэтага чалавека.

- Дык што, мы ідзем адлічыць яму кучу грошай затым толькі, што ён сафісты?

- Напэўна.

- Прымем, што нехта паставіць табе і гэткае пы-
312 таньне: "Чым хочаш ты стацца, калі ідзеш да Протаґораса?"

Ён адказаў пачырванеўшы на твары - надвары ўжо значна разьвіднелася і я мог гэта заўважыць:

- Калі ўсузгодніць з тым, што ўжо перад гэтым было сказана, дык я спадзяюся, што ён учыніць зь мяне сафістага.

- На багоў, - сказаў я, - і табе ня будзе сорамна паказацца сярод гэльленаў у ролі сафістага?

- На Зэуса, Сакратас, сорамна, калі ма́ю сказаць тое, што думаю я.

- Але магчыма, Гіппократэс, ты думаеш, што ў Протаґораса будзеш вучыцца інакш, чымся ты вучыўся ў вучыцеля мовы або гры на кіфары ці ґімнастыкі? Бо кажную з гэтых рэчаў ты вывучаў не як для будучага твайго майстэрства, а проста дзеля агульнае адукацыі, як гэта і належыцца вольнаму і прыватнаму чалавеку.

- У кажным выпадку, - сказаў ён, - мне здаецца, што навука ў Протаґораса будзе ў гэтым самым родзе.

- Ці здаеш ты сабе справу з таго, што ты цяперака робіш, а мо́ ты нічога не спасьцерагаеш? - сказаў я.

- Што ты маеш на ўвазе?

- Я маю на ўвазе тое, што ты гатоў даверыць апеку над тваею душою сафістаму, як ты кажаш; але папраўдзе кажучы, я быў-бы вельмі зьдзіўленым, калі-б

ты ведаў чым сафісты зьяўляецца. І, калі гэта для цябе ня ведамым астаецца, дык ты і таго ня ведаеш, каму ты давяраеш сваю душу і дзеля чаго - для добрае справы ці для дрэннае.

- Я думаю штонайменей,-адказаў ён, - што я ведаю.

- Тады скажы мне, як ты сабе ўяўляеш сафістага?

- Паводля натуры ягонага абазначэньня, - сказаў ён, - я здадумваюся, што ён зьяўляецца адумыслоўцам у разумных рэчах.

- Ці-ж ня можна падобнага выснаву зрабіць, - сказаў я, - і адносна артыстых-маляроў, і цесьляў,што яны гэтаксама зьяўляюцца тымі, каторыя ведаюцца на разумных рэчах? Але схілімся да думкі, што нехта запытае нас: у якіх, пайменна, разумных рэчах маляры ведаюцца? І мы адказалі-б: у рэчах, якія адносяцца да тварэньня вобразаў і да ўсяго, што датычыцца гэтага. І, калі-б хто-небудзь запытаў нас: На якія рэчы мудрасьць сафістага распасьціраецца? Што зьяўляецца рэзультатам ягонага прадмету навучаньня? Што-б мы адказалі на гэта?

- Ну, што, адказалі-б мы, Сакратас, што гэта чалавек, які ведае, як некага ўчыніць моцным прамоўцам.

- Магчыма, - адказаў я, - гэтым мы адлюструем нешта праўдзівае, але гэта ня ўсё яшчэ. Дзеля гэтага наш адказ вымагае ад нас пытаньня, пайменна, аб чым гаварыць у нашых прамовах сафісты чыніць нас моцнымі? Падобна як кіфарысты чыніць моцным свайго вучня ў выказваньнях адносна рэчаў, якіх ён яго навучыў, пайменна, у рэчах, якія адносяцца да музыкі. Ці ня гэтак?

- Але́.

- Добра. Тады адносна якіх рэчаў сафісты чыніць яго моцным у мове? Ці-ж ня ў тых рэчах, у якіх ён сам сьведамы?

- Напэўна.

- І чым ёсьць гэтае, адносна чаго ён сам, сафісты, зьяўляецца рэчазнаўцам і гэтакім учыніць свайго вучня?

- На Зэуса, - адказаў ён, - я не магу адказаць табе.

Пасьля гэтага я сказаў:

- Як-жа гэта? Ці сьведамы ты таго, на якую небясьпеку ты выстаўляеш сваю душу? Або, каб табе давялося даверыць сваё цела каму-небудзь і заіснавала няпэўнасьць што да таго, меціме ш ты карысьць з гэтага ці шкоду, дык ты-ж разважыў-бы рэч асьця-

рожна, маеш даверыць яму ці не, і параіўся-б са сваімі прыяцелямі і сваякамі, дый сам ты думаў-бы цэлымі днямі. А калі гутарка ідзе пра душу, якую ты вышэй цэніш, чымся цела, - бо ў залежнасьці ад таго, будзе яна лепшаю ці горшаю, гэтак будзе ўкладвацца твае шчасьце ці няшчасьце на прышласьць, - ты-ж ані з бацькам сваім, ані з братам ці з кімколечы з нас, тваімі сябрамі, ня раіўся адносна таго, даверыць ці не даверыць сваю душу гэтаму прыбыўшаму сюды чужынцу; і толькі ўчора вечарам, паводля тваіх словаў, пачуўшы пра яго, не падумаўшы глыбей, і, не параіўшыся пра тое, трэба табе сябе даверыць яму ці не, адразу гатовы ты ўперці яму ўласныя грошы і грошы тваіх сяброў, быццам ты ўжо даведаўся, што табе абавязкава трэба спаткацца з Протаґорасам, каторага ты, як ты сам кажаш, ня ведаеш і ніколі ня меў нагоды гаварыць зь ім. Ты называеш яго сафістым, а кім сафісты зьяўляецца, як гутарка нашая выказала, ты зусім і ня ведаеш, хоць хочаш даверыць яму самога сябе.

Выслухаўшы ўсё гэта, ён сказаў:

- Гэтак усё і выглядае, Сакратас, як ты кажаш.

- А ці не зьяўляецца, Гіппократэс, сафісты буйным гандляром, а мо́ дробным крамнікам тавараў, зь якіх душа чэрпае для сябе пажыву? Прынамся мне ён выдаецца гэтакім.

- Але чым жывіцца душа, Сакратас?

- Зразумела, - сказаў я, - ведамі. І мы мусім быць асьцярожнымі, мой дружа, каб сафісты не ашукаў нас, выхваляючы тое, што́ ён прадае, гэтак як гандляры ці крамнікі, якія гандлююць пажываю для цела. Бо яны самыя не разумеюць, што́ ёсьць карысным, а што́ шкодным для цела ў таварах, якія яны развозяць, але маючы на мэце прадажу, усё хваляць; затым тыя, што купляюць у іх, не разумеюць гэтага, хіба, што здарыцца хто-небудзь сьведамы ў ґімнастыцы або лекар. Гэтаксама і тыя, што развозяць па местах веды, і ўсім тым, хто толькі жадае, прадаюць і гуртам, і паасобку, хоць яны і хваляць усё тое, чым яны гандлююць; але, магчыма, дружа мой, некаторыя зь іх ня ведаюць дакладна, добра тое, што́ яны прадаюць ці дрэнна для душы; падобна ня ведаюць і тыя, што купляюць у іх, хіба што надарыцца хто-небудзь сьведамы ў прадмеце лячэньня душы. Затым, калі ты маеш зразуменьне таго, што́ ёсьць тут карысным і шкодным, тады ня існуе для цябе небясьпека ў здабываньні ведаў у Протаґораса ці ў каго-небудзь іншага; бо, калі не, мой дружа, тады ўва-

жáй, каб ты не прайграў сáмага найдаражэйшага для цябе. Бо ў купляньні ведаў крыецца большая небясьпека, чымся ў куплі ежы і піцьця: купіўшы ежу ці піцьцё ў гандляра на вуліцы ці крамніка, ты можаш забраць у зьмяшчальніках і, перад тым, як спажыць іх у хворме ежы ці піцьця, купленае ты можаш перахоўваць дома і, прыклікаўшы знаўцаў рэчаў, параіцца зь імі, штó трэба спажыць, а штó – не, гэтаксама колькі і калі. Затым бо і небясьпека пры падобнай куплі не зьяўляецца вялікаю. Але купленых ведаў ты ня можаш забраць у зьмяшчальнік: калі ты заплаціў за іх, ты мусіш узяць іх у тваю ўласную душу і, навучыўшыся чаго-небудзь, адыйсьці або са стратаю для сябе, або з карысьцяю. Вось гэта мы і разгледзім, дый яшчэ сумесна з тымі, хто старэйшым ад нас зьяўляецца, бо-ж мы яшчэ маладыя, каб вырашэньне знайсьці ў гэтак важнай справе. А цяперака, калі мы ўжо многае з гэтага ўзялі пад увагу, хадзем і паслухаем гэтага чалавека; а паслухаўшы яго, і зь іншымі мецімем нагоду пагутарыць. Бо-ж Протаґорас не адзін там будзе, але і Гіппіяс з Элісу і, як я думаю, Продікос з Кеосу дый, напэўна, іншыя мудрыя людзі. 314

Гэтак вырашыўшы, пайшлі мы. І, калі мы ўвайшлі ў пярэдні двор, мы затрымаліся, усё яшчэ дыскутуючы пра тое, штó прыходзіла на думку ў часе дарогі. І, каб ня спыніць нашага разважаньня, але давесьці яго да канца, перад тым, як увайсьці, мы і далей праводзілі нашую гутарку стоячы, пакуль мы ня прыйшлі да сузгоднасьці думкі. І гэта, як мне здалося, прыдзьверны – мусіць нейкі эўнух – нешта з нашае гутаркі падслухаў, а яму, магчыма з прычыны шматлікіх сафістых, абрыдлі наведвальнікі гэтага дому. Калі мы пастукалі ў дзьверы, ён, адчыніўшы і ўбачыўшы нас, голасна азваўся:

– Га, зноў нейкія сафістыя! Ён ня мае часу; – і пры гэтых словах тут-жа, схваціўшы дзьверы абедзьвюма рукамі, затрэснуў іх з усёю моцаю, як толькі мог. Мы зноў пастукалі, а ён у вадказ з тае стараны запертых дзьвярэй крыкнуў:

– Людзі! Ці вы ня чулі: ён ня мае часу!

– Але добры чалавеча, – кажу я. – Мы ня прыйшлі да Кальліяса і не зьяўляемся сафістымі. Супыніся крыху, мы прыйшлі адно, каб з Протаґорасам пабачыцца. Накажы яму пра нас.

Пасьля гэтага чалавек зь цяжкім нездаволеньнем адчыніў нам дзьверы.

Калі мы ўвайшлі, мы знайшлі Протаґораса спацы-

руючага ў стоа. Яму таварышылі з аднае староны Кальліяс,сын Гіппонікоса і ягоны аднакроўны па матцы брат, Паралёс, сын Пэрыклеса, і Хармідэс, сын
315 Ґляўкона, а з другое староны - другі сын Пэрыклеса, Ксантыппос, і Філіппідэс, сын Філёмэлёса, і Антымоірос з Мэнды, найболей ведамы з-пасярод Протаґорасавых вучняў, які старанна адаваўся вывучаньню прадмету з мэтаю стацца прафэсыянальным сафістым. Іншыя, што сьледавалі за імі, прыслухваючыся гаворанаму, бальшынёю сваею праўдападобна былі чужынцы, якіх Протаґорас, праходзячы праз розныя месты, прыцягваў да сябе, чараючы сваім голасам, падобна, як Орфэус, і яны ідуць за ягоным голасам, зачараваныя. Паміж імі знаходзіліся гэтаксама і некаторыя з атэнцаў. І нічога болей для мяне ня было забаўным, як узірацца на ход гэтае працэсыі: яны чынілі ўсякае стараньне, каб ніколі не знайсьціся наперадзе Протаґораса, і кажны раз, калі ён са сваімі саправаджальнікамі рабіў паварот назад, як дакладна і спраўна гэтыя слухачы расступаліся і, замыкаючы кола, хутка зноў выстройваліся ў парадны шэраг за ім.

Пасьля, як Гомэр кажа, "я вочы свае ўзьняў і ўбачыў магутнага" Гіппіяса з Элісу, які сядзеў у супроцьлежнай стоа на адумысным крэсьле. Навакол яго на лаўках сядзелі: Эрыксімахос, сын Акумэноса, і Файдрос міррунусіец, і Андрон, сын Андроціёна, і некаторыя з чужынцаў, прыбыўшыя зь ім зь ягонага места, Элісу, як і іншыя. Атрымлівалася ўражаньне, што яны распытвалі Гіппіяса адносна натуры і пра розныя астранамічныя пытаньні, як і пра зьявішчы на небе, а ён, седзячы на ўзвышшы свайго адумыснага крэсла, аўтарытатыўна вырашаў кажную справу і чаргова пераходзіў да наступнага пытаньня.

Гэтаксама "вочы мае ўбачылі Танталёса"; бо і Продікос кеоскі прыбыў сюды; ён знаходзіўся ў нейкім памяшчэньні, якое ў часох Гіппонікоса служыла як камора для ўсякага роду рэчаў; але цяперака, калі дом быў перапоўнены людзьмі, Кальліяс выпратаў яго і перайначыў у жыльлёвы пакой для гасьцей. Продікос, як выглядала, знаходзіўся яшчэ ў ложку ўтулены ў нейкія авечыя шкуры і некалькі коўдраў. На суседнім зь ім ложу сядзеў Паўзаніяс з Керамэйскага дэмосу і зь ім нейкі юнак, прыгожа збудаваны і шляхэтнае натуры, як мне здалося, і з выгляду запраўды вельмі прыгожы. Здаецца да маіх вушэй дайшло, што яго завуць Аґатон, і я-б ня зьдзівіўся, калі-б ён быў улюбенцам Паўзаніяса. Апрача гэтага юнака

былі гэтаксама абодва Адэімантосы, адзін сын Кепіса, а другі - Леўколёфідэса, і некаторыя іншыя былі там. Але пра што ішла ў іх гутарка здалёк я ня мог дачуць, хоць і жадаў сабе пачуць Продікоса, уважаючы яго за чалавека асабліва мудрасьці і боска натхнёнага. З прычыны аднак ягонага глыбокага голасу, які гулам разыходзіўся ў прасторы памяшчэньня, я ня мог ухапіць ягоных словаў. 316

Зараз, як толькі мы ўвайшлі, за намі пасьледаваў Алькібіядэс прыгожы, як ты яго называеш, і я веру табе; гэтаксама і Крыціяс сын Кальляісхроса.

Увайшоўшы, мы прысупыніліся, каб разгледзецца крыху ў навакольлі і зараз падыйшлі да Протаґораса, і я сказаў:

- Протаґорас, вось да цябе прыходзім мы, я і ён, Гіппократэс.

- Як вы хочаце, - сказаў ён, - гаварыць са мною, насамоце ці ў прысутнасьці іншых?

- Для нас, - адказаў я, - гэта ня чыніць ніякае розьніцы; ты сам вырашыш, калі выслухаеш нас, зь якою мэтаю мы прыходзім.

- Што-ж ёсьць прычынаю вашага прыбыцьця сюды? - запытаў ён.

- Гэты - Гіппократэс, - сказаў я, - зьяўляецца тутэйшым жыхаром, сын Апольлёдороса, зь вялікага і слаўнага роду; што да ягоных натуральных здольнасьцяў, дык, як мне здаецца, ён ня ўступіць нікому са сваіх равесьнікаў. У сваім пераканаыньні ён імкнецца стацца выдатным чалавекам у нашым месьце; і ён думае, што найбарждзэй асягнуць гэта зможа, на дарозе канвэрсацыі ў збліжэньні з табою. І цяпераказ ты можаш вырашыць, ці, паводля твае думкі, трэба гаварыць з намі асобна ці ў прысутнасьці іншых.

- Зь вялікаю правільнасьцю, Сакратас, - сказаў ён, - і маею ўдзячнасьцю праяўляеш ты ўзнаньне адносна мяне. Бо можаш быць пэўным, што чужынец, які, прыяжджаючы ў вялікія месты, і пераконвае там лепшых юнакоў, каб яны выракліся прысутнасьці сваякоў і знаёмых, старшых ці малодшых, трымаліся-б яго, у тым меркаваньні, што ў супольнай канвэрсацыі зь ім яны стануцца лепшымі, і затым трэба быць асьцярожным. Бо шмат зайздрасьці ўзьнікае з падобнае дзейнасьці, і сам ён стаецца аб'ектам кансьпірацыі і ўсякага роду паскуднасьцяў. Да гэтага ўтрымліваю я, што мастацтва сафістыкі зьяўляецца вельмі старадаўным, аднак-жа мужы, якія карысталіся ім у старавечныя часы, высьцерагаючыся варожасьці, якую яно выклікала, усімі магчымымі спосабамі тайніцаю

асланялі яго; для адных аслонаю была паэзыя, як напрыклад, Гомэрос, Гэзіёдос і Сымонідэс; для іншых - містэрыі і прадказваньні, як Орфэуш і Мусайёс, а некаторым, як мне ведама, гімнастыка нават, як напрыклад, Іккос тарасскі, нават і цяперака яшчэ адзін першарадны сафісты сэлімбрыянец Гэродікос,што паходзіць з Мэгараў. Дый вашы ўласны Агатоклес за аслону сабе ўзяў музыку, хоць фактычна быў ён выдатным сафістым, гэтаксама як і Пітоклеідэс з Кеосу і шмат іншых; і ўсе яны, як я кажу, дзеля страху перад зайздрасьцю, прыкрываліся гэтымі мастацтвамі.

Але я не магу паставіць самога сябе побач іх,
317 бо я не перакананы, што яны асягнулі тое, што мелі на ўвазе і не зманілі тых, каторыя маюць у местах уладу, дзеля якіх і тарнавалася гэтае прыкрыцьце. А што да простых людзей, дык, коратка кажучы, яны нічога не разумеюць, а толькі цягнуць песьню ў тон, пададзены іхнымі валадарамі. Цяперака, калі хто-небудзь хоча ўцёкамі з гэтага ратавацца і будзе злоўленым на ўцёках, дык гэта найболей глупае прадпрыняцьце, якое ў значнай меры выкліча раздражненьне сярод людзей, бо яны падумаюць, што гэтакі чалавек апрача ўсяго іншага яшчэ і шэльмаю зьяўляецца. Дзелягэтага я займаю зусім супроцьлежную пазыцыю, і гавару проста, што я зьяўляюся сафістым і навучаю людзей, і думаю, што гэткае адкрытае прызнаньне зьяўляецца лепшым ад тае асьцярожнасьці, зьвязанае з аднекваньнем. Гэтаксама і не занядбаў я іншыя асьцярожнасьці, і затым спадзяюся, калі дазволена мне сказаць, для хвалы нябёсаў, ня меціме месца ніякая шкода, з прычыны прызнаньня мною, што я зьяўляюся сафістым. І мастацтвам гэтым займаюся я ўжо многія годы; дый гадоў, калі дадаць іх усе разам, ня будзе мала: і няма тут ані воднага прысутнага, каму-б я з прычыны майго веку, ня мог-бы быць бацькам. Затым я быў-бы болей схільным, - калі і вы жадаеце сабе гэтага, - каб вы справу сваю выкажылі ў вабліччу ўсіх прысутных тут.

Калі я тут-жа спасьцярог, што ён маніцца выставіць сябе ў хвальбе ў прысутнасьці Продікоса і Гіппіяса, а нас ахвотна прадставіць ім у сьвятле захопленых ягонаю мудрасьцю прыбылых, я сказаў яму:

- І чаму-б нам не паклікаць Продікоса і Гіппіяса, і тых, што зь імі, каб і яны пачулі нас?

- Ведама, - сказаў Протагорас.

- Калі вы хочаце, - сказаў Кальліяс, - можам мець сумеснае паседжаньне, у часе якога вы можаце

сядзець і дыскутаваць?

Усе згадзіліся адносна гэтага, і адчувалася своеасаблівая прыемнасьць з прычыны нагоды пачуць вялікіх людзей, выказваючых свае думкі, так, што мы хутка ўзяліся за лаўкі і ложы і паўстаўлялі іх навакол Гіппіяса, дзе некаторыя лаўкі ўжо перад гэтым былі паўстаўляныя. У міжчасе Кальліяс і Алькібіядэс прывялі Продікоса, якога яны паднялі з пасьцелі і ўсіх тых, хто быў зь ім.

Калі мы ўсе занялі месцы, Протаґорас пачаў:

- Цяперака, калі ўсе сузграмадзіліся, Сакратас, вылажы перад прысутнымі ўсё тое, што́ ты толькі што гаварыў мне пра гэтага юнака.

І я адказаў:

- Я пачну, Протаґорас, з таго як і перад хві- 318
лінаю - з таго, дзеля чаго я прыйшоў, і скажу яшчэ раз, што вось гэты мой прыяцель - Гіппократэс жадае праводзіць з табою час, і ён кажа, што хацеўбы даведацца, якая для яго будзе карысьць, калі ён будзе знаходзіцца ў супольнасьці з табою. Вось гэта і ёсьць нашае слова.

І Протаґорас адказаў:

- Малады чалавек, вось якую карысьць займееш ты, калі будзеш аставацца ў супольнасьці са мною: у той першы дзень, калі зыйдзешся са мною, ты адыйдзеш дадому лепшым чалавекам, чымся прыйшоў; на другі дзень здарыцца тое самае, што́ і ў першым дню, і гэтак кажны дзень ты будзеш атрымліваць нешта з прычыны чаго ты станешся яшчэ болей дасканалым.

Пачуўшы гэта, я сказаў:

- Я зусім ня дзіўлюся, чуючы, што́ ты гаворыш, Протаґорас, гэта зусім натуральна. Нават у тваім веку і пры тваей мудрасьці, калі-б хто-небудзь навучыў цябе таго, чаго табе не давялося раней пазнаць, бяз сумліву, ты-б стаўся лепшым. Але сутнасьць справы знаходзіцца на іншым месцы. Прымем, што гэты самы Гіппократэс раптам раздумаўся і выразіў жаданьне, напрыклад, зблізіцца з гэтым юнаком, які нядаўна прыбыў да нас з Зэўксіппосам з Гэраклеі. І, прыйшоўшы да яго, вось як цяперака да цябе, і, пачуўшы ад яго тое самае, што́ і ад цябе, пайменна: што, падтрымліваючы супольнасьць зь ім, Гіппократэс будзе кажны дзень ставацца лепшым і болей дасканалым; цяперака: калі-б ён яго запытаў: "У чым, па-твойму, я буду лепшым і болей дасканалым?" Зэўксіппос адказаў-бы яму, што ў малярстве. А калі-б зышоўся ён з Ортаґорасам з Тэбаў, і, пачуўшы ад яго тое самае, што і ад цябе, і зноў запытаў яго, у якім дачынень-

ні будзе ён ставацца з кажным днём лепшым, утрым-
мліваючы супольнасьць зь ім, той адказаў-бы, му-
сіць, што ў мастцтве ігры на флейце. Вось-жа і ты
гэтак адкажы гэтаму юнаку і мне, каторы цябе пыта-
ецца: Гіппакратэс, каторы будзе ў суадносінах з
Протаґорасам, у той першы дзень, калі зыйдзецца зь
ім, адыйдзе дадому лепшым чалавекам, і кажны на-
ступны дзень будзе ставацца лепшым і чыніць поступ
- але ў чым, Протаґорас, і ў якім сэнсе поступ?
Протаґорас, выслухаўшы мяне, сказаў:
- Ты, Сакратас, ставіш пытаньне вельмі добра, і
нагода адказаць на добра пастаўленае пытаньне ства-
рае для мяне прыемнасьць. Калі Гіппократэс прыйдзе
да мяне, ён не дасьведчыць таго, што дасьведчыў-бы
ён у якога-небудзь зь іншых сафістых. Іншыя проста
крыўдзяць юнакоў; бо юнакі і рады, што ўцяклі са
школы, а тут супроць іхнае волі, змушаюць іх зай-
мацца гэтакімі практыкаваньнямі,як рахаваньне і а-
страномія, ґеомэтрыя і музыка - пры гэтым зірнуў
ён скоса на Гіппіяса - тады калі той, хто прыйшоў
да мяне, навучыцца толькі таго, чаго навучыцца прый-
шоў. Бо навука - гэта кемнасьць у сваіх уласных
справах, гэтаксама як і ў грамадзкіх; ён пазнаціме
як у найлепшы спосаб упарадкаваць свой уласны дом,
319 і ён атрымае здольнасьць найляпей гаварыць і дзей-
нічаць у справах гаспадарства.
- Ці трапна я зразумеў цябе? - сказаў я. - Маю
я разумець цябе, што ты вучыш мастацтва палітыкі і,
што ты прыракаеш людзей учыніць добрымі грамадзя-
намі?
- Якраз гэта і ёсьць тое, Сакратас, апавяшчэнь-
не, якім я і апавяшчаюся ў прысутнасьці тут сузгра-
маджаных.
- Тады ты, - сказаў я, - запраўды, зьяўляешся
ўласьнікам шляхэтнага мастацтва, калі толькі я не
памыляюся; бо-ж у гутарцы з табою я не павінен га-
варыць таго, што ня думаю. Я, Протаґорас, зьяўляю-
ся тае сумніўнае думкі, ці гэтае мастацтва можа
быць навучаным. Але, калі цьвердзіш, што можа, та-
ды я ўжо ня ведаю, як ня верыць. Аднак я павінен
проста сказаць табе чаму я трымаюся думкі, што мас-
тацтва гэтае ня можа быць навучаным або быць пера-
казваным чалавекам чалавеку.
Я ўтрымліваю, як і ўсе іншыя гэльлены, што атэн-
цы разумнымі зьяўляюцца, і бачу, што калі зыдземся
мы ў Народным зграмаджэньні, і калі месту трэба
што-небудзь прадпрыняць у справе пабудовы, тады клі-
чам мы на нараду будаўляных майстроў; а калі спра-

ва адносіцца да вадаплаўнага будаўніцтва - тады будаўнікоў вадаплпваў. І ў іншых мастацтвах паступаюць падобна, калі толькі думаюць, што іх самому навучыцца можна і пераказаць іншаму. І калі які-небудзь чалавек захоча раіць ім, адносна якога яны ведаюць, што ён не зьяўляецца адумыслоўцам у дадзенай справе, хоць-бы ён быў нават прыгожым і багатым і слаўнага роду, яны ўсяроўна ня будуць яго слухаць, але падымуць сьмех і гоман, да тае пары пакуль ён або сам заглушаны ня супыніцца і перастане гаварыць, або, калі ўсё-ж ён упіраецца і хоча сваё казаць, на загад прытанаў варта яго сьцягне і вытурыць са Зграмаджэньня. І ўва ўсіх іншых справах, адносна якіх яны перакананыя, што залежаць ад мастацтва, захоўваюцца падобна.

Але, калі разглядаецца пытаньне ў якой-небудзь справе места, тады кажны чалавек чуецца свабодным, каб сказаць тое, што думае - цясьляр як і каваль, шавец і крамнік, уласьнік вадаплаву, багаты і бедны, знатны як і малаведамы, і ніхто ня чыніць яму закіду, як у тамтым выпадку, за тое, што не атрымаў ніякіх ведаў, ня маючы вучыцеля, і ўсё-ж, гэткі чалавек адважваецца выступіць са сваею радаю; дзеецца гэта праўдападобна з тае прычыны, што яны астаюцца пад уражаньнем, што падобнага роду веда ня можа быць навучанаю.

І гэта ня толькі зьяўляецца правільным адносна места, але і ў аднясеньні да паасобных адзінак; найлепшыя і наймудрэйшыя з нашых грамадзян не зьяўляюцца ў стане пераказаць іншым іхную палітычную мудрасьцъ. Вось хоць-бы, напрыклад, Пэрыклес, бацька гэтых двух юнакоў, каторы запэўніў ім найлепшае ўзгадаваньне ўва ўсім тым, чаго можна навучыцца ад вучыцялёў, а ў чым сам ён мудры, у тым іх не ўзгадаваў, ані пераказаў гэтага іншым, і вось яны швэндаюцца зусім свабодна пакінутымі самі сабе ў спадзеі, што нейк прыпадкава нешта з цноты нападкаюць. Або вазьмем іншы прыклад: гэты самы Пэрыклес, будучы апякуном Клеініяса, малодшага брата, вось гэтага Алькібіядэса і, баючыся, каб Алькібіядэс яго не сапсуў, разьдзяліў іх і аддаў Клеініяса на ўзгадаваньне ў дом Арыфрона, але ня мінула і шасьці месяцаў, як Арыфрон вярнуў яго назад, ня ведаючы, што зь ім рабіць. Я магу падаць табе шмат іншых людзей, як прыклад, каторыя праявілі сябе добрымі і дзейнымі, але нікога не маглі ўчыніць лепшымі - ані са сваіх хатніх, ані каго-небудзь з чужых. Цяперака, Протаґорас, маючы гэтыя прыклады перад сабою,

я схіляюся да думкі, што цноты ня можна каго-небудзь навучыць. Але зноў, калі я чую тое, што ты гаворыш, я ўступаю; і я склонным зьяўляюся думаць, што мусіць-жа быць нешта ў тым, што ты кажаш, бо я ведаю, што ты маеш глыбокае дасьведчаньне і вучонасьць, і ўласнае выяўленьне. Ці можаш ты, затым, выразна паказаць, што цнота можа быць прадметам навукі? Калі ласка, ня крый гэтага і пакажы нам.

– І гэта ўчыню я, Сакратас, з прыемнасьцю,–сказаў ён. – Але як вы сабе жадаеце? Ці дарогаю міту, якія старэйшыя людзі апавядаюць маладым, ці пры помачы разважаньня?

Шматлікія з прысутных адказалі, што ён можа выбраць гэтакі спосаб, які найляпей яму адказвае.

– Затым, – сказаў ён, – я думаю, што міт будзе найболей цікавым.

Даўно, даўно, калісьці былі багі толькі, а сьмяротных тварэньняў ня было. Калі-ж надыйшоў час, што і яны павінны быць створаны, багі пачалі тварыць іх у нетрах Зямлі з сумесі элемэнтаў зямлі і агню, дадаючы яшчэ і тое, што лучылася з агнём і зямлёю. Зноў-жа, калі багі пастанавілі вывесьці іх на сьвятло дня, загадалі яны Промэтэусу і Эпімэтэусу кажнага асобна ахарашыць і надарыць здольнасьцямі, прыпадаючымі на кажны род. У Промэтэуса выпрасіў Эпімэтэус дазвол самому заняцца гэтым надарваньнем. "Калі я распадзялю, – сказаў ён, – тады ты паглядзіш". Гэтак дамовіўшыся, пачаў распадзяляць: адным даваў сілу бяз хуткасьці, слабейшых абдорваў хуткасьцю; адных ён узброіў, а тых, што пакінуў безабароннымі, надарыў іншаю здольнасьцю самаацаленьня. А каго апрануў у малую постаць, надарыў акрыленьнем да ўцёкаў або магчымасьцю зашыцца пад зямлю; а таго, зноў, каго надарыў аграмаднасьцю, гэ-
32I тым самым ацаліў яго перад небясьпекаю. І гэтак
вось усіх іншых абдорваючы, ураўнаважыў перад пагрозаю жыцьця. І ўсё гэта чыніў ён у стараньні, маючы на ўвазе ахову кажнага роду. Пасьля таго, як даў ён ім розныя сродкі супроць узаемнага зьніштажэньня, прыдумаў ён ім і абарону супроць сэзонаў неба: ён апрануў іх густым валосьсем і тоўстымі шкурамі, здольнымі бараніць іх супроць зімніх халадоў і супроцьставіцца сьпякоце лета, так, каб яны мелі сваю натуральную падсьцілку, калі яны захочуць адыхнуць; ён гэтаксама абуў адных у капыты, іншых надзяліў кіпцюрамі і абясьпечыў тоўстаю і бяскроўнаю падошваю. Пасьля для розных радоў вынайшоў розную пажыву: для адных зельле зь зямлі, для іншых – плод

дрэваў, яшчэ для іншых - карэньне, а для іншых ён даў зьвераў як яду. Пры гэтым ён гэтак уладзіў, што яны плодзяцца меней ад іншых, а тыя, каторых яны пажыраюць шмат хутчэй множацца; і гэткім вось спосабам род ураўнаважваўся.

Дзелятаго, што Эпімэтэус ня вельмі мудрым быў, не спасьцярог ён, што распадзяліў усе здольнасьці паміж бязмоўных зьвераў; астаўся яму толькі не надзелены людзкі род і ён ня ведаў што ён мае зрабіць зь ім. І вось у мамэнт ягонае бязраднасьці прыйшоў Промэтэус, каб спраўдзіць распадзел на месцы, і ён знайшоў, што ўсё тварэньне старанна абясьпечана ўсім неабходным, але чалавек аставаўся і голы, і босы, бяз ложа і без узбраеньня, а ўжо набліжаўся праднаканаваны дзень, калі і чалавек павінен быў выйсьці зь Зямлі на дзеннае сьвятло. І вось у заклапатаньні над тым, як памагчы чалавеку, Промэтэус украў мудрае веданьне Гэфаістоса і Атэны разам з агнём - бо без агню немагчыма ані мець на ўласнасьць яго, ані карыстацца ім, - і падараваў усё гэта чалавеку. Гэткім спосабам людзі атрымалі веду як падтрымліваць сваё існаваньне, але як жыць жыцьцём супольнасьці ня ведалі, бо гэта знаходзілася ў валадарсьцьве Зэуса, а прабрацца ў валадарства Зэуса, разьмешчанага на ўзьверхнім месьце Промэтэусу немагчыма было, дый страшнымі былі парасстаўляныя старожы Зэуса. Аднак Промэтэусу ўдалося хілком пракрасьціся толькі ў вагульную майстэрню Гэфаістоса і Атэны, дзе яны практыкавалі свае мастацтвы, якім яны зь любасьцю аддаваліся. Украўшы ў Гэфаістоса веданьне карыстаньня агнём, а ў Атэны яе веданьне, Промэтэус даў іх чалавеку. Гэтакім чынам чалавек быў абясьпечаны сродкамі жыцьця. Дзякуючы грубой памылцы Эпімэтэуса, як кажуць старадаўныя пераказы, Промэтэус быў паддадзены пакараньню.

Ад часу, калі чалавек займеў удзел у боскіх свомасьцях, ён быў першым з жывых тварэньняў, каторы пачаў прызнаваць багоў, дзякуючы сваей зродненасьці зь імі; і пачаў будаваць аўтары, і тварыць падабенствы багоў; хутка пасьля гэтага пачаў ён ужываць тоны і словы, адпаведна пабудаваныя на аснове артыкуляцыйнай як і назовы; ён пабудаваў гэтаксама сховішчы для жыльля, абясьпечыўся рызьзём і абуткам, як і пасланьнем і пачаў дабываць еміну з глебы. Гэтак абясьпечыўшыся, спачатку людзі жылі расьцярушана, а местаў зусім ня было. У выніку гэтага людзі гінулі з прычыны нападу дзікіх зьвераў, бо яны былі значна слабейшымі ў параўнаньні зь імі, а

мастацтва іхнае было толькі дастатковым дзеля здабыцьця абесьпячэньня сродкамі для жыцьця і ня было дастатковым, каб весьці змаганьне супроць зьвераў: пажыву яны мелі, але ня ведалі яшчэ мастацтва супольнага жыцьця, часткаю якога зьяўляецца мастацтва вядзеньня вайны. І гэта сталася прычынаю чаму яны пачалі імкнуцца жыць супольна і супольна будаваць месты дзеля ўласнае бясьпекі. Але калі яны зьбіраліся разам, ня ведаючы мастацтва самакіраўніцтва, пачыналі крыўдзіць адзін аднаго. Тады зноў яны пачалі расьцярушвацца і гінуць.

Зэус, спалохаўшыся, каб не загінуў род людзкі, пасылае Гэрмэса, каб ён увёў у васяродзьдзе людзей пачуцьцё сораму і вычуцьцё права і, каб яны ляглі ў васнову парадку местаў, і цеснай супольнасьці між людзьмі і згоды.

Затым Гэрмэс пытаецца Зэуса, якім спосабам ён хацеў-бы даць людзям пачуцьцё сораму і вычуцьцё права. "Ці мае ён распадзяліць гэтак, як распадзелены мастацтвы? А распадзелены яны вось як: аднаго, каторы надзелены мастацтвам лячэньня, хопіць для шматлікіх нясьведамых у гэтым мастацтве; гэтаксама рэч маецца і з усімі іншымі мастацтвамі. Ці маю я затым права і сорам паводля гэтага прыкладу распадзяліць паміж людзей, ці надзяліць гэтым кажнага зь іх паасобку?"

"Кажнага паасобку", сказаў Зэус, "каб кажны зь іх меў удзел у гэтым; бо ніякае гаспадарства ня можа ўстаяць у сваіх асновах, калі толькі лічаныя адзінкі будуць сьведамымі ў гэтым, як гэта рэч маецца, звычайна, з мастацтвамі. І далей, на аснове майго загаду ўстанаві права, што кажны той, хто ня будзе праяўляць пачуцьця сораму і вычуцьця права, няхай будзе забіты, як пошасьць супольнасьці."

Тут і ляжыць прычына, Сакратас, чаму людзі наагул, і атэнцы ў апрычонасьці, калі справа адносіцца да цясьлярства ці да іншага рамяства, дазваляюць толькі не шматлікім прыймаць удзел у нарадах; і дзелягэтага, калі хто-небудзь апрача гэтых хоча даць сваю раду, дык яго і слухаць ня хочуць, як ты сам кажаш, і робяць яны гэта - ад сябе дадам - правільна. Але, калі яны сузграмадзяцца ў справе нарадаў на тэму палітычнае дзейнасьці, якая абасноўваецца на справядлівасьці і мудрасьці, тады, зразумела, яны праяўляюць цярплівасьць адносна кажнага чалавека, які выказваецца пра справядлівасьць і мудрасьць, і гэта натуральна, бо яны тае думкі, што кажны чалавек мусіць узяць удзел у гэтых цно-

тах, бо інакш гаспадарствы не маглі-б існаваць. У гэтым, Сакратас, і знаходзіцца прычына.

І, каб ты не астаўся пад уражаньнем перахітранага у тым, што ўсе людзі фактычна ўважаюць кажнага чалавека, як маючага ўдзел у справядлівасьці, чэснасьці і іншых грамадзка-палітычных цнотах, дазволь мне прадлажыць табе далейшы довад. У іншых рэчах, пайменна, як ты сам кажаш, калі нехта цьвердзіць адносна самога сябе, што ён зьяўляецца добрым флейцістым, або ў якім-небудзь іншым мастацтве, якога ён ня ведае, дык яго або высьмейваюць, або злуюцца на яго, а ягоныя сваякі нават прыходзяць дакараць яго як дурнога. Але ў рэчах справядлівясьці і іншых палітычна-грамадзкіх цнотах, дык тут нават калі чалавек і ведамым зьяўляецца з прычыны свае несправядлівасьці, аднак-жа, калі выступіць публічна і пачне гаварыць праўду адносна свае несправядлівасьці, тады такую праўдзівасьць, якую ў іншым выпадку ўважалі-б за памяркоўную растаропнасьць, пайменна, выказваньня праўды, тутака ўсе пачнуць уважаць за безразважнасьць. Бо агульна прынята, што кажны павінен цьвердзіць, што справядлівым зьяўляецца, і ўсяроўна - зьяўляецца ён справядлівым ці не, а таго, хто ня прыкідваецца быць справядлівым, уважаецца за бязглуздага. З гэтае прычыны стаецца неабходнасьцю кажнаму чалавеку ў той ці іншай ступені ўдзельнічаць у справядлівасьці, бо інакш яму нямашака месца сярод людзей.

Я выказаў, што яны правільна думаюць, дапускаючы кажнага чалавека да голасу на нарадах адносна гэтае цноты, паколькі ў іхным перакананьні кажны чалавек зьяўляецца ўдзельнікам у ёй. Я хацеў-бы яшчэ зьвярнуць тваю ўвагу на тое, што яны не ўважаюць, быццам цнота зьяўляецца дарам натуры або выяўляецца сама сабою, але што яе навучаюцца; і, калі хто і асягнуў яе, дык толькі дарогаю стараннасьці і працы над сабою. Ніхто-ж ня вучыць, не дакарае, ані злуецца і не карае тых, што маюць недахопы - ці гэта з прычыны натуры, ці з прычыны нейкага дрэннага здарэньня - з дамаганьнем, каб яны пазбыліся гэтых недахопаў; наадварот, яны выражаюць спагаду для іх. Хто, напрыклад, можа быць нагэтулькі недарэчным, каб захацеў вучыць ці дакараць брыдкіх, нізкарослых або слабых? Бо агульна ведамым ёсьць, як я думаю, што гэтакія рэчы як прыгожасьць або яе супроцьлежнасьць стаюцца ўдзелам чалавека з прычыны натуры або якога-небудзь здарэньня. Але, калі ў каго-небудзь гэтакія свомасьці адсутнічаюць, каторыя,

як агульна ўважаюцца, здабываюцца руплівсьцю, практыкаваньнем і навукаю, на гэтакіх абрушваюцца гнеў
324 і абурэньні, і сыплюцца кары. Да падобных недахопаў, агульна кажучы, адносіцца і несправядлівасьць і бязбожнасьць, і ўсё тое, што супроцьставіцца грамадзка-палітычнай цноце. І зразумела, у падобных выпадках кажны чалавек будзе злавацца на іншага і дакараць яго – і гэта з тае прычыны, што ён думае, што цноту, якое не хапае іншаму, можна здабыць дарогаю навучаньня і рупнасьцю.

Калі ты толькі падумаеш, Сакратас, пра сутнасьць пакараньня злачынцаў і дзе знаходзіцца сіла гэтага, дык ты хутка спасьцеражэш, што людзі ўважаюць, што цноты можна навучыцца. Ніхто не карае злачынцаў, маючы на ўвазе ўжо дакананае імі злачынства або, што ён учыніў нешта дрэннае, хіба-што толькі бязмысная зьвярыная разьюшанасьць учыніць гэта можа. Але той, хто хоча пакараць разумна, той карае не за мінулае праступства – бо-ж дакананага праступства ня можна абярнуць у недакананае – але, караючы, ён мае на ўвазе будучыню; каб чалавек, якога караюць і той, каторы бачыць гэта, не вярнуўся болей да злачынства. Той, хто карае з мэтаю прадухіленьня зла, той ясна ўяўляе сабе, што цнота можа быць прадметам навучаньня. Гэтага пункту гледжаньня трымаюцца ўсе, хто карае – будзе гэта ў прыватным жыцьці ці ў грамадзкім. Гэтаксама і атэнцы, твае ўласныя суродзічы, як і іншыя людзі, караюць і помсту праяўляюць адносна ўсіх, каго яны ўважаюць за злачынцаў; з гэтага мы выснаў можам зрабіць, што і атэнцы належаць да перакананых, што цноту можна атрымаць у навуковых установах і навучыцца яе.

Як дагэтуль, Сакратас, я паказаў табе даволі ясна, калі я не памыляюся, што твае суродзічы трапна пастýпаюць, дапушчаючы да голасу і каваля, і шаўца ў часе палітычных нарадаў і, што яны ўважаюць, што цноту можна здабыць і навучыцца яе.

Існуе яшчэ адзін сумліў, які ты закрануў, і ім ёсьць справа сыноў добрых людзей. Якая ёсьць прычына, што добрыя людзі вучаць сваіх сыноў тае веды, якая атрымліваецца ад вучыцялёў і апошнія чыняць іх мудрымі ў гэтым, але нічога ня робяць у напрамку ўзьняцьця цноты, якою яны самыя вырозьніваюцца? І тут, Сакратас, я ўжо ня міт табе раскажу, але выкладу прадуманае абаснаваньне. Затрымайся вось над чым: Існуе ці ня існуе нешта адно, ці пэўная вартасьць, у якой усе грамадзяне павінны браць удзел, калі наагул гаспадарства мае існа-

ваць? У вадказе на гэтае пытаньне крыецца вырашэньне твайго сумліву. Калі толькі існуе гэтая вартасьць, і гэтая вартасьць або еднасьць не зьяўляецца цесьлярскім ці кавальскім або ганчарскім рамяством, але толькі справядлівасьцю, устрыманасьцю і пабожнасьцю, - коратка кажучы, - што́ называецца лю́дзкімі цнотамі, і калі гэта ёсьць тое, у чым усе людзі павінны браць удзел, і кажны чалавек, што-б ён ні хацеў вывучваць ці чыні́ць, павінен рабіць толькі ў суэгоднасьці з гэтаю вартасьцю, а не наўсу́перак ёй, а таго, хто ня прыймае ўдзелу ў ёй, трэба вучы́ць і караць, - будзе ён дзіцянём ці дарослым чалавекам, мужчынам ці жанчынаю, - да тае пары, пакуль праз пакараньне ён не паправіцца і станецца лепшым; а той, хто супрацівіцца навучаньню і караньню, таго трэба, як нявылячальнага, выгнаць з краю або засудзіць на сьмерць - і, калі рэч гэтак маецца, як я кажу, а добрыя людзі адукуюць сваіх сыноў ва ўсім, але ня ў гэтым, - дык разваж сам як цудоўна ўсё ў добрых людзей укладваецца! Бо, што яны ўважаюць, што цнота можа быць прадметам навучаньня, гэтак у прыватным жыцьці як і ў дзяржаўным, мы ўжо зьвярнулі ўвагу; і хоць магчымым ёсьць вывучаць цноту і паглыбляць яе, дык няўжо-ж гэтыя людзі пачнуць вучыць сваіх сыно́ў меней важных рэчаў, няведаньне якіх ня сьцягвае на сябе ка́ры сьмерці, між тым, як іншым дзецям, калі яны не навучыліся цноты і не ўзгадованы ў ёй, пагражае выгнаньне, страта маемасьці ці сьмерць, або, коратка кажучы, зьнішчэньне цэлага дому - ці гэтага якраз яны не пачнуць вучыць іх і не ўкладваць усяго свайго стараньня? - Трэба спадзявацца, Сакратас, што пачнуць.

Навучаньне і ўгаворкі пачынаюцца зь першых гадоў дзіцяці і трываюць аж да апошніх дзён жыцьця. Як толькі дзіця пачынае разумець словы, тады нянька і маці, навучыцель і бацька дабіваюцца, каб яно сталася як найлепшым, вучачы яго і паказваючы пры кажнай нагодзе на прыкладзе і слове, што: гэта справядліва, а гэта несправядліва; гэта прыгожа, а гэта брыдка; гэта ганарова, а тое, неганарова; гэта пабожнае, а тамтое - непабожнае; можна рабіць гэта і ня трэба рабіць таго... І, калі яно слухаецца, дык добра; калі не - тады яго быццам тое крывенькае і выгнутае дрэўца, выпроствацюць пагрозамі і біцьцём.

Пазьней, калі пасылаюць дзяцей у школу, рупяцца пра тое, каб вучыцелі болей зьвярталі ўвагу на маральную старану дзяцей, чымся на чытаньне ці іг-

ру на ліры; і вучцялі паступаюць паводля іхнага жаданьня. І, калі дзеці навучыліся літараў і пачынаюць разумець напісанае, як да гэтае пары разумелі гаворанае, тады даюць ім у рукі на школьный лаўцы творы добрых паэтаў, каб чыталі іх, і змушаюць дзяцей завучваць на памяць; а тамака шмат цікавага і многа з таго, што можна пазнаць, шмат карысных і поўных славы апавяданьняў, і энкоміяў на чэсьць старажытных і годных мужоў, каб гэткім чынам выклікаць у дзіцяці пачуцьцё спаборніцтва і жаданьне насьлядаваньня гэтых мужоў і стацца падобным да іх.

Кітарыстыя гэтаксама зьвяртаюць увагу на самапанаваньне маладых вучняў і на тое, каб яны не аставаліся бязьдзейнымі. Пасьля гэтага, калі яны навучацца іграць на кітары, вучаць яны іх тады твораў добрых паэтаў, пераважна лірычных паэтаў, узгадняючы словы з музыкаю, яны твораць гармонію і рытм у сузгоднасьці зь дзіцячаю душою, з тым меркаваньнем, што вучні могуць навучыцца як стацца болей далікатнымі, гарманійнымі і з вычуцьцём рытму, каб гэтым самым сталіся болей падрыхтаванымі да прамоваў і дзейнасьці ў жыцьці; бо-ж цэлае жыцьцё чалавека вымагае такту і гармоніі. Пасьля гэтага пасылаюць іх да майстра ґімнастыкі з мэтаю прытарнаваньня іхных целаў да лепшага праяўленьня мужнасьці і, каб яны з прычыны слабасьці цела ня былі змушанымі выяўляць маладушша на вайне або пры іншай нагодзе. Бо гэта якраз і ёсьць тое, што чыняць тыя, што маюць магчымасьці, а тыя, што маюць магчымасьці - гэта найбагацейшыя, дзеці якіх пачынаюць хадзіць да вучыцеля найраней, а супыняюць навуку найпазьней. Пасьля таго, як яны закончаць сваю навуку ў вучыцялёў, места накладае на іх абавязак вывучаць правы і жыць паводля гэтых правоў, а не так як ім хочацца і на авось. І падобна, як у навучаньні пісаньня дзяцей, якія яшчэ ня ўмеюць пісаць, перш вучыцялі ґрыфелем вырысоўваюць лініі зь літарамі для карыстаньня пачынаючым і толькі тады ўжо даюць дзецям дошчачку да пісаньня з загадам пісаць паводля наўзору; гэтак паступае і места, выпісаўшы правы, якія былі вынайдзенымі слаўнымі правадаўцамі, што жылі ў старадаўных часох; і гэтыя правы даюцца маладому чалавеку як кіраўніцтва для яго з наказам загадваць і быць паслухмяным. А той, хто ломіць іх, мусіць быць пакараны, і пакараньне гэтае называецца ў вас, як і на іншых масцох - паправаю, каб відна было, што справядлівасьць карае і папраў-

ляе. Цяпер-жа, калі гэтакае стараньне ўдзеляецца цноце ў прыватным жыцьці як і грамадзкім, чаму ты, Сакратас, усё яшчэ дзівішся і сумляваешся, што цнота можа быць прадметам навучаньня? Наадварот, калі трэба тут з чаго-небудзь дзівіцца, дык барждзэй з таго, што цнота ня можа быць навучанаю.

Чаму-ж часта сыны добрых бацькоў стаюцца дрэннымі? Даведайся і пра гэта. У гэтым нічога няма дзіўнага; бо, як я ўжо казаў, у гэтай справе, пайменна, у справе цноты - калі дзяржава мае знайсьці сваю астою - ніхто не павінен аставацца нясьведамым. Калі гэтак, як я кажу - а рэч напэўна гэтак маецца - тады я прасіў-бы цябе ўявіць сабе, для прыкладу, якую-небудзь іншую рэч з галіны любога мастцтва ці навукі. Прымем, што гаспадарства не магло-б існаваць, калі-б усе мы - кажны як хто можа - ня былі-б флейцістымі, і дабраахвотна кажны пачаў-бы вучыць іншага гэтае рэчы прыватна ці публічна, і папраўляць дрэнна граючага гэтак свабодна і адкрыта, як кажны чалавек цяперака вучыць справядлівасьці і правоў, не асланяючы іх гэтак, як асланяў-бы ён іншыя мастацтвы, але, пераказваючы іх іншым - бо кажны з нас мае супольнае зацікаўленьне ў справядлівасьці і мужнасьці кажнага іншага; і гэта астаецца прычынаю чаму кажны зьяўляецца гатовым вучыць справядлівасьці і правоў; прымем, зноў-жа, што сярод нас існавалі тыя самыя і гатовасьць, і свабода вучыць адзін аднаго гры на флейце; ці ты ўяўляеш сабе, Сакратас, што сыны добрых флейцістых найболей праўдападобна ставаліся-б добрымі флейцістымі хутчэй, чымся сыны дрэнных? Я думаю, што не. Але чый сын меў-бы найлепшыя натуральныя прадумовіны да гры, той і адрозьніўся-б славаю, а хто няздольны, той астанецца няведамым, усяроўна, чыймбы сынам ён ні быў, бо часта здараецца, што сын добрага флейцістага стаецца дрэнным у ігры, а дрэннага - добрым; аднак-жа ўсе яны былі-б даволі добрымі флейцістымі ў параўнаньні зь няўмекамі, катория ня маюць ніякага ўяўленьня як граецца на флейце. У гэтакі самы спосаб я хацеў-бы, каб ты развaжыў, што чалавек, які выдасца табе найболей несправядлівым з пасярод тых, каторыя былі ўзгадованымі людзьмі ў правох, ён усё-ж астаецца справядлівым, а нават мастаком у прадмеце справядлівасьці, калі ты яго супроцьпаставіш зь людзьмі, якія ня маюць ніякага ўзгадаваньня, ані судоў справядлівасьці, ані правоў, і наагул ніякага нахілу, які-б змушаў іх займацца цнотаю - хоць-бы нават зь дзікімі людзь-

мі, падобнымі да тых, якіх у мінулым годзе Фэрэкра-
тэс на Ленайскіх урачыстасьцях паказаў на сцэне.
Запраўды, калі-б ты апынуўся паміж гэтымі людзьмі,
як чалавеканенавісьнікі ў ягоным хоры, дык ты ўсь-
цешыўся-б, калі-б ты спаткаў хоць-бы Эўрыбатоса або
Фрынондаса, і ты выў-бы нямым голасам з прычыны ту-
гі па сапсутасьці тутэйшых людзей. І ты, Сакратас,
зьяўляешся нездаволеным, і чаму? Бо ўсе людзі зьяў-
ляюцца вучыцелямі цноты, і кажны зь іх паводля свае
здольнасьці; а ты ўсё пытаешся: Дзе-ж вучыцелі? З
гэткім-жа паводжаньнем ты можаш пытацца: Дзе-ж ву-
328 чыцелі грэцкае мовы? Бо і тут насілу ці знайшоў-бы
ты хоць аднаго. Або ты можаш пытаць: Хто можа ву-
чыць сыноў нашых рамесьнікаў тое самае мастацтва,
якое апошнія перанялі ад сваіх бацькоў? Бо бацька
са сваімі сябрамі-мастакамі вучыў іх паводля іхнае
здольнасьці, - але хто далей павядзе іх у іхным
мастацтве? І ты напэўна, Сакратас, знайшоўся-б у вя-
лікім клопаце, калі-б ты хацеў знайсьці для іх ву-
чыцеля; але для тых, каторыя астаюцца ў поўнай ня-
сьведамасьці, знайсьці вучыцеля не зьяўляецца рэ-
чаю труднаю. І гэтае самае можна сказаць адносна
цноты і шматлікіх іншых рэчаў. Калі хто-небудзь гэ-
таксама нават крышку болей разумее, чымся мы, як іх
у цноце далей узгадоўваць, дык мы мусім і гэтым зда-
воліцца. Гэткага роду вучыцелем, я думаю, я сам зьяў-
ляюся, і, болей чымся іншыя людзі, магу быць ка-
рысным для некаторых і памочным ім як стацца шля-
хэтнымі людзьмі і добрымі; з гэтае прычыны я заслу-
гоўваю на плату, якую атрымліваю ад сваіх вучняў,
і часамі нават яшчэ болей, як яны самыя схільнымі
зьяўляюцца прызнаць гэта. З гэтае прычыны я ўвёў
наступны спосаб аплаты: - Калі нехта быў маім вуч-
нем і яму падабаецца, той бяз прымусу заплоціць
маю цану; а калі не, дык ідзе ён у сьвятыню і ўчы-
ніць там зарок, як высака ён аценьвае атрыманыя
лекцыі і ён плоціць ня болей ад тае вартасьці, я-
кую сам вызначыў.
Гэтым, Сакратас, сказаў ён, я выкажыў табе міт і
довад таго, што цноту можна навучаць; пагляду гэта-
га трымаюцца гэтаксама і атэнцы, і ня трэба дзівіц-
ца, калі ў добрых бацькоў бываюць дрэнныя сыны, а ў
дрэнных - добрыя, чаго прыкладам могуць быць сыны
Поліклеітоса, равесьнікі гэтых тут Паралёса і Ксан-
тыппоса, якіх ня можна параўнаць зь іхным баць-
кам; і гэта астаецца праўдаю ў аднясеньні да сыноў
шматлікіх іншых мастакоў. Але на падставе гэтага ня
можна рабіць закідаў ім, наадварот, трэба ад іх най-

лепшага спадзявацца; яны маладыя яшчэ.

Сказаўшы нам гэтакую прасторную і пышную прамову, Протаґорас сьціх. Але я, праз даўжэйшы час, зачараваны ім, усё ўзіраўся на яго, быццам ён яшчэ мае нешта сказаць і, баючыся згубіць гэткую нагоду. Нарэшце, калі я ўсьведаміў сабе, што ён запраўды кончыў, не без натугі над сабою, прыйшоў да сьведамасьці і, узіраючыся на Гіппократэса, сказаў яму:

- Сын Апольлёдороса, і як-жаж я дзякую табе за тое, што ты стаўся прычынаю майго прыбыцьця сюды! Бо нічага для мяне няма даражэйшага, як нагода пачуць тое ад Протаґораса, што я пачуў. Да гэтае пары я быў перакананым, што добрыя людзі стаюцца добрымі не з прычыны людзкае стараннасьці; але цяперака я пераканаўся, што рэч маецца наадварот. За выняткам хіба аднае толькі малое рэчы, якую, я перакананы, Протаґорас лёгка выясьніць, пасьля таго, як ён ужо шматлікае выясьніў. Бо, калі-б хто-небудзь пачаў гутарку на гэтыя тэмы з Пэрыклесам ці з кімколечы з нашых вялікіх прамоўцаў, магчыма, ён пачуў-бы падобныя выказваньні; але, калі ён зьвернецца з далейшым пытаньнем да каго-небудзь зь іх, дык яны, як кнігі, ня ўмеюць ані адказаць, ані паставіць пытаньня; а калі хто-небудзь запытае нават пра самую дробную рэч з таго, што яны гаварылі, дык яны, як тыя медзяныя катлы, калі іх хто ўдырыць, доўга гудуць і зьвіняць, аж пакуль хто-небудзь ня прыложыць сваіх рук да іх; гэтаксама здараецца і з красамоўцамі, калі іх пытаюцца пра дробныя рэчы, яны пачынаюць расьцягваць сваю мову на далёкую адлеглясьць. Але наш прыяцель, Протаґорас, ня толькі ўмее добрыя і прыгожыя мовы гаварыць, чаго толькі што і сьведкамі мы сталіся, але, будучы запытаным, умее коратка адказваць; а калі ён пытае, гэтаксама умее чакаць на адказ і выслухаць яго; гэта вельмі рэдка спатыканы дар. Цяпер, Протаґорас, мне не хапае адказу на адно малое пытаньне і, калі ты мне на яго адкажаш, тады я буду мець усё. Ты кажаш, пайменна, што цноты можна навучыць, і я, калі каму-небудзь зь людзей веру, дык табе перад усім. Але тое, што выклікала зьдзіўленьне ў маей душы ў часе твае мовы, ты мне вось цяперака і ўдакладні. Пайменна, ты сказаў, што Зэус паслаў людзям справядлівасьць і вычуцьцё сораму, а пасьля ў тваей мове неаднакратна ўспаміналася справядлівасьць, паўстрыманасьць і пабожнасьць і іншае падобнае, і ўсё гэта выражалася табою, быццам яно адно суцэльнае, якое падцягвалася пад паняцьце цноты. Цяперака, тое, што я ха-

329

чу, каб ты мне дакладна растлумачыў: ці цнота гэта нешта адно, часткамі якога зьяўляецца справядлівасьць, паўстрыманасьць і пабожнасьць, а мо́ўсё гэта вылічанае зьяўляецца толькі рознымі назовамі таго самага адзінага? Гэта вось і ёсьць тое, што́я жадаю пазнаць.

- У вадказе на тваё пытаньне, Сакратас, - сказаў ён, - нічога няма труднага - цнота адна,а тыя, пра што ты пытаешся, зьяўляюцца яе часткамі.

- Ці яны зьяўляюцца часткамі, - сказаў я,- у тым самым сэнсе, у якім вусны і нос, вочы і вушы зьяўляюцца часткамі твару, або як часткі золата, якія розьняцца ад свае цэласьці і адна ад другое вялікшасьцю і меншасьцю?

- Мне здаецца, Сакратас, як у першым выпадку,як часткі твару маюцца да цэласьці твару.

- А людзі, - кажу я, - атрымліваюць гэтыя часткі цноты так, што адзін мае адну,а другі - іншую, або стаецца гэта няўхільнасьцю, што той, хто мае адну частку, абавязкава мае і ўсе?

- Ані ў якім выпадку, - сказаў ён, - бо шматлікія зьяўляюцца мужнымі і адначасна несправядлівымі, і зноў-жа, іншыя справядлівымі, але нямудрымі.

- Ты, ведама, ня будзеш пярэчыць, - сказаў я, -
330 што мудрасьць і мужнасьць зьяўляюцца часткамі цноты?

- Бяссумліву, - адказаў ён, - і адначасна мудрасьць зьяўляецца найбольшаю з частак.

- І кожная зь іх, - сказаў я, - зьяўляецца іншаю ад тае іншае?

- Але́.

- І кожная зь іх, - сказаў я, - мае сваё ўласнае прадназначаньне, гэтак, як часткі твару? Тутжаж вочы, напрыклад, не зьяўляюцца тым самым, што вушы, і мэтанакіраванасьць у іх ня тая самая; і іншыя часткі не падобныя да іншае ані паводле свае выконванае задачы, ані ў іншым дачыненьні; ці не зьяўляюцца часткі цноты гэтаксама непадобнымі да сябе ў сваей сутнасьці і прадназначэньні? Ці-ж не стаецца зразумелым, што рэч гэтак маецца, як паказвае прыведзены намі прыклад?

- Рэчы якраз гэтак і ўсуадношваюцца, Сакратас, - сказаў ён.

На гэта я адказаў:

- Згэтуль, ніякая частка цноты не зьяўляецца гэтакаю, як веда, або,як справядлівасьць, ці як мужнасьць, або як разважнасьць ці пабожнасьць?

- Не, - адказаў ён.

– Добра, тады давай сумесна разгледзім натуру гэтых частак, – сказаў я. – Перш вось што: ці справядлівасьць ёсьць рэчаю абазначанаю ці неабазначанаю? Мне выдаецца, што яна – нешта, а табе?

– Мне гэтаксма, – адказаў ён.

– Як гэта? Прымем, што нехта пытае мяне і цябе: "Скажэце мне, Протаґорас і ты, Сакратас, што вы думаеце адносна гэтае рэчы, якую вы толькі што назвалі справядлівасьцю, ці яна сама ў сабе зьяўляецца справядлівасьцю ці несправядлівасьцю?" – і я адказаў-бы яму, што справядлівасьцю; а ты як-бы галасаваў – гэтак, як я, ці інакш?

– Гэтак, як ты, – сказаў ён.

– Справядлівасьць, затым, адказаў-бы я таму, хто запытаў-бы – гэта быць справядлівым; ці ня гэтак і ты адказаў-бы?

– Так, – сказаў ён.

– Прымем, што ён далей пытаецца нас: "Ці ня ўтрымліваеце вы, што існуе гэтаксама рэч, як пабожнасьць?" – Я думаю, што мы адказалі-б "Так"?

– Але, – адказаў ён.

– "Значыцца, вы ўтрымліваеце, што яна зьяўляецца рэчаю абазначанаю?" – Павінны мы згадзіцца з гэтым ці не?

Ён і з гэтым згадзіўся.

– "Скажэце, тады, ці гэтая самая рэч, створаная натураю – гэта тое самае, што быць бязбожным або пабожным?" – Я абурыўся-б з прычыны гэткага пытаньня і адказаў-бы: "Супакойся, чалавеча; як можа нешта пабожным быць, калі сама пабожнасьць не зьяўляецца пабожнаю". І што ты скажаш? Ці-ж не адказаўбы і ты падобна?

– Напэўна, – сказаў ён.

– А калі-б пазьней гэты нехта, пытаючыся, сказаў нам: "Што гэта вы толькі што сказалі? Магчыма я недачуў вас, але мне выдалося, што вы сказалі, што часткі цноты знаходзяцца ў гэтакіх суадносінах, што ніякая зь іх не падобна да іншае?" – На гэта я адказаў-бы яму: "Наагул ты добра чуў нас, але, калі ты думаеш, што быццам я гэта гаварыў, дык ты недачуў. Бо гэта ён, Протаґорас, быў, каторы адказваў, а я толькі пытаў". І, калі-б ён зноў запытаў: "Ці 331
гэты праўду кажа, Протаґорас? Ты гэта кажаш, што ніякая частка цноты не падобна да іншае? Ці ты гэта ўтрымліваеш?" І што-б ты яму на гэта адказаў?

– Хочаш ці ня хочаш, а згадзіцца зь ім, Сакратас, трэба было-б, – сказаў ён.

– І што-ж, Протаґорас, мы, пацьвердзіўшы гэта,

адказалі-б яму, калі-б ён зноў запытаў нас: "Значыцца,пабожнасьць ня ёсьць тое самае, што быць справядлівым? А справядлівасьць ня ёсьць - быць пабожным; а пабожнасьць значыць ня быць справядлівым або быць несправядлівым, а справядлівасьць значыць быць бязбожным?" І як мы маем адказаць яму на гэта? Што да мяне, дык я адказаў-бы, справядлівасьць ёсьць пабожнаю, а пабожнасьць справядліваю. Падобна я адказаў-бы і за цябе, калі-б ты толькі дазволіў мне, што справядлівасьць ёсьць тое самае, што і пабожнасьць або блізу тое самае; і перад усім я бараніў-бы пагляд, што справядлівасьць падобна да пабожнасьці і пабожнасьць да справядлівасьці. Глядзі, затым, ці забараняеш ты мне гэтак адказаць за цябе, а мо ў гэтым ты згаджаешся са мною?

І ён адказаў:

- Я не магу, Сакратас, проста згадзіцца з залажэньнем, што справядлівасьць ёсьць пабожнасьцю і, што пабожнасьць ёсьць справядлівасьцю, бо мне выдаецца, што між імі існуе нейкая розьніца. Але гэта ня творыць сутнасьці ў сабе. Калі ты думаеш гэтак, дык я магу згадзіцца, што справядлівасьць ёсьць пабожнаю, а пабожнасьць справядліваю.

- Ты мне выбач, - сказаў я, - але ня бачу ніякае патрэбы займацца гэткімі рэчамі як "калі ты думаеш" або "я магу". Ці ні ляпей казаць: "я думаю", "ты думаеш". Гэтым я хачу сказаць, што нашы высноў будзе найляпей даведзены, калі мы адкінем усякія "калі".

- Але,. - сказаў ён, - я дапушчаю думку, што справядлівасьць крые ў сабе падабенства да пабожнасьці, бо кажная рэч у якім-небудзь дачыненьні падобная да іншае рэчы. Нават белае да пэўнае ступені падобна да чорнага, цьвярдое - да мяккага, і нават найболей супроцьлежныя рэчы маюць некаторыя свомесьці супольныя сабе. Нават часткі твару, пра што мы гаварылі раней, якія розьняцца між сабою і маюць розныя мэты, а ўсё-ж з пэўнага пункту гледжаньня зьяўляюцца падобнымі да сябе, і кажная зь іх зьяўляецца падобнаю да іншае. І ты можаш давесьці, што яны падобныя да сябе на аснове таго самага прынцыпу, што ўсе рэчы падобнымі зьяўляюцца адна да другое. І ўсё-ж, рэчы, якія часткава падобныя да сябе, не павінны быць называнымі падобнымі, ані гэтаксама рэчы, якія зьяўляюцца непадобнымі да сябе ў пэўным сэнсе, называць іх непадобнымі.

- Дык што, думаеш ты, - сказаў я ў тоне зьдзіўленьня, - што справядлівасьць і пабожнасьць гэтак

маюцца да сябе, што толькі нязначнае падабенства існуе між імі?

– Напэўна не, – сказаў ён, – і ня болей, чымся я
згаджаюся з тым, што́, як я разумею, зьяўляецца тва- 332
ім паглядама.

– Ну, добра, – сказаў я, – як мне здаецца, гэта стварае для цябе пэўную труднасьць, тады пакінем нашую тэму і разгледзім іншы прыклад, пададзены табою. Ці дапушчаеш ты існаваньне бязмыснасьці?

– Так, – адказаў ён.

– А ці яе поўнаю супроцьлежнасьцю будзе мудрасьць?

– Мне здаецца, што так, – сказаў ён.

– Калі людзі дзейнічаюць правільна і карысна, ці выдаецца табе, што яны праяўляюць разважнасьць, а мо´ наадварот?

– Так, разважнасьць, – адказаў ён.

– І гэта разважнасьць, якая чыніць іх разважнымі?

– Напэўна.

– А тыя, што́ дзейнічаюць няправільна, дзейнічаюць безразважна і, паступаючы гэтак, не спасьцерагаюць безразважнасьці?

– Я згаджаюся, – сказаў ён.

– Тады, безразважныя дзеяньні зьяўляюцца супроцьлегласьцю разважнасьці?

Ён згадзіўся.

– І безразважныя дзеяньні адбываюцца з прычыны безразважнасьці, а разважныя, дзякуючы разважнасьці?

Ён і з гэтым згадзіўся.

– Ці-ж ня гэтак, калі што-небудзь даконваецца моцна, дык яно будзе выканана з сілаю, а тое, што выканана слаба, выканана слабасьцю?

Ён згадзіўся.

– Тое, што́ выконваецца з хуткасьцю, выконваецца хутка, а тое, што́ чы́ніцца з павольнасьцю, чы́ніцца павольна?

Ён і тут згадзіўся.

– І калі нешта выконваецца гэтаксама – выконваецца праз тое самае; а тое, што́ выконваецца супроцьлежнымі прычынамі – выконваецца праз супроцьлежныя прычыны?

Ён і з гэтым згадзіўся.

– І яшчэ адно, – сказаў я, – ці існуе нешта прыгожае?

– Але́

– Адносна чаго́ адзінаю супроцьлежнасьцю зьяўляецца брыдкасьць?

– Іншае нямашака.

- І як? Існуе нешта добрае?
- Існуе.
- Адносна чаго адзінаю супроцьлежнасьцю зьяўляецца зло?
- Нічога няма іншага.
- Як? Ці існуе высокасьць у сфэры гуку?
- Так.
- Адносна якое адзінаю супроцьлежнасьцю зьяўляецца нізкі гук?
- Апрача гэтае нямашака іншае супроцьлежнасьці, - сказаў ён.
- Ці-ж ня праўда, затым, што адной супроцьлежнасьці супроцьставіцца толькі адна супроцьлежнасьць і ня болей?

Ён і з гэтым згадзіўся.
- Затым, - сказаў я, - давай цяперака падсумуем тое, у чым мы згадзіліся. Перад усім, мы згадзіліся, што кажная рэч мае адну супроцьлежнасьць, і ня болей як адну?
- Згадзіліся.
- І мы гэтаксама згадзіліся, што ўсё, што было даканана супроцьлежнымі прычынамі, было даканана праз супроцьлежнасьці?
- Згадзіліся.
- І тое, што было ўчынена безразважна, як далей і згадзіліся мы, было ўчынена супроцьлежным спосабам супроць таго, што было ўчынена разважна?
- Так.
- І тое, што было даканана разважна, было ўчынена разважнасьцю, і тое, што было ўчынена безразважна, было ўчынена безразважнасьцю?

Ён і з гэтым згадзіўся.
- І тое, што выконваецца ў супроцьлежны спосаб, выконваецца супроцьлежнымі прычынамі?
- Так.
- Адно прыходзіць да быту, дзякуючы разважнасьці, а іншае - безразважнасьці?
- Так.
- Гэта значыць, супроцьлежным спосабам?
- Напэўна.
- З гэтага, безразважнасьць супроцьлежна разважнасьці?
- Ведама.
- Ці прыпамінаеш ты сабе, у чым мы раней згадзіліся, што безразважнасьць зьяўляецца супроцьлежнасьцю мудрасьці?

Протаґорас пацьвердзіў гэта.
- І мы ўзгоднілі між сабою, што кажная рэч мае

толькі адну супроцьлежнасьць?

- Так.

- І ад якога-ж з нашых двух цьверджаньняў мы адмовімся, Протаґорас? Адно кажа, што кажная рэч мае толькі адну супроцьлежнасьць; а іншае, што мудрасьць зьяўляецца нечым іншым, чымся разважнасьць і, што абодва яны зьяўляюцца часткамі цноты і, што яны ня толькі розьняцца між сабою, але маюць розныя прадназначаньні - гэтак, як часткі твару. Дык ад якога з двух цьверджаньняў мы адмовімся? Бо абодва гэтя цьверджаньні, узятыя разам, не астаюцца між сабою ў гармоніі; яны не ўзгадняюцца між сабою і ня годзяцца: бо як яны могуць сказаць, што яны згаджаюцца, калі кажная рэч, як дапушчаецца, мае толькі адну супроцьлежнасьць і ня болей як адну, і ўсё-ж безразважнасьць, якая зьяўляецца адною, а мае выразна дзьве супроцьлежнасьці: мудрасьць і разважнасьць? Ці гэтак рэч маецца, Протаґорас, - сказаў я, - ці як-небудзь інакш? 333

Ён згадзіўся, але вельмі неахвотна.

- Тады, разважнасьць і мудрасьць не зьяўляюцца адным і тым самым як раней выходзіла ў нас, што справядлівасьць і разважнасьць зьяўляюцца бадай-што тым самым.

А цяперака, Протаґорас, - сказаў я, - мы мусім закончыць нашае разважаньне, і ты ня губі бадзёрасьці. Ці выдаецца табе, што чалавек, які чыніць несправядлівасьць, можа быць разважным у сваей несправядлівасьці?

- Мне было-б сорамна, Сакратас, - сказаў ён, - прызнаць гэта, хоць шматлікія людзі гэта ўтрымлліваюць.

- Тады, маю я кіраваць свае высновы да іх, ці да цябе?

- Калі ты хочаш, - сказаў ён, - дыскутуй перш з паглядам гэтых шматлікіх.

- Добра, - скзаў я, - для мяне ня чыніць розьніцы, адно, каб ты толькі адказваў - будзе гэта тваё перакананьне ці каго іншага. Для мяне самае галоўнае - гэта досьлед самога пытаньня, хоць ня ёсьць рэчаю выключнаю, што пры гэтым мы магчымем дасьледзіць гэтаксама таго, хто пытае - у дадзеным выпадку мяне - як і таго, хто адказвае.

Спачатку Протаґорас рабіў уражаньне чалавека, які ўхіляецца ад гутаркі, спасылаючыся на тое, што само пытаньне незаахвочваючым зьяўляецца; аднак-жа пазьней згадзіўся адказваць.

- Тады, - сказаў я, - адказвай мне з пачатку. Ці

думаеш ты, што некаторыя людзі хоць і паступаюць разважна, а ўсё-ж астаюцца несправядлівымі?

- Няхай будзе, што думаю, - сказаў ён.

- А праяўляць развагу, значыць добра разважáць?

Ён згадзіўся з гэтым.

- А добра разважáць - значыць усьведамляць сабе, шчо чалавек паступае справядліва?

- Няхай будзе гэтак, - сказаў ён.

- А ці гэта здараецца, - сказаў я, - тады, калі добра шанцуе несправядліваму, ці тады, калі дрэнна?

- Калі добра.

- Ці згаджаешся ты, што існуе дабро?

- Згаджаюся.

- А ці не зьяўляецца, - сказаў я, - тóе дабром для людзей, штó карысным для іх ёсьць?

- Так, на Зэуса, - сказаў ён, - я асабіста называю тóе дабро дабром, калі яно нават і ня прыносіць карысьці для людзей.

Мне здалося, што Протаґорас стаўся крыху раззлаваным і зьнецярпліўленым і прыймае паставу быццам да бітвы. Бачучы яго ў гэтакім стане і самога сябе на ўвеце, я ціха і спакойна запытаў яго:

- Калі ты кажаш, Протаґорас, - сказаў я, - што
34 рэчы некарысныя зьяўляюцца дабром, дык што - маеш ты на ўвазе рэчы некарысныя толькі для людзей, ці наагул некарысныя? і гэтыя апошнія маеш на ўвазе?

- Не абавязкава гэтыя апошнія, - сказаў Протаґорас. - Бо я ведаю шмат рэчаў, як напрыклад, стравы, пітво, лекі і безьліч іншых, з каторых адны бескарыснымі зьяўляюцца для чалавека, а іншыя карыснымі; а іншыя, зноў, як карысныя ці некарысныя для чалавека - карыснымі астаюцца коням; іншыя карыснымі толькі для быкоў, яшчэ іншыя - для сабак, а іншыя ані тым, ані гэтым, затое карыснымі зьяўляюцца для дрэваў. Дый тутака, тая самя рэч карыснаю ёсьць для карэньняў, а для галінаў шкоднаю; вазьмем для прыкладу гной, які добрым рэчывам зьяўляецца, калі ім абкласьці карэньне, а вось накінуты на пáросткі або на маладыя голькі - ён усё чыста нішчыць. Аліўкавы алей, напрыклад, для ўсіх расьлінаў найболей шкодная рэч, гэтаксама як і для поўсьці кажнае зьвярыны, а вось для валасоў чалавека як і для ягонага цела - ён гоячым рэчывам зьяўляецца. Дабро нагэтулькі разнавідным зьяўляецца ў сваей ступені і ў шматграннасьці водценьняў, што і тутака, адно і тое самае рэчыва, пры вонкавым тасаваньні зьяўляецца дабром для чалавека, а пры ўнутраным - найбольшым злом. Затым бо і лекары ўсе ня раяць хворым прыймаць а-

ліўкавы алей са стравамі, - хіба што у вельмі абмежаванай колькасьці, - якога хопіць, каб зьвесьці да мінімум няпрыемны пах, які ўспрыймаюць орґаны нюху са стравы і прыправаў.

Калі ён высказаў гэта, прысутныя сьціха загаманілі, выражаючы гэтым сваё ўзнаньне з прычыны добрае мовы. І я сказаў:

- Протаґорас, нажаль, я зьяўляюся чалавекам кароткае памяці, і калі хто-небудзь доўга гаворыць да мяне, я ніколі не магу запамятаць пра што, фактычна, ідзе гутарка. Затым, калі-б я быў прыглухаватым крыху і ты хацеў-бы са мною гутарыць, ты-ж бы гаварыў да мяне галасьней, чымся да іншых; гэтак вось і цяперака, маючы дачыненьне з чалавекам, які не дачуе, я хацеў-бы прасіць цябе, каб ты гаварыў коратка, калі я маю ў дымцы сьледаваць за табою.

- Як ты хочаш, - сказаў ён, - каб я коратка адказваў? Маю-ж я карацей табе адказваць, чымся гэта неабходным ёсьць?

- Напэўна не, - сказаў я.

- Значыцца гэтак, як трэба? - сказаў ён.

- Так, - сказаў я.

- Ці маю-ж я гэтак коратка адказваць, колькі я ўважаю патрэбным, ці колькі ты?

- Я чуў, - сказаў я, - што ты здольным зьяўляешся гаварыць і навучаць іншых гаварыць пра тыя самыя рэчы, калі захочаш, гэтак доўга, што гутарцы тваей нямашака канца, абс гэтак коратка, што ніхто ня змо- 335
жа гаварыць карацей. З гэтае прычыны, калі ласка, калі хочаш гаварыць са мною, ужывай другі спосаб - сьціслы.

- Сакратас, - адказаў ён, - я ўжо многа спаборніцтваў правёў зь людзьмі ў прадмеце слова і, калі-б я паступаў, як ты вымагаеш, і вёў дыскусыю гэтак, як мне накідае мой праціўнік, я-б ніколі ня стаўся лепшым ад іншага, і імя Протаґораса ня было-б ведамым сярод гэльленаў.

Тут я спасьцярог, што яму самому не падабаліся ягоныя папярэднія адказы і, што ён дабраахвотна не захоча выступаць як адказваючы, - і я прыйшоў да высноваў, што ў гэтай сустрэчы мне няма што рабіць болей, затым я сказаў:

- Протаґорас, я ня маю на мэце змушаць цябе весьці гутарку, калі ты не жадаеш сабе гэтага, але, калі ты згодны дыскутаваць са мною гэткім способам, што я меціму магчымасьць у думцы сьледаваць за табою, тады я рад падтрымаць яе. Пра цябе ходзяць чуткі, дый сам ты цьвердзіш гэта, што ты зьяўляешся

здольным праводзіць дыскусыю гэтак у кароткай хворме, як і ў доўгай, бо ты зьяўляешся майстрам мудрасьці, а я ў доўгіх гутарках бясьсільным чуюся, хоць і жадаў-бы сабе быць у іх моцным. Але ты, каторы здольным зьяўляешся ў вадным і другім выпадку, павінен уступіць нам, каб нашая гутарка ня спынілася. Але ты ня хочаш, а я ня шмат часу маю на твае доўгія мовы. Я павінен ісьці і адыходжу, хоць, з другое стараны, з прыемнасьцю рад паслухаць цябе.

Сказаўшы гэта, я ўстаў, каб выйсьці, як Кальліяс схваціў мяне за руку сваею праваю рукою, а леваю за гэты мой пацерты плашч і сказаў:

– Мы ня пусьцім цябе, Сакратас, бо калі ты пойдзеш, нашая гутарка ня будзе тою самаю. Затым я прашу цябе, астанься з намі, бо я нікога іншага ня ведаю, каго-б я болей ахвотна слухаў, чымся цябе і Протаґораса, вядучых гутарку разам. Калі ласка, спрычыні нам усім прыемнасьць.

І я сказаў – хоць ужо ўстаў, каб выйсьці:

– О сын Гіппонікоса, я заўсёды цешыўся з прычыны твае любові да мудрасьці; і цяперака я хвалю цябе і люблю, і затым хацеў-бы ўчыніць табе прыемнасьць, калі-б ты прасіў у мяне магчымае рэчы. Але ў дадзеным выпадку падобна гэта да таго, калі-б ты мяне прасіў бегчы аднолькава з Крызонам з Гімэры, калі ён быў у сіле веку або спаборнічаць з кім-небудзь з удзельнікаў бегу на доўгі дыстанс ці бегчы з пасланцом і не адставаць ад іх. На гэтакія вы-
336 маганьні з твае стараны я адказаў-бы, што я сам сабе яшчэ большыя стаўлю вымаганьні, і ў бегу жадаў-бы сабе ўправіцца зь іншымі, але я не магу. Зноўжа, калі хочаш паўзірацца, як я разам з Крызонам бягу на адной высокасьці, дык ты прасі яго, каб ён прытарнаваўся да мяне, бо я хутчэй бегчы не магу, а ён можа звольніць бег. Затым, калі ты хочаш слухаць мяне і Протаґораса, ты мусіш прасіць яго, каб ён скарачаў свае адказы і цяперака гэтак, як рабіў ён на пачатку. Бо калі не, дык якая-ж гэта будзе гутарка? Мне прынамся выдавалася, што весьці дыскусыю зь некім – гэта адна рэч, а прамаўляць на зграмаджэньні – зусім нешта іншае.

– Але паглядзі, Сакратас, – сказаў ён, – Протаґорас мáе рацыю, калі ён дамагаецца, каб яму дазволена гаварыць, як ён хоча, і табе, як ты хочаш.

Тут уключыўся ў гутарку Алькібіядэс і сказаў:

– Ты ня маеш рацыі, Кальліяс. Сакратас-жа прызнаецца, што ён ня ўмее весьці доўгіх гутарак і ў гэтым выпадку ўступае Протаґорасу, але што даты-

чыцца да вядзеньня дыскусыі і штукі задаваньня пытаньняў як і адказваньня на іх, дык я быў-бы вельмі зьдзіўленым, калі-б ён каму-небудзь уступіў. Затым, калі і Протаґорас згодзіцца ў тым, што ён слабейшым чыецца ў дыскусыі перад Сакратасам, дык гэтага хапіла-б Сакратасу; але, калі ён прэтэндуе на пяршынства гэтаксама і ў дыскусыі, тады няхай ён дарогаю стаўленьня пытаньня і адказу вядзе зь ім гутарку, але ня так, што пасьля кажнага пытаньня гаварыць доўгую прамову, ухіляючыся ад пытаньня і замест даць магчымасьць дайсьці да слова іншым, сам гаворыць да гэткае ступені, што бальшыня слухачоў нават забыве пра сутнасьць самога пытаньня. Што да Сакратаса, дык я гарантую, што ён не забудзе. Гэта ён толькі жартуючы кажа, што быццам ён не дачуе. Затым, мне выдаецца, што Сакратас мае рацыю. Гэтак рэч мне выдаецца, і кажны чалавек павінен сказаць тое, што ён думае.

Калі Альківіядэс кончыў гаварыць, нехта - мне здаецца Крыціяс - узяў слова і сказаў:

- О Продікос і Гіппіяс, я астаюся пад уражаньнем, што Кальліяс знаходзіцца на баку Протаґораса, а Алькібіядэс заўсёды хоча давесьці сваё. Але для нас найляпей ня прыймаць удзелу ў гэтай спрэчцы ані па старане Сакратаса, ані па старане Протаґораса, але супольна прасіць абодвух, каб дыскусыі ня супынялі у сярэдзіне.

Калі гэты кончыў, адазваўся Продікос: 337

- Я думаю, што ты, Крыціяс, добра гаворыш, бо прысутныя на гэткай дыскусыі павінны астацца бесстароннымі слухачамі абодвух прамоўцаў наагул, але не абодвух адначасна, а яно-ж ня ёсьць адно і тое самае. Гэта значыць, што слухаць павінны адначасна аднаго і другога, але аценьваць розна: болей мудрага трэба цаніць болей, а нямудрага - меней. Падобна, як Крыціяс, я гэтаксама прашу Протаґораса і Сакратаса, узяць пад увагу нашую просьбу ўступіць адзін другому: вядзеце дыскусыю, але не сварэцеся. Бо спрачацца могуць і прыяцелі, каторыя маюць добрыя суадносіны між сабою, а вось сварыцца могуць супраціўнікі і ворагі. І тады нашая сустрэча абернецца ў прыемнасьць, а вы, прамаўляючыя, найболей праўдападобна, заслужылі-б ад нас, слухачоў, поўнае ўзнаньне, але не пахвалу; бо ўзнаньне выплывае з душы слухачоў і зьяўляецца шчырым, без крывадушнасьці, тады як выражаная словамі пахвала бывае часта поўная хвальшу, наперакор запраўднаму перакананьню, бо людзі хлусяць. Зноў-жа мы, слухачы,

гэткім спосабам атрымалі-б найбольшую радасьць, але не прыемнасьць. Бо свомым ёсьць радавацца таму,хто пазнаé што-небудзь і ўсупольніваецца з радасьцю пры помачы думкі, тады як прыемнасьць адчувае той, хто спажывае што-небудзь або ўспрыймае якое-небудзь дазнаньне адно толькі целам.

Гэтак гаварыў Продікос, і шматлікія з пасярод прысутных прынялі ягоныя словы з узнаньнем.Пасьля Продікоса выступіў са словам Гіппіяс мудрэц:

– Прысутныя тут мужы, – сказаў ён,– я ўважаю, што не паводля [пісанага] права, але паводля [права] натуры, усе мы зьяўляемся сваякамі, прыяцелямі і грамадзянамі; бо-ж паводля натуры падобнае суродным стаецца падобнаму, тады, калі [пісанае] права тыранізуе людзей і змушае іх да шматлікага супраціўнага натуры.Як аграмадным будзе сорам тады,калі мы, каторыя ведаем натуру рэчаў, і зьяўляемся наймудрэйшымі спасярод гэльленаў, і як гэтакія сузграмадзіліся ў гэтым месьце, якое зьяўляецца мэтраполіяю мудрасьці, і ў найбольшым і гэтак праслаўленым доме гэтага места, – аграмадны будзе сорам,калі мы ня мецімем нічога годнага паказаць з гэтае веліччы і годнасьці, але спрачацца між сабою, як сáмыя нікчэмныя спасярод людзей! Я прашу і раю вам, Протаґорас і Сакратас, каб вы пагадзіліся на поў дарозе і пайшлі на ўзаемныя ўступствы. Дайце нам стацца вашымі міратворнікамі. Табе, Сакратас, ня трэба імкнуцца да гутаркі,скрайна абмежаванае кароткасьцю, калі гэта не падабаецца Протаґорасу, і пусьці вольней лейцы словаў, каб апошнія выявіліся перад намі ўва ўсей сваей красе і годнай постаці. Гэтаксама і ты, Протаґорас, не распасьцірай свае вятругі, каб з поўным ветрам плысьці на адкрытае мора прамоваў, губячы з спазору воблік зямлі.Абодвум вам трэба трымацца нейкае памяркоўнасьці. Зрабеце, як я раю. Выбярыце сабе судзьдзю, дагляднчыка або старшыню, які-б меў дагляд над вашымі мовамі і над вычуцьцем меры ў іх.

Гэта спадабалася прысутным і пачуліся галасы агульнага ўзнаньня, а Кальліяс сказаў, што ня пусьціць мяне, і ўсе пачалі прасіць выбраць загадчыка. Але я сказаў, што выбраць судзьдзю, будзе брыдка для нас; бо, калі выбраны будзе горшы за нас, тады як гэта будзе, каб горшы кіраваў лепшымі; калі будзе аднолькавы, як мы – гэтаксама будзе няправільна, бо аднолькавы аднолькава з намі будзе паступаць, дык і выбіраць гэтага няма пашто. А калі вы скажаце: "Давайце выбярэм лепшага" – дык на гэта я

адкажу, што вы ня мецімеце нікога мудрэйшага ад Протаґораса. Зноў-жа, калі вы выберацё іншага, які не зьяўляецца лепшым, а якога вы толькі назавяцё лепшым, дык зноў будзе крыўдна для Протаґораса, бо выглядаціме, што вы да яго быццам да чалавека нікчэмнага прыстаўляеце нейкага вучыцеля. А што да мяне, дык мне ўсяроўна. Затым, дазвольце мне сказаць, што́ я-б учыніў, каб нашая гутарка працягвалася гэтак, як вы жадаеце. Калі Протаґорас не жадае сабе адказваць, няхай тады ён пытае, а я буду адказваць, аднечасна з маею спробаю паказаць яму, як, паводля майго пагляду, гэта павінна быць выканана. Калі-ж я адкажу на ўсе ягоныя пытаньні, якія яму будзе да спадобы паставіць мне, тады няхай прырачэ і ён адказваць на ўсе мае пытаньні, пастаўленыя яму. І калі ён выдасцца нам ня вельмі ахвочым адказваць мне на пастаўленыя яму пытаньні, тады вы і я будзем разам прасіць яго, гэтак, як вы прасілі мяне, не псаваць дыскусыі. І дзеля гэтага зусім непатрэбны ніякі адумысны даглядчык - усе вы будзеце разам даглядчыкамі.

Усе згадзіліся, што гэтак павінна быць; а Протаґорас, ня гледзячы на тое, што яму гэта не падабалася, усё-ж змушаны быў згадзіцца ставіць пытаньні і, пасьля таго, як ён іх паставіць ў пэўнай колькасьці, ён падасьць абаснаваньне для іх, і адкажа коратка і па крысе. І ён пачаў пытаць, прыблізна гэтак:

- Я думаю, Сакратас, - сказаў ён, - што найважнейшы фактар духовае культуры чалавека - гэта абазнанасьць у галіне паэзыі. Заключаецца ён ў тым, каб разумець тое, што́ гавораць паэты, умець ацаніць, што́ добра сказана у іхных творах, а што́ - не, 339
мець кемнасьць разабраць твор і даць здавальняючае паясьненьне на пастаўленае пытаньне. І я прапаную пытаньне, - якое паддаём мы нашай дыскусыі, паймена, пра цноту, - перанесьці ў галіну паэзыі, і ў гэтым адным толькі будзе розьніца. Вось-жа Сымонідэс, зьвяртаючыся да Скопаса, сына Крэона з Тэссаліі, недзе кажа:

Стацца добрым чалавекам запраўды, ёсьць трудна,
Рукі, і ногі, і розум, каб спраўнымі былі,
І сам астаўся-б без дакору.

Ведаеш ты гэтую песьню, ці ма́ю я табе ўсю яе пераказаць?

- Няма патрэбы пераказваць яе, - сказаў я, - я ведаю гэтую песьню - нямала ўвагі я прысьвяціў ёй.

– Добра, – сказаў ён. – Як ты думаеш – прыгожа гэта сказана і правільна, ці мо́ не?

– Так, – сказаў я, – і прыгожа, і правільна.

– Ці выдаецца табе, што гэта прыгожа ўкладзена, калі паэта сам сабе пярэчыць?

– Не, няпрыгожа, – сказаў я.

– Паўзірайся болей уважна, – сказаў ён.

– Мой даражэнькі, я ўжо даволі наўзіраўся.

– Ты ведаеш гэтаксама, – сказаў ён, – што далей недзе ў песьні ён кажа:

Не, са словам Піттакоса я не згаджуся
Хай сабе з вуснаў яно мудраца: "Нялёгка быць добрым".

– Бачыш ты, што адзін і той самы чалавек гаворыць гэ́та і тое, што́ казаў раней?

– Бачу, – адказаў я.

– Дык як табе здаецца, вось гэтае і тое ранейшае – у сузгоднасьці між сабою?

– Мне здаецца, што так, – адказаў я. /І адначасна мяне агарнуў страх, што ў тым, што́ ён кажа, можа быць нейкі сэнс/. – А ты што, інакш думаеш?

– Дый як-жаж можа выдавацца ў сузгоднасьці між сабою той, – сказаў ён, – хто выказвае гэтыя два цьверджаньні? Перш ён сьцьвярджае, што стацца запраўды добрым чалавекам ёсьць трудна, а крышку далей у гэтым самым творы забываецца пра гэта і пачынае наракаць на Піттакоса, і адмаўляецца прызнаць яму рацыю, калі апошні, гэтаксама як і ён, цьвердзіць, што: "нялёгка быць добрым". З гэтага-ж ясна выходзіць, што, калі ён папракае таго, хто сказаў тое самае, што́ ён, – дык гэтым самым ён папракае самога сябе. Згэтуль, ягонае першае цьверджаньне або другое мусіць быць няправільным.

Калі ён кончыў гаварыць, шматлікія з прысутных выбухнулі апляузам на знак пахвалы. А ў мяне спачатку, калі я пачуў ягоныя словы і гэтае ўзнаньне для яго, усё закруцілася ў галаве і пацямнела ў ваччу, быццам удырыў мяне нейкі сіламоцны змагар на кулакі; пасьля, – кажучы праўду, – каб выйграць на часе і засяродзіцца ў думцы, што́, фактычна, паэта цьве́рдзіць – зьвяртаюся да Продікоса з заклікам:

340 – О Продікос! – кажу я. – Гэта-ж Сымонідэс твой сурodзіч; ты мусіш памагчы яму. Я буду цябе гэтаксама, як мне здаецца, на помач клікаць, як, паводля словаў Гомэра, Скамандрос, ціснуты Ахільлесам, клікаў на помач Сімо́зіса, кажучы:

Брат мой! Давай супроцьставімся гвалту
брутальнаму

Гэтага мужа!

Затым бо я і клічу цябе, што баюся, каб Протаґорас не здабыў Сымонідэса і не абярнуў яго ў нішто. Тымболей, што, каб вызваліць Сымонідэса, трэба толькі супроцьпаставіць тваю мудрасьць сынанімаў, якая ўмагчыміць табе ўвыпукліць розьніцу паміж "хацець" і "жадаць", што не зьяўляецца адным і тым самым, і якое дапамагло табе тутака сказаць гэтак многа прыгожага. А цяперака паўзірайся, ці ня згодзішся ты са мною. Бо я не падзяляю пункту гледжаньня, быццам Сымонідэс пярэчыць самому сабе. І перад усім, я хацеў-бы, Продікос, каб ты выказаўся вось у чым: Ці ўважаеш ты, што "стацца" і "быць" - гэта адно і тое самае, ці мо́ ёсьць тут нейкая розьніца?

- На Зэуса, ёсьць розьніцца, - сказаў Продікос.

- Ці-ж ня выразіў, - сказаў я, - Сымонідэс на пачатку твору свой пагляд, што "стацца добрым чалавекам,запраўды, ёсьць трудна"?

- Ты праўду кажаш, - адказаў Продікос.

- І тады, - кажу я, - ён наракае на Піттакоса,не, як Протаґорас сабе ўяўляе, за паўтараньне таго,што сам ён кажа, але за нешта іншае. Бо Піттакос не гаворыць, як Сымонідэс кажа, што трудна "стацца" добрым, але - нялёгка "быць" добрым: і наш сябра, Продікос, утрымлівае, што "быць", Протаґорас, ня ёсьць тое самае што "стацца"; і, калі яны не зьяўляюцца тым самым, тады Сымонідэс не пярэчыць сам сабе. І вельмі магчыма, што Продікос сказаў-бы, - а разам зь ім і шматлікія іншыя, - як Гэзіёдос кажа, хоць і трудна стацца добрым, -

Бо на дарозе да цноты багі пот, і працу паклалі,

але, калі хто асягнуў яе ўзвышша,

Лёгкай і гладкаю будзе дарога - калісьці цяжкая -

гэта шлях і цана здабыцьця цноты.

Пачуўшы гэта, Продікос пахваліў мяне, а Протаґорас сказаў:

- У тваей папраўцы, Сакратас, крыецца яшчэ большая памылка ад тае, якую ты хочаш паправіць у сказе.

- І што ты зробіш, Протаґорас, - сказаў я,- мусіць я сьмешны лекар: лякуючы хворага, пагоршваю хваробу.

- Гэтак яно і ёсьць, - сказаў ён.

- Як гэта? - запытаў я.

- Пазта, - адказаў ён,- ніколі ня мог-бы ўчыніць гэтакае памылкі, цьвердзячы, што цнота, якая, павод-

ля думкі многіх людзей, зьяўляецца, з усіх рэчаў, найболей труднаю, можа быць гэтак лёгка здабытаю.

І я сказаў:

– Як шчасьлівым мы можам уважаць сябе, маючы ў
341 гэткую важную хвіліну сярод нас Продікоса. Мудрасьць Продікоса, Протагорас, боскаю зьяўляецца ўжо з дaвен-даўна і магчыма пачатак свой бярэ з часоў Сымонідэса, а мо́ і старэйшаю ёсьць. Ты маеш дазнаньне ў шматлікіх іншых рэчах, а гэтае ня ведаеш, а я ведаю, бо я вучнем зьяўляюся гэтага Продікоса. І цяперака, калі я не памыляюся, ты не спасьцерагаеш, што слова "трудна" /χαλεπόν/ Сымонідэс, магчыма, ужывае не ў тым значэньні, якое ты гэтаму слову надаеш; і я мушу папрaвіць цябе, гэтак, як Продікос папраўляе мяне кажны раз, калі я ўжываю слова "страшэнны" /δεινός/ у значэньні пахвалы. Калі я, напрыклад хвалю цябе або каго іншага і кажу, што "Протаґорас страшэнна мудры муж", дык ён пытаецца мяне, ці ня сорамна мне называць страшэнным тое, што́ добрым зьяўляецца. Бо тое, што страшэнным ёсьць, кажа ён, вяжацца з паняцьцем нечага дрэннага, зла. Бо-ж ніхто ня кажа пра "страшэннае багацьце", ані пра "страшэнны супакой" пасьля вайны, ані пра "страшэннае здароўе", але кажуць пра страшэнную хваробу, вайну, нэндзу, бо паняцьце страшэннага – гэта зло. Затым, вельмі магчыма, што кеосцы+/, а зь імі гэтаксама і Сымонідэс пад словам "трудна" разумее або зло, або нешта іншае, чаго ты ня ведаеш. Тады, найляпей, запытаймa Продікоса, бо-ж і свомым ёсьць, што пра мову Сымонідэса трэба якраз пытаць яго: што́, Продікос, Сымонідэс меў на ўвазе, кажучы "трудна"?

– Зло, – сказаў ён.

– Затым, Продікос, – сказаў я, – ён++/ і дакаркае Піттакоса, каторы сказаў, што "Стацца добрым запраўды ёсьць трудна", і гэта гучыць, быццам ён кажа: д р э н н а ёсьць стацца добрым.

– І што-ж іншае, Сакратас, – сказаў Продікос, – як ня гэта, па-твойму, меў на ўвазе Сымонідэс, папракаючы Піттакоса? каторы ня ўмеў спасьцерагчы розьніцы паміж словамі, будучы лесбосцам, а ўзгадаваны ў барбарскай гаворцы.

– Ці чуеш ты, Протаґорас, – сказаў я, – што́ кажа Продікос? Маеш ты што-небудзь сказаць супроць гэтага?

– Гэта зусім ня так, – сказаў Протаґорас. – Я добра ведаю, што Сымонідэс трудным назваў, як і ўсе

---

+/ Жыхары абтокі Кеос. ++/ Сымонідэс.

мы, не́ нешта дрэннае, але тое, што́ цяжка дастаецца - вымагае значнага высілку, працы і поту.

- Я гэтаксама пераканаңы, Протаґорас, - сказаў я, -што Сымонідэс гэта ма́е на думцы, і наш прыяцель, Продікос, добра ведае аб гэтым; ён толькі жартуе і быццам хоча цябе выпрабаваць, ці ты знойдзешся на адпаведным узроўні і патрапіш абараніць свой пагляд. А што ў Сымонідэса "труднае" зусім ня значыць "дрэннае", аб гэтам вельмі добра сьведчыць выказваньне, якое тут-жа сьледуе і дзе ён кажа:

Дар гэты ма́е адзін толькі Бог.

Затым, калі-б ён уважаў, што "дрэнна стацца добрым", дык не казаў-бы,што "дар гэты ма́е адзін толькі Бог" і яму прыпісваў-бы гэты атрыбут і нікому іншаму. Бо, калі-б ён запраўды гэтак думаў, тады Продікос мусіў-бы прызнаць, што Сымонідэс нейкі паганец, а ня той зусім, што з Кеосу. Але што́, паводля майго перакананьня, ма́е на думцы Сымонідэс у гэтай песьні, я ахвотна табе скажу, калі ты хочаш спраўдзіць ці добра я, як ты выражаешся, разьбіраюся ў галіне паэтыцкіх твораў. А калі ты жадаеш, я ахвот- 342
на цябе паслухаю.

Протаґорас, пачуўшы гэтыя словы, сказаў:

- Калі ты хочаш, Сакратас, скажы.

Пры гэтым Продікос і ўсе іншыя дамагаліся, каб пачуць мяне.

- Тады я папробую, - сказаў я, - выясьніць вам мой пагляд адносна гэтае Сымонідэсавае песьні.Восьжа, найстарэйшая філязофія сярод гэльленаў і найболей распаўсюджаная пераважна была на Крэце і ў Лякедаймоне. Гэтаксама тамака знаходзілася найбольшая колькасьць зь існуючых на Зямлі сафістых. Але жыхары Крэты і Лякедаймону, падобна як чыняць гэта сафістыя, пра якіх гаварыў Протаґорас,запярэчваюць гэта і праяўляюць сябе нясьведамымі, каб ніхто ня ведаў, што мудрасьцю яны перавышаюць усіх гэльленаў. Яны хочуць стварыць уражаньне, што быццам яны ўважаюцца за найлепшых ваяроў і за найболей мужных людзей і, што гэтым яны перавышаюць іншых. Бо яны думаюць, што, калі даведаюцца, у чым, фактычна, іхная перавага, усе пачнуць практыкавацца ў гэтым самым - гэта значыць, у мудрасьці. Цяпер-жа, схаваўшы запраўднасьць, яны ашукалі прыхільнікаў Спарты ў іншых местах. А тыя ўзаемна разьбіваюць сабе вушы, насьлядуючы іхныя звычаі, абкручваюць раменьнем рукі, зь вялікаю стараннасьцю выконваючы ґімнастычныя практыкаваньні, носячы кароткія плашчы,

быццам якраз гэтым лякедаймонцы маюць перавагу над гэльленамі. А калі лякедаймонцам абрыдне тайна зносіцца з сафістымі, што знаходзяцца ў іх, і хочуць гэта рабіць адкрыта, тады яны афіцыяльна выганяюць з краю ўсіх чужынцаў - гэтак тых, што насьлядуюць лякедаймонцаў, як і усіх іншых, і тады, у тайніцы перад чужымі, свабодна і адкрыта зносяцца з сафістымі. І яны, падобна як жыхары Крэты, забараняюць сваей моладзі адбываць падарожжы ў іншыя месты з тым меркаваньнем, каб маладыя людзі ня згубілі таго, у чым яны іх узгадавалі. І гэтак у Лякедаймоне як і на Крэце ня толькі мужчыны, але і жанчыны зьяўляюцца гордымі з прычыны іхнае цывілізацыі.

Што я гавару праўду і, што філязафічная культура як і культура слова сярод лякедаймонцаў стаіць на высокім узроўні, можаце пераканацца вось зь якога прыкладу: Калі-б хто-небудзь хацеў спаткацца зь якім-небудзь самым простым лякедаймонцам, дык на першы позірк заўважыў-бы, што ён слабым ёсьць у гутарцы; але раптам, у якім-небудзь месцы гутаркі, ён шпурне годны ўвагі моўны зварот, што, запраўды, ёсьць што паслухаць: адважна, коратка і сьціслa, быццам магутны лучнік стрэліў з луку так, што ягоны размоўца перад ім выдасцца маленькім дзіцянём.

Гэтак якраз некаторыя з сучасных як і ў мінулых часох заўважылі, што праўдзівы лякедаймонскі тып характару ляжыць у філязофіі, а не ў філёгімнастыцы; яны сьведамы таго, што толькі праўдзіва адукаваны чалавек зьяўляецца здольным высказаць падобныя разважаньні. Да гэтакіх людзей належаў і Та-
343 лес з Мілетосу, і Піттакос з Мітылены, і Біас з Прыены, і наш Солён, і Клеобулёс з Ліндосу, і Місон Хэнэйскі, і як сёмы між мудрымі людзьмі быў лякедаймонец Хілён. Усе яны былі зайздроснымі прыхільнікамі і студэнтамі лякедаймонскае культуры; а што іхная мудрасьць была гэткага роду, кажны можа пераканацца ў гэтым, хто пазнае кароткія і незабыўныя выражэньні, якія кажны зь іх тварыў. Гэта былі яны, каторыя аднойчы зыйшліся і зь першапачаткаў свае мудрасьці зложылі ахвяру Апольлёну, выпісваючы ў ягонай сьвятыні ў Дэльфах тое, што ўсе маюць на вуснах: П а з н а й с а м о г а с я б е /Γνῶθι σαυτόν/ і Н і ч о г а з а ш м а т /Μηδέν ἄγαν/.

І зачым я кажу пра гэта? Дзелятаго, што гэты лякОнскі стыль кароткамоўнасьці быў характэрным для першапачатковае філязофіі. Паміж ляконцамі было ў абыходзе выказваньне Піттакоса, якое займела ўзнаньне са стараны мудрых людзей: "Трудна быць добрым".

Зноў-жа, Сымонідэс у пагоні за гонарам стацца мудрым, хутка сьцяміў, што, калі яму ўдасцца зьбіць гэтае выказваньне, быццам слаўнага атлету ў спаборніцтве, тады станецца ён слаўным сярод сваіх сучасьнікаў. І, калі я не памыляюся, супроць гэтага выказваньня, хочучы пакрымя зьбіць яго і пакаціць, ён і стварыў усю гэтую песьню.

Давайце цяперака ўсе разам перагледзім ягоныя словы, каб даведацца, ці кажу я праўду. Ужо з самага пачатку песьні ўвыпуклілася-б бязглузьдзіца, калі-б Сымонідэс наагул толькі хацеў сказаць, што трудна стацца добрым чалавекам, а тымчасам ён уводзіць гэтае μέν [у значэньні "аднак-жа"]. Яно ня мела-б ніякага сэнсу для ўводжваньня μέν, калі-б мы не ўзялі пад увагу, што Сымонідэс быццам вядзе спрэчку супроць выказваньня Піттакоса. Бо: Піттакос кажа, што "Трудна быць добрым", а Сымонідэс, супроцьстаўляючыся гэтаму, гаворыць: "Не, Піттакос, трудна, аднак-жа, стацца добрым", ня лучачы слова "запраўды" з "добрым", але з "трудна". Гэта ня так, - быццам труднаю рэчаю ёсьць быць запраўды добрым, як быццам адны зь людзей бываюць запраўды добрымі, а іншыя хоць і добрымі, але не запраўды добрымі - было-б гэта вельмі ўпрошчанаю рэчаю дый да гэтага яшчэ не паводля Сымонідэсавае думкі. Тут трэба меркаваць, што ў песьні слова "запраўды" перастаўлена на іншае месца гэтак, быццам Піттакос кажа /пры гэтым уявем сабе, што Піттакос гаворыць, а Сымонідэс адказвае яму/: "О мой дружа", - кажа Піттакос, - "трудна быць добрым", і Сымонідэс адказвае: "У гэ- 344
тым, Піттакос, ты памыляешся; бо труднасьць ня ў тым, што нялёгка быць добрым, але нават і стацца чалавеку добрым, ды пры тым, "Каб рукі, ногі і розум спраўнымі былі і сам астаўся без дакору - гэта запраўды ёсьць труднаю рэчаю". Чытаючы гэтак, дык і ўстаўленая часьцінка μέν выдасцца ўстаўленаю з сэнсам і слова "запраўды" выдасцца трапным на самым канцы. А тое, што ідзе за гэтым, сьведчыць, што якраз гэтак і было сказана. Можна было-б шмат сказаць адносна таго ці іншага месца гэтае прыгожае песьні, якая зьяўляецца цудоўным творам майстэрства з прыгожым выканчэньнем, але гэта завяло-б нас за далёка. Затым разгледзім толькі яе агульны сэнс і мэтанакіраванасьць, каб пераканацца, што галоўным замерам Сымонідэса было ўсімі сродкамі зьбіць выказваньне Піттакоса, што назіраем на працягу ўсяе песьні.

Бо ў тым, што далей крыху наступае, Сымонідэс

кажа, як быццам запраўды ён думае, што хоць і ёсьць чалавеку трудным стацца запраўды добрым, аднак-жа магчымым ёсьць, хоць-бы на нейкі час, але, стаўшыся гэтакім, трываць у гэтакім стане, - гэта значыць, быць, як ты, Піттакос, цьвердзіш, добрым чалавекам, - гэта ўжо немагчыма, і нават не дадзена чалавеку; "дар гэты мае адзін толькі Бог":

Не, чалавек быць ня можа ад зла за далёка,
Ў злосну гадзіну, як непер態можнае гора удырыць.

А цяпераka, каго-ж удырвае неперамо жнае гора ў злосную гадзіну, калі ідзе гутарка пра стырнаваньне вадаплаву? Ведама, што сьведамага, бо нясьведамы наагул заўсёды астаецца пад цяжарам гора. Бо-ж таго, хто павалены, ня можна паваліць; паваліць можна толькі таго, хто стаіць, а не таго, хто ўжо ляжыць. Гэтак вось і неперамо жнае гора, яно можа перамагчы толькі таго, хто змагаецца, але не таго, хто ніколі прысутнасьці гарту ў сабе ня выявіў. Вялікая бура, якая прыходзіць зьнічэўку на моры, можа стырнічага паставіць тварам у твар перад неперамо жным горам, а ліхалецьце пагоды - земляроба. Падобнае можа здарыцца і зь лекарам. Нават добраму чалавеку магчымым ёсьць раз добрым с т а ц ц а, пазьней і дрэнным, як сьведчыць аб гэтым іншы паэта:

Нават муж добры, раз добрым, раз дрэнным бывае.

Дрэннаму чалавеку немагчыма стацца дрэнным; ён заўсёды ёсьць дрэнным. Затым, калі сіла абставінаў перамо жа чалавека інтэлігэнцыі, здольнасьці і дабра, тады ён ня можа ўхіліцца ад зла. А ты, Піттакос, аднак-жа, цьвердзіш, што "трудна быць добрым", а ў сутнасьці рэчы, трудна стацца добрым, хоць апошняе і магчымым ёсьць, але б ы ц ь добрым - немагчыма:

Чыніць дабро хто - зьяўляецца добрым,
Чыніць ён зло - дрэнным стаецца.

345 Што ёсьць, напрыклад, з чыненьня добрага ў чытаньні і пісаньні, і якога роду сам у сабе мае быць чын, які творыць чалавека добрым у гэтым прадмеце? Ясна, веда чытаньня і пісаньня. І якім гэтае чыненьне добрага мае быць, якое творыць чалавека добрым лекарам? Ясным - веданьне мастацтва ў аздараўляньні хворых. "Але той, што чыніць зло, зьяўляецца дрэнным". Цяперака, хто стаецца дрэнным лекарам? Ясным ёсьць, што той, хто, у першую чаргу, зьяўляецца лекарам, і ў другую - добрым лекарам: але ён, аднак-

жа, можа стацца дрэнным лекарам; а мы, нясьведамыя ў мэдычным мастцтве, ня сталіся-б, як дрэнна ні дзейнічалі-б, ані лекарамі, ані гэтаксама сталярамі або чым-небудзь у гэтым родзе. І той, хто дзейнічаючы дрэнна, ня станецца лекарам, ясная рэч, што ня станецца і дрэнным лекарам. Падобна і добры чалавек, часамі стаецца дрэнным - будзе гэта з прычыны часу, напружаньня ці з прычыны хваробы або з прычыны якога-небудзь нешчасьлівага здарэньня - адзінаю дрэннаю рэчаю ёсьць - гэта страта веды; але дрэнны чалавек ніколі ня станецца дрэнным, бо ён заўсёды дрэнны; і, калі-б ён меўся стацца дрэнным, ён павінен стацца добрым.

Вось-жа словы гэтае песьні хіляцца ў напрамку паказаць, што, з аднае стараны, чалавек ня можа быць заўсёды добрым, з другое - аднак-жа,ён можа стацца добрым, і гэтаксама можа стацца дрэнным; і зноў-жа, тыя астаюцца добрымі на працягу даўжэйшага часу, каго багі любяць.

Усё гэта сказана супроць Піттакоса, як гэта і далей у песьні відавочным стаецца. Бо ён+/ дадае:

> Не, я ня трачу прамежжа жыцьця - дарагое хвіліны
> Дзеля натугаў дарэмных знайсьці дасканалага мужа.
> Колькі-б спаткаў я нас, сытых пладамі зямнымі:
> Не, чалавека такога няма; а знайду я - наказ да вас вышлю.

З гэтакаю напорыстаю моцаю Сымонідэс выступае супроць выказваньняў Піттакоса на працягу ўсяе свае песьні:

> З добраахвотнасьцю хто ухіляўся ад зла, таго і хвалю, і люблю я;
> Бо зь неабходнасьцю нават багі не ваюць.

Усё гэта накіравана ў вадным і тым самым напрамку, бо-ж Сымонідэс ня быў гэтак далёка нясьведамым, каб сказаць, што ён хваліць тых, што ня чынілі зла дабраахвотна, быццам існуюць гэтакія, што дабраахвотна спрычыняюць зло. Бо ніякі разумны чалавек, як мне здаецца, ня думае, што існуе які-небудзь чалавек, які можа дабраахвотна памыляцца, дабраахвотна чыніць зло або дзеяньні, пакрываючыя яго ганьбаю; яны вельмі добра асьведамленыя, што ўсе тыя, што чыняць зло і сорамныя рэчы, чыняць іх супроць свае волі. І Сымонідэс ніколі ня кажа, што ён хваліць таго, хто ня чыніць зла дабраахвотна; выражэньне "з добраахвотнасьцю" ён кіруе да самога 346

+/ Сымонідэс.

сябе. Бо ён аставаўся пад уражаньнем, што годны чалавек часта прынукае сябе адносіцца да каго-небудзь пасяброўску, любіць яго і хваліць; часамі можа правіцца недабраахвотная любоў, якую чалавек можа адчуваць да ненатуральнага бацькі або маці, або бацькаўшчыны ці да нечага падобнага. Дрэнныя людзі, калі іхныя бацькі або бацькаўшчына маюць якія-небудзь недахопы, глядзяць на іх з пачуцьцём задаволеньня, яны ўсё спасьцерагаюць у іх і ўпікаюць, і абвінавачваюць іх з прычыны заўважаных недахопаў болей, чымся яны заслугоўваць на гэта; і гэта ўсё затым, каб іншыя не абвінавачвалі іх і не папракалі іх з прычыны адсутнасьці ў іх рупнасьці; яны нават павялічваюць папрокі і да свае змушанае варожасьці дадаюць яшчэ і добраахвотную; добрыя, аднак, людзі, наадварот, утойваюць у сабе свае пачуцьці і змушаюць сябе да пахвалаў; а калі гневаюцца на іх з прычыны дазнанае крыўды, дык аднавачасна ўтаймоўваюць самыя сябе і ідуць на згоду, змушаючы самых сябе адносіцца да іх пасяброўску, нават любіць іх і хваліць, затым, што гэта - роднае ім. Вельмі магчыма, што і Сымонідэс уважаў за патрэбнае хваліць і ўзьвялічваць якога-небудзь тырана або падобных да яго, і гэта не з прычыны свае волі, але з прычыны неабходнасьці. Пра гэта ён і Піттакосу кажа: Я, бо бач, о Піттакос, дакараю цябе не затым, што я хуткі дакарыць. -

Я астануся здаволеным, як чалавека спаткаю:
Прымем, што дрэнным ня будзе, ня вельмі разумным,
Права каб ведаў, якое зьяўляецца места здароўем -
Гэткага ганіць ня буду,
Іншых судзіць я няхуткі: нясьведамых процьма на сьвеце -

затым, калі хто-небудзь цешыцца з таго, што можа іншага ўпікаць, знойдзе ён не аднойчы нагоду рабіць гэта:

Кажная рэч, недаткнутая брудам, трывае прыгожай.

Гэтымі апошнімі словамі ён ня хоча сказаць, што ўсе рэчы добрымі астаюцца, якія ня маюць зла ў сабе, напрыклад: "Усе рэчы зьяўляюцца белымі,каторыя ня маюць нічога з чорнага ў сабе", бо гэта было-б сьмешным; але ён хоча сказаць, што ён не знаходзіць нічога дрэннага ў гэтым і здаволіцца сярэдняю мераю, і ня будзе дакараць яе. "Я ня імкнуся, - кажа ён, - знайсьці сярод людзей дасканалага чалавека, колькі-б нас ня было сытых пладамі зямнымі. Не, такога

чалавека няма; а калі знайду - безадкладна наказ да
вас вышлю. Дык вось, за гэта я нікога ня буду хва-
ліць, хопіць для мяне чалавек сярэдняе меры, які
нічога не рабіў дрэннага, з гэтае прычыны я ўсіх і
хвалю, і люблю". I гаворку мітыленскую паэта тут у-
жывае, якою быццам зьвяртаецца да Піттакоса: "З
дабраахвотнасьцю ўсіх і хвалю, і люблю" /той, хто
рэцытуе тутака, павінен аддзяліць выражэньне "з доб-
раахвотнасьцю" ад далейшага - "хто абмінаў зло"/, а 347
часамі здараецца, што я з недабраахвотнасьцю каго-
небудзь і хвалю, і люблю. I цябе, Піттакос, я ні-
колі-б ня ганіў, калі-б ты сказаў што-небудзь і ў
якойколечы меры добрае і праўдзівае. Але цяперака
я ўпікаю цябе, бо, выкладваючы быццам наяўную праў-
ду, дый яшчэ ў прадмеце першараднае важнасьці, ты
сказаў няпраўду."

У гэткім значэньні, Продікос і Протаґорас,- ска-
заў я, - як мне здаецца, Сымонідэс гэтую песьню ў-
клаў.

Тады Гіппіяс сказаў:

- Я думаю, Сакратас, што ты вельмі добра прад-
ставіў нам паясьненьне гэтае песьні; я гэтаксама ма́-
ю прыгожа ўкладзеную маю ўласную мову на гэтую тэ-
му, якую хацеў-бы вам тут запрапанаваць, калі толь-
кі жадаеце вы сабе гэтага.

- Так, Гіппіяс, - сказаў Алькібіядэс, - але,
магчыма, пазьней; цяперака, паводля дамоўленасьці,
голас маюць Протаґорас і Сакратас, - калі Протаґо-
рас жадае сабе ставіць пытаньні, няхай тады Сакра-
тас адказвае, а калі, наадварот, ён хоча адказваць
Сакратасу, няхай апошні пытае.

I я адказаў:

- Што да мяне, дык я схіляюся да таго, каб Про-
таґорас сам выбраў, што́ яму найболей да спадобы;
калі ён нічога ня мае супроць, дык можам супыніць
нашую гутарку пра песьні і вершы і перайсьці назад
да таго, пра што я цябе, Протаґорас, ужо на пачат-
ку пытаўся і з тваею дапамогаю ахвотна давёў-бы да
канца. - У мяне ствараецца ўражаньне, што гутаркі
пра паэзыю падобныя да забаваў пры чарцы сузграмад-
жаных беспрэтэнсыянальных людзей з вуліцы. Людзі
гэтыя, з прычыны свае беспрасьветнасьці, не зьяў-
ляюцца ў стане пры віне нічога ўзаемна даць сабе з
духовых вартасьцяў пры помачы свайго голасу і сваіх
уласных словаў, затым бо і цэняць яны дорага аплач-
ваных флейцістак, плоцячы грошы за чужы гук, і пры
помачы гэтых гукаў падтрымліваюць супольнасьць між
сабою.

Але там, дзе пры віне зыйдуцца людзі годныя і добрыя, праўдзівае адукацыі, тамака ня бачым ні флейцістак, ані танцорак, ані гарфістак; і яны ня маюць гэтых глупстваў і дзяцінлівасьці, але здавальняюцца самыя сабою, вядучы гутаркі ўласнымі галасамі па чарзе ў памяркоўнасьці ў адказваючай гэтаму манеры, гаворачы і слухаючы адзін другога нават і тады, калі шмат частаваліся віном.

І гэтакія сузграмаджаньні, вось хоць-бы, гэтакае як нашае, калі зыходзяцца людзі гэтакія, за якіх мы ўважаем сябе, ня лічаць за патрэбную помач іншых галасоў або паэтаў, якім і пытаньня ня можна паставіць адносна значэньня таго, пра што яны гавораць. А людзі, каторыя пакліекваюцца на іх, адны кажуць, што паэта гэтае меў на ўвазе, а другія – што нешта іншае, і гутарка заходзіць у сьляпы завулак, у якім ужо нічога давесьці ня могуць. [Але асьвечаныя людзі] ухіляюцца ад гэтакіх спатканьняў і супольнасьць між сабою падтрымліваюць дарогаю гутаркі
348 адзін да другога; кажны, ня чужымі, але ўласнымі словамі дасьледуе іншага і сам дазваляе быць дасьледжаным.

Мне здаецца, што падобных людзей і мы павінны насьледаваць, ты і я, адклікваючы паэтаў набок; няхай кажны з нас сам ад сябе гаворыць да другога тое, што думае, зглыбляючы праўду, дый нас самых. Калі ты хочаш пытаць мяне, дык я гатоў адказваць, а калі жадаеш – адказвай ты мне, каб давесьці да канца тое, што мы супынілі ў сярэдзіне.

Гэтакія і падобныя заўвагі я выказваў, але Протаґорас не сказаў выразна, што хацеў-бы ён зрабіць.

Тады Алькібіядэс, зірнуўшы на Кальліяса, сказаў:

– Думаеш ты, Кальліяс, што Протаґорас прыгожа паступае, калі ён ня хоча сказаць, будзе ён адказваць ці не? Мне здаецца, што зусім няпрыгожа; ён павінен або далей працягваць нашую дыскусыю, або сказаць, што ня хоча праводзіць гутаркі, каб і нам ведаць, якія ён мае замеры: тады Сакратас мецімe нагоду дыскутаваць з кім-небудзь іншым, а рэшта зграмаджаных будзе мець магчымасьць весьці гутарку паміж сабою.

Протаґорас, як мне здалося, засаромлены словамі Алькібіядэса, просьбамі Кальліяса і бадай-што ўсіх прысутных, нарэшце згадзіўся працягваць дыскусыю і сказаў, што я магу ставіць пытаньні, а ён будзе адказваць.

Тады я сказаў:

– Ня думай, Протаґорас, што, вядучы гутарку з

табою, я маю нешта іншае на ўвазе, чымся адно, паймення - разглéдзець тое, што кажны раз выклікáе ў мяне сумліў. Мне здаецца, Гомэр мае рацыю, калі ён кажа, што

Двух, калі разам ідуць, аддаецца развазе зь іх кажны, -

бо гэтак ужо ёсьць між людзьмі, што разам яны нейк болей ахвочыя да чыну, слова і думкі. "Адзін, калі-б нават і думаў", дык ён зараз-жа і азіраецца навакол, з кім-бы тут падзяліцца сваею думкаю і ў каго знайсьці для яе ўзнаньне. Дзелягэтага, барждзэй з табою хацеў-бы мець дыскусыю, чымся з кім-небудзь іншым, бо я пераканаиы, што ніякі іншы чалавек ня мáе лепшага зразуменьня ўва ўсіх тых рэчах, у якіх добры чалавек разабрацца можа, і ў вапрычонасьці ў прадмеце мужнасьці. Дый хто іншы, як ня ты? - ты, каторы ўздымаеш пратэнсыі быць добрым чалавекам і годным, гэтак, як некаторыя зьяўляюцца гэткімі запраўды, але ня маюць сілы ўчыніць добрымі іншых, тады, як ты ня толькі зьяўляешся добрым у самым сабе, але ў аднолькавай меры зьяўляешся прычынаю дабрыні для іншых. І ня толькі гэта: ты да гэткае ступені пэўны сам у сабе, што ў тым самым часе, як іншыя сафістыя тояцца са сваімі ведамі, ты адкрыта падаéш да ведама перад абліччам усяе Гэльляды, што ты зьяўляешся сафістым і вучыцелем цноты 349
і асьветы, і першым прызнаў сябе годным прыймаць за гэта ганарары. І як-жаж я магу зрабіць інакш, каб не запрасіць цябе да перагляду тых пытаньняў, ня рáіцца з табою і ня пытаючы цябе? Запраўды, я мушу.

Дык вось і цяперака я вельмі хацеў-бы, каб ты адсьвежыў маю памяць адносна таго пытаньня, пра каторае я прасіў цябе на пачатку нашае гутаркі, і займець тваю помач у прадмеце дыскусыі над ім. А пытаньне, калі я не памыляюся, было гэткае: Мудрасьць і разважнасьць, мужнасьць і справядлівасьць, і пабожнасьць - ці гэта пяць назоваў аднае і тае самае рэчы? - ці наадварот, з кажным з назоваў вяжацца нейкая апрычоная існасьць і рэч, якая мае сваю апрычоную свомасьць, так што яны не пакрываюцца між сабою? І ты адказаў, што пяць успомнутых назоваў тае самае рэчы і, што кажная зь іх належыць да апрычонае рэчы і, што ўсе гэтыя рэчы зьяўляюцца часткамі цноты, - але ня так, як часткі золата, падобныя адна да другое і да свае цэласьці, якое яны часткамі зьяўляюцца, але, як часткі твару: яны не падобныя ані да цэласьці, якое яны часткамі зьяў-

ляюцца, ані адна да другое і кажная зь іх захоўвае сваю апрычоную свомасьць. Я хацеў-бы ведаць, ці гэты пагляд ты і цяперака ўтрымліваеш; а калі якколечы інакш ты думаеш цяпер, дык дай дэфініцыю гэтага. Я зусім ня буду дакарадь цябе, калі твой пагляд цяперака будзе іншым. Бо я ня буду зьдзіўленым, калі акажацца, што раней ты гаварыў так, адно каб мяне дасьледзіць.

- Я і кажу табе, Сакратас, - сказаў ён, - што ўсе гэтыя вартасьці зьяўляюцца складовымі часткамі цноты і, чатыры з гэтых пяці ёсьць блізкімі сабе, толькі мужнасьць вырозьніваецца ад іншых чатырох, што я магу давесьці гэтак: ты, магчыма, заўважыў, што чысьленыя людзі зьяўляюцца самыя несправядлівыя, бязбожныя і бяз ніякага панаваньня над сабою і някемныя, каторыя, аднак-жа, адзначаюцца своеасабліваю мужнасьцю.

- Пачакай, - сказаў я, - тое, што ты кажаш, вартае нашае ўвагі. Калі ты гаворыш пра мужных, маеш ты на ўвазе сьмелых ці якіх-небудзь іншых?

- Так, - сказаў ён; - я маю на ўвазе гэтых раптоўных, якія адважваюцца пайсьці на тое, да чаго большасьць баіцца і падыйсьці блізка.

- Як гэта? Ты прызнаеш, што цнота зьяўляецца нечым прыгожым і сябе прапануеш, як вучыцеля гэтага прыгожага?

- Так, - сказаў ён; - якраз гэтага самага прыгожага, калі толькі я астаюся пры сваім розуме.

- І што, - сказаў я, - ёсьць-жа ў ёй нешта прыгожае і нешта брыдкае ці ўсё наагул прыгожае?

- Усё прыгожае, і ў найвышэйшай ступені.

- Скажы мне, тады, хто гэтыя, што праяўляюць адвагу, калі ныраюць у вадаёмішчы?

350 - Ведама, нырцы.

- І прычына гэтага ёсьць тая, што яны ведаюць свой занятак?

- Так, гэта ёсьць прычынаю.

- А хто адважны на вайне? Ці тыя, што сьмела б'юцца з коней - коньнікі, ці мо' тыя, што ня ўмеюць езьдзіць на конях?

- Коньнікі.

- А тыя, што ваююць зь лёгкімі шчытамі - пэльтастыя ці мо' іншыя - непэльтастыя?

- Пэльтастыя. І наагул, ува ўсіх іншых выпадках рэч маецца гэтак, калі ты гэта маеш на ўвазе: сьведамыя ў дадзеным прадмеце праяўляюць болей адвагі, чымся нясьведамыя, і яны нават болей сталіся адважнымі, чымся самыя былі перад тым, як навучыліся.

– А ці не спатыкаў ты такіх, – сказаў я, – каторыя зусім нясьведамыя ў нічым, а ўсё-ж бываюць сьмелымі ў шматлікіх рэчах?

– Так, – адказаў ён, – і нават вельмі сьмелых.

– Значыцца, гэтыя сьмелыя нават і мужнымі зьяўляюцца?

– У гэткім выпадку, – адказаў ён, – мужнасьць была-б нешляхэтнаю рэчаю, бо людзі, якіх мы маем на ўвазе, у сваей сьведамасьці вельмі абмежаваныя.

– Дык што-ж, ці не назваў ты гэтакіх сьмелых мужнымі?

– Так, – адказаў ён, – і цяперака гэта ўтрымліваю.

– У такім выпадку, – сказаў я, – гэтыя сьмелыя зусім не зьяўляюцца мужнымі, але абмежаванымі ў сваей сьведамасьці? А вось крышку раней казалася, што сьведамыя праяўляюць болей адвагі, а калі яны найболей сьмелыя – дык і найболей мужныя. Ідучы па гэтай лініі разважаньня, выходзіць, што мудрасьць – гэта мужнасьць?

– Ня зусім трапна, Сакратас, – адказаў Пратагорас. – Прыпамінаеш ты сабе тое, што я гаварыў і адказваў табе? Ты пытаў мяне ці мужныя гэта сьмелыя; на гэта я адказаў афірматыўна. Але ты ня пытаў мяне ці сьмелыя – мужныя. Калі-б ты тады запытаў мяне пра гэта, дык я адказаў-бы, што ня ўсе. А што да майго адказу, дык ты не давёў, што ён быў няправільным і, што мужныя не зьяўляюцца сьмелымі, і ня гледзячы на гэта, ты ўсё далей паўтараеш, што сьведамыя зьяўляюцца болей сьмелымі, чымся яны былі перад займеньнем імі сьведамасьці і, што яны зьяўляюцца болей сьмелым ад нясьведамых; і з гэтуль ты ўжо выснаў робіш, што мужнасьць і мудрасьць – гэта адно і тое самае. Тасуючы гэтакі спосаб дыскусыі, ты можаш прыйсьці да выснаву, што моц і сіла – гэта тое самае, што мудрасьць. Бо паводля гэткага спосабу ты перш запытаў-бы мяне: людзі сільныя – моцныя? Я адказаў-бы, што так. Пасьля: ці тыя, каторыя ведаюць як дужацца, зьяўляюцца сільнейшымі за тых, што ня ведаюць гэтага спорту і за самых сябе да часу, пакуль не навучыліся? І я адказаў-бы, што так. Зноў-жа, пасьля таго, як я пацьвердзіў-бы гэта, ты, карыстаючыся падобнымі довадамі, мог-бы сказаць, што, паводля майго пагляду мудрасьць ёсьць моцаю цела.

Тымчасам я ніколі перад гэтым, ані цяперака нават не згаджаюся з тым, што быццам сільныя людзі – 351
моцныя. Затое моцныя ёсьць сільнымі; бо моц і сіла

не зьяўляюцца адным і тым самым: сіла родзіцца і зь веды, і з апанаваньня, і з запалу, тады як моц атрымліваецца ад натуры і здаровага стану цела. Гэтак, вось, рэч маецца і ў дадзеным выпадку: сьмеласьць і мужнасьць - не зьяўляюцца адным і тым самым; затым мужныя бываюць сьмелымі, але ня ўсе сьмелыя - мужнымі. Бо сьмеласьць узьнікае часамі праз мастацтва, і з апанаваньня, і запалу, гэтаксама як і сіла, але мужнасьць - з натуры і са здаровага стану душы.

- Ці згаджаешся ты, Протаґорас, з тым, - запытаў я, - што адным людзям жывецца добра, а іншым дрэнна?

- Згаджаюся.

- Ці думаеш ты, што чалавеку жывецца добра, калі жыцьцё ягонае перапоўнена горам і цярпеньнямі?

- Ведама, што не, - адказаў ён.

- А калі ён жыве прыемна да канца свайго жыцьця, ці ня выдаецца табе, што пражыў ён добра?

- Ведама, - адказаў ён.

- Тады, жыць прыемна - гэта добра, а жыць няпрыемна - гэта дрэнна?

- Так, - сказаў ён, - калі прыемнасьць была прыемнаю і чэснаю.

- І што-ж, Протаґорас? Ці і ты, гэтаксама як і большасьць людзей, называеш некаторыя прыемныя рэчы дрэннымі, і некаторыя рэчы, што выклікаюць цярпеньні, добрымі? Бо я барждзэй астаюся склонным сказаць, што, калі нешта ёсьць прыемным, дык ці-ж гэтым самым не зьяўляецца і добрым - адно, каб толькі з гэтага нічога іншага ня ўзьнікла? Гэтаксама і зь іншаю стараною справы - цярпеньнем: калі нешта цярпеньнем ёсьць, ці-ж гэтым самым не зяьўляецца нечым дрэнным?

- Ня ведаю, Сакратас, - адказаў ён, - ці я павінен адказваць гэтак проста, як проста ты пытаеш, што ўсё, што прыемнае, ёсьць добрае, а кажнае цярпеньне - дрэннае. Мне здаецца, што бясьпечней будзе, і ня толькі для дадзенае гутаркі, але магчыма і на ўсё маё жыцьцё, сказаць, што бываюць гэтакія прыемнасьці, якія не зьяўляюцца добрымі і, з другое стараны - здараюцца цярпеньні, якія ня ёсьць дрэнныя, а ёсьць і дрэнныя; у трэйцім выпадку бываюць гэтакія: ані добрыя, ані дрэнныя.

- А прыемнымі рэчамі, - сказаў я, - называеш ты гэтакія, якім свомым ёсьць прыемнасьць або будзяць пачуцьцё прыемнасьці?

- Напэўна, - сказаў ён.

– Затым бо я і кажу, што, як далёка яны зьяўляюцца прыемнымі, яны астаюцца добрымі; і маё пытаньне будзе зьмяшчаць у сабе тое, што прыемнае зьяўляецца добрым само ў сабе.

– Паводля твайго спосабу вядзеньня гутаркі, Сакратас, – сказаў ён, – давай дасьледзім разам гэтую рэч; калі досьлед будзе сьцьверджаны і ў вапошнім падсумаваньні давядзе, што прыемнае і добрае запраўды зьяўляюцца адным і тым самым, тады мы асягнем супольнасьць думкі; калі-ж не, тады кажны будзе даводзіць сваё.

– Ці хочаш ты, – сказаў я, – весьці досьлед, ці маю я пачаць?

– Ты павінен весьці, сказаў ён, – бо-ж ты і пытаньне гэтае сам узьняў.

– Ці магу я для большае яснасьці справы ўвесьці 352
прыклад? – сказаў я. – Прымем, што каму-небудзь патрэбча сьцьвердзіць стан здароўя чалавека, але бачыць яго толькі звонку, ягоны твар, канцавіны рук, затым зьвяртаецца ён да чалавека і кажа: "Калі ласка, адкрый і пакажы мне грудзі і сьпіну, каб я мог ляпей усё разгледзець". Вось гэта і ёсьць якраз тое, што я жадаў-бы бачыць у нашым разважаньні. Даведаўшыся пра твой пагляд адносна добрага і прыемнага, я хацеў-бы зьвярнуцца да цябе прыблізна з наступным: адкрый мне, калі ласка, сваю думку, Протаґорас, і выяві свой пагляд адносна веды. Ці згаджаешся ты тут, як большасьць людзей гэта чыніць, ці маеш іншы пагляд? Большасьць людзей уважае, што веда не зьяўляецца першапачаткам сілы, яна не зьяўляецца тым нечым, што нас вядзе, што валадарыць намі і кіруе. І людзі зусім ня думаюць пра яе. З другое стараны, яны ўяўляюць сабе, што чалавек мае ў сабе наяўнасьць веды, аднак ён думае, што ня веда кіруе ім, а нешта іншае: часамі гнеў, часамі прыемнасьць, а іншым разам боль, або любоў, або, магчыма, страх, – проста, быццам веда была нявольнікам, якога можна валакчы хто куды хоча. Ці гэтак прыблізна і ты думаеш пра веду, а мо ты ўважаеш, што веда шляхэтная і зьяўляецца кіруючым прынцыпам, якога ніхто ня можа асілець, і не дазволіць чалавеку, – калі толькі пазнаў ён розьніцу паміж дабром і злом, – рабіць нічога, што супроцьставіцца ведзе, а розум меціме даволі сілы, каб дапамагчы яму.

– Я згаджаюся з табою, Сакратас, – адказаў Протаґорас; – і ня толькі гэта, бо калі-б каму-колечы і было сорамна, дык мне перад усім, калі-б я не ўважаў мудрасьці і веды за найбольшую магутнасьць у

чалавеку.

- Прыгожа і праўдзіва ты кажаш, - сказаў я.-Але ты хіба сьведамым зьяўляешся таго, што людзі ўсваей пераважаючай частцы на цябе і мяне не зьвяртаюць увагі, але цьвердзяць, што, быццам шматлікія, ведаюць, што ў дадзеным выпадку ёсьць найлепшым, але рабіць гэтага ня хочуць, калі-б і была ў іх да гэтага нагода, а паступаюць наадварот. І каго я ні пытаўся адносна прычыны гэтага, усе цьвердзяць, што чыняць тое, што чыняць, бо ня могуць супроцьставіцца сіле прыемнасьці або цярпеньню ці чаму-небудзь падобнаму з гэтага, пра што я перад хвілінаю казаў.

- Так, Сакратас, - адказаў ён, - я думаю, што і шматлікае іншае людзі цьвердзяць няправільна.

- Тады хадзем, і разам з табою папробуем пераканаць людзей і растлумачыць ім, у якім гэта такім стане яны знаходзяцца, калі яны, паводля іхных у-
353 ласных словаў, "ня могуць супроцьставіцца сіле прыемнасьці", і гэтым самым занаядбоўваць тое, што найлепшым зьяўляецца і ведаюць яны гэта. А мо', калі мы ім скажам: "Людзі, вы ня маеце рацыі, вы памыляецеся", - а яны адкажуць нам: "Протагорас і Сакратас, калі гэтакі стан рэчаў ня ў тым, што мы ня можам супроцьставіцца сіле прыемнасьці, дык у чым ён знаходзіцца і што пра гэта думаеце вы? - калі ласка, скажэце нам".

- Але чаму, Сакратас, павінны мы турбавацца з прычыны таго, што думае большасьць людзей; людзі гэтыя гавораць тое, што ім толькі надарыцца.

- Я думаю, - сказаў я, - што яны могуць быць карыснымі для нас, у тым сэнсе, што яны дапамогуць нам зразумець суадносіны мужнасьці да іншых частак цноты. Калі ты і надалей астаешся пры той самай думцы, што да якое толькі што згадзіліся мы, пайменна, - трымацца прынятае намі дамоўленасьці, каб я кіраваў, дык і сьледуй за мною ў тым напрамку, у якім, паводля майго пераканаць, справа найляпей можа быць высьненаю. А калі ты ня хочаш, тады я пакіну гэта.

- Не, - сказаў ён, - ты добра гаворыш, затым ідзі наперад, гэтак, як пачаў.

- Вось, - сказаў я, - калі-б яны зноў запыталі нас: "Чым-жа, тады, паводля вашага меркаваньня, ёсьць тое, што ў нашай мове называецца быццам адсутнасьць супраціву сіле прыемнасьці?" - дык я адказаў-бы ім: "Слухайце, я і Протагорас папробуем вам растлумачыць гэта. Калі людзі знаходзяцца пад уплывам яды, піцьця і іншых пачуцьцёвых жаданьняў,

якія зьяўляюцца прыемнымі, а людзі, хоць і ведаюць, што гэта зло, усё-ж аддаюцца гэтым прыемнасьцям, дык ці-ж ня згодзіцеся вы з тым, што яны знаходзяцца пад уплывам прыемнасьці?" І яны прызнацімуць нам рацыю. Прымем цяперака, што ты і я пойдзем і зноў скажам ім: "У якім сэнсе вы прызнаеце, што яны зьяўляюцца злом? - ці ня ў тым, што яны зьяўляюцца прыемнымі ў дадзены кароткі мамэнт, а мо́ затым, што яны спрычыняюць хваробу, духовую і матэрыяльную галечу і іншыя падобныя няшчасьці на будучыню? - Ці яны і тады астануцца злом, калі яны нават ня будуць мець ні якіх дрэнных наступстваў, з тае простае прычыны, што яны ствараюць сьведамасьць прыемнасьці бяз розьніцы якога характару гэтыя прыемнасьці?" - Ці-ж не адкажуць яны, што прыемнасьці не зьяўляюцца злом з прычыны дазнаванага кароткатрываючага здаволеньня, але з прычыны пазьнейшых наступстваў - хваробаў і ім падобнага?

- Я думаю,- сказаў Протаґорас,- што наагул большасьць гэтак адкажа.

- Тое, што́ спрычыняе хваробы, спрычыняе гэтым самым і цярпеньні, і тое, што́ вядзе да галечы, вядзе гэтаксама да цярпеньняў. Калі я не памыляюся, яны згодзяцца з гэтым.

Протаґорас быў гэтае самае думкі.

- "Ці не здаецца вам, людзі, што гэтак як гаварылі мы - я і Протаґорас - што гэтыя прыемнасьці дрэнныя толькі затым, што канчаюцца цярпеньнямі і абкрадваюць чалавека зь іншых прыемнасьцяў?" Я думаю, што яны згадзіліся-б?

- Гэтак выдаецца абодвум нам. 354

- А калі-б мы паўзіраліся на пытаньне з супроцьлежнага пункту гледжаньня, і запыталі: "Паслухайце вы, людзі, каторыя ўважаеце цярпеньні за нешта добрае, ці ня маеце вы на ўвазе гэтакія рэчы, як ґімнастычныя практыкаваньні, ваенныя выправы, прыпальваньні і раскрої, тасаваныя лекарам, прыняцьце лекаў і галаданьне - гэта значыць: усё тое, што́ хоць і ёсьць добрым, аднак-жа вяжацца з паняцьцем цярпеньня?" - Ці пацьве́рдзілі-б яны гэта?

Протаґорас і з гэтым згадзіўся.

- "Ці, затым, вы гэта называеце дабром, што тымчасам рэчы гэтыя выклікаюць востры боль і цярпеньні, ці мо́ затым, што ў будучыні прыходзіць за імі здароўе і добры стан цела, карысьць для гаспадарства і панаваньне над іншымі, і багацьце?" - Я думаю, што яны згадзіліся-б з гэтым апошнім?

Протаґорас і з гэтым аставаўся ў сузгоднасьці.

- "Ці ўсе гэтыя рэчы называеце вы добрымі, затым, што, дзякуючы ім, усё канчаецца прыемнасьцю і адхіленьнем цярпеньняў? А мо' падалі-б вы якую-небудзь іншую прычыну апрача прыемнасьці і цярпеньня, дзеля якое называеце вы гэтыя рэчы добрымі?" Я думаю, што не падалі-б яны.

- І я думаю, што не, - адказаў Протаґорас.

- "Дык ці не імкнецёся вы да прыемнасьці, як да нечага добрага, і ад цярпеньня ўхіляецеся, як ад нечага дрэннага?"

І яму гэтак здалося.

- "Затым, за зло ўважаеце вы фактычна цярпеньне, а за дабро - прыемнасьць, бо вы нават прыемнасьць называеце злом, калі яно пазбаўлае вас прыемнасьці, большае ад тае, якую маеце, або спрычыняе цярпеньні большыя, чымся прыемнасьці. Аднак-жа, калі вы зь якое-небудзь іншае прычыны і, маючы на ўвазе якую-небудзь іншую мэту, называеце прыемнасьць злом, дык маглі-б вы і нам гэта выявіць, але гэтага вы не маглі выявіць".

- І я тае думкі, што яны не патрапяць, - сказаў Протаґорас.

- "А ці-ж з цярпеньнем ня гэтаксама рэч маецца? Вы называеце цярпеньне дабром, калі яно ўхіляе большыя цярпеньні, чымся тыя, якія яно мае, або дае прыемнасьці большыя, чымся цярпеньні: калі вы, называючы цярпеньні дабром, маеце-ж на думцы нейкую іншую мэту ад тае, пра якую я кажу, дык чаму-б вам ня выявіць яе нам? Але вы не патрапіце!"

- Ты праўду кажаш, - сказаў Протаґорас.

- І далей, - сказаў я, - прымем, што людзі мяне пытаюць: "Дзеля чаго ты ўжываеш гэтакую колькасьць словаў на гэта, і падходзіш да справы з розных кутоў гледжаньня?" - Выбачце мне, добрыя людзі, - сказаў-бы я; - у першую чаргу, існуюць труднасьці ў растлумачаньні выражэньня "супроцьставіцца сіле прыемнасьці"; а пасьля, у гэтым якраз і супачывае ўвесь довад. Але нават і цяпераке вы маеце яшчэ магчымасьць, калі вы можаце якім-небудзь спосабам паясьніць, што дабро - гэта нічога іншага, як прыемнасьць, а зло - нічога іншага, як цярпеньне. А мо' хопіць для вас пражыць жыцьцё без цярпеньняў і болю? Калі гэткі пагляд здавальняе вас і вы не зьяўляецеся ў стане ўтрымліваць, што дабро і зло - гэта нешта іншае і вядзе да іншых наступстваў, тады слухайце далей. Паймённа, я кажу вам, што калі рэчы гэтак маюцца, дык вашая думка стаецца сьмешнаю як доўга вы кажаце, што чалавек часамі, ведаючы,

што зло ёсьць зло, і, маючы магчымасьць не тварыць яго, усё-ж творыць яго, прыцягваны і зьбіты з панталыку прыемнасьцямі. А з другое стараны, вы кажаце, што чалавек ведае дабро, але ня хоча тварыць яго, будучы пераможаным мінаючымі прыемнасьцямі.

Што гэта сьмешным ёсьць, станецца зусім ясным, калі мы толькі супынім ужываньне розных назоваў,як - "прыемны" і "балючы", "добры" і "дрэнны". Затым, што тут маем дачыненьне зь дзьвюма рэчамі, будзем называць іх двума назовамі - перш, "дабром" і "злом", а пазьней - "прыемным" і "балючым". Выйшаўшы з гэтага залажэньня, мы можам цяперака дапусьціць, што чалавек, ведаючы, што зло зьяўляецца злом, усё-ж чыніць зло. Але нехта можа запытаць: "Чаму?" - мы адкажам: "Затым, што ён пераможаны". - "Чым?"- могуць запытаць нас. І мы не магчымем адказаць, што "Прыемнасьцю", бо ў міжчасе назоў "прыемны" заменены назовам "дабром". У нашым адказе, затым, мы скажам толькі, што ён "пераможаны". "Але чым-жа?"- будуць дамагацца адказу ад нас. "Дабром, мусіцімем мы адказаць, на Зэуса", - скажам мы. - Калі прытрапіцца, што пытаючы будзе крыху шальмаваты, тады, магчыма, ён адкажа нам сьмехам і скажа: "Запраўды, тое, што вы кажаце, сьмешным ёсьць, бо выглядае, быццам чалавек чыніць зло, калі ён пазнаў, што гэта дрэнным ёсьць, і, хоць ён гэтага не павінен чыніць, а ўсё-ж чыніць, затым, што зьяўляецца дабром пераможаны! Якім дабром? - будзе ён далей пытаць,- тым, якое аднавартасна ці неаднавартасна яму, і ня можа перамагчы зла? Ясным ёсьць, што адказваючы,мы змушаныя будзем сказаць, што ня можа перамагчы і неаднавартасна яму. Бо, калі-б было інакш, дык ня ўпаў-бы той, пра каторага казалі мы, што ён ня можа супроцьставіцца сіле прыемнасьці.

"Але ў якіх суадносінах", - можа той чалавек запытаць, - "дабро можа быць неаднавартасна злу,а зло неаднавартасна дабру? Ці ня будзе запраўднае выясьненьне ў тым, што яны астаюцца ў бессуадношаньні адзін да другога, ані гэтак, як вялікае маецца да малога, ані гэтак, як аднаго болей, а іншага меней, ці нечага адносна нечага іншага? І гэтага мы не магчымем запярэчыць. І, калі вы ўжываеце выражэньне "быць пераможаным" - што, фактычна, маеце вы на ўвазе? Ці гэта тое самае, што выбар: замест меншага добра ўзяць большае зло?" Вось дзе мы апынуліся.

А цяперака заменім назовы "дабро" і "зло" на "прыемнасьць"і"боль", і скажам, што чалавек робіць нешта дрэннае - раней ужывалі мы слова "зло", ця-

перака "балючае", ведаючы, што яно балючае, але пры
356 гэтым ён пераможаны прыемнасьцямі, ведама, гэтакі-
мі, якія ня вартымі былі перамагчы. Дый, запраўды,
якую меру можна затасаваць у ацэне суадносінаў
прыемнасьці да цярпеньня іншую, чымся болей нечага
да нечага меней, інакш кажучы, большы або меншы,
мацнейшы або слабейшы? Бо, калі-б хто-небудзь ска-
заў: "Так, Сакратас, але беспасярэдняя прыемнасьць
значна розьніцца ад прышлае прыемнасьці і будучага
цярпеньня", дык я-б адказаў: "Ці розьняцца яны ні ў
чым іншым, як толькі ў прыемнасьці і цярпеньні?Ту-
така няма ніякае іншае розьніцы. І ты, як чалавек,
здольны ўзважваць, ускінь на вагу прыемнасьці і цяр-
пеньні, гэтаксама іхную блізкасьць як і адда-
ленасьць, і скажы, якая шаля пераважвае другую? Ка-
лі ты ўзважваеш на шалях розныя прыемнасьці, выбі-
рай большыя і найболей; а ўзважваючы цярпеньні, -
выбірай меншыя і найменей. Калі-ж узважваеш прыем-
насьці і цярпеньні, тады, - у выпадку, калі прыем-
насьць перавышае цярпеньне, ці бліжэйшае перавышае
аддаленае ці наадварот, - трэба ўзяць гэтакі на-
прамак чыну, які зьмяшчае ў сабе надмеру прыем-
насьці; калі-б здарылася, што цярпеньне перавысі-
ла-б прыемнасьць, тады трэба ўхіляцца ад чыну.Ці-ж
ня гэтак рэч маецца, мае людзі?" - сказаў-бы я ім.
Я ведаю, што яны ня мелі-б што адказаць на гэта.
Ён і з гэтым згадзіўся.
- "Калі рэчы гэтак усуадношваюцца, - скажу я, -
тады адкажэце мне на наступнае пытаньне: Ці ня вы-
даецца вам адна і тая самая велічыня большаю зблі-
ка і меншаю з адлегласьці?" Яны пацьвердзяць гэта.
"Гэтаксама рэч маецца і з таўшчынёю і лікамі? I гу-
кі аднолькавага насіленьня зблізка выдаюцца сіль-
нейшымі, а з пэўнае адлегласьці - слабейшымі?" І
гэта яны пацьвярдзілі-б. Прымем, што нашае павод-
жаньне і шчасьце заключаецца ў тварэньні або ў вы-
бары большага, і ў нечыненьні або ў абмінаньні мен-
шага, што, тады, будзе збаўляючым прынцыпам людз-
кага жыцьця? Ці ня будзе гэтым прынцып мастацтва
вымерваньня; а мо будзе гэта сіла спазору? Ці ня
ёсьць гэта яна, гэтая апошняя, як зманлівае мастац-
тва, якое ўчыніла-б нас вандроўнікамі ўверх і ўніз,
і змушала-б успрыймаць рэчы ў дадзеным часе, каб
пасьля шкадаваць у іншым, з прычыны нашага чыну як
і з прычыны нашага выбару рэчаў, і ўсяроўна, вялі-
кіх ці малых? Але мастацтва вымерваньня патрапі-
ла-б ухіліць усялякую сілу гэтых спазораў, і, вы-
яўляючы праўду, абясьпечыла-б супакой душы на ўлонь-

ні гэтае праўды, і гэтым ацаліла-б нашае жыцьцё".
Ці-ж людзі не згадзіліся-б з намі ў тым, што мас-
тацтва вымерваньня прынесла-б нам ратунак, а мо
зьвярнулі-б яны нашую ўвагу на што-небудзь іншае?
- Не, толькі мастацтва вымерваньня, - сказаў ён.
- "Як-бы гэта было, калі-б памыснасьць нашага
жыцьця залежала ад трапнага выбару паміж цотным і
няцотным, і ад веданьня калі раз трапным ёсьць вы-
браць большае, а іншы раз - меншае і незалежна ад 357
таго, будзе яно большае, як гэткае або большае ў
параўнаньні зь нечым іншым, знаходзіцца яно блізка
ці далёка, - што будзе збаўляючым прынцыпам нашага
жыцьця? Ці будзе гэта веда? - веда вымерваньня,ка-
лі ўзьнікае пытаньне празьмернасьці і недахопу; і
веда лікаў, калі ўзьнікае пытаньне цотнасьці і ня-
цотнасьці? Згадзіліся-б з намі людзі ці не?
Протаґорасу здавалася, што яны згадзіліся-б.
- "Добра, мае вы людзі! Калі ўжо ўсё паказвае на
тое, што памыснасьць нашага жыцьця супачывае на трап-
ным выбары паміж прыемнасьцю і цярпеньнем, паміж
большым і меншым, паміж тым, чаго болей і тым, чаго
меней, тым, што далей і тым, што бліжэй, дык ці-ж
ня выступае тут на першае месца вымерваньне як празь-
мернасьць усяго гэтага,і недахопу, і роўнасьці ў су-
адносшаньні аднаго да другога?"
- Усё гэта няўхільна трапным ёсьць.
- А калі яно зьяўляецца вымерваньнем, тады ў сілу
неабходнасьці, яно мусіць быць мастацтвам і ведаю.
-Яны ўсе згодзяцца з гэтым, - сказаў ён.
-"Якое натуры гэтае мастацтва і навука, дык мы
разглядзім гэта іншым разам; але наяўнасьць гэткае
веды пастарчае вельмі вымоўны адказ на пытаньне,
якое вы паставілі мне і Протаґорасу. У тым часе, ка-
лі вы ставілі пытаньне, як вы напэўна і памятаеце,
мы абодва, я і Протаґорас, згадзіліся, што ня існуе
на сьвеце нічога болей магутным, як веда і, што ве-
да, у якойколечы хворме праяўленая, яна перамагае
прыемнасьць і ўсе іншыя рэчы; паводля вашых-жа ў-
ласных словаў прыемнасьць асільвае чалавека зь ве-
даю; але пасьля таго, як мы з вамі не згадзіліся,
вы запыталі нас: "Протаґорас і Сакратас, калі гэ-
такі стан рэчаў ня ў тым, што мы ня можам супроць-
ставіцца сіле прыемнасьці, дык у чым ён знаходзіц-
ца і што пра гэта думаеце вы? - калі ласка, скажэ-
це нам". Калі-б мы тады зараз-жа вам сказалі, што
дзеецца гэта з прычыны адсутнасьці веды, дык вы вы-
сьмеялі-б нас; але, калі вы пачнеце цяперака сьмя-
яцца з нас, дык вы будзеце сьмяяцца з самых сябе:

бо-ж вы гэтаксама згадзіліся, што людзі ў выбары паміж прыемнасьцямі і цярпеньнямі памыляюцца; гэта значыць, у іхным выбары паміж дабром і злом, памыляюцца з прычыны недахопу веды; і вы згадзіліся далей, што яны памыляюцца ня толькі з прычыны недахопу веды наагул, але ў вапрычонасьці гэтае веды, якая называецца ведаю вымерваючага мастацтва. Вы гэтаксама ведаеце, што памылковае дзеяньне, якое даконваецца з прычыны адсутнасьці веды, узьнікае з прычыны наяўнасьці няведаньня. Тут якраз і ляжыць значэньне думкі - быць пераможаным прыемнасьцю: няведаньнем, і то найбольшым на сьвеце. А вось нашыя прыяцелі, Протаґорас і Продікос, і Гіппіяс падаюць да ведама, што зьяўляюцца лекарамі і маюць сродак супроць няведаньня. Але вы, каторыя знаходзіцеся пад хвальшывым уражаньнем, быццам няведаньне не зьяўляецца тут прычынаю і, што мастацтва, пра якое я кажу, ня можа быць навучанае, ня ідзяце самыя, ані пасылаеце сваіх дзяцей да сафістых, каторыя зьяўляюцца вучыцелямі гэтых рэчаў і не даеце ім грошай, пра якія гэтак шмат турбуецеся; і ў выніку ўсяго гэтага чыніце шкоду сабе, як прыватным людзям і як грамадзянам.

358 Прымем, што гэтак вось адказалі-б мы людзям. А цяперака я хацеў-бы запытаць цябе, Гіппіяс, і цябе, Продікос гэтаксама як і Протаґораса /і няхай разважаньне гэтае будзе нашым супольным/, як вам выдаецца, гавару я правільна ці не?

Усе яны згадзіліся, што я гаварыў у сузгоднасьці з праўдаю.

- Дык вы згаджаецеся, - сказаў я, - што прыемнае ёсьць дабром, а балючае - злом? І тут я хацеў-бы прасіць Продікоса пакінуць на баку сваё разьмежаваньне паміж словамі, якога ён трымаецца. Ці называеш ты гэта прыемным, радасным ці здаволеным. Аднак-жа, якколечы ты жадаеш назваць гэта, я хацеў-бы прасіць цябе, дастойны мой Продікос, каб ты адказваў з вычуцьцём таго, пра што мне ідзе.

Са сьмехам Продікос згадзіўся і ўсе іншыя зь ім.

- Тады, мужы мае, - кажу я, - і што-ж вы скажаце на гэта? Ці-ж ня прыгожымі зьяўляюцца ўсе тыя дзеяньні і карыснымі, каторыя маюць на ўвазе ўчыніць жыцьцё бястурботным і прыемным? А праца чэсная ці-ж не зьяўляецца карыснаю і добраю?

Усе згадзіліся.

- Цяпер-жа, - сказаў я, - калі прыемнае ёсьць добрым, дык ніхто, - калі ён ведае або здагадваецца, што нешта іншае ёсьць лепшым за тое, што ён

чыніць і зьяўляецца яму даступным, - ня будзе рабіць таго дрэннага, што раней рабіў, калі мае магчымасьць рабіць нешта лепшае. Чуцца ніжэйшым за самога сябе - гэта нішто іншае, як няведаньне, а быць на вышыні свае годнасьці - нішто іншае, як мудрасьць.

Усе яны згадзіліся з гэтым.

- Як-жа? Ці няведаньне - гэта памылковы пагляд і самаашуканства ў прадмеце галоўных пытаньняў?

I з гэтым яны згадзіліся.

- Ці-ж ня гэтак рэч маецца, што ніякі чалавек добраахвотна ня імкнецца да злога або да таго, што ён уважае за зло. Гэта нават і не ляжыць у натуры чалавека, каб з уласнае волі, замест да дабра, ісьці ў напрамку, які ён уважае за злы. Калі чалавек змушаным ёсьць, з двух дрэнных рэчаў, выбраць адну, дык ніхто ня выбярэ большае, калі існуе выбар меншае.

Усе мы згадзіліся з тым, што пачулі мы.

- I далей, - сказаў я, - ёсьць-жа нешта такое, што вы называеце боязьзю, страхам? Цікава, ці ня тое самае, што я? I тут, Продікос, я хацеў-бы ў апрычонасьці ведаць, ці ты згодзішся са мною ў дэфініцыі гэтага страху ці боязі, як вычуцьцё надыходу нейкага зла?

Протаґорас і Гіппіяс згадзіліся, што гэта боязь і страх, але Продікос сказаў, што гэта боязь, але ня страх.

- Гэта, Продікос, не найгалаўнейшае, - сказаў я; - галоўнае вось дзе ляжыць: калі тое, што было сказана намі раней, астаецца правільным, дык ці захоча хто-небудзь зь людзей пайсьці на тое, чаго ён баіцца, у тым часе, калі ён мае свабодны выбар таго, што ня ёсьць страшным? Ці ня будзе гэта ў простай супярэчнасьці з тым, у чым мы ўжо раней згадзіліся, пайменна, што ён думае, што рэчы, якіх ён баіцца, зьяўляюцца злом, а таго, што ўважае за зло, ніхто ня творыць і ня прыймае добраахвотна.

I з гэтаю думкаю ўсе згадзіліся. 359

- Тады, - сказаў я, - гэта ўсё, Продікос і Гіппіяс, уважаецца як нашая прадумова; няхай цяперака Протаґорас бароніць перад намі правільнасьць сваіх папярэдніх адказаў. Я ня маю на ўвазе таго, што ён казаў на самым пачатку: бо ягонае першае сьцьвярджаньне, як вы магчыма і памятаеце, было, што з пяці частак цноты, ані водная зь іх не падобная да іншае, але кажная мае сваю ўласную апрычонасьць. Але цяперака я не пра гэта гавару, а пра тое, што ён

пазьней казаў, калі пачаў цьвердзіць, што зь пяці чатыры былі даволі блізкімі сабе, але адна зь іх - пайменна, мужнасьць - значна вырозьніваецца ад іншых. І на доказ гэтага ён падаў наступны доказ: "Ты спаткаеш, Сакратас, людзей асабліва бязбожных, несправядлівых, і без ніякага панаваньня над сабою, і някемных, а ўсё-ж вельмі мужных, што і даводзіць, што мужнасьць значна вырозьніваецца ад іншых частак цноты". Я ўжо і тады вельмі зьдзівіўся, чуючы гэтакі адказ, а цяперака, пасьля таго, як мы ўсё дасьледзілі, яшчэ болей дзіўлюся. Затым я тут-жа і запытаў яго: ці, гаворачы пра мужных, мае ён на ўвазе сьмелых? І ён адказаў: Але і адважных, бо гатовых пайсьці на страшныя рэчы. Ці прыпамінаеш ты сабе, - кажу, - гэтакі твой адказ?

Ён пацьвердзіў.

- Тады, - сказаў я, - скажы нам супроць чаго адважныя зьяўляюцца гатовымі ісьці - супроць тае самае небясьпекі, што і баязьлівыя?

- Не, - адказаў ён.

- Тады супроць нечага іншага?

- Так, - адказаў ён.

- Дык што? - баязьлівыя ідуць на тое, на што патрэбна нахабства, а мужныя - на тое, што страшна?

- Так, Сакратас, людзі кажуць гэтак.

- Зусім трапна, - сказаў я, - але не пра гэта я пытаю. Я хачу ведаць, супроць чаго, па-твойму, адважныя гатовы ісьці - ці супроць таго страшнага, што яны ўважаюць за страшнае ці супроць таго, што не ўважаюць за страшнае?

- Не, - сказаў ён. - Твае разважаньні выказалі, што першае ёсьць немагчымым.

- У гэтым, - адказаў я, - ты маеш рацыю. І, калі гэта было трапна даведзена, тады ніхто ня ідзе супроць страшнага, што ўважае ён за страшнае, бо-ж і выкрылі мы, што чуцца ніжэйшым за самога сябе-гэта няведаньне.

- Ён згадзіўся з гэтым.

- Зноў-жа, калі людзі адважваюцца ісьці супроць нечага, дык ідуць усе - і баязьлівыя, і мужныя; гэткім спосабам і баязьлівыя, і мужныя ідуць на сустрэчу аднае і тае самае рэчы.

- А ўсё-ж, Сакратас, - сказаў Протагорас, -тое, супроць чаго ідуць баязьлівыя, зьяўляецца супроцьлежным таму, супроць чаго ідуць адважныя. Адным з прыкладаў можа быць хоць-бы ісьці на вайну: адны хочуць ісьці, а іншыя ня хочуць.

- Ісьці на вайну, - сказаў я, - зьяўляецца рэ-

чаю прыгожаю ці брыдкаю?

– Прыгожаю, – адказаў ён.

– Калі прыгожаю – тады і добраю; бо-ж мы згадзіліся, што прыгожыя чыны зьяўляюцца добрымі.

– Ты праўду кажаш; і падобнага роду думкі я заўсёды зьяўляюся прыхільнікам.

– Правільна, – сказаў я. – Але каторы з двух, як ты кажаш, ня хоча ісьці на вайну, хоць гэта і пры- 360
гожа, і добра?

– Баязьлівыя, – сказаў ён.

– Зноў-жа, – сказаў я, – тое, што прыгожае і добрае ёсьць гэтаксама і прыемнае?

– З гэтым мы згадзіліся, – адказаў ён.

– Ці-ж, тады, баязьлівыя сьведама ўхіляюцца ісьці ў напрамку таго, што ёсьць прыгажэйшым, лепшым і прыямнейшым?

– Калі-б мы згадзіліся з гэтым, – сказаў ён, – мы нарушылі-б раўнавагу ўсяго таго, адносна чаго раней прыйшлі мы да сузгоднасьці.

– А мужны чалавек? Ці ня ідзе ён у напрамку таго, што ёсьць прыгажэйшым, лепшым і прыямнейшым?

– З гэтым трэба згадзіцца, – сказаў ён.

– Наагул-жа, калі мужныя баяцца – гэта ня ёсьць дрэнны страх, і ня дрэнная адвага, калі адважваюцца?

– Праўда, – сказаў ён.

– А калі адно і другое ня дрэнна, дык – прыгожа?

Ён згадзіўся з гэтам.

– А калі прыгожа, дык і добра?

– Але

– Зноў-жа, баязьлівыя і задзірыстыя, і безрасудныя, наадварот: адчуваюць дрэнны старх і дрэнную бадзёрасьць, калі стаюцца бадзёрымі?

Ён згадзіўся.

– І маюць бадзёрасьць яны на ганебнае і дрэннае праз нешта іншае, ці праз няведаньне і цемру?

– Рэч гэтак маецца, – сказаў ён.

– Ну, а тое, з прычыны чаго баязьлівыя стаюцца баязьлівымі, называеш ты баязьлівасьцю ці мужнасьцю?

– Я сказаў-бы баязьлівасьцю, – адказаў ён.

– А ці не спасьцераглі мы, што людзі стаюцца баязьлівымі з прычыны таго, што ня ведаюць, што запраўды страшным ёсьць?

– Так, спасьцераглі, – сказаў ён.

– Значыцца, з прычыны няведаньня стаюцца яны баязьлівымі?

Ён згадзіўся.

- А ці не згадзіўся ты ўжо, што тое, з прычыны чаго стаюцца яны баязьлівымі, ёсьць безадважнасьць?

Ён і гэта пацьвердзіў.

- Тады няведаньне таго, што́ страшна і што́ ня страшна, ёсьць баязьлівасьць?

На знак згоды ён кіўнуў галавою.

- І напэўна, - сказаў я, - мужнасьць ёсьць супроцьлегласьць баязьлівасьці.

І з гэтым ён згадзіўся.

- А разуменьне таго, што́ страшна, а што́ ня страшна, гэта супроцьлегласьць няведаньня?

Ён яшчэ кіўнуў галавою.

- А няведаньне тут - гэта баязьлівасьць?

Зь вялікім прымусам над сабою кіўнуў ён галавою.

- Згэтуль, мудрасьць у зразуменьні таго, што́ страшна і што́ ня страшна - гэта мужнасьць; поўная супроцьлежнасьць няведаньню тут?

Цяперака ён зусім ужо не захацеў падтакваць галавою і змоўк.

- Ну, што, Протаґорас, - зьвярнуўся я да яго? - Ты не падтакваеш таго, што́ я гавару і не запярэчваеш?

- Ты ўжо сам давядзі ўсё да канца, - сказаў ён.

- Яшчэ толькі пра адно, - сказаў я, - хачу цябе запытаць; ці ты ўсё яшчэ перакананы, што існуюць людзі, якія хоць і скрайна нясьведамыя, а ўсё-ж вельмі мужныя?

- Ты выдаешся мне, - сказаў ён, - вельмі настырлівым, Сакратас, і хочаш, каб я адказваў. Добра, я ўчыню табе прыемнасьць і скажу, што на падставе таго, у чым мы папярэдня згадзіліся, мне выдаецца гэта немагчымым.

- Дык я-ж і пытаюся пра ўсё гэта, - сказаў я, -
ні зь якою іншаю мэтаю, як толькі, каб разгледзець,
як маецца рэч з цнотаю і ўпэўніцца што да самое сут-
361 насьці яе. Бо, калі-б гэта высьнілася да канца, дык
сталася-б зусім ясным тое, з прычыны чаго кажны з
нас гэтак доўга гаварыў: я, цьвердзячы, што цноты
навучыцца ня можна, а ты - што можна. Мне здаецца,
што апошняе падсумаваньне нашых разважаньняў падобным ёсьць да жывога чалавека. Бо, калі-б нашае разважаньне мела людзкі голас, дык голас гэты стаўся-б чутным і высьмейваючым нас, кажучы: "Дзіўныя вы людзі, Сакратас і Протаґорас! Гэта-ж ты, Сакратас утрымліваў яшчэ нядаўна, што цноты ня можна навучыць, а цяперака сам сабе пярэчыш, даводзячы, што ўсё зьмяшчаецца ў ведзе: і справядлівасьць, і разважнасьць, і мужнасьць, - што́ выразна паказвае на

тое, што цноты можна навучыць. Бо, калі-б цнота была нечым іншым, чымся веда, як Протагорас прабаваў давесьці, дык ясным было-б, што цноты ня можна было-б навучаць. Але, калі цнота ў сутнасьці сваей веда, што ты настырліва так цьвердзіш, Сакратас, тады дзіўным было-б, калі-б цноты ня можна было-б навучыць. З другое стараны, Протагорас, каторы пачаў з цьверджаньня, што яна можа быць навучанаю, цяперака зацята даказвае, што яна можа быць чым хочаце, толькі ня ведаю; і, калі гэта ёсьць правільным, тады яна не зьяўляецца аб'ектам навучаньня".

Зноў-жа я, Протагорас, назіраючы поўнае хістаньне нашых паглядаў, маю неапанаванае жаданьне ўсё гэта выясьніць, з замерам, каб мне, пасьля таго, як усё разважым, разабрацца ў тым, што гэта такое цнота, і зноў пастарацца знайсьці адказ на пытаньне: можна яе навучыцца ці ня можна. З тым, аднак, каб гэты самы Эпімэтэус, што думае за позна, пры нашых разважаньнях ня ўвёў нас у блуд, як гэта, паводля тваіх словаў, учыніў ён тады, абмінаючы нас пры распадзеле дароў. У гэтым міталягічным апавяданьні Промэтэус мне болей падабаецца, чымся Эпімэтэус, бо, займаючыся ўсімі гэтымі пытаньнямі, я бяру прыклад зь яго, і на працягу ўсенькага свайго жыцьця я стараюся ня быць неразважным. Затым, калі гэта будзе пакрывацца з тваім замерам, я, гэтаксама як і казаў на пачатку, зь вялікаю прыемнасьцю разважу гэта разам з табою.

І Протагорас на гэта адказаў:

- Сакратас, з натуры я не зьяўляюся дрэнным чалавекам, і зайздрасьці ў мяне меней, чымся ў любога чалавека на сьвеце. Я высака цаню сабе твой праяў энэргіі і твой спосаб вядзеньня разважаньняў. І гэтак, як часта я і казаў пра цябе, што з тых з,кім я меў нагоду спаткацца, я найболей захопліваюся табою, і асабліва сярод людзей твайго веку. І проста кажу табе, што я пераканаиы, што ты станешся вельмі праслаўленым у філязофіі. А што да прадмету нашага сучаснага разважаньня, я спадзяюся, што мы яшчэ мецімем нагоду вярнуцца да яго ў днях, што надыйдуць; а цяпераака пара нам заняцца іншымі справамі.

- Так і трэба ўчыніць, калі ты гэткае думкі, - 362
сказаў я. - Мне гэтаксама час ісьці туды, куды я, як і казаў, зьбіраўся. Бо-ж забавіўся я тут толькі дзеля прыемнасьці нашага прыгожага Кальліяса.

На гэтым дыялёг кончыўся, і мы разышліся.

Гэйнсвільл, 19 ліст. 1974

Гэтакім я ўжо ёсьць, ня гэтулькі далікатны, як барджджэй нязграбны, і пра нішто іншае ня турбуюся, як толькі пра праўду.

САКРАТАС

/Гіппіяс вялікшы, 288/

Усюды ў дыялёгах, дзе выступае Сакратас, чытач дазнае тое самае пачуцьцё, якое аднойчы прывяло Плятона да зьмены свайго жыцьцёвага напрамку. Шматлікія біяграфы, камэнтатары і дасьледвальнікі сакратычнага веку на працягу тысячагодзьдзяў ня могуць знайсьці дастатксва адпаведных словаў і выражэньняў, каб пераказаць той воблік духова-інтэлектуальнага Сакратаса, які бачаць яны ў свaім уяўленьні.

Для прыкладу, вывучальнік грэцкага сьвету - Альфрэд Вільлям Бэнн перад няпоўнымі сто гадоў таму, з захопленьнем пра Сакратаса пісаў +/:

Пакідаючы на ўзбоччу легендарны бліск, у сусьветнай гісторыі няма болей слаўнага імяні, як Сакратаса, а ў гісторыі філязофіі - няма болей ведамага. Адзін адзіны думаньнік, які ўпадабняецца да яго ў выдатнасьці, зьяўляецца яроны ўласны вучань - Плятон, сын Арыстона. Кажны чалавек, які чуў пра Грэцыю ці Атэны, чуў пра яго. Кажны чалавек, каторы чуў пра яго, ведае, што быў ён у высокай ступені і добры і вялікі. Кажнае паступаючае па сабе пакаленьне пацьвярджае слаўны дэльфійскі аракул, што ніхто ня быў мудрэйшым, чымся Сакратас. Ён сам, з адным ці з двума іншымі людзьмі, зьбліжыўся да сьведамасьці ідэалу стоіцкае мудрасьці. Хрысьціяне не ўважаюць за непаважлівасьць параўноўваць яго з Закладчыкам іхнае рэлігіі. Калі некалькі інакш думаючых галасоў і нарушаюць агульную тут сузгоднасьць думкі, дык яны, сьведама ці ня сьведама, астаюцца пад узьдзееньнем сакратычнага прынцыпу, што чалавек не павінен пераказваць далей ніякага невыэкзамінаванага пагляду.

Здарылася, што гэтая цудоўная постаць зьяўляецца болей ведамаю для аграмаднае колькасьці людзей з самага спазору, гэтаксама як і зь імя. Бюсты, камэі як і разьба спрычыніліся да спапулярызаваньня тыпу твару, падобнага да сіленасаў - тоўстыя вусны, кірнаты нос і лупатыя вочы, якія гэтак глыбака выдзельваюцца ў выяўленьні людзей з нахілам у зацікаўленьні нічым іншым, як толькі фізычнаю прыгожасьцю, бо яны правільна ўважалі, што яна зьяўляецца натуральным сапраўджальнікам маральнае ґрацыі. Той, хто хацеў-бы бліжэй запазнацца з манерою

---

+/ "The Greek Philosophers" by Alfred William Benn, Лёндан, 1882, том I, бб. 108-110.

розуму, укрытага пад гэтаю ня вельмі прывабнаю вонкавасьцю, можа хутка здаволіць сваю цікавасьць, бо Сакратас зьяўляецца асабовасьцю болей ведамаю, чым які-небудзь іншы характар старажытнасьці.

Ён праводзіў гутаркі з рознымі клясамі людзей і на ўсе тэмы, якія цікавілі чалавека: з рамесьнікамі, мастакамі, стратэгамі, дзяржаўнымі мужамі, прафэсарамі і з прыгожымі жанчынамі. Мы бачым яго ў майстэрні зброі, у студыі скульптара, у банкетных залях пры ўспырсках віна ўвенчанае вянкамі атэнскае моладзі, спалучаючы ў сабе самастойнасьць майстры на кшталт Антыстэнаса, з далікатнаю ласкавасьцю Арыстыпоса; або ў небясьпечнай хвіліне пацяшаючага сваіх сяброў у часе адступленьня з-пад Дэліёну; або перасьцерагаючага сьвяты абавязак перад правам, як Прэзыдэнт Народнага зграмаджэньня, у прысутнасьці ўсхваляваных прастакоў; або ставячага чало з неспасьцярожнаю гіроніяю аліґархічным тэрорыстым, трымаючымі жыцьцё і сьмерць у сваіх руках; або стоячага перад сфанатызаваным і бязмысным трыбуналам з просьбаю не для самога сябе, але для розуму і справядлівасьці; і ў вапошняй, з усіх найболей сумнай сцэне, дорачага ўзаемнаю аттыцкаю далікатнасьцю, неахвотны акт уласнае сьмерці.

Гэтакі характар у кажным выпадку, мусіў-бы быць цудоўным; ён стаецца сваеасаблівым, а мо', барджэй, адзіным, калі мы возьмем пад увагу, што Сакратас мог быць гэтакім і гэтак шмат учыніць, не затым, каб стацца філёзафам, але затым, што ён быў філёзафам, галоўным, хоць і не адзіным арыгінальным у разьлеглай інтэлектуальнай рэвалюцыі; але адзіны, каторы, як вучыцель, творыць найвышэйшы аўтарытэт розуму, і як індывідуум - чыніць розум адзіным кіраўніком свайго жыцьця.

Рэасумуючы вышэй сказанае, неабходным стаецца яшчэ раз зьвярнуць нашую ўвагу на некаторыя з тых прычынаў, якія паставілі Сакратаса на адумысны пэдэстал у гісторыі філязофіі. Тое, што чыніць Сакратаса апрычоным, ляжыць у вылажаных ім прынцыпах разумнага, справядлівага і этычнага жыцьця адзінкі як і людзкае супольнасьці. У цывілізаваных супольнасьцях сягоньня ёсьць прыняты агульны пагляд, што бяз гэтых прынцыпаў жыцьцяё чалавека ня будзе добрым, а грамадзкае жыцьцё - змораю.

Сакратас, як ніхто іншы перад ім, з усёю яснасьцю зьвяртае ўвагу людзей, што людзі маюць вялікі дар ў хворме іхнага розуму. Розумам трэба карыстацца, калі жыцьцё людзей мае быць разумным. Паводля

Сакратаса, чалавек ніколі не павінен пашыраць няспраўджаную вестку або выдаваць суд, карыстаючыся ўласным пачуцьцём або тым, што яму можа здавацца, забабонам, зайздрасьцю ці эгоізмам. Падход гэтакі ў жыцьці распасьціраецца на ўсіх людзей, і асабліва на тых, што займаюць у грамадзе адказныя становішчы.

У духу сакратычным, чалавек павінен на працягу ўсенькага свайго жыцьця імкнуцца да мудрасьці. Мудрасьць у чалавеку родзіцца ў тую самую хвіліну і з тае самае прычыны, якая змушае бацьку пасылаць сына ў школу. Бацька ведае, што сын ягоны шматлікага ня ведае. Ён ведае, што чаго сын ня ведае, апошні можа навучыцца ў школе. Згэтуль выснаў, што ключ да веды - гэта распазнаньне або выкрыцьце ўласнага няведаньня. Гэтае самае практыкуе Сакратас у асабістым жыцьці. Сакратас сьцьвярджае, што ён ведае, што ён ня ведае. З гэтае прычыны ён не прамінае нагоды, каб гаварыць зь людзьмі, каб паглыбіць сваё даананьне і ўзбагаціць сваю веду. Ён не саромеецца, што таго ці гэтага ён ня ведае; бо ён ведае, што ў гэтым вызнаньні свае няведы, крыецца пачатак веды і мудрасьці, да якое ён імкнецца і да якое заклікае кажнага чалавека.

Сакратас кладзе асаблівы акцэнт на паняцьце права. З паняцьцем права, натуральнага і пісанага, вяжацца цесна паняцьце справядлівасьці.

Наколькі Сакратас з Плятонам, з прычыны праклямаванае імі справядлівасьці, стаюцца волатамі ў дзяяльнасьці адвечнага імкненьня людзей і народаў, нагэтулькі сама справядлівасьць знаходзіць што раз болей і болей зразуменьня сярод этычна думаючых людзей як і тых, што нясуць бераме несправядлівасьці на сваіх уласных плячох.

Права вывучае чалавек; права інтэрпрэтуе чалавек; справядлівасьць вымерваецца чалавекам. Права і справядлівасьць, аднак, маюць сваю іншую старану - у чалавеку. Якое-ж бо значэньне можа мець разуменьне права і важнасьць справядлівасьці пры нястачы добрага і прыгожага чалавека? Згэтуль выплывае падвойная неабходнасьць: па-першае, выканаўца права і справядлівасьці мусіць быць этычным, маральным; па-другое, сам чалавек, як успрыймальнік справядлівасьці, мусіць быць сьведамым і перакананым, што паняцьце права і справядлівасьці - гэта рэальнасьць, якая ў сілу свае прыналежнасьці да іх, распасьціраецца і абавязвае кажнага чалавека. І тое, у дадзеным дачыненьні, што адносіцца да чалавека, рас-

пасьціраецца на кажны паасобны народ як і на ўсе існуючыя народы на сьвеце.

З увагі на тое, што паняцьце народу ўтоесамліваецца з супольнасьцю людзей, у якую ўваходзіць людзкая індывідуальнасьць – стаецца імпэратывам для кажнага чалавека працаваць над сабою ў напрамку самаўсьведамленьня што да сваіх абавязкаў як і да сваіх правоў. "На колькі ўзбольшыце і палепшыце душу вашую, на гэтулькі палепшыце правы вашыя і пабольшыце граніцы".+/ Чалавек павінен верыць, што сьвет, у якім ён жыве, крочыць у напрамку справядлівасьці.

"Чалавек зьяўляецца мераю ўсіх рэчаў". Усе рэчы зьяўляюцца толькі тым, чым чалавек можа іх учыніць. Затым Сакратас хоча, каб рэчы гэтыя былі добрымі. Сакратас адзін зь першых стаецца наўзорам этычных паводзінаў у жыцьці, гэтых самых паводзінаў, якія пазьней абернуцца ў камплекс філязафічнае навукі – этыкі, якая будзе адносіцца да грамадзкіх і псыхалягічных крыніцаў узьніканьня маральных паглядаў і крытэрыяў ацэны маральнага паступаваньня; да нормаў, якія будуць вызначаць спосаб нашых паводзінаў.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, мы ляпей разумеем В.Тэпіна – чалавека высокае культуры, аўтара працаў з галіны літаратуры, прафэсара мэтодыкі выкладаньня літаратуры – які ў трыццатых гадох у часе выкладаў на Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, як і ў прыватных гутарках, часта выказваўся, што для завяршэньня свае культурнае аглады чалавек павінен быць абазнаным з антычнымі культурамі Грэцыі і Рыму. Голас Тэпіна не зьяўляецца адзіным. Ґільбэрт Маррэй, прафэсар грэцкае культуры на Оксфордзкім Унівэрсытэце, кажа: "...мы павінны быць здольнымі зразумець, чаму клясычная грэцкая літаратура сталася асноваю адукацыі праз усю пазьнейшую старажытнасьць; чаму ейнае кажнаразовае адкрыцьце, якколечы часткавае і якколечы недасканала зразуметае, было здольным ашаломіць найболей адважныя розумы Эўропы і стварыць свайго роду духовае адраджэньне, і як далейшы і далейшы яе досьлед усё яшчэ можа быць вартым прадпрыняцьцем чалавека, каб правесьці сваё жыцьцё над ёю і быць здольным у даньні людзкасьці кіраўніцтва гэтак як і выклікаеньня натхненьня." Робэрт М. Гатчынс /Вялікія Кнігі, том I, б. XI/ кажа, што "Ніякі чалавек ня можа ўважацца за адукаванага, ня будучы абазнаным з клясычнымі працамі свае традыцыі". Падобную думку выражае В. П. /"Літва", №4, б.

+/ Адам Міцкевіч, Księgi pielgrzymstwa polskiego, XX.

252/, калі ён даслоўна кажа: "Бязь веданьня слаўных твораў грэцкай і рымскай старой літаратуры цяжка ўявіць сабе Беларуса, які мог-бы добра разумець нашую літаратуру, гісторыю й культуру. То-ж наша ўся культура базуецца ня толькі на свбскіх нацыянальных вытоках, але на здабытках эўрапэйскай культуры, а грэцкай у асаблівасьці". Тое самае кажа Гантінґтон Кэйрнэс: "Утрымлівалася думка,што зварот да зьместу дыялёгаў, зьяўляецца зваротам да карэньня нашага".+/

Гэта, зноў, вядзе нас да абагульненьня, што ніякі народ у сваім культурным прагрэсе ня можа ўчыніць належнага поступу, ня ўводзячы ў сваю літаратуру духовае спадчыны Сакратаса, Плятона, Арыстотэлеса і іншых прадстаўнікоў яе і, ня чынячы яе альманахам старажытнае мудрасьці для штодзеннага ўласнага чыну.

=

Удзел у дыялёгу прыймаюць дзьве асобы - Сакратас і Гіппіяс.

Галоўная тэма дыялёгу - пытаньне прыгожага. Усе людзі любяць прыгожае, усе людзі гавораць аб прыгожым. Няхай, тады, яны скажыць, што гэта такое гэтае прыгожае, чым яно зьяўляецца.

Дыялёг вядзецца проста, часамі нават некансаквэнтна, бяз імкненьня накінуць некаму свой паглад, але з выразнаю мэтанакіраванасьцю - знойдзеньня праўды ў пытаньні адносна прыгожага.

- Можаш ты мне сказаць, - пытаецца Сакратас Гіппіяса, - што гэта такое прыгожае?

Гіппіяс ведае што ёсьць прыгожае; Гіппіяс можа адказаць, і Гіппіяс адказвае:

- І ведай-жа дакладна, Сакратас, - кажа ён,-калі трэба гаварыць праўду, дык вось што: прыгожае - гэта прыгожая дзяўчына./287/.

Сакратас сумняваецца што да Гіппіясавага адказу і ставіць яму новае пытаньне:

- А прыгожая жарабіца, ці-ж не зьяўляецца прыгожаю?

- Ты праўду кажаш, Сакратас... Бо-ж і запраўды, спатыкаюцца ў нас вельмі прыгожыя жарабіцы.

- Няхай будзе гэтак, - кажа Сакратас, - а што з прыгожаю ліраю? Ці-ж ня прыгожая яна? Ці згодзімся мы з гэтым, Гіппіяс?

І Гіппіяс згаджаецца. Калі апошні згаджаецца,ягонае цьверджаньне адносна прыгожае дзяўчыны, губіць грунт пад сабою, а Сакратас далей пытае:

+/The Collected Dialogues of Plato, Ed. by Edith Hamilton & Huntington Cairnes, 1966, p.XIII.

- А што з прыгожым гаршком, ці-ж ня ёсьць ён прыгожы?

Гэтакае пытаньне, як выдаецца Гіппіясу, можа толькі неўзгадованы чалавек ставіць, калі ён адважваецца такія нізкія рэчы ўздымаць у гэтак паважнай справе!

У гэтай стадыі дыскусыі выразна выступае, што адна і тая самая рэч ёсьць і прыгожаю і брыдкаю адначасна. Асабліва гэта стаецца відавочным, калі Сакратас у далейшым ходзе дыялёгу кажа, што найпрыгажэйшы з гаршкоў будзе агідны, калі параўнаць яго зь дзявочым родам. І зноў-жа, - кажа далей Сакратас, - калі хто-небудзь дзявочы стан параўнае з багіняю, дык выйдзе яму падобна, як у параўнаньні гаршка да дзяўчыны. Ці-ж ня выйдзе тады найпрыгажэйшая дзяўчына брыдкаю? - пытаецца Сакратас.

У дэфініцыі прыгожага Сакратас абапіраецца на факце прысутнасьці ў аб´екце прыгожага як гэткага - самой ідэі прыгожага. /287, 288/.

- Ці ня выдаецца табе, - кажа Сакратас, - што, як толькі прыгожае як гэткае - дзякуючы якому, усё іншае ўпрыгожваецца і выяўляецца прыгожым - як толькі гэтая ідэя прыходзіць да сутыку з чым-небудзь - тады <u>гэта</u> стаецца прыгожаю дзяўчынаю, прыгожым канём або прыгожаю лiраю? /289/.

Думка гэтая выступае тут адумысна, як тэма; тая самая думка, якую мы ўжо спатыкалі ў іншых Плятонавых дыялёгах.

Ахінаючы цэласьць прачытанага дыялёгу, ня трудна заўважыць, што тут выступаюць два спосабы ў падыходзе да штодзеннае рэчаіснасьці, дзьве розныя мэнтальнасьці бачаць сваю старану ў разважаньні.

Гіппіяс хватаецца за папулярнасьць аргумэнтацыі, тады, як Сакратас, не шманае пра апінію большасьці. Яму галоўна ідзе пра тое, штó кажа лёгіка і да гэтага яшчэ сама праўда.

З мэтаю падтрыманьня свайго пункту гледжаньня, Гіппіяс вельмі часта хватаецца за стары, як сьвет, і "пераконваючы" арґумэнт, паймена, што ЎСЕ гэтак думаюць /288/, што ЎСЕ мы ведаем /289/, што ЎСЕ гэтак кажуць- "гэта пагляд большасьці людзей". /299/. О, гэта важкі арґумэнт! Гэты самы арґумэнт ужываюць абвінаваццелі Сакратаса ў часе судовага працэсу над апошнім: пад яголым уплывам знаходзяцца прысяжныя і засуджваюць Сакратаса на сьмерць; перад гэтым арґумэнтам Анаксаґорас мусіць уцякаць з Атэнаў; арґумэнт гэты ўзьняў на крыж Ісуса з Назарэту; Ён паставіў на калені Ґалілея і спаліў Яна Гуса ...і ся-

гоньня, апрануўшыся ў воблік сафістага, шэпча на кажнае прастацкае вуха: Бачыце, УСЕ нашыя людзі, як людзі, а ён – вунь што; мудрагельствам займацца пачаў, разумным хоча быць! Такое пачаў гаварыць, чаго прадзяды нашыя ня чулі!

Так, гэта старое зьявішча на сьвеце: існавалі заўсёды дзьве натуры чалавека. Адна натура, – яе рэпрэзэнтуе Гіппіяс, – гэта чалавек, які ня ломіць сабе галавы над рознымі хітра сплеценымі пытаньнямі жыцьця. Або, калі займаецца, дык толькі ў выпадках апрычоных, пераважна асабістых. Ён проста ўваходзіць у жыцьцё, бярэ яго гэтакім, якім яно ёсьць, укарэньваецца ў яго рознага віду багацьцем і гэтак шчасьліва вытварае ў сабе пачуцьцё самаздаволеньня. Гэта тып шчасьлівага чалавека. Гэтакіх шчасьлівых людзей любяць кіраўнікі бадай-што ўсіх дзяржаўных апаратаў, бо людзі гэтыя, будучы шчасьлівымі, а гэтым самым і ціхамірнымі, ня спрычыняюць нікому ніякага клопату; іхныя вымаганьні – хлеб і ігрышча.

Другую натуру рэпрэзэнтуе Сакратас. Гэтакі чалавек, як і першы, знаходзіцца ў васяродзьдзі жыцьця, жыве ў ім і для яго, але ён, на дабро ці зло для сябе, зьяўляецца ўніклівым чалавекам. Будучы гэтакім, якім ён ёсьць, ён пачынае думаць. Гэтакі чалавек, як Сакратас кажа нам, ніколі ня жыве адзін; ён заўсёды жыве зь нейкім блізкім сваім сваяком, які, як цень, ідзе за ім – і гэтым ягоным сваяком зьяўляецца ягонае сумленьне. Кажны раз, калі ён, вярнуўшыся да хаты, мае хвіліну вольнага часу, сьведамасьць у ім адзываецца і ставіць пытаньні, з пасярод якіх: Што гэта такое прыгожае?

І тут даходзім да сутнасьці дыялёгу.

Спачатку атрымліваецца ўражаньне, што дыскусыю вядуць два тэорэтыкі адносна пытаньня прыгожасьці, пытаньня, якое, на першы пагляд, ня мае ніякага павязаньня ані з тымі, што вядуць дыялёг, ані практычнага затасаваньня ў жыцьці наагул. Гэтае ўражаньне яшчэ болей паглыбляецца, калі мы даходзім да таго месца дыскусыі, дзе пытаньне разьбіраецца ў сьвятле суадносінаў прыемнага, – выкліканага, дзякуючы зроку і слуху, – да прыгожага.

Не, паняцьце прыгожага – гэта ня толькі справа тэорэтычных разважаньняў; паводля Сакратасавае думкі, гэта ключ да вырашэньня многіх пытаньняў, накіраваных з мэтаю займеньня прыгожага і добрага жыцьця.

Калі сьведамасьць, прабуджаная ў чалавеку, ставіць пытаньне адносна прыгожасьці, тады пытаньне

губіць сваю тэорэтычнасьць у той прапорцыі, у якой сумленьне зьяўляецца асабовасьцю самога чалавака. У Сакратаса прыгожасьць расьцягваецца на ўсе пытаньні, якія твораць сабою канву жыцьця, якім чалавек жыве.

Прыгожая дзяўчына? Прыгожая кабыліца? гаршчок? мяшалка?... Так. Але і далей:

А што гэта такое навука? справядлівасьць? Дый ня толькі навука, але прыгожая навука; дый ня толькі справядлівасьць, але прыгожая справядлівасьць? І тут пачынаюцца пытаньні, якія вядуць да разважаньняў, а разважаньні да новых пытаньняў, а зь іх да таго самага пытаньня пра прыгожае. Ці-ж жыцьцё чалавека ня мае быць прыгожым? - Не, жыцьцё павінна быць прыгожым. І яно можа быць прыгожым, калі прыгожым ёсьць сам чалавек у сваіх імкненьнях да маральнае прыгожасьці. Прыгожы ўрад у супольнасьці, прыгожыя адказныя людзі? Ці-ж ня ёсьць прыгожым мець прыгожую свабоду, прыгожую роўнасьць, прыгожае братэрства паміж людзьмі і народамі, якія падтрымліваюць і роўныя і прыгожыя правы на нашай Зямлі?

Гэта ідэалістычная філязофія, апавяшчэньню якой Сакратас з Плятонам прысьвяцілі сваё жыцьцё.

Ян Пятроўскі

Ґэйнсвільл, Флярыда
9 студзеня 1975 г.

# ГІППІЯС ВЯЛІКШЫ

Асобы дыялёгу

Сакратас; Гіппіяс

=

САКРАТАС: Гіппіяс, прыгожы і мудры – нарэшце, пась- 281
ля даўжэйшага часу, ты завітаў да нас у Атэны!

ГІППІЯС: З прычыны недахопу часу, Сакратас. Бо кажны раз, калі Эліс ма́е нейкую справу палагодзіць у якім-небудзь месьце, заўсёды перш зьвяртаецца да мяне перад тым, як да каго-небудзь іншага, і мяне выбірае, як свайго прадстаўніка, уважаючы мяне за найболей адпаведнага ў ацэне палажэньня рэчаў і пераказчыка тых моваў, якія звычайна перадаюцца словамі ад кажнага места. Затым, шмат разоў я ўжо быў паслом у розных местах, але пераважна і найчасьцей з прычыны чысьленых і важных справаў – у Лякедаймоне. Гэтым і прыходжу я да адказу на тваё пытаньне – я нават ня бываю ў вашых ваколіцах.

САКРАТАС: Вось што значыць, Гіппіяс, быць запраўды мудрым і дасканалым мужам. Бо-ж ты і ў прыватным жыцьці здольным зьяўляешся браць ад маладых людзей вялікія грошы і яшчэ болей адудзячвацца ім, чымся сам атрымліваеш, а ў грамадзкім жыцьці наагул умееш праяўляць сябе, аддаючы ўслугі ўласнаму месту, гэтак, як і павінен паступаць кажны, хто не жадае, каб людзі адносіліся да яго з пагардаю, але, наадварот, хоча цешыцца добраю славаю бальшыні. Але, Гіппіяс, якая прычына можа быць, што тыя ў старажытнасьці, імёны якіх гэтак высака цэняцца з прычыны іхнае мудрасьці, як напрыклад, Піттакос і Біяс, і тыя з асяродзьдзя Талеса зь Мілетосу, дый тыя, што пасьля іх жылі аж да Анаксаґораса ўключна, – усе, або большасьць зь іх, здаецца, трымаліся здалёк ад палітычнае дзейнасьці?

ГІППІЯС: І што-ж іншае ты думаеш магло тут быць, Сакратас, як ня тое, што яны ня былі здольнымі і ў стане агарнуць розумам адно і другое – справы грамадзкага характару, як і прыватнага?

САКРАТАС: На Зэуса, дык гэта падобна да тых вунь іншых мастацтваў, што пайшлі наперад, а ў параўнань-

ні да сягоньняшніх майстроў нічога нявартыя; тое самае трэба сказаць і пра вашае мастацтва, мастацтва сафістых, якое займела гэтакія асягненьні, затым тыя мудрацы ў супроцьпастаўленьні да вас нічога нявартыя?

ГІППІЯС: Ты зусім трапна гаворыш.

282 САКРАТАС: Калі-б, Гіппіяс, Біяс сягоньня жывым зьявіўся між намі, дык ён выклікаў-бы сьмех сярод вас; гэтаксама, як пра Дайдалёса, кажуць разьбры, што, калі-б ён цяперака жыў і тварыў гэтакія рэчы, з прычыны якіх стаўся слаўным, дык зь яго сьмяяліся-б.

ГІППІЯС: Рэч запраўды гэтак маецца, як ты кажаш, Сакратас. Аднак-жа я звычайна ўздымаю ў пахвалах старажытных і тых, што жылі перад намі болей, чымся сучасных, і гэта з прычыны жаху перад зайздрасьцю жывых гэтаксама як і перад страхам помсты памершых.

САКРАТАС: Ты, Гіппіяс, як мне здаецца, добра думаеш і разважаеш. I я мушу пацьвердзіць правільнасьць тваіх вывадаў і прызнаць, што вашае мастацтва ўчыніла посьпех у тым сэнсе, што яно дае магчымасьць праводзіць справы гэтак грамадзкага характару як і прыватнага. Вось, напрыклад, прыехаў сюды Ґорґіяс з Леантыну, сафісты, у справах урадавых са свайго дому, як прадстаўнік найболей здольны зпасярод грамадзян Леантыну, з мэтаю палагоджаньня грамадзкіх справаў; выступаючы ў Народным зграмаджэньні, ён здабыў сабе славу добрага прамоўцы,а выступаючы прыватна з прамовамі і ў зносінах з маладымі людзьмі, зарабіў і сабраў з нашага места значную колькасьць грошай. А калі хочаш, дык і наш прыяцель, ведамы Продікос, ён часта і раней прыяжджаў сюды ў грамадзкіх справах, а вось апошні раз, нядаўна, прыбыў з Кеосу гэтаксама з падобнага роду справамі, займеў сабе вялікае ўзнаньне з прычыны сваіх прыватных аратарскіх выступленьняў, а падтрымліваючы кантакт з маладымі людзьмі, здабыў непраўдападобна вялікія грошы. З тых старажытных ніхто сабе не ўважаў за гонар, каб дамагацца для сябе грашовае ўзнагароды і выстаўляць на паказ сваю мудрасьць перад усякага роду людзьмі. Вось, як простымі яны былі, што нават не заўважылі якую вялікую вартасьць маюць грошы! А з гэтых двух кажны зарабіў болей грошай на сваей мудрасьці, чымся які-колечы майстра са сваім мастацтвам. А перад імі яшчэ – Протаґорас.

ГІППІЯС: Дык ты, Сакратас, нічога добра пра гэта ня ведаеш. Бо, калі-б ты ведаў, колькі я грошай

зарабіў, тады-б ты дзіву даўся. Я праміну іншыя нагоды, але аднойчы прыбыў я ў Сыцылію якраз у тым часе, калі знаходзіўся там Протаґорас - чалавек вялікае славы і старэйшы за мяне, і ўсё-ж, ня гледзячы на тое, што я быў значна маладзейшы за яго, у кароткім часе я зарабіў болей, як сто пяцьдзесят мінаў, а з аднаго толькі малога мястэчка, Інікос, вывез болей, як дваццаць мінаў. Прыбыўшы з гэтымі грашыма да хаты, я алдаў іх бацьку, а ён і ўсе іншыя грамадзяне аж аслупелі са зьдзіўленьня. Я думаю, што я бадай-што зарабіў болей грошай, чымся якія-небудзь два іншыя сафістыя, узятыя разам.

САКРАТАС: Гэта запраўды, Гіппіяс, прыгожы і вя-
лікі довад твае мудрасьці як і наагул сучасных лю- 283
дзей, наколькі яны перавышаюць старажытных. Бо паводля таго, што ты кажаш, выяўляецца вялікая дурніца [з часоў хоць-бы Анаксаґораса]. Бо з Анаксаґорасам здарылася якраз супроцьлежнае таму, што здараецца з вамі; атрыманую ў спадку вялікую маемасьць ён занядбаў і згубіў усё - вось якім безразважным мудрацом быў ён. І падобнае апавядаюць гэтаксама і пра іншых, што жылі ў старажытнасьці. Затым, як мне выдаецца, кладзеш ты перад намі прыгожы довад мудрасьці сучасных людзей у параўнаньні з тымі вунь, дый шматлікія згаджаюцца з гэтым пунктам гледжаньня, займенна, што разумны перадусім мусіць быць разумным для самога сябе. І значэньне гэтага простае: каб як найболей зарабіць грошай.

Але хопіць пра гэта. Вось скажы ты мне: у якім месьце, з тых, што ты адведваеш, зарабіў ты найболей грошай? Напэўна ў Лякедаймоне, дзе ты найчасьцей бываеш?

ГІППІЯС: На Зэуса, не, Сакратас.

САКРАТАС: Як гэта? Найменей?

ГІППІЯС: Наагул я там ніколі нічога не атрымаў.

САКРАТАС: Дзіўна гэта і незразумела, Гіппіяс. Скажы мне аднак, ці мудрасьць твая не патрапіць учыніць болей мужным таго, хто мае дачыненьне зь ёю і вўчыцца яе?

ГІППІЯС: І нават шмат, Сакратас.

САКРАТАС: Але сыноў грамадзян Інікосу быў-жаж ты ў стане ўчыніць лепшымі, а вось сыноў спартанцаў - не патрапіў?

ГІППІЯС: Зусім не.

САКРАТАС: Тады, сыцылійцы праяўляюць жаданьне стацца лепшымі, а лякедаймонцы не?

ГІППІЯС: Гэтаксама і лякедаймонцы, Сакратас.

САКРАТАС: Магчыма яны ўхіляліся ад супольнасьці з табою з прычыны недахопу грошай?

ГІППІЯС: О, не, грошай яны маюць даволі.
САКРАТАС: Дык што-ж гэта за прычына, што, хоць і жаданьне выказваюць, і грошы маюць, а ты ў стане зьяўляешся аказаць ім бясцэнныя ўслугі ў найважнейшых рэчах, і ўсё-ж яны адпусьцілі цябе, не наклаўшы табе грошай? Ці-ж бы лякедаймонцы ляпей за цябе ўзгадоўвалі сваіх сыноў? Ці рэч запраўды гэтак маецца і ты згаджаешся з гэтым?
ГІППІЯС: Ані крышку.
САКРАТАС: А моʼ ты ня быў у стане пераканаць маладых людзей у Лякедаймоне, што ў суспольненьні з табою яны ўчыняць лепшы поступ у галіне цноты, чымся ў блізкіх суадносінах са сваімі? А моʼ ты ня быў у стане пераканаць бацькоў гэтых маладых людзей, што, калі яны рупяцца пра сваіх сыноў, тады яны барджджэй павінны даручыць іх табе, чымся самым займацца імі? Бо-ж хіба ня з прычыны зайздрасьці бацькі перашкаджалі сваім дзецям стацца, як найболей лепшымі?
ГІППІЯС: Я гэтаксама думаю, што не з прычыны зайздрасьці.
САКРАТАС: І Лякедаймон кіруецца добрымі правамі.
ГІППІЯС: Ведама.
284 САКРАТАС: А ў гаспадарствах, што кіруюцца добрымі правамі, мужнасьць /ἀρετή/ астаецца ў найбольшай пашане?
ГІППІЯС: Напэўна.
САКРАТАС: А ты-ж ляпей за ўсіх людзей ведаеш як выкладаць яе для іншых.
ГІППІЯС: Тут нават і параўнаньня ня можа быць, Сакратас.
САКРАТАС: Ну, а той, хто найболей прыгожа ўмее выкладаць мастацтва коннае язды, ці-ж не ў Тэссаліі ён будзе карыстацца найбольшым гонарам, чымся дзе-небудзь на іншым месцы ў Гэльлядзе, ці-ж ня там ён атрымае найболей грошай, гэтаксама як і на кажным іншым месцы, дзе з асаблівай ўвагаю займаюцца гэтым?
ГІППІЯС: Вельмі магчыма.
САКРАТАС: А той, хто зьяўляецца ў стане выкладаць навукі, якія спрыяюць у пашырэньні мужнасьці, ці-ж не ў Лякедаймоне займее ён найвялікшыя гонары? Ці-ж ня тамака заробіць ён найвялікшыя грошы, калі толькі ён захоча, гэтаксама як і ў любым гэльленістычным месьце, якое кіруецца добрымі правамі? Няўжо ты думаеш, мой дружа, што гэта будзе мець месца барджджэй у Сыцыліі і ў Інікосе? Павінны мы паверыць гэтаму, Гіппіяс? Хіба што ты загадаеш - тады паверым.

ГІППІЯС: Гэта не ляжыць у характары лякедаймонцаў, Сакратас, каб зьменьваць правы і ўзгадоўваць сыноў наўсуперак прынятым з давен-даўна звычаем.

САКРАТАС: Як гэта!? У лякедаймонцаў не ляжыць у характары паступаць правільна, а трэба памыляцца?

ГІППІЯС: Гэтага я-б не сказаў, Сакратас.

САКРАТАС: А ці не паступалі-б яны правільна, калі-б узгадоўвалі маладых людзей ляпей, а ня горай?

ГІППІЯС: Правільна; але ў іх уважаецца за несузгоднасьць з правам даваць чужынецкае ўзгадаваньне. Ты павінен ведаць, што, калі-б хто-колечы калі-небудзь атрымліваў грошы за ўзгадаваньне, дык я атрымаў-бы іх, і яшчэ болей за іншых. Што найменей яны і рады бываюць паслухаць мяне і хваліць. Але, як ужо казалася, у іх нямашака гэткага права.

САКРАТАС: Як ты думаеш, Гіппіяс, права для гаспадарства - гэта шкода ці карысьць?

ГІППІЯС: Права ўводзіцца, як я думаю, з прычыны карысьці; але часамі яно стаецца шкодным, калі дрэнна ўведзена.

САКРАТАС: Як гэта? Ці-ж тыя, што ўводзяць права, ня ўводзяць яго як найбольшае дабро для гаспадарства? Дый без яго ці-ж можна жыць у правазгоднасьці?

ГІППІЯС: Ты праўду кажаш.

САКРАТАС: Затым, калі тыя, што імкнуцца ўвесьці права, памыляюцца ў асягненьні дабра́, дык яны памыляюцца адносна таго, што́ зьяўляецца праўным як і адносна самога права. І што ты скажаш на гэта?

ГІППІЯС: Калі падыйсьці да гэтага паважна, Сакратас, дык рэч гэтак і маецца; але, звычайна, людзі гэтак не выражаюцца.

САКРАТАС: Якія людзі, Гіппіяс? Тыя, што рэч ведаюць, ці тыя, што не разумеюць яе?

ГІППІЯС: Большасьць.

САКРАТАС: А ці гэтая большасьць ведае праўду?

ГІППІЯС: Ведама, што не.

САКРАТАС: Затым, тыя, што ведаюць яе, уважаюць, што, запраўды, правам для ўсіх ёсьць тое, што́ прыносіць найбольшую карысьць, а ня тое, што́ найболей шкодзіць. Ці ня згодзішся ты з гэтым?

ГІППІЯС: Так, я згаджаюся, што рэч гэтак маецца.

САКРАТАС: А ці ня маецца запраўды рэч гэтак і не здараецца так, як думаюць тыя, што́ ведаюць гэтыя рэчы?

ГІППІЯС: Ве́дама.

САКРАТАС: Але для лякедаймонцаў, як ты ўтрымліваеш, болей карысным ёсьць атрымліваць узгадавань- 285
не ад цябе, - хоць яно і чужынецкае, - чымся ат-

рымліваць узгадаваньне, прынятае з давен-даўна ў іхнай краіне.

ГІППІЯС: І я праўду кажу.

САКРАТАС: Але ты, Гіппіяс, гэтаксама ўтрымліваеш, што тое, што болей карысным - болей праўным ёсьць?

ГІППІЯС: І гэта я сказаў.

САКРАТАС: Затым, паводля тваіх словаў, для сыноў грамадзян Лякедаймону будзе болей у сузгоднасьці з правам, атрымліванае ўзгадаваньне ад цябе, а атрымліванае ад іхных бацькоў - меней сузгоднае з правам, калі толькі гэтыя сыны запраўды атрымаюць ад цябе болей карысьці.

ГІППІЯС: Напэўна яны атрымаюць карысьць, Сакратас.

САКРАТАС: З гэтага, лякедаймонцы дзейнічаюць супроць права, калі не даюць табе золата і не давяраюць табе сваіх сыноў?

ГІППІЯС: З гэтым я згаджаюся; бо мне здаецца, што ты гаворыш на маю карысьць, і мне няма патрэбы пярэчыць табе.

САКРАТАС: Дружа мой, мы прыходзім да высснаву, што ляконцы паступаюць супроць права, і,ў дадзеным выпадку, паступаюць у найболей важнай справе, хоць яны і выдаюцца найболей паслухмянымі праву. Але дзеля багоў, Гіппіяс, з прычыны чаго яны бываюць рады слухаць і за што хваляць цябе? Напэўна за тое, што ты ляпей за ўсё ведаеш - за навуку пра зоры і што творыцца на небе?

ГІППІЯС: Зусім не; гэткае навукі яны сьцярпець ня могуць.

САКРАТАС: А пра ґэомэтрыю ахвотна яны цябе слухаюць?

ГІППІЯС: Ніколі; бо і рахаваць, папросту кажучы, шматлікія зь іх ня ўмеюць.

САКРАТАС: Затым, немагчыма ўявіць сабе, каб яны праяўлялі ахвоту слухаць цябе, калі ты выступаеш з цяжкімі вылічэньнямі.

ГІППІЯС: На нябёсы, запраўды, немагчыма.

САКРАТАС: Але, ведама, тое, што ты ўмееш разьбіраць найляпей за ўсіх - гэта значыць: пра свомасьць літараў і складоў у слове, пра рытмы і гармоніі, - яны-ж рады бываюць паслухаць цябе?

ГІППІЯС: Пра якія там, мой добры, гаворыш ты гармоніі і літары!

САКРАТАС: Тады што з прыемнасьцю яны слухаюць у цябе і за што хваляць? Скажы ты мне сам, бо я тут нешта не магу ўцяміць.

ГІППІЯС: Пра паходжаньне, Сакратас, герояў і лю-

дзей, пра асяленьне, як гэта ў старадаўныя часы закладаліся месты, і наагул пра ўсё іншае, што адносіцца да старажытнасьці - гэта слухаюць яны найахвотней; затым, з увагі на іх, я і сам змушаны быў вельмі старанна вывучаць усе гэтыя рэчы.

САКРАТАС: На Зэуса, Гіппіяс, ты маеш шчасьце, што лякедаймонцы не ахвотна слухаюць, калі ім хто нашых архонтаў пералічвае, пачынаючы з Солёна. Бо інакш, меў-бы ты шмат клопату, каб навучыцца пра іх.

ГІППІЯС: Чаму, Сакратас? Калі я раз толькі пачую пяцьдзесят імёнаў, я запамятаю іх.

САКРАТАС: Ты праўду кажаш; мне бо і ў цям ня прыйшло, што ты абдораны мастацтвам запамятаньня; цяперака я разумею, чаму лякедаймонцы павінны цябе 286 спатыкаць з радасьцю, бо ты шмат ведаеш і зь цябе яны гэтакую карысьць маюць, як дзеці са старых бабаў, слухаючы цікавыя апавяданьні.

ГІППІЯС: Так, на Зэуса, Сакратас, з прадмету ўсіх прыгожых веданьняў і заняткаў, якімі павінен займацца малады чалавек, нядаўна я меў там значнае асягненьне. Трэба яшчэ і тое ўзяць пад увагу, што на гэтую тэму я меў асабліва прыгожа ўкладзеную прамову. Яна прыгожая пад кажным кутом гледжаньня і асабліва сваім адпаведным даборам словаў. Уводзіны і пачатак прамовы гэтакі: Калі Троя была здабыта,- гаворыцца ў прамове, - Нэоптолемос запытаў Нэстора, якія заняткі маюць быць, каторыя малады чалавек практыкаваць павінен, каб дайсьці да найлепшае славы. Адказваючы на гэта, Нэстор прадкладае яму вялікую многасьць слушных і прыгожых рэчаў. З гэтаю прамоваю я там выступаў і пасьлязаўтра тут манюся выступіць у школе Фэйдостратоса, гэтаксама як і са шматлікімі іншымі прамовамі, каторыя вартымі зьяўляюцца паслухаць. Бо мяне запрасіў Эўдзікос, сын Апэмантоса. Не забудзь-жа, сам прыйдзі дый прывядзі з сабою іншых, якія патрапяць, пасьля выслуханьня, ацаніць прамову.

САКРАТАС: Гэтак і станецца, Гіппіяс, калі Бог дазволіць. А тымчасам адкажы мне коратка адносна паняцьця прыгожага, якое ты прывёў на ўспамін. Бо нядаўна, мой даражэнькі, калі я ў нейкай гутарцы ганіў адно, як брыдкае, а другое хваліў, як прыгожае, адзін чалавек увёў мяне ў праўдзівы клопат, калі ён паставіў мне, і вельмі нахабна, прыкладам, гэткае пытаньне: "І скуль ты, мой дарагі Сакратас, ведаеш, - сказаў ён, - што якраз зьяўляецца прыгожым і што брыдкім? Можаш ты мне сказаць што гэта такое прыгожае?" А я з прычыны свае няздольнасьці апынуў-

ся ў зьбянтэжанасьці і ня ведаў што яму дарэчы адказаць. Выходзячы з зграмаджэньня, я гневаўся на самога сябе, сварыўся і выгражаўся самому сабе, што пры першай нагодзе, як толькі спаткаюся з кім-небудзь з вас, мудрацоў, дык распытаюся добра і, калі агарну ўсё гэта і перадумаю, вярнуся зноў да гэтага чалавека, што паставіў мне тое пытаньне, каб працягваць гутарку. Цяперака, як я ўжо і сказаў, якраз у самую пару цябе спатыкаю, дык ты павінен належна навучыць мяне адносна таго - што гэта такое прыгожае і навучы мяне дакладна, як толькі гэта магчыма, як адказваць, каб мне другі раз не спатыкнуцца ў дыскусіі і зноў ня стацца аб'ектам сьмеху. Бо-ж ты гэта дакладна ведаеш, і я пэўны, што гэта толькі малая частка сярод тых шматлікіх ведаў, якія ты агарнуў і якімі валодаеш.

ГІППІЯС: На Зэуса, Сакратас, запраўды малая і, калі гэтак можна сказаць, нічога нявартая.

САКРАТАС: Дык я лёгка навучуся і ў дыскусіі ніхто мяне не пераможа.

ГІППІЯС: Напэўна ніхто, бо інакш, справа мая а-
287 казалася-б нічога нявартаю і сам я астаўся-б мізэрным.

САКРАТАС: На Гэру, Гіппіяс, ты добра гаворыш; адно, каб нам толькі перамагчы вунь таго чалавека. І я думаю, што не пашкодзіць табе гэта, калі я буду прыкідвацца тым чалавекам і запярэчваць твае адказы - а гэта затым, каб ты мяне найболей старанна навучыў. Я ўжо трохі здабыў дазнаньня ў запярэчваньнях. Затым, калі табе гэта ня чыніць розьніцы, дык я буду табе пярэчыць, каб ляпей навучыцца.

ГІППІЯС: Рабі толькі гэта. Бо, як я ўжо і сказаў, пытаньне гэтае не вялікага значэньня; я мог-бы навучыць цябе адказваць на пытаньні шмат труднейшыя, так, каб цябе ніхто ў дыскусіі ня мог зьбіць.

САКРАТАС: О, як прыгожа ты гаворыш. Ну, тады, калі ты жадаеш сабе гэтага, дык я як найболей стануся падобным да таго чалавека, і спробую цябе запытаць. Бо, калі-б ты сказаў сваю прамову, пра якую ты ўспамінаеш, - тую, пра прыгожыя заняткі, - тады, калі-б ты кончыў, ён, перадусім, запытаў-бы цябе, /бачыш бо, гэтакі ўжо ў яго нароў/, і азваўся-б прыблізна гэтак: "О, госьць з Элісу, ці няпраўда, што справядлівыя людзі зьяўляюцца праз справядлівасьць справядлівымі?" Адказвай-жа, Гіппіяс, так, быццам гэты чалавек цябе пытаецца.

ГІППІЯС: Я адкажу, што праз справядлівасьць.

САКРАТАС: "Значыцца, справядлівасьць ёсьць нечым?"

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: "І мудрыя зьяўляюцца мудрымі праз мудрасьць? І ці-ж ня дзякуючы дабру, усё стаецца дабрым, што́ добрым ёсьць?"

ГІППІЯС: І як-жаж можа быць інакш?

САКРАТАС: "І ўсё гэта нечым зьяўляецца, бо-ж ня ёсьць гэта нічога?"

ГІППІЯС: Ведама, што гэта ёсьць нечым.

САКРАТАС: "Дык ці-ж ня ёсьць усё прыгожае прыгожым праз прыгожае?"

ГІППІЯС: Але́, праз прыгожае.

САКРАТАС: "І гэтае прыгожае нечым зьяўляецца?"

ГІППІЯС: Так, нечым; і пра што тут ідзе?

САКРАТАС: "Тады адкажы мне чужынец, - скажа ён,- чым-жа зьяўляецца гэтае - прыгожае?"

ГІППІЯС: Дык што, Сакратас, той, што пытаецца, нічога іншага ня хоча ведаць, але толькі тое, што́ ёсьць прыгожае?

САКРАТАС: Мне здаецца, Гіппіяс, што не; ён хоча даведацца, што́ гэта такое прыгожае.

ГІППІЯС: А чым адна рэч прыгожая розьніцца ад іншае?

САКРАТАС: Думаеш ты, што нічым ня розьніцца?

ГІППІЯС: Ведама, што нічым ня розьніцца.

САКРАТАС: Як відаць, ты ляпей ведаеш. Аднак-жа, паўзірайся ляпей, мой даражэнькі: ён-жа бо ня пытаецца цябе пра тое, што́ [з рэчаў] ёсьць прыгожае, але чым прыгожасьць зьяўляецца.

ГІППІЯС: Разумею, дружа мой, і адкажу яму, што́ ёсьць прыгожае, і ён ужо не магчыме зьбіць мяне. І ведай-жа дакладна, Сакратас, калі трэба гаварыць праўду, дык вось што: прыгожае - гэта прыгожая дзяўчына.

САКРАТАС: На пса прысягаю, Гіппіяс, прыгожа і прыемна адказаў ты! Запраўды, калі я гэтак адкажу, я
адкажу на пытаньне, і адказ будзе правільны і ні- 288
хто мяне зьбіць не патрапіць.

ГІППІЯС: Дый як-жаж патрапіць цябе зьбіць хто-небудзь, Сакратас, калі ўсе гэтак дымаюць, і кажны, хто гэта пачуе, пасьведчыць, што ты кажаш правільна.

САКРАТАС: Няхай будзе гэтак. Але ўсё-ж, дазволь, Гіппіяс, яшчэ раз мне самому перадумаць тое, што ты сказаў. Той чалавек гэтак прыблізна мяне запытае: "Калі ласка, Сакратас, адказвай мне: Усё тое, што́ ты называеш прыгожым, будзе прыгожым, калі існуе прыгожае як гэткае?" І на гэта я адкажу, што, калі існуе прыгожая дзяўчына, дык гэта і ёсьць тое, праз

што ўсё прыгожае будзе прыгожым?

ГІППІЯС: Ці думаеш ты, што ён адважыцца яшчэ зьбіць цябе, цьвердзячы, што тое, пра што ты гаворыш, не зьяўляецца прыгожым, або, калі ён адважыцца на падобнае, ці-ж ня ўчыніць ён сябе аб'ектам агульнага сьмеху?

САКРАТАС: Тое, што ён адважыцца, дзіўны ты чалавеча, гэта я ведаю напэўна, але ці ўчыніць ён сябе сьмешным, калі адважыцца на гэта, будучыня пакажа. А тое, што ён будзе гаварыць, я табе скажу.

ГІППІЯС: Тады скажы.

САКРАТАС: "І які-ж ты міленькі, Сакратас! - скажа ён. - А прыгожая жарабіца, якую нават сам бог у аракуле пахваліў, ці-ж не зьяўляецца прыгожаю?" І што мы на гэта скажам, Гіппіяс? Ці ня згодзімся мы з тым, што і жарабіца ёсьць прыгожыю? Як-жаж мы пасьмеем пярэчыць і казаць, што прыгожае ня ёсьць прыгожае?

ГІППІЯС: Ты праўду кажаш, Сакратас; і бог правільна выразіўся пра гэта. Бо-ж і запраўды, спатыкаюцца ў нас вельмі прыгожыя жарабіцы.

САКРАТАС: "Няхай будзе гэтак, - скажа ён, - а што з прыгожаю ліраю? Ці-ж ня прыгожая яна?" Ці згодзімся мы з гэтым, Гіппіяс?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: На гэта - я лёгка сабе ўяўляю, бо ведаю ягоную кемнасьць - той чалавек скажа: "Але добры ты чалавеча, а што з прыгожым гаршком, ці-ж ня ёсьць ён прыгожы?"

ГІППІЯС: О, Сакратас, што гэта за чалавек? Ён мусіць быць неўзгадаваным, калі ён адважваецца такія нізкія рэчы ўздымаць у гэтак паважнай справе.

САКРАТАС: Гэтакім ён ужо ёсьць гэты чалавек, Гіппіяс, ня гэтулькі далікатны, як барджжэй нязграбны, і пра нішто іншае ня турбуецца, як толькі пра праўду. І, ня гледзячы на гэта, яму трэба адказаць, а што адказаць - я наперад падаю: Калі гаршчок выкручаны добрым ганчаром, гладкі, круглы і прыгожа выпалены, як некаторыя бываюць запраўды прыгожыя з двума вушкамі, што зьмяшчаюць у сабе шэсьць мерак, і, калі ён гэтакі гаршчок мае на ўвазе, дык трэба згадзіцца, што ён прыгожы. Бо і як-жаж можна назваць ня прыгожым тое, што прыгожым зьяўляецца?

ГІППІЯС: Зусім немагчыма, Сакратас.

САКРАТАС: "Дык ці-ж не зьяўляецца, - скажа ён, - прыгожы гаршчок - прыгожае? Адказвай!"

ГІППІЯС: Я думаю, Сакратас, што рэчы гэтак маюцца. Прыгожаю зьяўляецца і гэтая пасудзіна, калі

яна прыгожа выпрацавана, але ўзятае ўсё разам, ня-
вартым ёсьць, каб уважацца прыгожым у параўнаньні з
жарабіцаю, дзяўчынаю і ўсім іншым прыгожым.
САКРАТАС: Добра; я разумею, Гіппіяс, што таму, 289
хто ставіць падобныя пытаньні, мы павінны адказаць:
Чалавеча, ты мусіць ня ведаеш як трапна ў дадзеным
выпадку выразіўся Гэраклітос: "Найпрыгажэйшая з нал-
паў ёсьць брыдкаю, калі параўнаць яе зь людзкім ро-
дам." А з гаршкоў найпрыгажэйшы будзе агідны, ка-
лі параўнаць яго зь дзявочым станам, як кажа Гіппі-
яс мудрэц. Ці ня гэтак, Гіппіяс?
ГІППІЯС: Зусім трапна, Сакратас, адказаў ты.
САКРАТАС: Тады слухай. На гэта, - я пэўным зьяў-
ляюся, - ён скажа: "Як гэта, Сакратас, калі хто-не
будзь дзявочы стан параўнае з родам багоў, ці-ж ня
выйдзе яму падобна, як у параўнаньні гаршка да дзяў-
чат? Ці-ж ня выявіцца тады найпрыгажэйшая дзяўчына
брыдкаю? Ці-ж ня цьвердзіць гэтае самае і Гэраклі-
тос, на якога ты паклікваешся, пайменна, што "Най-
мудрэйшы зь людзей, у параўнаньні да бога, выдасца
налпаю, гэтак паводля свае мудрасьці як і паводля
прыгожасьці, і паводля ўсяго іншага". Ці-ж ня пры-
знацімем, Гіппіяс, што найпрыгажэйшая дзяўчына ў
параўнаньні да багіні выявіцца брыдкаю?
ГІППІЯС: І хто-ж змог-бы пярэчыць гэтаму, Сакратас?
САКРАТАС: Калі мы прызнацімем рацыю яму, дык той
чалавек усьміхнецца і скажа: "Ты памятаеш, Сакратас,
пра што я цябе пытаўся?" - Пэўна, што памятаю, ад-
кажу я, ты пытаўся: Што гэта такое прыгожые як гэт-
кае? - "А ты, - скажа ён, - на пытаньне адносна
прыгожага, падаеш у вадказ нешта гэткае, як ты сам
кажаш, што прыгожае ані крышку не зьяўляецца боль-
шым, чымся брыдкае?" - Заўвага выдаецца мне трап-
наю, скажу я. Або, што ты, мой паважаны, параіш мне
яшчэ адказаць яму?
ГІППІЯС: Якраз гэта. Бо і праўду ён скажа, што
ў параўнаньні з багамі, род людзкі не зьяўляецца
прыгожым.
САКРАТАС: "Калі-б я цябе запытаў з самага пачат-
ку, - скажа той чалавек, - што ёсьць прыгожае і брыд-
кае адначасна, а ты адказаў-бы мне тое самае, што і
цяпераке, дык ці-ж твой адказ ня быў-бы правільным?
Ці ня выдаецца табе, што, як толькі прыгожае як гэт-
кае - дзякуючы якому, усё іншае ўпрыгожваецца і вы-
яўляецца прыгожым - як толькі гэтая ідэя прыходзіць
да сутыку з чым-небудзь - тады гэта стаецца прыго-
жаю дзяўчынаю, прыгожым канём або прыгожаю ліраю?"
ГІППІЯС: Паслухай, Сакратас, калі ён гэтага да-

біваецца, тады адказаць яму вельмі лёгка на пытаньне, пайменна, што́ гэта такое прыгожае, дзякуючы якому ўпрыгожваецца ўсё іншае і ад дотыку чаго выяўляецца прыгожым. Чалавек гэты, запраўды, мусіць быць вельмі просты і нічога не разумее ў рэчах каштоўных. Бо, калі ты яму адкажаш, што прыгожае, пра якое ён пытаецца – гэта золата, тады ён будзе загнаны ў казьліны рог і яму не захочацца далей спрачацца з табою. Бо-ж усе мы ведаем, што калі золата даткнецца да чаго-небудзь, дык нават і тое, што́ раней выглядала брыдкім, пасьля таго, як прыхарошыцца золатам, выявіцца прыгожым.

САКРАТАС: Гіппіяс, ты ня маеш уяўленьня якім упорыстым гэты чалавек зьяўляецца і як ён нічога лёгка ня прыймае.

ГІППІЯС: Як гэта, Сакратас? Тое, што́ правільна
290 сказана, ён мусіць прыняць, а калі ня прыйме, ён асьмешыць самога сябе.

САКРАТАС: Але гэтакага адказу, даражэнькі ты мой, ня толькі што ён ня прыйме, але пачне яшчэ зьдзекавацца нада мною і скажа: "О ты, беспрасьветны чалавеча! Няўжо-ж ты Фідзіяса ўважаеш за дрэннага майстру?" – І я, як мне здаецца, скажу, не, я гэтак ня думаю.

ГІППІЯС: І ты, Сакратас, трапна скажаш.

САКРАТАС: Можа і трапна. Але пасьля таго, як я згаджуся, што Фідзіяс быў добрым мастаком, тады ён скажа: "Дык што, думаеш ты, што Фідзіяс ня ведаў таго прыгожага, пра якое ты гаворыш?" – А я скажу: Чаму? – "Ды хоць-бы затым, – скажа ён, – што вочы сваей Атэны, ані гэтаксама іншыя часткі твару, ногі і рукі, ён не зрабіў із золата, але са слановае косьці, тады, калі-б усё гэта ён учыніў із золата, павінна было-б быць найпрыгажэйшым за ўсё. Відаць, што памыліўся ён з прычыны свайго нявуцтва; бо ня ведаў, што золата якраз і ёсьць тым самым рэчывам, якое творыць прыгожым усё, да чаго яно толькі даткнецца". Калі ён гэтак скажа, што́ мы адкажам яму, Гіппіяс?

ГІППІЯС: На гэта ня трудна адказаць. Мы скажам, што ён правільна ўчыніў. Затым, што слановая косьць, як я думаю, гэтаксама прыгожаю зьяўляецца.

САКРАТАС: "Чаму, тады, – скажа той чалавек, – не зрабіў ён гэтаксама са слановае косьці і зрэнкаў вачэй, а выканаў іх з ка́меня, і з каменя, у меру магчымасьці, адпаведна прытарнаванага да слановае косьці? А мо´ і прыгожы камень прыгожым зьяўляецца?" Ці згодзімся мы зь ім, Гіппіяс?

ГІППІЯС: Так, напэўна, калі камень адпаведна датарнаваны.

САКРАТАС: А калі недатарнаваны, дык што - брыдкі? Маю-ж я згадзіцца зь ім, ці не?

ГІППІЯС: Згаджайся да тае пары́, пакуль камень не адказвае цэласьці.

САКРАТАС: "І як-жа гэта, - скажа ён, - мудрэц, ты, ці-ж слановая косьць і золата надаюць прыгожы выгляд рэчам толькі тады, калі зьяўляюцца адпаведнымі ў цэласьці, а ў іншым выпадку - брыдкімі?" - Маем мы запярэчыць ці прызнаць яму рацыю, што словы ягоныя правільнымі зьяўляюцца?

ГІППІЯС: Прызнацімем, што тое, што́ для кажнае рэчы зьяўляецца адпаведным, яно і чыніць кажную рэч прыгожаю.

САКРАТАС: "А калі той самы прыгожы гаршчок, - скажа ён, - пра які мы толькі што гаварылі, напоўніць прыгожым пшаном і пачаць варыць яго, якая мяшалка будзе найболей адпаведнаю для гэтага - вырабленая з золата ці з фіґавага дрэва?"

ГІППІЯС: О, Гэраклес! Пра якога чалавека ты гаворыш, Сакратас? Ці ня скажаш ты мне, хто ён такі?

САКРАТАС: Ты ня будзеш ведаць нават і тагды, калі-б я назваў ягонае імя.

ГІППІЯС: Я і так ужо бачу, што гэта нейкі не́вук.

САКРАТАС: Назойлівы ён страшэнна, Гіппіяс. Аднак, што-ж мы адкажам яму? Якая зь дзьвюх мяшалак найболей будзе адпаведнаю для гаршка і для кашы? З
шматлікіх прычынаў - з фіґавага дрэва: Бо-ж яна надае і болей прыемную духмянасьць кашы, і адначасна,
дружа мой, яна не разаб'е гаршка, ня вываліць кашы, не патушыць агня, і не пакіне бяз ежы тых, што
зьбіраюцца частавацца. А залатая мяшалка ўсё зрабіла-б так, што нам, як мне здаецца, прышлося-б сказаць, што мяшалка з фіґавага дрэва ўсё-ж болей тут
прыдатная, чымся залатая, пад умоваю, што ты ня ду- 291
маеш інакш.

ГІППІЯС: Гэта бадай-што болей адпаведна, Сакратас, але я з чалавекам, які ставіць гэтакія пытаньні, перастаў-бы гутарыць.

САКРАТАС: Ты маеш рацыю, мой дружа. Табе нават і не выпадае ўспрыймаць гэтакія словы, табе, прыгожа апранутаму і прыгожа абутаму, праслаўленаму сваею мудрасьцю сярод усіх гэльленаў. А я ня вельмі шманаю пра мае дачыненьні з гэткім чалавекам. Затым бо ты навучы мяне і адказвай за мяне. - "Калі мяшалка з фіґавага дрэва болей адпаведнаю зьяўляецца, чым залатая, - скажа той чалавек, - дык ці ня будзе я-

на і прыгажэйшаю, калі ты, Сакратас тае думкі, што адпаведнае болей прыгожым ёсьць, чымся неадпаведнае?" Ну, што, Гіппіяс, згодзімся мы, што мяшалка з фіґавага дрэва прыгажэйшая ад залатое?

ГІППІЯС: Хочаш, я скажу табе, Сакратас, што́ ты маеш гаварыць адносна прыгожага, каб адчапіцца ад шматмоўніцтва.

САКРАТАС: Ведама, што хачу, але не раней, чымся ты мне скажаш, каторую зь дзьвюх толькі што ўспомнутых мяшалак я ма́ю ў сваім адказе прызнаць адпаведнаю і болей прыгожаю.

ГІППІЯС: Калі хочаш, дык адкажы яму, што тая, выкананая з фіґавага дрэва.

САКРАТАС: А цяперака скажы мне, што́ ты вось меўся сказаць. Бо, калі трымацца адказу, што прыгожае - гэта золата, дык па-мойму з гэтага выходзіць, што золата не зьяўляецца прыгажэйшым ад куска фіґавага дрэва. Ну, але цяперака - што́ ты маеш зноў сказаць адносна прыгожага?

ГІППІЯС: Зараз скажу, бо мне здаецца, што ты шукаеш для адказу гэткае прыгожае, якое ніколі нігдзе нікому ня выдасца брыдкім.

САКРАТАС: Якраз вось гэта, Гіппіяс, ты цяперака трапна агарнуў.

ГІППІЯС: Затым і слухай. Заўваж сабе, што, калі хто-небудзь зноў пачне запярэчваць гэта, тады я скажу, што я наагул нічога не разумею.

САКРАТАС: На ўсіх багоў, дык гавары-ж ужо нарэшце!

ГІППІЯС: Дык вось, я ўтрымліваю, што заўсёды і ўсюды найболей прыгожаю рэчаю для кажнага чалавека - гэта быць багатым, здаровым і цешыцца паважаньнем сярод гэльленаў, а асягнуўшы старасьць і, справіўшы сваім бацькам, калі яны памруць, прыгожыя паховіны, быць прыгожа і пышна пахованым сваімі дзяцьмі.

САКРАТАС: Ну дык вось-жа, Гіппіяс! Запраўды, як цудоўна, велічна і з годнасьцю для цябе было гэта сказана! І, на Гэру, я цешуся з прычыны цябе, што ты ў межах тваіх магчымасьцяў праяўляеш гэтакую прыхільнасьць, каб памагчы мне. Але таго чалавека мы не пераканаем; будзь пэўны, цяперака ён зласьліва пасьмяецца над намі.

ГІППІЯС: Але будзе гэта дрэнны сьмех, Сакратас!
Калі ён ня мае нічога сказаць, а толькі сьмяяцца,
дык будзе ён сьмяяцца над самым сабою і станецца
292 аб'ектам сьмеху для іншых.

САКРАТАС: Вельмі магчыма, што гэта так; а мо'

пасьля гэтага адказу ён, - як я здагадваюся, - будзе ня толькі зь мяне сьмяяцца...

ГІППІЯС: І што-ж яшчэ?

САКРАТАС: А тое, што, калі знойдзецца ў яго пад рукою кій, а я не пасьпею даць драла ад яго, дык тады ён гэтак мяне зьдзяжыць, што я і сваіх не пазнаціму.

ГІППІЯС: Што ты кажаш?! Ці гэты чалавек зьяўляецца тваім гаспадаром, што ён можа нешта падобнае зрабіць, а зрабіўшы, ня будзе пастаўлены перад судом і не атрымае пакараньня? Ці ў вашым месьце няма права? Ці-ж бы яно дазваляла грамадзянам біць несправядліва адзін другога?

САКРАТАС: Не, у ніякім выпадку гэтага не дазваляе.

ГІППІЯС: Затым ён будзе пакараны, калі ўдырыць цябе несправядліва.

САКРАТАС: Не, Гіппіяс, ня выдаецца мне несправядліва, калі я гэтак адкажу, наадварот - справядліва.

ГІППІЯС: Калі ты гэтак думаеш, Сакратас, дык і я схіляюся да гэтага.

САКРАТАС: Ці маю я табе сказаць, чаму я думаю, што я справядліва буду выбітым, калі я гэтак адкажу? А мо´ і ты мяне абаб´еш бязь ніякага суду? А мо´ выслухаеш мой пункт гледжаньня?

ГІППІЯС: Было-б дзіўна, Сакратас, калі-б я ня выслухаў яго. І што ты маеш сказаць?

САКРАТАС: Я буду гаварыць табе гэтаксама, як я гаварыў да гэтае пары, насьлядуючы таго чалавека, каб мне не давялося, зьвяртаючыся да цябе, ужываць тыя самыя ягоныя нязвычайныя і суворыя словы. Затым, слухай, ён будзе гэтак гаварыць: "Скажы мне, Сакратас, няўжо ты перакананы, што быў ты пабіты несправядліва, пасьля таго, як ты высьпеваў гэтакі доўгі і галосны дытырамб, адхіляючыся адначасна недалікатна і бяз смаку ад пастаўленага табе пытаньня?" - Як гэта? - запытаю я. "Так гэта, - ён адкажа. - Ці ты не зьяўляешся здольным прыпомніць сабе, што пытаўся я адносна прыгожага як гэткага, якое ўсё, да чаго-б яно ні прысупольнілася, творыць прыгожым: і камень, і дрэва, і чалавека, і бога, і кожнае дзеяньне, і кожную веду? Я-ж бо пытаў цябе, мой дружа, што гэта такое прыгожасьць сама ў сабе і пры гэтым я ані крышку болей не магу дайсьці да сутнасьці рэчы, чымся, калі-б ты быў каменем дый яшчэ жарновым каменем, бяз вушэй і без мазгоў". І, калі-б я, спалохаўшыся, адказаў яму на гэта, ты-ж бы, Гіппіяс, не разгневаўся? А адказаў-бы я вось

як: "Гэта-ж Гіппіяс сказаў, што прыгожае якраз гэ-
тым зьяўляецца, хоць я і пытаўся яго, гэтаксама як
ты пытаешся мяне, пайменна: што ёсьць прыгожае для
ўсіх і заўсёды", - і штó-б ты сказаў на гэта? Не
разгневаешся ты, калі гэта скажу?
ГІППІЯС: Я добра ведаю, Сакратас, што тое, што я
сказаў, для ўсіх зьяўляецца прыгожым і для ўсіх гэ-
такім здавацца будзе.
САКРАТАС: "Але ці будзе прыгожым? - адкажа ён.-
Бо тое, штó прыгожае - заўсёды прыгожае."
ГІППІЯС: Напэўна.
САКРАТАС: "І заўсёды было прыгожым?"- запытае ён.
ГІППІЯС: І было.
САКРАТАС: Тады ён скажа: "Ці не сказаў госьць з
Элісу, што і для Ахільлеса прыемным было быць пахо-
ваным пасьля ягоных продкаў і для ягонага дзеда Ай-
акоса, і для ўсіх іншых, што радзіліся з багоў, як
293 і для самых багоў?"
ГІППІЯС: І што гэта зноў! Няхай яго ліха возьме!
Пытаньні гэтага чалавека зьняважлівыя!
САКРАТАС: Як гэта? Ці-ж ня будзе гэта зусім зьня-
важлівым, на пытаньне другога адказваць, што рэч гэ-
так маецца?
ГІППІЯС: Магчыма.
САКРАТАС: "Магчыма, - скажа ён, - ты зьяўляешся
гэтакім, бо ты ўтрымліваеш, што для ўсіх і заўсёды
прыгожа быць пахованым сваімі дзяцьмі, і бацьком
справіць пахавіны? Ці-ж ня быў адным з гэтакіх і Гэ-
раклес, і ўсе тыя, пра каго мы ўспаміналі?"
ГІППІЯС: Але я ня меў на ўвазе багоў!
САКРАТАС: "Як выглядае, мусіць і не для герояў?"
ГІППІЯС: Для тых, што былі дзяцьмі багоў.
САКРАТАС: "А для тых, каторыя імі ня былі?"
ГІППІЯС: Для тых, напэўна прыгожа.
САКРАТАС: "Паводля таго, штó ты цьвердзіш, выхо-
дзіць, што для герояў, як Танталёс, Дарданос і Зэ-
тос будзе гэта жахліва, бязбожна і дрэнна, але для
Пэлёпса і іншых, народжаных гэтаксама як і ён, гэ-
та прыгожа?"
ГІППІЯС: Так мне здаецца.
САКРАТАС: "Дык табе здаецца, - скажа ён, - што
тое, штó ты перад хвілінаю пярэчыў, пайменна, што
часамі і для некаторых ёсьць агіднаю рэчаю пахаваць
продкаў,а пасьля быць пахованым рукамі нашчадкаў.
І гэта яшчэ ня ўсё; як мне здаецца, немагчыма, каб
гэта здаралася з усімі, і адначасна было прыгожым.
Дык і выходзіць, што з гэтымі здарылася тое самае,
што і з папярэднімі: і зь дзяўчынаю, і з гаршком, і,

- што найболей забаўным, - што для адных гэта ёсьць прыгожым, а для іншых няпрыгожым. І сяганьня яшчэ, Сакратас, - скажа ён, - ты не зьяўляешся ў стане адказаць на пытаньне: што гэта такое прыгожае?" Вось гэтакімі і падобнымі рэчамі будзе ён справядліва чыніць мне закіды, калі я яму гэтак адкажу.

Часамі, Гіппіяс, гэтак ён са мною вядзе гутарку, а іншым разам, быццам літуючыся над маім недасьведчаньнем і адсутнасьцю культурнае аглады, сам прыпомачы пытаньня, выпрабаваць мяне хоча, напрыклад, чым выдаецца мне прыгожае або выпытвае мяне пра штонебудзь з тэмы, выплываючае з гутаркі.

ГІППІЯС: Як ты разумееш, Сакратас?

САКРАТАС: Я раскажу табе. "Дзівак ты, Сакратас, - кажа ён, - супыні падобныя свае адказы і ў гэткай хворме падаваныя; бо-ж вельмі яны ўжо простыя, і вельмі лёгка зьбіць іх. Паўзірайся ляпей, ці ня выдасца табе, што прыгожае ўсё-ж ёсьць нечым, што мы закранулі ў адным з нашых адказаў, калі цьвердзілі, што золата прыгожае, калі яно адпаведна датарнована, а калі не датарнавана, тады яно ня прыгожае; і гэтак рэч маецца з усім іншым, дзе гэтая свомасьць выступае. Разгледзь адпаведнасьць як гэткую і яе натуру: ці ня выдаецца яна прыгожаю?" І вось, як звычайна, я згаджаюся зь ім, бо-ж я ня маю нічога іншага сказаць. Ці ня выдаецца табе адпаведнасьць прыгожаю?

ГІППІЯС: У кажным выпадку, Сакратас.

САКРАТАС: Разгледзьма супольна, каб не памыліцца.

ГІППІЯС: Гэта, запраўды, мусім мы разглéдзець.

САКРАТАС: Паглядзі, тады: ці адпаведнасьць, - гэта тое, штó сваею прысутнасьцю кажную рэч чыніць здавацца прыгожаю, для якое яна свомаю ёсьць, ці мо тое, штó змушае яе быць прыгожаю? А можа ані адно, ані другое?

ГІППІЯС: Я схільным сказаць, што гэта тое, штó спрычыняе здавацца прыгожым. Напрыклад, чалавек, калі нават ён сьмешную постаць мáе, але, узьдзеўшы адпаведную зопратку і чаравікі, выдаецца прыгожым.

САКРАТАС: Ці ня выглядае гэта так, быццам адпаведнасьць змушае нешта выдавацца болей прыгожым, чымся яно зьяўляецца ў запраўднасьці, і што яна зьяўляецца нейкім змáнам адносна прыгожага і зусім ня тым, штó мы шукаем, Гіппіяс? Бо мы шукаем тое нешта, дзякуючы чаму ўсе прыгожыя рэчы прыгожымі зьяўляюцца - гэтаксама як і тое, праз што ўсе вялікія рэчы стаюцца вялікімі праз велічнасьць сваю. Дзякуючы гэтай велічнасьці ўсё зьяўляецца вялікім,

нават і тады, калі яно і не выглядае гэтакім, але, будучы суспольненым зь велічнасьцю, няўхільна мусіць быць вялікім. Падобна гаворым і пра тое, што гэта такое, дзякуючы чаму, усё прыгожым ёсьць, ня гледзячы на тое, выдаецца яно гэтакім ці не. Адпаведнасьці, магчыма, ня будзе; бо яна, паводля таго, як ты сказаў, змушае рэчы выдавацца прыгажэйшымі, чымся яны зьяўляюцца ў запраўднасьці, і не дазваляе ім выдавацца гэтакімі, якімі яны зьяўляюцца ў запраўднасьці. Мы павінны ўзяць тое, што спрычыняе рэчы быць прыгожымі, як я і сказаў ужо, усяроўна, выступаюць яны гэтакімі перад намі ці не, і старацца знайсьці дэфініцыю гэтага - гэта і ёсьць тое, што мы шукаем, калі мы хочам знайсьці прыгожасьць.

ГІППІЯС: Але, Сакратас, адпаведнасьць сваею прысутнасьцю змушае рэчы адначасна быць і выглядаць прыгожымі.

САКРАТАС: Затым, немагчыма для рэчаў, якія фактычна зьяўляюцца прыгожымі, не выглядаць прыгожымі, калі мы выходзім із залажэньня, што тое, што змушае іх выглядаць прыгожа, зьяўляецца прысутным у іх.

ГІППІЯС: Немагчыма.

САКРАТАС: Тады мы прыходзім да выснаву, Гіппіяс, што ўсе ўведзеныя ўладжаньні і практыкі, якія ў запраўднасьці зьяўляюцца прыгожымі, уважаюцца ўсімі людзьмі як прыгожыя, і заўсёды гэтакімі выдаюцца ім? А мо́ рэч маецца якраз наадварот, адсутнасьць сьведамасьці адносна іх перамагае, што і выклікае закалоты і змаганьне гэтак у прыватным жыцьці між паасобнымі людзьмі, як і між гаспадарствамі?

ГІППІЯС: Гэтае апошняе, Сакратас, - я думаю адсутнасьць сьведамасьці.

САКРАТАС: Гэтага ня было-б, калі-б свомым для іх было выяўляцца прыгожымі. І гэта было-б так адно ў тым выпадку, калі-б адпаведнасьць, будучы прыгожаю, ня толькі змушала рэчы быць запраўды прыгожымі, але і выдавацца гэтакімі. З другое стараны, калі-б тое, што спрычыняе рэчы выяўляцца прыгожымі, зьяўляецца адпаведнасьцю, тады, гэта не зьяўляецца прыгожасьцю, якую мы шукаем. Тое, што мы шукаем, чыніць рэчы быць прыгожымі, але тая самая прычына ніколі ня можа адно і другое ўчыніць адначасна: выдавацца прыгожым і быць прыгожым або чым-небудзь іншым. Цяпераka астаецца нам выбраць адну з дзьвюх альтэрнатываў: ёсьць-жаж адпаведнасьць тым, што змушае рэчы здавацца прыгожымі, ці тым, што змушае іх быць гэтакімі?

ГІППІЯС: Я думаю, што тым, што змушае здавацца,

Сакратас.

САКРАТАС: О, мой даражэнькі! Калі гэтак, тады нагода знайсьці тое, што запраўды прыгожым ёсьць, высьлізнулася нам з рук і шчэзла, калі аказалася, што адпаведнасьць зьяўляецца нечым іншым, чымся прыгожае.

ГІППІЯС: На Зэуса, Сакратас; і мне здаецца, што высьлізнулася глупа.

САКРАТАС: Але, мой дружжа, ня трэба яшчэ адпус- 295
каць яе. У мяне цепліцца нейкая спадзея, што прыгожасьць сама выявіцца нам.

ГІППІЯС: Напэўна, Сакратас! Дый выкрыць яе нятрудна. Я астаюся пэўным, што, калі-б я адыйшоў на хвіліну на самоту і сам над гэтым падумаў, дык я растлумачыў-бы табе гэта дакладна.

САКРАТАС: Ты толькі ня будзь гэтакім пэўным, Гіппіяс! Ты бачыш колькі ўжо клопату спрычыніла нам прыгожае; і я баюся, што яно можа разгневацца на нас і ўцякчы ад нас яшчэ далей. Але, што за глупствы я апавядаю табе; я здагадваюся, што хутка знойдзеш яго, калі апынішся адзін. Але на багоў, знайдзі яго са мною тутака, або, калі хочаш, давай пашукаем яго разам, гэтак, як мы цяперака чынім. Калі мы знойдзем яго, будзе цудоўна, а калі – не, дык, я думаю, я падпарадкуюся свайму лёсу, а ты лёгка яго знойдзеш, як толькі апынішся на самоце. Ведама, калі мы знойдзем яго цяперака, дык ты ўжо толькі ня бойся, я ня буду дакучаць табе сваімі распытваньнямі пра тое, што знайшоў на адасобленасьці. А цяперака, калі ласка, паўзірайся на сваю ўласную канцэпцыю прыгожасьці. Я кажу, што яна – калі ласка, накіруй усю сваю ўвагу на тое, што я буду гаварыць, і спыні мяне, калі я пачну гаварыць недарэчнасьць – ну, прымем, што прыгожым у нас будзе тое, што прыдатна. Аснова для майго заляжэньня ёсьць наступная: мы ня кажам, што вочы зьяўляюцца прыгожымі, калі аказацца, што яны ня маюць здольнасьці бачыць; але кажам, што прыгожыя, калі маюць гэтую здольнасьць і зьяўляюцца прыдатнымі. Ці правільна гэта?

ГІППІЯС: Але.

САКРАТАС: Ці-ж не гаворым мы гэтак пра ўсё цела, што яно прыгожым ёсьць – часамі для спартовага бегу, часамі для змаганьня ў спаборніцтве, і падобна кажам пра ўсіх зьвераў. Прыгожы конь або певень, або перапёлка, як і рэчы хатняга абыходу, і сродкі камунікацыі гэтак на зямлі як і на моры, гандлёвыя вадаплавы як і ваенныя вадаплавы – трыеры, і ўсе інструманты гэтак музычныя як і тыя, што служаць для

іншых мастацтваў, а калі хочаш, дык і кажны занятак і пра́вы - мы тасуем практычна да бадай-што ўсяго гэтага слова "прыгожы" ў аднолькавай ступені. У кажным паасобным прадмеце мы вырозьніваем спосаб узьніканьня, як збудаваны або хворму выканчэньня і ў аднясеньні да ступені прыдатнасьці, мы называем прыгожым у той прапорцыі, у якой дадзены прадмет прыдатным зьяўляецца, а тое, што́ ўва ўсіх падобных выпадках зьяўляецца бескарысным, мы называем брыдкім. Ці-ж і ты ня думаеш гэтак, Гіппіяс?

ГІППІЯС: Так, я думаю.

САКРАТАС: Тады мы трапна кажам, пацьвярджаючы, што прыдатнасьць зьяўляецца ў першую чаргу прыгожаю?

ГІППІЯС: Зусім трапна, Сакратас.

САКРАТАС: І тое, што́ ма́е сілу асягнуць яе адумысную мэту, зьяўляецца карысным для мэты, якую яно ма́е сілу асягнуць, а тое, што́ ня ма́е сілы, зьяўляецца бескарысным.

ГІППІЯС: Ведама.

САКРАТАС: Затым, сіла зьяўляецца прыгожаю рэчаю, і адсутнасьць яе - брыдкаю?

ГІППІЯС: Вельмі трапна сказана, Сакратас. Мы ма-
296 ем довад гэтага зьявішча, сярод іншага, і з грамадзкага жыцьця, бо ў палітычным жыцьці, як і ў васяродзтдзі ўласнага места, сіла зьяўляецца найболей прыгожаю з усіх рэчаў, а недахоп яе - найболей брыдкаю і ганебнаю.

САКРАТАС: Добра сказана! На багоў, Гіппіяс, ці з гэтага вынікае, што мудрасьць зьяўляецца найболей прыгожаю рэчаю, а нясьведамасьць - найболей брыдкаю?

ГІППІЯС: Як ты разумееш гэта, Сакратас?

САКРАТАС: Пачакай хвілінку, мой паважаны. Мяне агортвае пачуцьцё небясьпекі адносна сьцежкі, на якую мы ўзяходзім.

ГІППІЯС: І скуль зноў у цябе пачуцьцё страху, Сакратас? Цяпер́ака твой пункт гледжаньня праводзіцца задзіўляюча памысна.

САКРАТАС: Я жадаў-бы сабе, каб гэтак было, але давай разважым гэта супольна. Ці можа чалавек выканаць нешта, ня маючы належнае веды да гэтага ані найменшага атаму сілы, каб выканаць свой замер?

ГІППІЯС: Ніколі. Дый як ён можа выканаць, калі ён ня мае сілы да гэтага?

САКРАТАС: Тады, тыя, што з прычыны нейкае памылкі і нясьведама дрэнна дзейнічаюць - напэўна ніколі не маглі-б даканаць гэтакае рэчы, калі-б ня мелі сілы да гэтага?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Але тыя, што маюць сілу вы́канаць прадпры́няты чын, выконваюць яго, дзякуючы сіле, а не затым, што яны бясьсільнымі зьяўляюцца?

ГІППІЯС: Ведама, што не.

САКРАТАС: Тыя, што чыняць тое, што́ чыняць, маюць-жа сілу выканаць гэта?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: Але ўсе людзі, пачынаючы зь дзіцячых гадоў, чыняць болей дрэннага, чымся добрага, памыляючыся, нясьведама?

ГІППІЯС: Гэтак ёсьць.

САКРАТАС: Тады, як-жа гэта? Ці хочам мы гэтым сказаць,што гэтая сіла і гэтыя прыдатныя рэчы - я маю тут на ўвазе кажныя прыдатныя рэчы для дакананьня пэўнага зла - хочам мы сказаць, што яны зьяўляюцца прыгожымі, ці мо´ ніколі?

ГІППІЯС: Ніколі, як мне здаецца, Сакратас.

САКРАТАС: Значыцца, Гіппіяс, сільнае і прыдатнае, як выглядае, не зьяўляюцца прыгожасьцю, якую мы шукаем?

ГІППІЯС: Яны зьяўляюцца, Сакратас, калі яны праяўляюць сілу дзеля добрага і зьяўляюцца карыснымі для гэтакіх мэтаў.

САКРАТАС: Затым, нашая тэорыя, што тое, што́ зьяўляецца быццам сільным і прыдатным і гэтым самым прыгожым,адпадае. Аднак ты думаеш - і гэта мы маем на думцы /φυχή/ - што прыгожасьць ёсьць адначасна прыдатнаю і магутнаю дзеля нейкае добрае мэты?

ГІППІЯС: Мне гэтак здаецца.

САКРАТАС: Але гэта ўсё-ж ёсьць карысным. Ці ня гэтак?

ГІППІЯС: Пэўна.

САКРАТАС: Гэткім спосабам мы прыходзім да высnаву, што прыгожыя целы, і прыгожыя паводзіны ў жыцьці, і мудрасьць, і ўсе іншыя рэчы, пра якія гаварылі мы, зьяўляюцца прыгожымі, бо яны зьяўляюцца карыснымі?

ГІППІЯС: Гэтак выглядае.

САКРАТАС: Выглядае, быццам прыгожае зьяўляецца карысным, Гіппіяс?

ГІППІЯС: Бяз сумліву, Сакратас.

САКРАТАС: Але карыснае - гэта тое, што́ творыць дабро?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: А тое, што́ творыць, зьяўляецца нічым іншым, як прычынаю. Ці ня гэтак?

ГІППІЯС: Ага́.

САКРАТАС: Затым, прыгожае зьяўляецца прычынаю дабра?

297 ГІППІЯС: Так, гэтак рэч маецца.

САКРАТАС: Пэўна, Гіппіяс, бо прычына і тое, з чаго прычына ўзьнікае - гэта дзьве розныя рэчы; бо прычына насілу ці можа быць прычынаю прычыны. Паглядзі на гэта зь іншага боку. Прычына была выяўлена як нешта, што́ творыць. Ці ня гэтак?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: І тое, што́ творыць, творыць толькі тое, што́ ўзьнікае да быту. Яно ня творыць тое, што́ творыць.

ГІППІЯС: Гэтак яно ёсьць.

САКРАТАС: І тое, што́ ўзьнікае да быцьця, і тое, што́ творыць яго, зьяўляюцца здьвюма рознымі рэчамі?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: Затым, прычына не зьяўляецца прычынаю прычыны, але толькі прычынаю таго, што́ ўзьнікае да быцьця, дзякуючы ёй?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Калі прыгожасьць зьяўляецца прычынаю дабра, тады дабро прыводзіцца да быцьця праз прыгожасьць, і, як выглядае, мы імкнемся да мудрасьці і да ўсіх іншых прыгожых рэчаў, а гэта з тае прычыны, што вы́кліканае імі дзеяньне і нашчаднасьць - дабро, зьяўляецца годным нашага імкненьня. І з нашага досьледу, як выглядае, прыгожае ў пэўным сэнсе зьяўляецца бацькам дабра.

ГІППІЯС: Так. Ты прыгожа гаворыш, Сакратас.

САКРАТАС: Ці-ж ня прыгожа сказана мною і тое,што бацька не зьяўляецца сынам, ані сын зьяўляецца бацькам?

ГІППІЯС: Зусім прыгожа.

САКРАТАС: І што прычына не зьяўляецца тым, што́ ўзьнікае да быцьця, гэтак як і тое, што́ ўзьнікае, не зьяўляецца прычынаю.

ГІППІЯС: Ты праўдзіва кажаш.

САКРАТАС: На Зэуса, дружа мой, прыгожасьць не зьяўляецца дабром, ані дабро прыгожасьцю. Думаеш ты, што гэта магчыма ёсьць пасьля таго, што́ мы ўжо сказалі?

ГІППІЯС: Не, на Зэуса, я ня думаю гэтак.

САКРАТАС: Тады, ці можа задаволіць нас, і ці гатовы мы сказаць, што прыгожасьць не зьяўляецца дабром, ані дабро зьяўляецца прыгожасьцю?

ГІППІЯС: Не, напэўна не. Мяне гэта зусім не здавальняе.

САКРАТАС: Так, на Зэуса, Гіппіяс. З усіх магчы-

масьцяў, намі перадыскутаваных, гэтая найменей мне падабаецца.

ГІППІЯС: Выглядае так.

САКРАТАС: Затым выглядае, што пункт гледжаньня нашы, які мы ўважалі за найлепшы вынік нашае дыскусыі, пагляд, што карыснае, прыдатнае і сіла тварэньня нечага добрага зьяўляюцца прыгожым, фактычна аказаўся памылковым, і ён, калі магчыма, ёсьць болей сьмехатворным, чымся тыя першыя дэфініцыі, паводля якіх, прыгожае - гэта прыгожая дзяўчына і ўсё іншае, пералічанае намі раней.

ГІППІЯС: Здаецца гэтак.

САКРАТАС: Што да мяне, Гіппіяс, дык я ня ведаю куды цяпер ісьці. Маеш ты што-небудзь сказаць?

ГІППІЯС: Не, прынамся цяперака; але, як я сказаў перад хвілінаю, калі я затрымаюся над гэтым глыбей, дык я пэўны, што знайду.

САКРАТАС: Але я ня думаю, каб я мог чакаць са
справаю аж пакуль ты знойдзеш; я нагэтулькі зацікаўлены ў ведзе, і запраўды, як мне здаецца што я
натрапіў на выхад. Глядзі, калі-б мы назвалі прыгожым тое, што дае нам нагоду радавацца - ведама, я
ня маю на ўвазе ўсе прыемнасьці, а толькі тыя, што
радуюць нас, дзякуючы слуху і зроку - як-бы мы маглі тады весьці нашую спрэчку? Пэўна, Гіппіяс, што і
прыгожыя людзі і ўсе яскравыя ўпрыгожаньні, і воб- 298
разы, і рэзультаты плястычнага мастацтва цешаць
наш спазор, калі яны прыгожыя, гэтаксама прыгожыя
гукі, і музыка, як суцэльнасьць, і разважаньні і
фантастычныя апавяданьні даконваюць тое самае ўзьдзеяньне; затым, калі-б мы мелі адказаць гэтаму нахабнаму чалавеку: даражэнькі, прыгожае - гэта прыемнае, што прыходзіць, дзякуючы змыслу слуху і зроку, ці ня думаеш ты, што гэткім спосабам мы акелзалі-б ягоную нахабнасьць?

ГІППІЯС: Нарэшце, Сакратас, як я думаю, мы знайшлі добрую дэфініцыю прыгожага.

САКРАТАС: Але як гэта, Гіппіяс? Ці маем-жа мы сказаць, што прыгожыя заняткі і правы зьяўляюцца прыгожымі, затым, што праз слух і зрок яны даюць прыемнасьць, а мо гэта рэчы, якія знаходзяцца на іншай плошчы?

ГІППІЯС: Магчыма, Сакратас, што гэтага не спасьцеражэ той чалавек.

САКРАТАС: Не, Гіппіяс, будзь пэўны, што гэта спасьцеражэ той чалавек, якога я найболей саромеўся-б, будучы злоўленым на чаўпні і, прыкідваючыся, што быццам гавару да рэчы.

ГІППІЯС: Хто ён такі, гэты чалавек?

САКРАТАС: Сын Софроніскоса,+/ каторы не дазволіць мне гаварыць пра рэчы, якія яшчэ не дасьледжанымі астаюцца або прыкідвацца, што я ведаю тое, чаго ня ведаю.

ГІППІЯС: Дый мне самому пасьля таго, што ты сказаў, выдаецца, што з пра́вамі рэч маецца зусім інакш.

САКРАТАС: Ты толькі не сьпяшайся, Гіппіяс; я баюся, што ў справе пытаньня адносна прыгожага мы трапілі ў сьляпы завулак, як і перад гэтым і думаем, што знайшлі разьвязку.

ГІППІЯС: Што ты маеш на ўвазе, Сакратас?

САКРАТАС: Я скажу табе, як справа мне выяўляецца, і праўдападобна ёсьць тут сэнс. Бо справы, якія адносяцца да права і заняткаў, могуць, магчыма, пасьля ўсяго давесьці, што яны знаходзяцца ў абсягу ўспрыйма слуху і зроку. Затым, вазьме́м сабе за аснову, што прыемнае, якое прыходзіць, дзякуючы гэтым змыслам, зьяўляецца прыгожым, пакідаючы пытаньне правоў на ўзбоччу. Але, калі-б той, пра каго я казаў, або хто-небудзь іншы, запытаў-бы нас: "Чаму, Гіппіяс і Сакратас, выдзялілі вы із прыемнага прыемнае, якое атрымліваецца шляхам, які вы называеце прыгожым, у тым самым часе, як прыемнае, зьвязанае з усімі іншымі ўражаньнямі, атрымліванымі ад яды, піцьця з сэксуальнага дазнаньня і гэтак далей, вы не называеце прыгожым? А мо́ ўсё гэта няпрыемным ёсьць, і вы ўтрымліваеце, што ў гэтым наагул няма прыемнасьці, ані ў чым іншым па-за бачаньнем і глядзеньнем?" І што мы скажам, Гіппіяс?

ГІППІЯС: Ведама, мы скажам, Сакратас, што гэтыя іншыя рэчы гэтаксама абдорваюць нас аграмаднымі прыемнасьцямі.

САКРАТАС: "Чаму, тады, - скажа ён, - забіраеце
вы ад іх гэты назоў і адмаўляеце ім свомасьць быць
прыгожымі, калі гэтыя прыемнасьці не зьяўляюцца
299 меншымі ад тамтых?" - "А гэта затым, - адкажам мы,-
што кажны чалавек будзе сьмяяцца з нас, калі мы скажам, што есьці - гэта ня прыемна, але прыгожа, або, што прыемная духмянасьць пахне ня прыемна, але прыгожа; але адносна сэксуальнага дазнаньня ўсе пачалі-б выступаць супроць нас, цьвердзячы, што яно вельмі прыемна, прызнаючы адначасна, што, калі яно практыкуецца, дык павінна практыкавацца, каб ніхто ня бачыў, бо гэта сорамны і адпіхаючы спазор." На гэтыя нашыя словы, Гіппіяс, ён магчыма адкажа: "Я разумею, што вы, як і калісьці, саромеецеся цяперака

+/ Сакратас, сын Софроніскоса.

сказаць, што гэтыя прыемнасьці зьяўляюцца прыгожымі, бо пагляд гэты не падзяляе большасьць людзей; але я бо і ня пытаюся пра тое, што́ выдаецца прыгожым большасьці, а пра тое, што́ ёсьць прыгожае". Тады, я думаю, мы адкажам у сузгоднасьці з нашым меркаваньнем: "Тую частку прыемнасьці, якая ўзьнікае, дзякуючы ўзроку і слуху, называем прыгожым". Аднак-жа, можаш ты, Гіппіяс, запрапанаваць што-небудзь іншае дзеля выразнэньня пытаньня, ці што-небудзь дадаць да адказу?

ГІППІЯС: У гэтай стадыі нашае дыскусыі, мы павінны адказаць гэтак і толькі гэтак.

САКРАТАС: "Прыгожа гаворыце, - скажа ён. - Калі прыемнасьць, якая атрымліваецца, дзякуючы ўзроку і слуху, зьяўляецца прыгожаю, тады, ці-ж ня вынікае з гэтага факту, што кажная прыемная рэч, якая не падходзіць пад нашую катэґорыя, ня будзе прыгожаю?" Ці маем мы згадзіцца з гэтым?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: Тады ён далей скажа: "Тое, што́ ёсьць прыемным, дзякуючы ўзроку, зьяўляецца прыемным,дзякуючы ўзроку і дзякуючы слуху, а мо́ тое, што́ прыемна, дзякуючы слуху, прыемнае, дзякуючы слуху і дзякуючы ўзроку?" "Ніколі на сьвеце, - скажам мы.- Прыемнае, якое прыходзіць, дзякуючы аднаму з двох змыслаў, ня будзе гэтакім, дзякуючы двум разам, і гэта,як мне здаецца, ты маеш на ўвазе. Але мы казалі, што кажнае з гэтых прыемных зьяўляецца прыгожым як гэткім, і абодва яны разам." Ці гэтакім мае быць наш адказ?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Тады ён запытае: "Ці якая-небудзь прыемнасьць розьніцца ад якое-небудзь іншае прыемнасьці з увагі на прыемнасьць? Пытаньне не адносіцца да таго, ці дадзеная прыемнасьць ёсьць большаю або меншаю,сільнейшаю ці слабейшаю, ці існуе ў большай ці меншай ступені, але - ці можа заіснаваць розьніцца паміж прыемнасьцямі ў гэткім дачыненьні, што адно зьяўляецца прыемнасьцю, а іншае - не?"

ГІППІЯС: Не, мне здаецца, што гэта ня ёсьць так.

САКРАТАС. І ён далей будзе гаварыць: "Дык вы выбралі гэтыя прыемнасьці спасярод іншых, кіруючыся нейкаю іншаю прычынаю, але не з прычыны таго, што яны прыемнасьці. Вы спасьцераглі ў гэтай і іншай нешта такое, што́ чы́ніць апрычонымі іх ад іншых прыемнасьцяў і, бяручы гэта пад увагу, вы ўтрымліваеце, што яны прыгожыя. Бо-ж не затым прыгожаю ёсьць прыгожасьць, якая прыходзіць, дзякуючы ўзроку, і я

прыймаю, што яна ня ёсьць прыгожаю затым толькі,што прыходзіць, дзякуючы ўзроку. Калі-б гэта мела быць прычынаю, дзеля якое прыемнасьць стаецца прыгожаю, тады іншая прыемнасьць, тая: якая прыходзіць, дзякуючы слуху, ніколі ня была-б прыгожаю, бо яна не зьяўляецца прыемнасьцю, атрыманаю праз узрок". Маем-жа мы адказаць, што падобны бег думкі зьяўляецца трапным?

ГІППІЯС: Але́.

300 САКРАТАС: "Ані гэтаксама не зьяўляецца прыгожаю прыемнасьць, якая атрымліваецца, дзякуючы слуху,бо зноў, у гэтым выпадку, прыемнасьць, якая прыходзіць праз узрок, ніколі ня будзе прыгожаю, бо яна не зьяўляецца прыемнасьцю, атрымліванаю праз слух." Маем-жа мы, Гіппіяс, згадзіцца, што чалавек, утрымліваючы падобнае, кажа праўду?

ГІППІЯС: Ён праўду кажа.

САКРАТАС: "Але трэба разумець, што абедзьве прыемнасьці зьяўляюцца прыгожымі, як вы ўтрымліваеце". Мы-ж бо і цьвердзім гэта?

ГІППІЯС: Цьвердзім.

САКРАТАС: "Значыцца, яны маюць нейкую тоесамнасьць, якая чы́ніць іх прыгожымі, тое агульнае,што́ свомым зьяўляецца для іх абедзьвюх, узятых разам, і кажнай зь іх у апрычонасьці; бо інакш, яны ня былі-б прыгожымі, і дзьве разам і кажная паасобку". Адкажы ты мне так, быццам ты адказваеш таму чалавеку.

ГІППІЯС: І адказваю, што тое, што́ ты кажаш,зьяўляецца і маею думкаю.

САКРАТАС: Калі абедзьве гэтыя прыемнасьці разам маюць да пэўнае ступені ўспомнутую свомасьць, а паасобку ня маюць гэткае свомасьці: тады яны, з прычыны прысутнасьці гэтае свомасьці, бадай-што, ня могуць быць прыгожымі.

ГІППІЯС: І як гэта магчыма, Сакратас, што, калі ніякае з гэтых прыемнасьцяў паасобку ня мае да пэўнае ступені ніякае свомасьці, і пасьля гэтага, каб гэтая самая свомасьць, каторае ні водная зь іх ня мае, знайшлася-б у абедзьвюх?

САКРАТАС: Ты думаеш, што гэта не магчымым ёсьць?

ГІППІЯС: Бо я не разумеў-бы нічога ані з характару прадмету, ані быў-бы абазнаны з тэрміналёгіяю, ужыванаю ў нашай дыскусыі.

САКРАТАС: Вельмі прыемна, Гіппіяс. Але мне, магчыма, здаецца, быццам у маім уяўленьні нешта бачу, што справа ня можа быць у сваей сутнасьці гэтакаю, як ты ўтрымліваеш, хоць,фактычна, я нічога ня бачу.

ГІППІЯС: Не "магчыма", Сакратас, але зусім пэў-
на, што ты знарок не спасьцерагаеш.
САКРАТАС: І запраўды, шмат гэтакіх прыкладаў у-
зьнікае перад вачыма мае душы, але я падходжу да
гэтага з сумлівам, бо яны спасьцярожнымі зьяўляюц-
ца для мяне, каторы на сваей мудрасьці ніколі не
зарабіў ані воднага грашака́, тады, як яны не ўзьні-
каюць перад табою, каторы на гэтым зарабіў болей,
чымся хто-небудзь з жывых сягоньня. І, мой дружа,
мне прыходзіць на думку, ці ня жарты ты пачынаеш са
мною, і прадумана зманьваеш мяне, бо гэтак ясна і
гэтак чысьлена бачу ўсё.
ГІППІЯС: Ніхто не даведаецца ляпей за цябе, Са-
кратас, ці жарты я пачынаю з табою ці не, калі ты
пачнеш адсланяць тыя відзежы, якія ўзьнікаюць перад
вачыма твае душы. Тваё апісаньне іх будзе чыстаю не-
дарэчнасьцю. Ты ніколі ня знойдзеш такой нейкай су-
польнай для нас свомасьці, якое ня мог-бы мець я а-
бо ты.
САКРАТАС: Як ты кажаш, Гіппіяс? Магчыма ты га-
ворыш да рэчы, толькі я не магу агарнуць гэтага, а-
ле, калі ласка, дазволь мне выкажыць думку гэтак,
як я разумею яе. Я ўяўляю сабе, што існуюць харак-
тэрныя рысы, якія не маглі і ня могуць належаць да
ні воднага з нас асобна, але якія могуць належаць
да двох нас разам, і, наадварот, што існуюць харак-
тэрныя рысы, што да якіх абодва мы праяўляем здоль-
насьць і, адначасна, ніколі паасобку.
ГІППІЯС: Выглядае, Сакратас, што ты апавядаеш
пра цуды яшчэ большыя, чымся ты гаварыў крыху ра-
ней. Паглядзі толькі. Калі мы абодва зьяўляемся
справядлівымі, ці-ж ня ёсьць гэта, што кажны з нас
індывідуальна зьяўляецца справядлівым? Калі кажны
з нас асобна зьяўляецца несправядлівым, ці-ж ня гэ-
такімі мы зьяўляемся ўзятыя разам? І, калі мы абод- 301
ва разам зьяўляемся здаровымі, ці-ж не здаровы каж-
ны з нас паасобку? Або, калі кажны з нас чуецца
змучаным, раненым, быў удыраны або перажывае які-
небудзь стан, ці-ж не дазнае́м мы ўсё гэта абодва ра-
зам? І далей, калі-б здарылася, што мы абодва ра-
зам - залатыя, сярэбраныя, учыненыя са слановае
косьці, або, калі хочаш - мы абодва шляхэтнымі зьяў-
ляемся, мудрымі, цешымся паважаньнем, або, што мы
старыя, янакі, ці як табе да з падобы з усяго гэ-
тага, чым толькі могуць быць людзі - дык, ці-ж ня
былі-б мы да вышэйшае ступені і няўхільна гэтакімі
самымі кажны асобна?
САКРАТАС: Напэўна.

ГІППІЯС: Бачыш, Сакратас, справа ў тым, што ты не агортваеш рэчы ў цэласьці і падобна паступаюць тыя, з кім ты вядзеш гутаркі; бесцырымонна вырываеце вы прыгожае і кажнае з галоўных паняцьцяў і дасьледуеце іх і распадзяляеце іх у сваіх разважаньнях. Дзелягэтага вы і ня бачыце, як высьлізгваюцца вам першараднае важнасьці сучлененьні быту. І цяперака, у сваім непаводжаньні ты зайшаў гэтак далёка, што пачаў уяўляць сабе, быццам існуе нешта, нейкая характэрная рыса ці існасьць натуры, што мае суадносіны да дзьвюх зь іх разам, але не да кажнае зь іх у вапрычонасьці, або наадварот: да кажнае зь іх у вапрычонасьці, але не да абедзьвюх, узятых разам. Гэтакі ёсьць стан вашага зразуменьня, да якога ты і твае прыяцелі зьвялі самых сябе - як бязмысныя вы, безразважныя, простыя і безрасудныя!

САКРАТАС: Гэтак мы ўжо мусім, як той казаў, кідацца ў жыцьці, Гіппіяс: ня так як чалавек хоча, але як можа. Але твае перасьцярогі зьяўляюцца вялікаю дапамогаю. Вось, хоць-бы і цяперака: насілу пачуў я тваю перасьцярогу што да нашае нясьведамасьці, як прыйшла мне думка ў галаву адносна гаворанага, ці маю я падзяліцца ёю з табою - ці мо' ляпей не пачынаць?

ГІППІЯС: Я здагадваюся, што ты мне маеш сказаць, Сакратас. Бо тых, што аддаюцца справе разважаньня, я ведаю вельмі добра. Але, калі табе гэта падабаецца, калі ласка, гавары.

САКРАТАС: Ведама, што падабаецца. Перад тым, паймённа, мой дружа, як ты сказаў усё гэта, мы былі нагэтулькі неасьвечанымі, што падтрымлівалі перакананьне, што кажны з нас двох, ты і я - гэта адно, але, бяручы разам, мы ня можам быць кажным паасобку з нас - бо мы зьяўляемся два, а не адзін. Бачыш якімі наіўнымі былі мы. Але цяперака ты навучыў нас, што, калі разам, дык мы зьяўляемся два, а кажны з нас асобна гэтаксама мусіць быць два; зноў-жа, калі кажны зьяўляецца адзін, дык гэткімі абодва мусім быць; кажны з нас паасобку гэтаксама мусіць быць два, бо з цэласнасьці тэорыі быцьця, паводля Гіппіяса, інакш ня можа быць: бо, калі дзьве рэальнасьці існуюць разам, кажная зь іх ёсьць асобнаю, і чымколечы зьяўляецца адна, гэтакімі зьяўляюцца дзьве яны. І вось тут я сяджу перад табою гэтак перакананы. Але перш, Гіппіяс, прыпомні мне: ці ты і я - гэта адно, ці мо' ты - два, і я - два?

ГІППІЯС: Што ты маеш на ўвазе, Сакратас?

САКРАТАС: Дакладна тое, што я сказаў. Я проста

баюся ясна гаварыць, бо ты гневаешся на мяне, калі табе здаецца, што ты выказваешся трапна. А ўсё-ж, 302
дазволь мне паставіць табе гэтакае пытаньне: ці не зьяўляецца кажны з нас адзін і ці не зьяўляецца для яго сваім тое, што ён ёсьць адзін?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Тады, калі кажны з нас ёсьць адзін, гэтым самым зьяўляецца ён няцотным лікам. Ты-ж утрымліваеш, што адзін зьяўляецца няцотным лікам? Так гэта ёсьць?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: Тады, абодва мы разам зьяўляемся няцотам, хоць разам нас двох?

ГІППІЯС: Гэтага ня можа быць, Сакратас.

САКРАТАС: Але разам мы абодва цот. Ці ня гэтак?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Дзелятаго, што абодва мы разам зьяўляемся цот, ці выплывае з гэтага, што кажны з нас паасобку зьяўляецца цотным?

ГІППІЯС: Напэўна, не.

САКРАТАС: Тады, ці-ж не зьяўляецца гэта абсалютнаю неабходнасьцю, як і сказаў ты вось нядаўна, што, чым абодва зьяўляюцца, гэтым ёсьць кажны асобна, і чым кажны асобна, - гэтым абодва мусяць быць?

ГІППІЯС: Так, але ня ў гэткіх выпадках, толькі ў тых, якія я падаваў.

САКРАТАС: Хопіць гэтага, Гіппіяс. Нават гэты адказ зьяўляецца дастатковым, калі адны рэчы гэтак маюцца, а іншыя інакш. Калі ты прыпамінаеш сабе выходны пункт нашага развважаньня, дык ты ведаеш, што я цьвердзіў, што прыемнасьці, каторыя атрымліваюцца, дзякуючы ўзроку і слуху, зьяўляюцца прыгожымі не затым, што гэта выяўляецца сваім для кажнае зь іх, а абедзьвюм не, але затым, што́ зьяўляецца сваім абедзьвюм разам, зьяўляецца сваім кажнай асобна, - гэтак, як ты і згадзіўся, што гэтыя прыемнасьці зьяўляюцца прыгожымі: і абедзьве разам і кажная ў вапрычонасьці. Затым-бо я і думаў, што, калі яны абедзьве зьяўляюцца прыгожымі, дык дзеецца гэта, дзякуючы наяўнасьці ў іх існасьці прыгожасьці ў вадным і другім выпадку. Я і цяперака падтрымліваю гэты самы пагляд. Але пачнем нібы з пачатку, і скажы мне: калі прыемнасьць, атры́мліваная, дзякуючы слуху, і прыемнасьць - дзякуючы ўзроку і зьяўляюцца прыгожымі абедзьве разам і адначасна кажная паасобку, дык ці ня будзе тое, што́ чы́ніць іх прыгожымі, прыналежным абедзьвюм ім і кажнай з асобна?

ГІППІЯС: Напэўна.

САКРАТАС: Могуць яны затым і з гэтае прычыны быць прыгожымі, бо кажная зь іх і яны разам зьяўляюцца прыемнасьцямі? Ідучы шляхам нашага разважаньня, усе іншыя прыемнасьці павінны-б былі быць ані крышку меншымі, бо, калі ты па́мятаеш, яны былі ўзнанымі, што яны ў аднолькавай меры зьяўляюцца прыемнасьцямі?

ГІППІЯС: Па́мятаю.

САКРАТАС: З другое стараны, мы сьцьвердзілі, што ў вапрычонасьці гэтыя прыемнасьці мы дазнае́м дарогаю ўзроку і слуху і з гэтае прычыны яны стаюцца прыгожымі.

ГІППІЯС: Так, гэта мы сьцьвердзілі.

САКРАТАС: Тады разваж, ці праўду я кажу. Як далёка я памятаю, мы казалі, што прыгожае падпада́е пад катэґорыю прыемнага - хоць ня кажнае прыемнае, але прыемнае, вы́кліканае, дзякуючы зроку і слуху.

ГІППІЯС: Правільна.

САКРАТАС: І гэтая свомасьць прыналежнаю зьяўляецца да абедзьвюх прыемнасьцяў разам, але не да кажнае асобна. Ці-ж ня гэтак? Паводля таго, як казалі мы ўжо раней, кажная зь іх апрычона не атрымліваецца дарогаю абодвух змыслаў; але абедзьве ў выніку абедзьвюх, а кажная асобна - не. Ёсьць-жа гэта так?

ГІППІЯС: Ёсьць.

САКРАТАС: Тады, кажная зь дзьвюх прыемнасьцяў не зьяўляецца прыгожаю тым, што́ не прыналежыць да кажнае, бо тое, што́ прыналежным абедзьвюм, не належыць да паасобнае; тады, ідучы па лініі нашага разважаньня, можна назваць прыгожымі абедзьве прыемнасьці разам, але не магчыма гэтак назваць кажную зь іх асобна. Ці ня прыводзіць гэта нас да неабходнага высναву?

303 ГІППІЯС: Выглядае, што так.

САКРАТАС: Маем-жа мы, тады, сказаць, што абедзьве разам яны прыгожыя, але кажная зь іх асобна - не?

ГІППІЯС: Я ня бачу ніякае перашкоды тут.

САКРАТАС: Я думаю, што існуе перашкода, дружа мой: бо, з аднае стараны, у нас было нешта, што свомым было кажнаму аб'екту, а з гэтага: калі яно свомым абодвум разам, дык яно свомым і для кажнага ў вапрычонасьці, і наадварот: калі яно свомым ёсьць для кажнага паасобна, дык яно свомым ёсьць і абодвум разам - гэта і ёсьць усё тое, што́ ты пералічыў. Так гэта ёсьць?

ГІППІЯС: Так.

САКРАТАС: Але, з другое стараны, тое, што́ я пе-

ралічыў – не; і тут уваходзіла залажэньне, "кажнае ў вапрычонасьці" і "абедзьве разам". Так гэта было?
ГІППІЯС: Так.
САКРАТАС: Да якое-ж катэґорыі, Гіппіяс, ты думаеш прыгожае належыць? Да тае, пра якую ты ўспамінаў? Калі я зьяўляюся сільным і ты гэтаксама, тады мы абодва зьяўляемся сільнымі; і, калі я справядлівы і ты гэтаксама, тады мы абодва справядлівыя, а калі абодва, тады і кажны з асобна з нас. І пасьлядоўна, калі я зьяўляюся прыгожым і ты гэтаксама прыгожы, тады мы зьяўляемся абодва прыгожымі, а калі абодва – тады і кажны паасобку? А мо́ падобны прынцып магчыма затасаваць і ў матэматыцы? І што-ж стаіць на перашкодзе, каб з двух складовых частак, якія твораць сабою разам лік, кажная асобна была раз няцотнаю, а іншым разам цотнаю, або зноў, дзьве складовыя часткі, кажная зь якіх неакрэсьлена, узятыя разам, тварылі-б акрэсьленую або неакрэсьленую і гэтак далей у шматлікіх іншых выпадках, якія, як я ўжо і казаў, узьнікаюць перада мною. Цяперака, да якое-ж катэґорыі выпадкаў ты залічваеш прыгожае? Ці твой пагляд тут пакрываецца з маім? Мне гэта выдаецца вялікаю недарэчнасьцю, каб мы абодва разам былі прыгожымі, а ўжо кажны з нас у вапрычонасьці – не, або, каб кажны з нас асобна быў прыгожым, а мы абодва разам – не, і гэтак далей. Ці прыймаеш ты мой пункт гледжаньня, а мо́ іншы?
ГІППІЯС: Твой, Сакратас.
САКРАТАС: Зусім трапна чыніш, Гіппіяс, калі маем мы, нарэшце, скончыць з далейшым досьледам. Бо, калі да гэтае катэґорыі ўключыць прыгожае, дык прыемнае, дзякуючы зроку і слуху, ужо ня можа быць прыгожым. Бо зрок і слух змушаюць быць прыгожым гэтае і іншае, але ня кажнае ў вапрычонасьці. Гэта аказалася немагчымым, Гіппіяс, як мы разам ужо і згадзіліся.
ГІППІЯС: Адносна гэтага мы згадзіліся.
САКРАТАС: Немагчымым ёсьць, каб прыемнае, з прычыны зроку і слуху, было прыгожым, бо, калі мы ўчынім роўным яго з прыгожым, мы атрымаем немагчымы вынік.
ГІППІЯС: Рэч зусім гэтак маецца.
САКРАТАС: "Пачынайце ўсё з пачатку, – скажа той чалавек, – бо вы разьмінуліся з найгалаўнейшым. Чымжа, паводля вашага пераканаданьня, зьяўляецца тое "прыгожае", якое будзе свомым для абедзьвюх гэтых прыемнасьцяў, калі вы ўжо ўганаравалі іх перад у-

сімі іншымі і назвалі іх прыгожымі?" - Я думаю, Гіппіяс, што мы змушаныя адказаць, што яны зьяўляюцца найболей бяскрыўднымі з прыемнасьцяў і найлепшыя, абедзьве ўзятыя разам ці паасобку. Можаш ты падáць што-небудзь болей рачовае ў вадказе, чаму яны вышэйшымі зьяўляюцца ад іншых?

ГІППІЯС: Не. Бо яны запраўды зьяўляюцца найлепшымі.

САКРАТАС: "Дык тады, - скажа ён, - вашаю дэфініцыяю прыгожасьці зьяўляецца карысная прыемнасьць". Здаецца, я адказаў-бы гэтак. А ты?

ГІППІЯС: Я гэтаксама.

САКРАТАС: І ён скажа далей: "Тады, карыснае зьяўляецца тым, штó творыць дабро, а тое, штó творыць і
тое, штó створана, як выясьнілася, гэта розныя рэчы, і гэтым вашая дыскусія кончылася ў развАжаньнях
304 ужо раней выражаных? Бо дабро ня можа быць прыгожым, ані прыгожае дабром, калі толькі кажнае зь іх
ёсьць нечым іншым." - Нічога ня можа быць болей пэўным, адкажам мы, калі мы зьяўляемся шляхэтнымі людзьмі. Бо не зьяўляецца дазволеным пярэчыць таму, хто праўду кажа.

ГІППІЯС: Але я мушу запытаць цябе, Сакратас: Што гэта такое, усё ўзятае разам, пра што мы гаварылі? Нейкае шалупеньне, непавязаныя з сабою абрыўкі гутарак, як я толькі-што казаў, раздробленыя на маленькія частачкі? Тое, штó зьяўляецца і прыгожым і найболей вартасным - гэта быць здольным выступіць з добраю і прыгожаю прамоваю ў судзе ці ў зграмадзкэньні радных, або перад іншымі ўладамі, перад якімі ты прамаўляеш; пераканаць слухачоў і выйсьці з нагародаю, і зь не абы якою, але з найбольшаю - уратаваць самога сябе і сваю ўласнасьць, і прыяцеляў. Вось чаго трэба трымацца, пакідаючы ўсе гэтыя дробязі, каб ня выявіцца вельмі-ж ужо глупым, калі пачнем займацца, як цяперака, пустою гутаркаю.

САКРАТАС: О дарагі мой, Гіппіяс, ты зьяўляешся шчасьлівым, бо ведаеш чым трэба чалавеку займацца, і, як ты сам кажаш, праводзіць гэта ў жыцьці як належыцца. Але мяне, як выглядае, нейкі дрэнны лёс мáе ў сваей моцы, затым бо я і блукаю стáла ў сваім сумліве; а калі я адсланяю перад вамі, мудрымі людзьмі, свой сумліў, вы тады нападаеце на мяне і не шкадуеце для мяне зьнявагаў, кажны раз, калі я адхіляю яго перад вамі. Вы заўсёды гаворыце тое самае, штó ты, Гіппіяс, і цяперака кажаш, як глупымі, маленечкімі і нічога ня вартымі зьяўляюцца тыя справы, якімі я займаюся. Зноў-жа, калі я, пераканаь вамі,

пачынаю гаварыць тое самае, што́ і вы, пайменна,што найлепшаю рэчаю за ўсё - гэта ведаць, як выступаць перад людзьмі, а выступіўшы ў судзе ці ў іншым зграмаджэньні з добраю і прыгожаю прамоваю, давесьці яе спраўна да канца, - тады даводзіцца мне шмат наслухацца дурніцы, і асабліва ад таго вунь чалавека, які стала і заўсёды мяне дакара́е. Справа ў тым,што ён вельмі блізкім сваяком мне прыходзіцца, дый жыве са мною пад адным дахам; і, калі я толькі вяртаюся да хаты, а ён, чуючы, як я пачынаю развважаць пра гэтыя рэчы, пачынае пытацца мяне: ці-ж ня сорамна табе ўмешвацца ў развважаньні адносна прыгожага спосабу жыцьця тады, калі дыскусыйныя пытаньні выразна выявілі, што я нават ня ведаю значэньня самога слова "прыгожы". "Затым, - кажа ён, - як-жаж ты будзеш ведаць якая прамова зьяўляецца прыгожаю, калі хто-небудзь выступае зь ёю і наадварот - і падобнае мерадайным зьяўляецца ў кажнай акцыі жыцьця - калі ты ня маеш паняцьця чым прыгожае зьяўляецца? І як доўга ты зьяўляешся тым, чым ты зьяўляешся, няўжо-ж ты думаеш, што табе ляпей жыць, чымся быць памершым?" І вось, кажу я, мне даводзіцца слухаць і дакоры і ўпіканьні ад вас і ад гэтага чалавека. Але, мусіць, трэба цярпець. І як-бы гэта дзіўным ні выдавалася, вельмі магчыма, што я займею нейкую карысьць з гэтага. І запраўды, Гіппіяс, я думаю, што з мае гутаркі з вамі двума, я займеў карысьць: бо мне здаецца, што я ўцяміў значэньне пагаворкі: "Усё, што зьяўляецца прыгожым - ёсьць трудным".

Ґэйнсвільл, Флярыда
25 ліпеня 1974 г.

У ТЫМ-ЖА ПЕРАКЛАДЗЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ
ДЫЯЛЁГІ ПЛЯТОНА:

КНІГА ПЕРШАЯ

Абарона Сакратаса
Крытон
Файдон

КНІГА ДРУГАЯ

Сымпозыён
Іён
З дадаткам кароткага Грэцка-беларускага

КНІГА ТРЭЙЦЯЯ

Ґорґіяс
З дадаткам Грэцка-беларускага слоўніка

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ

Протаґорас
Гіппіяс вялікшы
З дадаткам нарысу др праф. Ґільбэрта М
п.т. "Вартасьць Грэцыі для будучыні сь

Выпісваць:

John Piotrowski
1716 NE 7th Terrace
Gainesville, Florida 32601
U.S.A.

Бач. 43. ... на прыгожасьць Алькібіядэса?...Алькібіядэс, сын Клеініяса і Дзіномахі, радзіўся ў Атэнах каля 450 г.п.н.э., які род свой выводзіў ад Алькмэоніда з Пылёсу.Калі ў 447 г.п.н.э. памер ягоны бацька, ён быў узгадоўваны ягоным сваяком,ведамым дзяржаўным мужам, аратарам, стратэгам і філёзафам - Пэрыклесам. Алькібіядэс быў агульна ведамым са свае фізычнае прыгожасьці і багацьця, асабліва пасьля таго, калі ўзяў ён сабе за жонку сястру багатага Кальліяса. На працягу многіх гадоў ён быў адданым прыхільнікам і сталым адведвальнікам Сакратаса /гл. Сымпозыён Плятона/. З гэтае прычыны незразумелым астаецца, як далёка распасьціраўся ўплыў філёзафа на чалавека, каторага спосаб вядзеньня жыцьця астаецца яскравым прыкладам таго, супроць чаго выступаў Сакратас, хоць іхнае сяброўства ўзаемна дапаўнялася: У бітве пад Поцідаяй ў 432 г.п.н.э. Сакратас ўратаваў ягонае жыцьцё, а ў бітве пад Дэліёнам, якая мела месца ў 424 г.п.н.э., Алькібіядэс ўратаваў жыцьцё Сакратаса.

Хутка пасьля падпісаньня Міру Нікіяса ў 421 г.п.н.э. Алькібіядэс уключыўся ў палітычную дзейнасьць.

Пасьля сьмерці Клеона /422 г.п.н.э./ Алькібіядэс ачоліў партыю, падтрымліваючую ваенную палітыку з апазыцыяю да Нікіяса.

У часе плянаваньня экспэдыцыі ў Сыракузы /415 г.п.н.э./, займела месца здарэньне, якое вырашаюча ўплыло на далейшы бег жыцьця Алькібіядэса. Удзельнікамі экспэдыцыі былі: Алькібіядэс, сын Клеініяса - галоўны ініцыятар, Нікіяс, сын Нікерамоса - галоўны дзяржаўня муж і Лямахос, сын Ксэнофанэса - дасьведчаны стратэг. Здарылася, што ў ночы перад адплывам флятыліі ў напрамку Сыцыліі ўсе твары гэрмаў /гл. Ἑρμῆς/ у Атэнах былі таёмна пашкоджаныя і абясчэшчаныя. У здарэньні гэтым атэнцы бачылі агіднае выступленьне супроць іхнага дэмакратычнага ладу. Алькібіядэс тут-жа быў абвінавачаны ў злачынстве, хоць абінавачаньне было неабаснованым. Ён дадамагаўся судовага разгляду і досьледу справы перад адплывам, але ворагі ягоныя не дапусьцілі да гэтага, і адплыў адбыўся ў атмасфэры падозраньня. /Гл. Тусідідэс, Пэлёпоннэская вайна, кн. V, разьдз. XVI, кн. VI, разьдз. XVIII/. Ледзьве прыбыў ён у Сыцылію, як дайшла да яго вестка, што адумысны вадаплаў мае надыйсьці з Атэнаў, каб забраць яго а-

рыштаванага дамоў. Ведаючы, што атэнцы несправядліва збунтаваліся супроць яго, па дарозе са сваімі прыхільнікамі ён накіраваўся ў Арґос, а адтуль у Спарту, дзе ён стаўся галоўным ваенным райцам караля Аґіса I. Але махінацыі ягонага ворага, Аґіса II, змусілі яго ў 412 г.п.н.э. пакінуць спартанцаў і шукаць прыязьні ў Ціссафэрнэса - ведамага ў тыя часы пэрскага сатрапа Лідыі. Тутака, дзякуючы ягонай здольнасьці і палітычнай дзейнасьці, як і зьменам, якія ў міжчасе займелі месца ў Атэнах, Алькібіядэс быў адкліка, атэнцамі з выгнаньня. Выглядала, што Атэны ўзыйшлі на новы шлях свае велічы. Атэнская флятыля, ведзеная на моры Алькібіядэсам, сталася паняю на моры. Дзякуючы Алькібіядэсаваму гэнію, яна нанова здабыла Бізанцыю і, вельмі магчыма, што яна і на далей чыніла-б поступ у гэтым напрамку, калі-б ня тое, што адзін зь ягоных лейтэнантаў панёс паразу ў сутычцы з ворагам пад Ноціюм. І хоць Алькібіядэс ня нёс адказнасьці за гэта, хоць у гэтым самым часе быў з задачаю ў іншай экспэдыцыі, хоць ваенныя морскія сілы ня выканалі ягонага яснага і выразнага загаду, тым няменей ён быў абцяжаны адказнасьцю і змушаным быў выйсьці ў азыль, зь якога ўжо ніколі не вярнуўся ў Атэны. Было гэта вялікім гістарычным непаводжаньнем для Атэнаў, што яны гэткім чынам згубілі аднаго з найболей здольных сваіх стратэгаў, якраз у тым часе, калі Лісандрос, слаўны спартаскі камандзер у 406 г. п.н.э. абняў камандаваньне свайго войска супроць Атэнаў. Два гады пазьней Атэны злажылі аружжа. Алькібіядэс асеў на жыцьцё ў сваім уласным замку высака на заходнім узьбярэжжы Гэльлеспонту. У 405 г. п.н.э. Алькібіядэс яшчэ раз прадпрыняў высілак ўратаваць Атэны, калі ён асабіста прыбыў у Эґоспотамос і перасьцярог атэнскую галоўную ваенную кватэру перад неспадзяванаю атакаю спартанскіх морскіх сілаў праз морскую цясьніну. Але атэнцы высьмеялі выгнаньніка і былі вынішчаны спартанцамі.

Пасьля здабыцьця спартанцамі Атэнаў /404/ Алькібіядэс перасяліўся ў Малую Азыю, дзе знайшоў сховішча ў пэрскага сатрапа Меншае Фрыґіі і Бітыніі, Фарнабодзоса. Ён меўся ўжо ўвайсьці ў двор Артаксэрксэса, як аднойчы ўночы ягоны дом быў акружаны ўзброеннымі людзьмі і падпалены. Ён выскачыў зь мячом у руцэ, але тут-жа ўпаў пранізаны стрэламі, праўдападобна на загад Лісандроса.

Старажытныя гісторыкі згаджаюцца што да факту існаваньня ўпярэджаньня адносна Алькібіядэса. Гэтае

ўпярэджаньне вязалася з занятаю паставаю адносна дзейнасьці і пагляду Сакратаса. Тыя, што ганьбілі Алькібіядэса, былі людзьмі, што ачарнялі Сакратаса. Гэткі спосаб разважаньня і дзейнасьці ў васяродзьдзі людзей пэўнае мэнтальнасьці адбываўся на працягу тысячалецьцяў у гісторыі чалавека і працяг свой знаходзіць яшчэ ў нашым часе. Некаторыя камэнтатары сьведама, каб падмацаваць гэты мамэнт, пакліваюцца на Ксэнафона, прамоўчваючы пры гэтым факт, што апошні хоць і быў староньнікам Сакратаса, добрым жаўнерам і здольным пераказчыкам сваіх перажываньняў, ніколі ня быў гісторыкам у пэўным значэньні гэтага слова.

...Ці-ж ты не згаджаешся з Гомэрам,... Гомэргалоўны прадстаўнік грэцкае літаратуры і першы паэта на эўрапэйскім кантынэнце. Гомэрос - гэта 'ягонае запраўднае імя - зьяўляецца аўтарам дзьвюх паэмаў: Іліяда і Одыссэя, напісаных тагачаснаю літаратурнаю грэцкаю моваю. Разам яны твораць прототып эпічнае літаратуры, створанае ў дактылічным гэксамэтры, які зьяўляецца характэрным для паэтычнае творчасьці старажытнае Грэцыі. Пытаньне аўтарства Гомэра дзьвюх успомненых паэмаў заставалася некранутым да 1795 г. У гэтым годзе Фрыдэрых Аўґуст Вольф, нямецкі філялёг і прафэсар /1759-1824/, апублікаваў сваю працу п.т. Prolegomena ad Homerum /Уводзіны да Гомэра/, у якой паддаў пад сумніў і крытыку сам тэкст паэмаў, мову як і іх аўтарства. Гэта стварыла пачатак г. зв. гомэраўскга пытаньня, якое запоўніла сабою дзевятнаццатае стагодзьдзе доўгатрываючаю дыспутаю, зводзячы да аналізы розных тэкстаў дзьвюх працаў, што прывяло да высnаву, што яны ўзьніклі ў выніку спалучэньня дзьвюх вусна пераказваных з пакаленьня ў пакаланьне старых паэмаў. Усё гэта ўзятае разам прыводзіць да контравэрсыі адносна паходжаньня Гомэравых паэмаў, якое да сягоньняшняга дня ня высьнена і праўдападобна ніколі ня будзе высьнена. Сучасныя дасьледчыкі ўзьнятага пытаньня згаджаюцца ў тым, што быў паэта зь імем Гомэрос, які жыў праўдападобна ў IX стагодзьдзі п.н.э. ў Малой Азыі, што аўтарам кажнае зь дзьвюх паэмаў зьяўляецца адзін чалавек, які напісаў іх для асьвечанае часткі свае супольнасьці. Іншыя, зноў, прыпісваюць аўтарства Одыссэі чалавеку, які мусіў жыць значна пазьней за аўтара Іліяды. Адносна Гомэра існуе значная колькасьць лягендаў, паводля некаторых зь іх, Гомэр быў сьляпы, а гэтакія месты, як Атэны, Сьмірна, Родос, Колёфон, Арґос, Саляміс, Хіёс - кажнае зь іх прэдэндуе, што Гомэ-

рос паходзіў зь яго. Апрача ведамых дзьвюх паэмаў, у пазьнейшых часох узьнік цэлы рад большых і меншых вершаваных твораў пад агульным назовам Гомэраўскія Гымны, якія, аднак, да пытаньня Гомэра амаль нічога новага ня ўносяць.

Бач. 44 ...Гіппократэс, сын Апольлёдороса, брат Фазоноса... Гіппократэс - аднаіменьнік з Гіппократэсам з Косу - паводля словаў Сакратаса, зьяўляецца жыхаром Атэнаў, сынам Апольлёдороса "зь вялікага і слаўнага роду." Гэтулькі ведаем пра яго і тое, што меў цягу да ведаў.

Бач. 45 ...у Кальліяса, сына Гіппонікоса...Кальліяс і Гіппонікос - прадстаўнікі шляхэцкага атэнскага роду, які, сярод іншых уплывовых дамоў, з прычыны свайго багацьця, праз даўжэйшы час меў аграмадны ўплыў на палітычнае, культурнае і эканамічнае жыцьцё Атэнаў як і Гэльляды. Першае месца ў гэтым родзе ў V ст.п.н.э. займаў Кальліяс, які прыймаў удзел у бітве пад Маратонам у 490 г.п.н.э. Ён быў амбасадарам з Атэнаў да Артаксэрксэса, вялікага караля Пэрсыі. У рэзультаце гэтае дзейнасьці і пад ягоным кіраўніцтвам у 449 г.п.н.э. быў выпрацаваны г. зв. "Трактат Кальліяса", на моцы якога, усе амбітныя замеры са стараны пэрскіх валадароў заваяваньня Эўропы былі на заўсёды спынены. На падставе гэтага трактату Артарксэрксэс I згадзіўся шанаваць незалежнасьць Дэлійскае Лігі і ўдзельнікаў яе і ня высылаць вадаплаваў у грэцкія воды. У замен за гэта Атэны згадзіліся ня ўмешвацца ў справы пэрскіх уплываў у Малой Азыі і на Кіпру. Пасьля ягонага павароту ў Атэны ён быў абвінавачаны за тое, што даўся падкупіць сябе і быў засуджаны на заплату 50 талентаў. У 424 г.п.н.э. ягоны сын Гіппонікос быў забіты ў бітве пад Дэліёнам. Гэта была ягоная маці аўдавелая /але найболей праўдападобна разьведзеная з мужам/, на якой Пэрыклес жаніўся. Ягоная дачка, Гіппарэта, вышла замуж за Алькібіядэса. Плятонавы Сымпозыён як і Ксэнафонавы адбываюцца ў доме багатага Кальліяса.

Бач. 45 ...Гіппократэса з Косу... Гіппократэс - ведамы і слаўны лекар старажытнае Грэцыі, паходзіў з абтокі Кос. Год нараджэньня падаецца як 460, але год сьмерці - 377 і 370 п.н.э., аднак найболей праўдападобна памер ён у Лярыссе /Тэссалія/ ў 357 г.п.н.э. на 104 годзе свайго жыцьця. Вучыўся ён у Гэродікоса ў Атэнах і навуку паглыбляў у падарожжах. Дзякуючы павазе, зь якою ён падыходзіў да хворага чалавека, чэснасьці, праяўленай у лячэньні, тарна-

ваньню этыкі ў аднясеньні да патрэбаў церпячага чалавека і да ягонае прыватнасьці, дзякуючы новаму і індывідуальнаму падходу да пацыента і ягонае хваробы; дзякуючы ягонаму аграмаднаму ўплыву на поступ у пачынаючай галіне мэдыцыны і ўвядзеньню, як рэзультат гэтага, аддзяленьня мэдыцыны ад забабону і пастаўленьне яе на навуковыя асновы, - Гіппократэс быў абдораны тытулам Бацькі мэдыцыны.

Гіппократэс пісаў, навучаў і практыкаваў сваю прафэсыю дома як і па-за домам. Што да колькасьці твораў, носячых ягонае імя, дасьледчыкі ня прыйшлі да сузгоднасьці. Найболей ведамым ягоным творам зьяўляецца праца п.т. "Афорызмы". Першы афорызм з гэтае працы ёсьць годны нашае ўвагі і гучыць: "Жыцьцё ёсьць кароткім, а навука доўгаю; нагода ёсьць мінаючаю, дасьведчаньне - зманьваючым, а высноў трапны - трудным".

Ён сфармуляваў ідэалы лекара, ведамымі як Прысяга Гіппократэса, знойдзеная сярод ягоных твораў,якая ў старажытных часох была складаная маладымі людзьмі, якія распачыналі мэдычную навуку.Падобную прысягу складалі абсольвэнты мэдычнага факультэту ў часох сярэднявечча; у нашых часох многія школы абавязваюць сваіх студэнтаў да Гіппократэсавае прысягі. Ці пададзены ніжэй тэкст прысягі зьяўляецца тым аўтэнтычным тэкстам, на гэта мы ня маем абсалютнае пэўнасьці. Сучасныя дасьледчыкі аднак схільнымі астаюцца, што прыпісваны Гіппократэсу тэкст, паходзіць з трэйцяга стагодзьдзя н.э. Прысяга гучыць як наступае:

"Я прысягаю на Апольлёна, лекара, на Асклепіёса, на Гіґіэію, Панакею, і на ўсіх багоў і багіняў, што паводля мае здольнасьці і майго меркаваньня я буду перасьцерагаць гэтую прысягу і дамоўленасьць. І на таго, хто вучыў мяне гэтае мастацтва, я буду глядзець, як на аднаго з маіх бацькоў. Я буду дзяліцца зь ім маею маемасьцю, і буду абясьпечваць яго неабходнымі рэчамі, калі ён знойдзецца ў патрэбе. І ягоных нашчадкаў я буду ўважаць за маіх братоў, і я буду старацца пераказаць ім гэтае мастацтва, калі яны захочуць вучыцца яго, бязь ніякае заплаты або забавязаньня. Я буду пераказваць гэтае мастацтва дарогаю інструкцыяў, праз выклады і дарогаю кажнага спосабу навучаньня, і ня толькі маім уласным сына́м, але і сына́м таго, хто мяне вучыў, і вучням, злучаным забавязаньнем і прысягаю ў сузгоднасьці з правам мэдыцыны. Гэтая сыстэма, якую я прыняў, няхай будзе дабром для маіх

пацыентаў паводля мае здольнасьці і ў сузгоднасьці з маім зразуменьнем, і ніколі для іхнае шкоды або ім на зло. Я нікому ня дам сьмяротнага леку, хоцьбы нават ён прасіў мяне, ані паслухаюся чыёй-небудзь рады ў гэтым, і асабліва я ня буду памагаць жанчыне выканаць аборт. У чысьціні і сьвятасьці я буду мінаць дзень за днём маё жыцьцё і выконваць мой абавязак лекара. Я ніколі ня буду рэзаць чалавека, церпячага на каменную хваробу, але пакіну гэта для выкананьня тым, каторыя зьяўляюцца адумыслоўцамі ў падобнага роду дзеяньні. У чыйколечы дом я ўвайду, я ўвайду з мэтаю спрычыненьня дабра для хворага, ухіляючыся ад кажнага дрэннага чыну, шкоды, і асабліва, ухіляючыся ад кажнага акту спакушаньня мужчыны ці жанчыны, нявольніка ці свабоднага чалавека. Штоколечы я ўбачу ці пачую адносна жыцьця людзей у часе адведзінаў маіх хворага ці адыходзячы, тое, што не павінна быць гавораным навонкі, я буду трымаць у маўчаньні, уважаючы падобныя рэчы за сьвятую тайніцу. І, калі я астануся верным у гэтым зароку, няхай мне будзе дадзеным карыстацца радасьцю жыцьця і выконваньнем мае прафэсыі, і заўсёды цешыцца пашанаю ўсіх людзей; але, калі-б я маральна заламаўся і нарушыў гэты зарок, няхай адваротнае станецца маім удзелам."

Сягоньня, пакідаючы за сабою тысячалецьці і чынячы тое, што агульна прынята называць прагрэсам, чалавек змодыфікаваў прысягу Гіппократэса, якая, у сваей адной з формаў, гучыць:

Я ўрачыста прысягаю на тое, што кажны чалавек уважае за сьвятасьць для сябе, што астануся верным мэдычнай прафэсыі, справядлівым і шляхэтным адносна кажнага церпячага; што я буду весьці сваё жыцьцё і выконваць сваё мастацтва ў справядлівасьці і гонары; і, што ў чыйколечы дом я ўвайду, няхай гэта, пры ўсім маім стараньні, будзе дабром для хворага; што я буду трымаць сябе на стражы перад кажным дрэнным учынкам, перад маральным упадкам, перад спакусаю з чыеколечы стараны да дрэннага чыну; што я буду выконваць сваё мастацтва ўрачыста з мэтаю аздараўляньня хворых, і ня дам ніякага леку, ня выканаю ніякае апэрацыі дзеля злачыннае мэты, нават тады, калі не адступаючы прасіцімуць мяне, а тым болей, калі будуць намаўляць мяне да гэтага; штоколечы я ўбачу або пачую з жыцьця людзей, аб чым не выпадае гаварыць, я захаваю недатыкальна ў тайніцы. І на гэтыя рэчы я прысягаю. І я ў цішыні пахіляю

сваю галаву на знак згоды. І цяперака, калі я астануся верным у гэтым, няхай тады памыснасьць і добрая слава будуць заўсёды са мною; і няхай станецца адваротнае мне, калі я знайдуся ў перакананьні зламаньня мною гэтае прысягі.

...адн<ins>аму з Асклепіядаў</ins>... Асклепіяды - група лекараў, якія, паводля сівога пераказу, сярод старажытных грэкаў уважаліся за нашчадкаў бога Асклепіёса. Гэтак, як бадай-што, у кажнай народнай міталёгіі, і сярод грэкаў перавышала перакананьне, што кажным дзеяньнем, асабліва добрым, гэтаксама як і над дзеючымі, апекаваўся той ці іншы бог. У дадзеным выпадку, Асклепіёс быў богам, які апекаваўся над мэдычнаю дзейнасьцю або, проста, быў богам мэдычнага мастацтва. У Гомэра Асклепіёс не зьяўляецца боскасьцю, але звычайна, называецца "беззаганным лекарам", якога два сыны, Махаён /гл. Іён,538/ і Подалірыёс, былі лекарамі ў грэцкай арміі. Але агульна пашырана было перакананьне, што Асклепіёс быў сынам бога Апольлёна. Далей даведваемся, што ён быў узгадованы і навучаны ў мэдычным мастацтве як і ў мастацтве паляваньня, Хіронам або, ад імя ягонае маткі /Філіра/, Філірыдэсам, наймудрэйшым і найболей справядлівым з усіх Кэнтаўросаў /Цэнтаўраў/. Існуе шмат іншых апавяданьняў, якія адносяцца да месца нараджэньня Асклепіёса. Паводля некаторых ён паходзіў з Эпідаўросу, і гэты пагляд з часам замацаваўся за ім. Паводля іншых пераказаў, калі ён падрос і дайшоў да сьведамасьці свайго мастацтва, ён ня толькі лячыў хворых, але вяртаў памершых да жыцьця. Дзелягэтага, паводля пераказу, Зэус, баючыся, каб людзі не навучыліся ўхіляцца ад сьмерці, маланкаю забіў Асклепіёса; але на жаданьне Апольлёна умясцовіў яго паміж зор. Ня гледзячы на розныя і супярэчныя сабе вэрсыі адносна Асклепіёса, пашана да яго і культ узрасталі з часам. Галоўным цэнтрам аддаваньня пашаны Асклепіёсу быў Эпідаўрос, дзе ў васяродзьдзі зелені на ягоную чэсьць была пабудована адумысная сьвятыня. - Вужы ён уважаў за сваеасаблівыя тварэньні, абдораныя сілаю з вышыні, якія ўважаліся за сымбаль а д н а ў л е н ь н я з адначасным перакананьнем, што яны маюць моц знайсьці гоячыя зёлкі. - Звычайна, певень быў птушкаю, якая складалася, як ахвяра Асклепіёсу на знак удзячнасьці за памысны канец недамаганьням /гл. Файдон у пер. Я.П., 1967, б. 189/. У 293 г.п.н.э., дзеля аджаненьня заразы, культ Асклепіёса з Эпідаўросу быў уведзены ў Рым, дзе ён ужо не Асклепіёсам, але Эс-

куляпіюсам названы быў. - Гэтыя здадуманыя нашчадкі Асклепіёса ад ягонага імя названымі былі Асклепіядамі, каторых галоўнымі месцамі прабываньня былі Кос і Кнідос. Яны тварылі сабою свайго роду закон або касту і мэдычнае мастацтва ўважалася імі да пэўнае ступені сьвятою тайніцаю, якая была па лініі мужчынскай пераказваная з роду ў род.

...пайсьці да Полікleітоса... Полікleітос, адзін з шасьці слаўных скульптараў старажытнае Грэцыі, расьцьвет дзейнасьці якога прыпадае прыблізна на 450-420 гг.п.н.э. Паходзіў з антычнага места Арґосу /паўночна-ўсходняя частка Пэлёпоннэзу/або з старажытнага Сыкіёну /на захад ад ракі Азопос і каля 3 кілямэтраў ад Корынцкага заліву, на паўночны ўсход ад Корынту/. Некаторыя дасьледчыкі ўтрымліваюць, што ягонае паходжаньне з Арґосу ўтоесамліваецца з атрыманьнем ім грамадзянства гэтага места, тады як у запраўднасьці, радзіўся ён у Сыкіёне. Ён уважаецца за найболей слаўнага старажытнага грэцкага скульптара пасьля свайго сучасьніка, Фідзіяса. Ён вырозьніваўся здольнасьцю тэхнічнага апрацаваньня, вычуцьцём далікатнасьці ў выканчэньні і прыгожасьцю ў хворме. Ягонаму мастацтву належыць аграмадных памераў з золата і слановае косьці статуя Гэры - багіні жаніства і плоднасьці, якая знаходзілася ў сьвятыні Гэры недалёка Арґосу. Ягоныя творы характэрнымі былі з прычыны мускулярнае сілы, тварамі барждзэй квадратнае хвормы, чымся круглае, шырокімі брывамі, простым носам і малым падбародкам. - Некаторых ягоных статуяў сягоньня існуюць мрамарныя рэплікі, для прыкладу - "Дорыфорос"- малады носьбіт копіі; "Дзіядумэнос" - юнак, завязваючы істужку на чоле...

...да Фідзіяса... Фідзіяс /і Фэідзіяс/, сын Хармідэса, найбольшы скульптар-мастак старажытнае Грэцыі, радзіўся каля 490 г.п.н.э. Зь ягоных сучасьнікаў ніхто не перавышаў яго ў свомым для яго мастацтве. Узнаньне для яго са стараны старажытныж пісьменьнікаў, іхныя выказваньні адносна ягоных твораў і ягоны ўплыў на пазьнейшых скульптараў запэўнілі яму на заўсёды славу. Паводля традыцыі, гэта быў Фідзіяс, катораму Пэрыклес даручыў дагляд над усімі працамі ў Атэнах скульптурна-архітэктурнага характару, якія праводзіліся на працягу ягонага ачольваньня места. З пасярод чысьленых Фідзіясавых твораў найважнейшымі былі Атэна Партэнос, якая была праўдзівою каштоўнасьцю Атэнаў, і Зэус - аграмадных памераў хрызоэлефантынныя статуі, выкананыя з зола-

та і слановае косьці/χρῦσός і ἐλεφάντινος/. Да гэтае рангі працаў належаць гэтаксама Пропілаі - галоўны ўваход у Акрополіс, як і, перадусім, сьвятыня Атэны на Акрополісе, званая Партэнон, выкананыя Фідзіясам і ягонымі вучнямі і майстрамі пад ягоным кіраўніцтвам. Атэна Партэнос - статуя, твор уласных рук Фідзіяса, памешчаная ў пышнай сьвятыні і ў 438г.п.н.э. была прысьвечана свайму прадназначэньню. З 447 да 432 г.п.н.э. Фідзіяс працаваў над іншымі скульптурамі Партэнону. З гэтага часу ён стаецца ахвяраю зайздрасьці палітычных ворагаў Пэрыклеса. Перш ён быў абвінавачаны ў растраце грамадзкае маемасьці. У дадзеным выпадку справа адносілася да золата, ужытага да статуі. На прапанову Пэрыклеса, абвінавачаньне зь лёгкасьцю было адкінута, бо часткі статуі з золата маглі быць свабодна выбранымі і зважанамі. Калі гэтая справа для Фідзіяса была вырашана памысна, ён быў зноў абвінавачаны, і гэтым разам у бязбожніцтве. Тут яму чыніўся закід, што, у выкананьні ім ведамага змаганьня Амазонак, ён увёў на шчыт багіні сваё падабенства і падабенства Пэрыклеса. У міжчасе Фідзіяс выйшаў у азыль у Эліс - заходнюю частку Пэлёпоннэзу, дзе ён, праўдападобна ў гэтым часе, стварыў, успомнутую вышэй, статую Зэуса для сьвятыні на Олімпе. Зэус быў уважаны адным з сямі цудаў сьвету. Год сьмерці Фідзіяса няведамы дакладна.

Бач. 50 ...Хармідэс... - дзядзька Плятона, брат ягонае маці, Пэрыктыёны /гл. ґэнэалягічная табліца Плятона - Плятон, Выбраныя дыялёгі, у пер. Я.П. - 1967 г., ЗША/.

..."я вочы свае ўзьняў і ўбачыў магутнага"... - думка ўзята з Одыссэі Гомэра, XI, 601.

...Эрыксімахос... - лекар, які выступае гэтаксама ў Сымпозыёне.

..."вочы мае ўбачылі Танталёса"... - парафраза думкі з Одыссэі, XI, 582.

...ў стоа... Стоа /слова ўжываецца тут бяз хвормаў скланеньня/ - у старажытнай Грэцыі портык, колюмнада або тып архітэктуральнае пабудовы з прыкметамі праўдзівага мастацтва і абапертае на калёнах. Заля магла быць ёю, двор, праход з будынку ў будынак ці ўздоўж забудаваньняў. Стоа пераважна будаваліся дарогаю прадоўжаньня даху аснаўнога будынку, які апіраўся на адумысныя для гэтае мэты калёны з выступам на вуліцу, пляц ці двор, падлога якога ўздымалася крыху вышэй ад узроўня вуліцы ці двара. Стоа, напраклад, акружалі аґора ў Атэнах, пляцы публічных зграмаджэньняў; стваралі падпаветкавыя

праходы паміж грамадзкімі будынкамі, сьвятынямі і стадыёнамі. Знаменным прыкладам зьяўляецца Стоа Караля Атталёса II ў Атэнах і тыя, што ў Эпідаўросе, якія асланялі паддашам церпячых пілігрымаў па дарозе ў напрамку сьвятыні на чэсьць Асклепіёса. Аґора - тагачасны гандлёвы цэнтар - меў Паўдзённую I і Паўдзённа-заходнюю Стоа; на заходнім скраю знаходзілася Стоа Зэуса і іншыя. Ведамая Стоа Поікіле, упрыгожаная каляровымі вобразамі, якая знаходзілася на паўночнай частцы Аґора, пажаданым месцам частых спатканьняў філёзафа Зэнона і ягоных прыхільнікаў і, якія ад слова "стоа" былі называныя стоікамі. /Сыстэма іхнага сьветапагляду ўвайшла ў гісторыю як стоіцызм - філязафічны пагляд, які, між іншым, заахвочваў чалавека да этычнага жыцьця, і, як прадумовіны шчасьця, уважаў панаваньне над сабою, бадзёрае зношаньне цярпеньняў і жыцьцёвых непаводзінаў, спакойнае падпарадкаваньне сябе бегу выдарэньняў. У вагульным значэньні - пругкасьць у непаводжаньні, непахіснасьць у небясьпецы/.

...Паўзаніяс з Керамэйскага дэмосу... Пра Паўзаніяса Керамэйскага ня шмат ведаем. Назоў выводзіцца ад слова Керамэікос /Κεραμεικός/ - Ганчарскі Квартал у Атэнах. Фактычна два кварталы насілі гэты назоў: адзін у межах Трыазыйскіх Варотаў /Унутраны Ганчарскі квартал/, а другі навонкі іх. /Нашага Паўзаніяса ня трэба ўтоесамліваць з Паўзаніясам Лякедаймонскім, сынам Клеомбротоса і пляменьнікам слаўнага Лэонідэса/.

...Аґатон... Гл. камэнтары да Выбраных дыялёгаў Плятона - Сымпозыён, Іён у пер. Я.П., 1970, б.123.

Бач. 52. ...Сымонідэс... Сымонідэс, сын Леопрэпэса зь мянюшкаю Мэлікэртэс /μέλι - мёд+κηρός-воск - мядовыя соты/, паважаны элеґійны паэта Грэцыі, радзіўся ў 556 г.п.н.э. праўдападобна ў галоўным месьце Іёліс на абтоцы Кеос /абтока з групы вастравоў, званых Кіклядэс або Цыклядаў/. Са свайго роднага востраву ён накіраваўся ў Атэны, а згэтуль у Тэсалію. Пасьля нейкага часу ён вярнуўся ў Атэны, якія знаходзіліся ў пэрыядзе Пэрскіх войнаў. Тут у 489 г.п.н.э. Сымонідэс перамог Айсхілёса ў спаборніцтве за ўзнагароду, вызначаную атэнцамі за эпітаф на чэсьць тых, што палі на полі хвалы пад Маратонам. Ён стварыў значную колькасьць іншых твораў гэтага самага характару. У 80 годзе свайго жыцьця з прычыны паэтычнае дзейнасьці ў 477 г.п.н.э. ён атрымаў сваю пяцьцідзесят шостую ўзнагароду. Коратка пасьля гэтага ён быў запрошаны Гіеронам у

Сыракузы, пры двары якога ён быў высака ганараваным. Тут аставаўся ён да сьмерці, якая наступіла каля 468 г.п.н.э. Характэрным для яго астаецца факт, што літаратурную дзейнасьць сваю ён уважаў за прафэсыю, і пра яго гаворыцца, што творы свае прадаваў ён за грошы. Ягоны стыль адлюстроўваў супакой, зраўнаважанасьць і памяркоўнасьць ува ўсім, што ён тварыў, чынячы сваю паэзыю прыемнаю для чытаючага /згэтуль ягоная мянюшка – Мэлікэртэс/. Ягоным найболей магчыма ведамым вычынам быў шляхэтна ўзьнёслы эпітаф, прысьвечаны сьмерці героям пад Тэрмопілямі, які цытуе гісторык Гэродотос /Кн.VII, 228/.

...Орфэуш... Гл. камэнтары да Сымпозыён, б. 126.

...Мусайёс... – ведамы поўміталягічны паэта і прадказальнік /Гэродотос, VIII, 96/, вучань Орфэуша.

...Іккос тарасскі... Пра гэтага Іккоса, які праўдападобна паходзіў з старажытнага места Тарас /Τάρας/, дайшло да нас мала дадзеных. З Плятонавага дыялёгу Правы /840/ даведваемся, што Іккос цікавіўся спортам, быў праўдападобна атлетам і вельмі магчыма, што мог быць інструктарам ґімнастыкі.

...Гэродікос... – Ня многа пра яго ведаем, а тое, што ведаем, скупым зьяўляецца. Утрымліваў у Атэнах г.зв. ґімназыён – месца, дзе адбываліся ґімнастычныя практыкаваньні. У грэцкай старажытнасьці паняцьце спорту і зьвязаныя зь ім фізычныя практыкаваньні цесна вязаліся з паняцьцем здароўя чалавека. Гэродікос зьвяртаў увагу на лячэньне пры помачы ґімнастычных практыкаваньняў. Некаторыя крыніцы ўспамінаюць, што Гіппакратэс – Бацька мэдыцыны – вучыўся у яго. Гэта гучыць праўдападобна і дае імглісты вобраз фраґмэнту фармальнага нараджэньня мэдычнага мастацтва. Пра Гэродікоса, як пра свайго роду лекара, Плятон успамінае ў сваім дыялёгу Політэйя /406/.

...Аґатоклес... Усё, што даведваемся пра яго, даведваемся пераважна з дыялёгаў Плятона. Ён зьяўляецца "выдатным сафістым" /Протаґорас, 316/, вучычыцелем музыкі Дамона /Ляхэс, 180/. Быў вучнем піфаґорэйца Пітоклейдэса.

Бач. 53. ...Зэўксіппос... – Ζεύξιππος, ён-жа і Зэўксіс /Ζεῦξις/; гл. Плятон, Ґорґіяс, б. 33.

...Ортаґорас... – флейцісты, вучыцель тэбанскага стратэга і дзяржаўнага мужа Эпамэйнóндаса.

Бач. 55. ...Арыфрон... – брат Пэрыклеса.

Бач. 57. ...Эпімэтэос і Промэтэус... Гл. камэнтары да Ґорґіяса, б. 122.

...Гэфаістос... - сын Зэуса і Гэры, кульгавы ад нараджэньня, бог агню, майстра мастацтва, якое патрабуе помачы агню - кавальства.

Бач. 58. ...Гэрмэс... - у грэцкай літаратуры міталягічная постаць; сын Зэуса і Маі, дачкі Атляса, асілка; бог гандлю; апякун стадаў і падарожных; хвігуры зь ягоным выражэньнем, г.зв. гэрмы, ставіліся на межах і скрыжаваньнях дарог.

Бач. 64. ...Фэрэкратэс паказаў на сцэне на Ленайскіх урачыстасьцях... Фэрэкратэс - атэнскі паэта старога камічнага жанру, сучасьнік Арыстофанэса, ён быў ініцыятарам новае стопы ў вершу, названае ягоным імем - фэрэкратаўскаю стапою. У сваей камэдыі Дзікуны, выстаўленай на ўспомнутых урачыстасьцях, паддаў крытыцы грамадзян Атэнаў, якія, паводля кампазыцыі ягонае камэдыі, уцяклі ад сваіх суродзічаў і спаткаліся з праўдзіва дзікімі людзьмі, каб паказаць гэтым, што атэнцы, хоць і паддаюцца частай крытыцы з прычыны пэўных культурных недахопаў,усё-ж твораць сабою прагрэсыўную масу на адпаведным культурным ўзроўні. - Ленаі /τά Λήναια/ - гэта атэнскія ўрачыстасьці, абыходжаныя на чэсьць Бахуса ў месяцы Ленаіён /Ληναιών/, у часе якіх адбываліся спаборніцтвы паэтаў, асабліва камічнага жанру. Месяц Ленаіён - гэта стары назоў сёмага аттыцкага месяцу Гамэліён, які адказваў прыблізна другой палове студзеня і першай палове лютага нашага году.

...Эўрыбатос... з Эфэзаў, якога кароль Крэзос паслаў у Пэлёпоннэз з мэтаю вэрбаваньня наёмных жаўнераў для яго ў вайне супроць караля Кіроса. Ён аднак замест пайсьці ў Пэлёпоннэз, перайшоў да Кіроса. У рэзультаце гэтага, імя ягонае ўвайшло ў прыказку як здрадніка. У сьпісак ашуканцаў увайшоў гэтаксама і Фрынондас.

Бач. 65. ... як кнігі, ня ўмеюць ані адказаць, ані паставіць пытаньня... Пры што раз далейшым пазнаваньні і вывучаньні спадчыны Плятона, раней ці пазьней узьнікне пытаньне: Чаму Плятон у выражэньні і пераказаньні сваіх ідэяў прышлым пакаленьням, замест ужываньня звычайных трактатаў або кнігаў, ужываў хворму дыялёгаў. Нажаль, як да гэтае пары,мы нігдзе не знаходзім у Плятона, што-б магло служыць як адказ на нашае пытаньне. Вышэй прыведзеная думка, што кнігі ня ўмеюць адказаць ані паставіць пытаньня, часткава можна ўважаць за адказ, які мы шукаем. У думцы гэтай замыкаецца ідэя, што існуе значная розьніца паміж напісанаю кнігаю і людзкаю гутаркаю. Найлепшая кніжка не адтворыць чытачу таго,

што́ можа сказаць жывы, рэальны прамоўца сваім слухачам. У вадным із сваіх дыялёгаў, пайменна, Файдрос, Плятон, аналізуючы падобную думку, параўноўвае пісаньне да намалёванага партрэту: ён мае ўсенькае падабенства да жыцьця, але, калі вы ставіце яму пытаньне, ён адказвае поўным маўчаньнем. З нашага ўласнага дасьведчаньня мы ведаем розьніцу паміж чытаньнем казкі і добрым жывым апавяданьнем яе. Чытач, які трымае ў руцэ Плятонавы дыялёг, вычувае сілу, якая пацягвае яго да актыўнага ўдзелу ў чытаным - да думаньня. І гэта, сярод іншага, адна з мэтаў, якую Плятон мае на ўвазе. Мова Плятона ёсьць прыгожая і жывая - мова ягонага дыялёгу. Арыстотэлес, вучань Плятона, утрымліваў пагляд, што хворма, у якой пісаліся дыялёгі, была на палову паэзыяю і прозаю.

Бач. ...Крызон з Гімэры.. ў паўночнай Сыцыліі, удзельнік у дыстансовым бегу, які перамагаў тры разы на Олімпійскіх гульнях: у 448, 444, 440 гг.п.н.э.

...Гімэра... - старажытнае грэцкае места на паўночным узьбярэжжы Сыцыліі, паложанае над ракою Гімэрас, заснаванае ў 648 г.п.н.э. і заселенае пачаткава пераважна дорыйцамі. У 408 г.п.н.э. было здабыта картаґінцамі і зьнішчана дазваньня. Пасьля гэтага, места ніколі ня было адбудованым. Але на супроцьлежным узьбярэжжы Гімэрас картаґінцы адбудавалі новае места, якое з прычыны гарачых курортных крыніцаў, атрымала назоў Тэрмаі або Тэрмэ.

Бач. 77. ...Скопас... - сын Крэона зь лініі тэсалійскіх валадароў. Пры ягоным двары Сымонідэс Кэоскі праяўляў сваю дзейнасьць.

Бач. 78. ...Піттакос... Гл. камэнтары да дыялёгу Гіппіяс вялікшы, б.166.

...Скамандрос... - Σκάμανδρος - рака́ Трої, часта ўспамінаная Гомэрам у Іліядзе /для прыкладу: - XXI, 307/.

...Сімо́эіс... - Σιμόεις - невялікая рака́ недалёка Трої, на паўночным усходзе Малое Азыі, якая бярэ свой выток на гары Іда і ўпадае ў раку Скамандрос.

Бач. 80. ...будучы лесбосцам, а ўзгадованы ў барбарскай гаворцы... - Сымонідэс з Кеосу, у залежнасьці ад жанру, пісаў часамі на эольскім дыялекце, які тут называецца лесбоскім, хоць сам гэтак, як і продікос быў іёнцам з абтокі Кеос. Эольскі дыялект, як і іншыя, з часам пачаў уступаць месца дыялекту аттыцкаму, які зь бегам часу стаўся літаратурнаю моваю, і ўсе адукаваныя людзі імкнуліся ўжываць су-

польную ім мову - літаратурную або коінэ́. Гэтая тэндэнцыя ў напрамку коінэ спасьцярожнаю тут стаецца, калі чалавек, які ўжывае іншы дыялект, чымся аттыцкі, уважаецца за ўзгадаванага ў "барбарскай гаворцы".

Бач. 70. ...філёгімнастыцы... Філёгімнастыка - любоў да гімнастыкі, да гімнастычных практыкаваньняў.

Бач. 82. ...Мітылена... - у старажытнасьці места на абтоцы Лесбос у паўночна-заходняй частцы Малое Азыі.

...Біяс... - Адзін з сямі мудрацоў старажытнае Грэцыі. Паходзіў з Прыены ў Іёніі.

...Клеобулёс з Ліндосу... - Клеобулёс, адзін зь сямі старажытны грэцкіх мудрацоў, народжаны ў Ліндос на Крэце, сын Эвагораса, жыў прыблізна каля 580 г.п.н.э. Разам са сваею дачкою, Клеобуліінаю або Клеобуляю быў шанаваны агульна з прычыны здольнасьці ў вадказах на загадкі. - Ліндос - галоўнае старажытнае места, паложанае на ўсходнім узьбярэжжы востраву Родос.

...Солён... - ведамы як атэнскі правадаўца. Народжаны каля 639 г.п.н.э.

...Місон... - жыў прыблізна каля 600 г.п.н.э. Дыягэнэс Ляэртыйскі у сваей працы п.т. "Жыцьцё Філёзафаў", у першай кнізе, у разьдзеле 9, затытулаваным "Місон", сярод іншага, кажа: "Місон быў сынам Стрымоноса, паводля Сосістратэса, які цытуе Гэрміппоса,як аўтарытэт, і паходзіў зь вёскі Хэн у вакрузе Ойтайка ў Ляконіі; і ён уважаецца як адзін з сямі мудрацоў. Кажуць, што ягоны бацька быў тыранам..." /I, 106/. Паводля далейшых выказваньняў Дыягэнэса Ляэртыйскага, з спасылкаю на Гіппонакса, сьвятарка дэлфійскага аракулу назвала Місона мудрэйшым:

> "І Місон, якога сам Апольлён апавясьціў
> як мудрэйшага з усіх людзей." /I. 107/.

Дыягэнэс Ляэртыйскі гэтаксама кажа, што "Плятон успамінае яго ў дыялёгу Протагорас, залічваючы яго як аднаго з сямі, замест Пэрыяндроса". Місон "памер у веку дзевяцідзесяці сямі гадоў." /I, 108/.

/Паводля Дыягэнэса Ляэртыйскага, некаторыя выказваньні, прыпісваныя Пэрыяндросу: Ніколі не рабі нічога дзеля грошай. Супачынак зьяўляецца прыгожым; пасьпех крые ў сабе небясьпекі. Дэмакрацыя ёсьць лепшаю ад тыраніі. Прыемнасьці зьяўляюцца мінаючымі, гонары - несьмяротнымі. Будзь памяркоўным у дастатку і мудрым у беднасьці. Будзь заўсёды тым са-

мым адносна тваіх прыяцеляў, будуць яны ў дастатку ці беднасьці. Якуюколечы дамоўленасьць ты ўчыніў, астанься пры ёй. Ня здраджвай тайніцы.

...лякедаймонец Хілён..., сын Дамаґетаса, адзін зь сямі мудрацоў; жыў прыблізна каля 560 г.п.н.э.; займаў становішча эфора. Напісаў паэму ў элеґійным жанры памерам у 200 радкоў. Калі ягоны брат бурчэў, што ён ня стаўся эфорам, як Хілён, апошні адказаў: "Я ведаю як падпарадкавацца несправядлівасьці, а ты ня ведаеш". Існуе стары пераказ, паводля якога Хілён хацеў даведацца ў Эзопоса, што Зэус робіць і атрымаў адказ: "Ён упакорвае гордасьць і хваліць пакорнасьць." Аднойчы яго запыталі, дзе ляжыць розьніцца паміж адукаваным і неадукаваным, і Хілён адказаў: "У добрай спадзеі." Што ёсьць трудным? - "Захаваць тайніцу, выкарыстаць добра час адпачынку, быць здольным зьнесьці зьнявагу." А вось некаторыя зь ягоных запаветаў: Пануй над сваім языком, асабліва на банкеце. Не абражай нашых суседзяў, бо, калі ты ўчыніш гэта, могуць быць сказаныя адносна цябе рэчы, якія ты будзеш шкадаваць. Не пагражай нікому. Будзь болей ахвочым адведваць людзей у горы, чымся тых, каторым добра паводзіцца. Выбяры барджэй страту, чымся неганаровы выйгрыш: першая спрычыніць боль у дадзеную хвіліну, другі - на ўсенькія часы. Калі моцны - будзь спагадлівы,калі ты будзеш мець пашану для іншых, ня будзеш тады баяцца сваіх суседзяў. Вучыся быць добрым гаспадаром у сваім уласным доме. Ніколі не дапусьці, каб твой язык перагнаў тваю думку. Пануй над злосьцяю. Ня ўкладвай плянаў адносна немагчымага. Ґэстыкуляцыю ў мове трэба абмінаць, як азнаку бязмыснасьці. Перасьцерагай права. Будзь спакойным.

Зь ягоных песьняў папулярнаю ёсьць наступная /у вольным перакладзе/: "Тачыльным каменем дасьледуецца золата, ствараючы знамя довацу; і золатам розум добрых і дрэнных людзей паддаецца пад пробу." Інскрыпцыя пад ягонай статуяю кажа:

Спарты ваяр у баёх караноўваны гартам Хілён, -
Мудрасьцю зь сямі адзначаўся ён.

...Апольлён... у грэцкай міталёгіі сын Зэуса і Леды.

...лякoнскі стыль кароткамоўнасьці... у міжчасе стаўся звычаем кажнае заавансаванае мовы. Лякедаймон, Спарта, Лякoнія; ад слова Лякoнія выводзіцца нашае слова л я к а н і ч н ы : зьвязны, кароткі стыль у выражэньні думкі.

Бач. 100. ...прыемным, радасным ці здаволеным... - сынанімы.

Да дыялёгу ГІППІЯС ВЯЛІКШЫ

Бач. II5. ...Гіппіяс... з Элісу, адзін з галоўных заснавальнікаў сафістыкі, радзіўся каля 460 г. п.н.э.; уважаўся, як рэчазнаўца ў галіне натуразнаўства, астраноміі, ґэомэтрыі, граматыкі, музыкі...; быў ведамым з таго, што за курс сваіх лекцыяў браў высокія грашовыя аплаты; ягоным імем названыя два Плятонавыя /?/ дыялёгі.

...Эліс... - акруга /і места - сяганьня ў развалінах/, паложаная на заходнім узьбярэжжы Пэлёпоннэзу, бацькаўшчына Гіппіяса.

...Біяс... - адзін зь сямі мудрацоў старажытнае Грэцыі, дзейнасьць якога прыпадае на сярэдзіну VI ст. да нашае эры;паходзіў з Трыены ў Іёніі; яму прыпісваюцца чысьленыя эпіґрамы з таго часу.

...Піттакос... Пра Піттакоса дайшлі да нас скупыя весткі. Некаторыя жаролы называюць яго Фіттакос; быў адным зь сямі мудрых людзей Грэцыі. Паходзіў з Мітылены або Мітыліны - у старажытнасьці Лесбос /і Лесвос/ - абтока ў паўночна-заходняй частцы Малое Азыі і быў слаўлены як ваяр, дзяржаўны муж, філёзаф, паэта і кодэфікатар права. У 606 г.п.н.э. стаяў на чале мітыленаў у вайне супроць Атэнаў і адзначыўся ў змаганьні, забіваючы асабіста камандзера атэнскіх войскаў. Памер у 570 г.п.н.э.

...Талес зь Мілетосу... Гл. Абарона Сакратаса, б. I7.

Бач. II6. ...пра Дайдалёса... Дайдалёс - міталягічная постаць, якога імя значыць гэтулькі што "хітры майстра". Адны цьвердзяць, што ён радзіўся ў Атэнах, іншыя - што на абтоцы Крэце. Талент свой прысьвяціў скульптуры і ў гэтай галіне дзейнасьці ўчыніў значны поступ. Дайшло да нас апавяданьне, што ён быў вучыцелем сына свае сястры, які зваўся Калёс /часамі Талёс/, і які хутка здольнасьцю і памысловасьцю перавысіў свайго вучыцеля і дзеля гэтага, кіруючыся зайздрасьцю, Дайдалёс забіў яго.За гэта Арэопаґ засудзіў яго на кару сьмерці. Ратуючыся ад сьмерці, Дайдалёс прыбыў на Крэту, дзе,дзякуючы сваім здольнасьцям, здабыў прыхільнасьць Міноса. Пасьля таго, як Пасіфая радзіла Мінотаура, Дайдалёс збудаваў лябірынт, у якім гэтае страшыдла было трыманае. Але, калі Пасіфая выпусьціла яго, а Мінос захапіў усе вадаплавы на Крэце, Дайдалёс змайстраваў сабе і свайму сыну, Ікаросу, крыльлі і прымацаваў іх воскам. Гэткім чынам Дайдалёс шчасьліва пераляцеў Эґэйскае мора, але Ікарос ляцеў за блізка да сонца, затым воск растапіўся і ён упаў у

мора і ўтапіўся. Пераказ гаворыць пра тое, што ягоныя творы з галіны скульптуры можна было бачыць у Грэцыі, Лібіі, Італіі і на некаторых сяродземляморскіх абтоках.

...Продікос... Продікос з Кеосу.

Бач. II7. ...Інікос... - мястэчка ў Сыцыліі.

...Анаксаґорас... Гл. Абарона Сакратаса ў пер.Я. П., б. I95.

Бач. I25. ...Гэраклітос... жыў прыблізна ў гадох 544-483 п.н.э. - адзін зь сямі старажытных грэцкіх мудрацоў, які належаў да Іёнскае школы.

Бач. I30. ...Дарданос... - ў грэцкай міталёгіі закладчык Троі, сын Зэуса і Плеіады Электры, якія ўважаюцца за мітычных траянскіх нашчадкаў. /Плеіадамі называліся дочкі Атляса/. Паводля грэцкае традыцыі быў каралём Аркадыі, зь якое ён выйшаў перш да Самотрацыі, а пазьней у Азыю, дзе ён ад караля атрымаў зямельны надзел, на якім пабудаваў места Дарданія. Існуе вэрсыя аб тым, што дарданцы род свой выводзяць з цэнтральнае акругі Балканскае поўабтокі.

...Зэтос... - брат Амфіёна; Амфіён - сын Зэуса і Антыёпы.

...Пэлёпс... Пэлёпс, што́ значыць цёмны твар, сын Танталёса, пра якога кажацца, што выйшаў з Лідыі і імем якога названы Пэлёпоннэз.

=

І Н Д Э К С

**ЗЬМЕСТ**



ЭРРАТА

| Бачына | Радок зьверху | Радок зьнізу | Павінна быць | Надрукавана |
|---|---|---|---|---|
| 44 | | 4 | Протаґорас | Протоґорас |
| 69 | 5 | | паглядам. | паглядама. |
| 80 | | I4 | дакарае | дакаркае |
| 97 | | 4 | дабра | добра |
| I03 | | I7 | страх | старх |
| I05 | | I4 | з тых, экім | з тых з, кім |
| I24 | I6 | | прыгожаю | прыгожыю |
| I25 | | 20 | прыгожае | прыгожые |
| I28 | | 2 | іншых | ігшых |
| I3I | | I7 | 294 | 284 |
| I33 | 9 | | дружа | дружжа |
| I34 | | 24 | -сяродзьдзі | -сяродзтдзі |
| I4I | | 5 | юнакі | янакі |
| I6I | I2 | | гісторык | гсторык |
| I6I | | 2 | Эпімэтэус | Эпімэтэос |
| I63 | | 5 | Продікос | продікос |
| I65 | 3 | | тайніцы./. | тайніцы. |
| I68 | 9 | | з Гэраклеі | і Гэраклеі |